# ТЭКСТЫ

нумар чатыры

*альманах*

2013



**МІНСК**
**«ГАЛІЯФЫ»**

**ЗМЕСТ**





# НЕКАЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА ЗВЯРУГУ

Мушу вас запэўніць, што звяруга мае моцныя капыты, хвост і рогі, але ж да чорта не дацягвае па статусе, габарытах і настроі. Больш нагадвае быка з карыды. Дык гэта я пра каго? Не палохайцеся. Я не буду распавядаць пра чарговую тэлевізійную нятленку, дзе супер-герой ператварыўся ў мутанта, не будзе і змрочных казак пра містычнае з'яўленне нябожчыкаў-паэтаў на чарговым паэтычным слэме. Я — пра альманах «Тэксты», які і ёсць тая доўгачаканая літаратурная звяруга, якая выклікае на бой усё тое няздарнае і ваяўнічае, што так утульна атабарылася апошнім часам у самых цёплых і сытных месцах творчага асяродку. На жаль, мушу канстатаваць, што многа чыноўнікаў (як дзяржаўных, так і гэтак званых незалежных — тут колер неістотны) з задавальненнем нацягваюць на сябе коўдру пад назвай «шматпакутная беларуская літаратура». І не было б так крыўдна з гэтай нагоды, калі б праз гэтае не было перашкоды літаратурнаму працэсу: неардынарныя літаратары застаюцца па-за кантэкстам. Спадзяюся, што альманах «Тэксты» змяняе сітуацыю да лепшага — выцягвае з ценю шмат актуальнага і таленавітага. Не хочацца, каб і гэтая прастора ператваралася толькі ў тусоўку для тусоўкі. Напэрад!

Зміцер ВІШНЁЎ

Вадзім МЕСЯЦ

# СВЯТА НЕПАСЛУХМЯНАСЦІ[1]

Маладосць — час дзёрзкасці, амбіцыяў, пантоў. Мы адштурхоўваем усё, што нам навязваюць іншыя пакаленні, жадаючы праверыць кожную практыку на ўласным досведзе. Самасцвярджэнне — пачуццё карыснае, але недастатковае. У свой час менавіта маладосць вынайшла рамантычную паэзію, футурызм, рок-н-рол, рэп. Прыхільнікі лінейнага прагрэса (а яны, як ні дзіўна, яшчэ існуюць) лічаць, што ў паэзіі магчыма развіццё. Што Мандэльштам круцейшы за Вергілія, а Эмінем круцейшы за іх абодвух. Мне больш зразумелы рух па спіралі, ці, як кажуць філосафы, ідэя «вечнага вяртання». На малых пра межках часу адчуванне цыклічнасці не настолькі відавочнае: пажывем — пабачым. Усходняя практыка вучнёўства і пераемнасці, па вялікім рахунку, новым часам адкінутая: пераасэнсаванне традыцыі адбываецца праз яе адмаўленне. Суфіі кажуць: Нявер'е настаўніка ёсць вера вучня (1). І наадварот. Забудзем на схільнасць душы — многія рэчы робяцца з пачуцця супярэчлівасці. На злосць. Зрэшты, чым мацней штосьці адкінеш, тым з большай верагоднасцю потым гэтым зацікавішся.

[1] прадмова да расейскага часопіса «Гвидеон» (№ 3, 2012)

Паўстанне супраць бацькоў — не толькі падлеткавы комплекс, выдаткі «цяжкага ўзросту»: у 68-ым моладзь бярэ штурмам бібліятэкі і оперныя тэатры, сцвярджаючы новы масавы стыль, высоўваючы сваіх пісьменнікаў і мудрацоў, бітнікі збіраюць вялізныя аўдыторыі, хіпізм робіцца вобразам жыцця. Для нас такім рэвалюцыйным прарывам сталі метарэалізм і канцэптуалізм канца 80-х пачатку 90-х. Прычым размова не толькі пра суполку літаратараў (суполкі заўсёды існуюць), але і пра мову пакалення. Быць адпаведным свайму часу, адчуваць плячо субрата — чароўнае пачуццё. Праблема ў тым, што яднанне калектывізму ў адзін цудоўны момант пачынае здавацца стаднасцю, пераймальнасцю, агульным месцам. Ну, гэта калі ў цябе асабіста нешта ёсць за душой. Калі ты штосьці ўяўляеш з сябе як асоба. Пачынаюцца сумненні, ломкі, пошукі. Ты разумееш, што час ці вызначаны метад мыслення навязвае табе нейкія кантэксты, калі акрэсліваць сваё месца ў літаратуры ты хочаш сам. Жадаеш сам гэтыя кантэксты ўсталёўваць: у выніку ўласнага, ўнікальнага досведу і пачуцця. Надакучыла рымаваць, пачынаеш пісаць верлібрам; адчуўшы аднабокасць гэтага пісьма, вяртаешся да рытма і метра ці аб'ядноўваеш тое і іншае. Будучы пралетарыем, цягнешся да інтэлігенцыі, зрабіўшыся інтэлігентам, цягнешся да народа. Жывучы ў Азіі, расхвальваеш Еўропу, хлебнуўшы заходняга досведу, з цікаўнасцю глядзіш на родны прастор. Ланцуг адштурхоўванняў практычна бясконцы. Перасыць — галоўная псіхалагічная і светапоглядная крыніца ведаў. Няхай гэта і не ёсць тая самая праца душы, якая нараджае паэзію, але гэта фон, на якім праца душы цалкам можа адбыцца.Усе вакол чытаюць рэп? Здзіві сяброўку песняй Ісакоўскага. Захапляюцца Букоўскім? Прачытай услых псалом Давіда. Людзі вандруюць па еўрапейскіх паэтычных фестывалях? Язджай на Байкал збіраць казачы фальклор... Не дазваляй анікому сябе вучыць і лекаваць. Я бы хацеў, каб на старонках «Русского Гулливера» гэтая дыдактычная інтэнцыя адсутнічала. Нашая справа прапаноўваць — не больш за тое. Свята непаслухмянасці. Паэзія ў дзеянні.

Лепш быць няшчасным Сакратам, чым шчаслівай свіннёй, — добра сказана. Аднак наколькі запрагра-

маванае гэтае няшчасце, дакладней, наколькі можна выкарыстоўваць яго для паўнаты жыцця? Я часта чую ад сваіх сяброў, што адзінства чалавека немагчымае, што расчапленне свядомасці — не толькі рыса эпохі, але і самой прыроды. У нас павінна жыць мноства ўзаемавыключэнняў душаў замест адной: стан гэткай болючай спрэчкі і ёсць творчасць. Я адказваю, што гэта — патуранне сваёй хваробе (не будзем вызначаць яе ў медычных тэрмінах), дэманстрацыя заняпаду, адсутнасць пазітыўнага пасылу. Але падобна, многіх менавіта гэтае і задавальняе, хаця шызафрэнічнасць, па-мойму, сур'ёзна адрозніваецца ад «святога вар'яцтва», якой і з'яўляецца лепшая літаратура. Адрозненне між «сцвярджэннем жыцця» і яго адмаўленнем сцёртае. У нас настолькі моцны інстынкт дэкаданса? У свеце не можа быць цвёрдага «так» і цвёрдага «не»? Няма сэнсаў і сэнса? Я далёкі ад душавыратавальных размоваў.

Тое, што мы цягам мінулага стагоддзя выконвалі, па сутнасці, «песня бяссілля» (2), зусім не азначае, што гэта адзіна магчымая песня. Для маладога чалавека яна, на мой погляд, не натуральная. Маладосць гераічная, ваяўнічая, яе наўрад ці павінны спакушаць сапсаванасць і вычварэнне. Ты дэманстраваў сваю вытанчанасць, абаяльна культываваў слабасць ці эпатаваў публіку, каб узняцца ў коле сяброў ці спадабацца дзяўчатам? Што рабіць, калі кантакт з сябрамі сябе вычарпаў, множнасць дамаў змянілася пастаянным каханнем ці поўным расчараваннем у супрацьлеглым полі? Справа можа скончыцца трагічна.

Гэты нумар «Гвидеона» — маладзёжны, прысвечаны паэзіі і прозе аўтараў, якія не дасягнулі трыццаці пяці гадоў. «Пры слове трыццаць сем у момант злятае хмель» — спявае Высоцкі, звяртаючыся да гісторыі айчыннай літаратуры. Чакаць аўтарам да «фатальнага тэрміна» засталося няшмат. Пераход з умоўнай маладосці да ўмоўнай сталасці звычайна перажываецца трапятліва, рамантыка рэфрэна «буду паміраць маладым» па-ранейшаму актуальная. Што тут скажаш? Алкагольнымі самазабойствамі і «крызісам сярэдняга ўзросту» няхай займаюцца псіхатэрапеўты. Іншая справа, што цяпер бяспечны ўклад літаратурнага жыцця дазваляе «паэту» пасля апублікавання некалькіх кніг і



атрымання пары прэміяў задаволіць пыхлівасць, сыйсці ў калялітаратурны бізнэс, «не шкадаваць, не клікаць, не плакаць», карацей, не пісаць. Галоўнае — заставацца на слыху. Гэта асобная, спецыяльная прафесія, пра якую Уладзімір Сямёнавіч, ствараючы сваю песню, не падазраваў. Часы змяняюцца. Эвалюцыя на шляху да звышчалавека парадаксальная, але ж не кожнага задавальняе настолькі ганебнае існаванне. Ты прыйшоў у гэты свет, каб яго змяніць, так? Для гэтага табе патрэбны сілы, духоўныя апоры. Калі хочаш — звышкаштоўнасці. Не буду казаць тут пра «трансцэндэнтнае вымярэнне быцця», хаця справа менавіта ў ім. Урэшце рэшт, можна падабраць іншыя, больш жыццёвыя фармулёўкі. Напрыклад, «сіла памылкі». Без ідэяў, няхай нават няправільных, анічога сур'ёзнага не дасягнуць. Калі «святым» стаў для сабе ты сам, са сваімі прыхільнасцямі, сэксуальнымі прыярытэтамі, любімымі напоямі і кнігамі, шансаў выйсці з хворага кола амаль няма. Нас выратоўвае нешта знешняе, аб'ектыўнае, абыякавае. Я б сказаў, што гэтая велічыня пастаянная для ўсіх пакаленняў і нацыяў, «вечнасці непахісная скала», пра якую пісаў Мандэльштам. Толькі суаднясенне тваёй творчасці з гэтай велічынёй і можа дазволіць утрымацца цябе на плыву і ў палёце. Пры адсутнасці рэлігійнага досведу (няхай падсвядомага), чалавеку патлумачыць гэта цяжка, але часцей сама творчасць набывае рысы гэткага досведу і робіцца неўразлівым для парадаў і паклёпаў.

Наяўнасць «сілы памылкі» — асаблівы дарунак. Магчыма, прыроджаны. Нешта накшталт асаблівасці быць шчаслівым, успрымаць паэзію і жыццё не толькі як свята непаслухмянасці, а як свята наогул. Свята немагчыма без катэгорый цуду, таямніцы, утопіі. Пазітывізм, які часова перамог, асуджаны ў сілу свайго занудства, прадказальнасці, двухмернасці выявы. Чым нас засмучала савецкая паэзія ў сваіх горшых узорах? Механіцызмам і ваяўнічай бязбожнасцю. Думаеце, гэтая традыцыя цалкам перавандравала на stihi.ru? Анічога падобнага. Яна паўсюль — ад тоўстых часопісаў да тонкіх. Самае пацешнае, што гэтак званая інаватыўная і прасунутая паэзія па сутнасці сваёй нічым ад сваёй сацыялістычнай папярэдніцы не адрозніваецца. І калі я адракаюся ад мірской лірыкі, я адракаюся менавіта

ад таго, што можа быць раскладзена на матэрыялістычныя складнікі, мае адрозную для няўзброенага вока прыроду і аніякай звышзадачы ў сабе прынцыпова не нясе. З'яўленне на пачатку перабудовы Бродскага з яго (не яго, вядома) ідэяй прыватнага існавання ў грамадстве калектывісцкіх каштоўнасцяў здавалася адкрыццём. Аднак часы змяніліся: практыка чыста літаратурнага бытавання ўвайшла ў супярэчнасць з айчыннай традыцыяй, «дзе паэт больш, чым паэт», і з цікавасцямі творчасці наогул. Іншымі словамі, практыка прыватнага існавання нам надакучыла. Гэтаксама як надакучылі «Boney M», і мы пераходзілі на «Led Zeppelin», надакучваў «Led Zeppelin» — і мы слухалі Пракофьева і Стравінскага. Свабода выбару. Актыўны постмадэрнісцкі скепсіс. Падвяргай усё сумненню, — сказалі Карл Маркс і Будда Гаутама. Выдатны спосаб жыцця. Я бы сказаў, што бясконцая прагрэсія такіх адштурхоўванняў і адмаўленняў вядзе да стварэння гэтак званага ідэальнага верша. Калі мы будзем дапускаць яго магчымасці, моцна прайграем у духу.

Прывяду вытрымку з артыкула маладога пецярбургскага паэта Рамана Осьмінкіна, апублікаванай у альманаху «Трансліт» (3) пару гадоў таму. Мяне надзвычай цешыць, што ў новым пакаленні з'яўляюцца людзі, як і мы, якія кажуць услых пра паэзію дзеяння і саромеюцца вялікай сілы памылкі, якая вядзе нас па жыцці. Людзі, якія зноўку адважваліся загаварыць пра утопію, закруціўшы чарговы віток «вечнага вяртання», і без падлеткавых хістанняў звярнуліся да катэгорыі Ісціны.

«Паэт не дазваляе апрапрыіраваць сваю паэзію культурнай індустрыі «грамадства рызыкі» і ператвараць яе ў прадукт забавы. Ён імкнецца пераадолець ролю шасцяронкі ў глабальным механізме і займець суб'ектыўнасць не ў выглядзе «чалавечага капітала», а ў суб'ектыўнасці свайго сацыяльнага і палітычнага «я». Паэт «знаходзіцца» ў непасрэднай сувязі з жыццём, і ягоная паэзія адказная перад ім. Сапраўдная паэзія прамога дзеяння не ў эстэтычным адчужэнні і не ў катэгарычных імператывах лозунга ці агіткі, а ў стварэнні ўмоваў для ўнікальнай падзеі, перажываемай і інтэрпрэтуемай кожным чалавекам — патэнцыйным актыўным саўдзельнікам гэтай падзеі. Паэзія прамога дзеяння — гэта пастаяннае абяцанне ўтопіі, якое працуе сваім голасам крок за крокам над *вытворчасцю Ісціны*.

(...)

Адсюль паэзія прамога дзеяння — гэта і паэзія, што аказвае дзеянне, што мае канкрэтны адрасат, да якога яна звяртаецца з дапамогай мастацкіх сродкаў, але ў той жа час — яна і належыць дзеянню, падрыхтоўваючы да дзеяння і прадугадваючы яго. Каб не зводзіцца да дзеяння, гэтая паэзія павінна заўсёды ўтрымліваць сваё значэнне і логіку ў стане невызначанасці і неапазнанасці. Яе дзеянне — гэта не штосьці ўжо існуючае, што чакае адно выканання, а вытворная ад ісціны, яе *саспелы момант*. Яна пакідае ілюзію эстэтычнага дыстанцыравання, неажыццяўляльнай ў грамадстве глабальнай эстэтызацыі і абяцае цуд. Але не ажыццяўлёны цуд, які не залежыць ад волі чалавека, а цуд як *утопію, дагэтуль неймаверную рэальнасць*, якую можна тварыць сваімі рукамі».

Заўважу, што паэтыка новага пакалення цікавіць мяне ў апошнюю чаргу. У дадзеным выпадку куды істотней інтэнцыя пераадолення паражэнчых настрояў, апанаваўшых у нашай культуры цягам апошніх дзесяцігоддзяў. Фіксацыя моманта рухомай ісціны, вытворчасць гэтага моманта — хоць на паперы, хоць у дзеянні — практыка, блізкая колу «Русского Гулливера», таксама спрабуючага выйсці за межы штодзённасці і лінейнага мыслення, пазбавіцца, як кажуць людзі дзэн ад «слоўнага чорта». Звычка да сумнення, гнуткага лавіравання, адмаўлення і прыцягнення самых неверагодных хадоў і велічыняў, падобная да пазбаўлення ад паняційнага мыслення паэзіі. У гэтым выпадку вельмі сумнеўна выглядаюць заклікі да фармальнай змены айчыннай прасодыі і пераходу на верлібр, як быццам да больш «дэмакратычнага» пісання. У мітынгавых жарсцях леташняй зімы нашыя калегі дамовіліся пра неабходнасць адмены выкладання ўзораў традыцыйнай метрыкі ў школах, паколькі ўнутраная стаўка паэзіі на запамінанне скоўвае нашую свабоду. Мне падобныя ідэі нагадваюць адмену спавівання немаўлят у ЗША: быццам бы чалавек з першых дзён адчувае гвалт і пачынае жыццё ва ўмовах таталітарызма. Здаровы сэнс перамог. Немаўлят спавіваюць.

А найбольш свядомыя маці кормяць іх грудзьмі замест малочных сумясяў.

Старанны перавод стрэлак, навязванне спекулятыўных тэмаў — улюбёны метад гаспадароў дыскурса ці людзей, якія на яго купіліся. Не трэба вясціся на гэты грамадскі тролінг. Што мы абмяркоўваем? Праблемы сучаснай царквы ці панк-рок? Шляхі судовай рэформы ці асобу Хадаркоўскага? У размове пра паэзію гэтаксама істотна сыходзіць ад знешніх і неіснуючых дыскусій. Ты можаш пісаць так, як ты хочаш. Ствараць не толькі тэксты, але і кантэксты. Верлібрам, метрам, паходняй у небе ці віламі па вадзе. Галоўнае — вярнуць паэзіі сілу, моц, дзейснасць. Тое, што пабачылі мы, складальнікі і рэдактары часопіса. Свабоду *Русскому Гулливеру*!

### ЛІТАРАТУРА


1. Д. Нурбахш, «Беседы о суфийском пути», М.: Риэлтивэб, 2009
2. Д. Зерзан «Первобытный человек будущего», М.: Гилея, 2007
3. http://www.trans-lit.info/press.htm


*Пераклад з расейскай*
*Змітра Вішнёва*

■

**Вадзім МЕСЯЦ**, паэт, празаік, крытык. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Томску. Скончыў Томскі дзяржаўны ўніверсітэт, кандыдат фізіка-матэматычных навук. У 1993—2003 гадах быў каардынатарам расійска-амерыканскай культурнай праграмы пры Стывенс-коледжы (Хобакен, Нью-Джэрсі). Ініцыяваў правядзенне васьмі паэтычных фестываляў у Амерыцы і Расіі. Рэдактар-складальнік трох паэтычных анталогіяў, у тым ліку такіх, як «Анталогія сучаснай амерыканскай паэзіі» (сумесна з А. Драгамошчанкам, 1996) і анталогія сучаснай рускай паэзіі «Crossing Centuries: The New Generation in Russian Poetry» (сумесна з Джонам Хаем і іншымі, 2000). Аўтар пятнаццаці кніг вершаў і прозы, сярод якіх паэтычныя зборнікі «Каляндар успамінальніка» (1995), «Выхад да мора» (1996), «Час прызямлення птушак» (2000), «Не прыходзь своечасова» (2006), «Звар'яцелы рыбак» (2008), «Цыганскі хлеб» (2009) і раманы «Правілы Марка Пола» і «Лекаванне электрычнасцю» (2002). У 2004 годзе Вадзім Месяц арганізаваў «Цэнтр сучаснай літаратуры» ў Маскве і выдавецтва «Русский Гулливер» — адно з нешматлікіх выдавецтваў у Расіі, што публікуе паэзію і інавацыйную прозу. Лаўрэат Сецявога літаратурнага конкурса «Улоў» (I месца ў раздзеле паэзіі, 2001), Бунінскай прэміі (за кнігу апавяданняў «Вок-Вок», 2005), уваходзіў у шорт-ліст Букераўскай прэміі (2002). Творчасць Вадзіма Месяца высока ацэньвалі Іосіф Бродскі, акадэмік М. Л. Гаспараў і Вяч. Ус. Іваноў. В. Месяц адзначаны шэрагам міжнародных прэміяў за літаратурную і культуртрэгерскую дзейнасць. Вершы і проза перакладзеныя на англійскую, нямецкую, французскую, італьянскую і гішпанскую мовы.

# (быць)

## ЧУЖЫЯ ГІСТОРЫІ

На пачатку Вапрухін анігіляваў лаўку, што стаяла каля пад’езду. На ейнай аблупленай жоўтай паверхні, ля самага левага краю, нядоечы зьявілася слова «Зюзік», выдрапанае сьцізорыкам. Знаёмая і блізкая рэч у вачах Вапрухіна была незваротна сапсавана.

Вапрухін зьлёгку ікнуў, а потым выпусьціў праз нос газы, прыўнесеныя ў арганізм мінералкай. Жоўтая лаўка адно падкрэсьлівала тутэйшую няўтульнасьць. У ёй не было ніякага сэнсу.

Як, напрыклад, і ў нізрынутых пачварах жалезнага веку, якія будаўнікі неўзабаве спадзяваліся ўсталяваць тут, у двары, у якасьці арэляў. Цяпер яны адно бязладна грувасьціліся на зямлі ў нейкім вычварэнскім парадку, немагчымасьць усьвядоміць які выклікала моцную нэрвознасьць. Вапрухін без усялякага задавальненьня выпусьціў струмень тытунёвага дыму і, ні імгненьня не вагаючыся, анігіляваў таксама і арэлі — разам з трактарам, які іх прывёз паўгадзіны таму.

Што яшчэ падалося яму непатрэбным або нават залішнім, дык гэта кантэйнэр для сьмецьця, у якім корпалася нейкая бамжыха. Ёй перад анігіляцыяй было дадзена апошняе слова, але замест таго, каб прамовіць нешта сапраўды

важнае, цётка дзіка зарагатала ды зацягнула «Подмосковные вечера».

«Незразумела, чаму ўсе лепшыя матэматыкі — габрэі?» — падумаў Вапрухін.

Ліхтарны слуп быў анігіляваны без ніякіх маральных згрызотаў, як і выбрукаваная пліткай дарожка. Вапрухіну на хвіліну стала ўтульна, і ён упершыню за гэты дзень адчуў просты чалавечы кайф з той нагоды, што цяпер лета.

Раптам у шырокую мэмбрану яго мясарэзкі без усялякіх запрашэньняў усунуў галаву вусаты мужчына ў белай кашулі з гальштукам, і яго таксама давялося анігіляваць — прынамсі, каб не пакідаць сьведак. Мужчына чамусьці незадаволена зморшчыўся.

Вапрухін пазяхнуў і адклаў убок газэціну. Ад парадаў па вырабе хатняга квасу яму раптам стала напраўду млосна. Страўнік прамармытаў нешта на сваёй мове.

Вапрухін пачухаў валасатае пуза, дзе паміж зморшчыкамі ўжо пасьпеў назапасіцца духмяны пот.

Час ішоў, але нічога не адбывалася. Вапрухін стаў насьвістваць мэлёдыю «Трох чарапах».

Вапрухін пачухаў левым тапкам правую нагу і сплюнуў на асфальт. Потым уважліва назіраў за тым, як ягоная сьліна нясьпешна рушыць у сваё падарожжа, захопліваючы ўсё новыя тэрыторыі.

Вапрухін павольна прамовіў пра сябе «пяцьдзясят дзевяць, трыццаць шэсьць», і раптам яму стала вусьцішна.

Потым, проста дзеля разнастайнасьці, Вапрухін анігіляваў жоўтае парэпанае «Рэно», што прышвартавалася да броўкі акурат насупраць пад’езду. Сыгналізацыя нават пасьпела піпікнуць.

Дзесьці далёка прагрукаў цягнік. Сонца прыпякала ўжо не на жарт.

Сьветлафор у гэтым месцы ўсё адно толькі замінаў. Пагатоў, ніводнай аварыі тут ня здарылася, ды і здарыцца не магло.

З адчыненага вакна на другім паверсе даносіўся бразгат талерак. Хтосьці глядзеў кулінарную перадачу, харатэрную для дзённага эфіру. Вапрухін анігіляваў матылька, што прысеў на травінку ля ягоных ног, і чамусьці закашляўся.

Вапрухін стаў прыгадваць гэтую гісторыю. Пра тое, як яна млява і спакусьліва пасьміхаецца, праводзячы сваёй роўнай ножкай па чысьцюткай прасьціне, потым адкідае назад чарнявыя валасы, робячы выгляд, што гэта ня болей, чым бяскрыўдны флірт... А ён, здаецца, жыў у невялічкім прыватным дамку непадалёк ад чыгункі. І ў яго звычках было трымаць рукі за спінай, калі ён ішоў дахаты з трамвайнага прыпынку... Аднае што, Вапрухін ня мог згадаць твар ягонай старэйшай сястры. І яе рэакцыя на абразаньне таксама была даволі няўцямнай.

Вапрухін працягваў чакаць, ня зрушваючыся зь месца. Пара было ізноў глынуць мінералкі, хаця яна нагрэлася і стала брр. Вапрухін доўга варушыў сваімі тоўстымі скрыўленымі губамі.

На гадзіньніку было ўжо чатыры. Дзень блізіўся да заканчэньня. Жаданьня анігіляваць дзесяціпавярхоўку насупраць у Вапрухіна пакуль што не ўзьнікала, але менавіта да гэтага ўсё і вяло.

На распаленай дзваньня шурпатай бэтоннай прыступцы кудысьці паўзла зялёная казюрка. Бачыць на кожным кутку гэтую жыўнасьць Вапрухіну ўжо надакучыла. Асабліва зь яе мэтанакіраванасьцю.

Вапрухін падумаў, што, напэўна, у трансфарматарнай будцы жыве піянэр з лобзікам. І хаця анігіляцыя гаспадарчых пабудоваў не ўваходзіла ў ягоныя пляны, але...

Вапрухін пачуў рокат дзесьці ў небе і хутка анігіляваў пасажырскі ляйнэр, які ішоў на пасадку акурат над яго галавой.

Нягледзячы на пасіўны спосаб баўленьня часу, у Вапрухіна пачалася адышка. На пракрытым шчэцьцю падбародзьдзі танчылі некалькі кропель. Пад чэзлай рабінкай, якая яшчэ пакуль заставалася неанігіляванай, ляжаў нейкі прадмет. Вапрухін падумаў, што гэта манэта або жэтон у метро, але гэта была ўсяго толькі абгортка ад цукеркі.

* * *

Да мэтро мы ехалі са Званчэўскай. Ну, папросту так атрымалася, ты ж ведаеш... горад наш цесны, і раптам неспадзеўкі ўсплываюць твары, вывы якіх, здавалася б, даўно ўжо патухлі ў нетрах падсьвядомасьці, бо іх уладальнікі занялі сваё трывалае месца на запыленых старонках падручніка гісторыі твайго жыцьця. І не ў якіхсьці там настальгічных успамінах або мроях — ты ж ведаеш, не люблю я гэтай справы... А зьяўляюцца з плоці й крыві, ды яшчэ

і непасрэдна перад вачыма — так, што нават зморшчынкі на бялюткай шыі ўдаецца разглядзець.

Званчэўскую я пазнаў адразу, яшчэ толькі ўскараскаўшыся на ніжнюю прыступку бітма набітага сорактрэцяга. Яна пагрозьліва навісала нада мною прыступкай вышэй. Ейнае цела, абцягнутае танюткай зялёнай сукенкай з разрэзам амаль на ўсю сьпіну, здаецца, амаль не зьмянілася, ня страціла сваёй колішняй пругкасьці. Плаўныя выгіны аточваў да болю знаёмы мне пах дэзадаранту «Олдспайс». Яна засталася вернай сваім упадабаньням, адзначыў я.

Аўтобус нэрвова ўздрыгваў на выбоінах, і кожная зь іх выклікала сымэтрычную рэакцыю яе цела. Цяглiцы то напружваліся, то ізноў расслабляліся, паясьніца лёгка варушылася, нібы ў танцы, а шыя ўзбуджальна згіналася. Здавалася, быццам пад покрывам людскога тлуму Званчэўская бавіцца эратычнымі гульнямі зь нейкім партнёрам, нябачным мне з гэтай невыгоднай пазыцыі.

Дарога ў нас да Болдзікаў, самі ведаеце, якая — чым далей, тым горай. І таму ў мяне складалася ўражаньне, быццам гэтыя сьпякотныя гульні пакрысе станавіліся ўсё больш інтэнсіўнымі. Мая мокрая кашуля амаль прыклеілася да дзьвярэй, пакінуўшы на шкле выпарэньні поту. Каб пачухаць сябе пад носам, давялося правесьці адмысловую спэцапэрацыю — на шчасьце, зь мінімальнымі ахвярамі сярод мірнага насельніцтва.

Калі пярэдняе кола аўтобуса патрапіла ў яміну, яна нахілілася назад, паказытаўшы мае шчокі сваімі валасамі. Я апынуўся ў гушчары танюткіх водарасьцяў, пакрытых пахуткай рудаватай хной, і вырвацца адтуль на свабоду было нялёгка — ды, зрэшты, ня надта й хацелася. Потым знаёмы голас прамовіў будзённае «ізьвініцепажалста» і раптам зьдзіўленае «ой, гэта ты!»

Неабдымная цётка зь вядром парэчак, якая межавала з намі абодвума — са мною з Паўднёвага Усходу, а зь ёю... ну, мабыць, з Паўночнага Захаду, — незадаволена вылаялася, калі Званчэўская зрабіла спробу павярнуцца да мяне тварам. Яна тут жа войкнула, атрымаўшы штуршок у сьпіну, і адразу пасьля гэтага я адчуў прыемную ўзбуджанасьць: ейны смочак, чые абрысы беспасьпяхова спрабавала схаваць тонкая баваўняная тканіна, прашмыгнуў па маіх вуснах.

Яна запытала мяне пра жыцьцё і справы — бы нічога ўвогуле ня здарылася, і мы былі ўсяго толькі аднакурсьнікамі, якім собіла спаткацца праз колькі год пасьля выпускнога. Я, аднак, замарудзіў з адказам — пагатоў, вадзіла, рэзка затармазіўшы, даў мне бонус у некалькі імгненьняў.

Ня трэба было нават прымружваць павекі, каб унурыцца ў гэты дзіўны сон наяве. Перада мною ў імгненьне часу пранесьліся самыя запамінальныя хвіліны нашых спатканьняў: вось мы на ўзьбярэжжы Сьвіслачы, мая правая рука паволі прасоўваецца ўвыш па ейным сьцягне, абцягнутым напятым ядвабам, а левая шукае ў лёгкай сукенцы патрэбны лаз, і нашыя вусны ўжо вось-вось... Вядома, можна было б і далей працягваць, але шукаць розныя вынаходлівыя эпітэты мне сёньня ўжо дастала, да таго ж, ад гэтага сумнеўнага каньяку гомельскага разьліву пакрысе пачынае балець галава. Ды і заставацца падоўгу сам-насам з такой занудлівай істоцінай, як я, таксама абрыдла, лепей пайду пасплю.

— Ну, дык і як справы? — з ачмурэньня мяне вывеў ейны галасок, танюткі, быццам (*хай гэта дапіша рэдактар*).

— Кандыцыянаваньне памяшканьняў зь вялікім гідраізалятарным модусам патрабуе вялікай цеплафузнай інэрцыі ад рызатропных матэрыялаў, зробленых з арыгінальных матэрыялаў, каб дасягнуць эфэкту спараджэньня інэрцыі на ўчастку 123/а, патрабуе выключнай канцэнтрацыі ўнутраных сіл, абвостранага пачуцьця справядлівасьці і душэўнай чуласьці, — адказаў я. — Выпарэньні газу часам здатныя прымаць абрысы, можна нават сказаць, формы, прыдатныя для сузіраньня, часам можна нават сказаць, або, хутчэй, гэта нам толькі ўяўляецца, што яны валодаюць пэўным пахам, які мае... *можаце самі дапісаць, гэты прамежак я пакінуў адмыслова для вас*. І ў дадзеным выпадку няважна, якім дэзадарантам ты ўвогуле карыстаешся... Тым болей, олдспайс — гэта, здаецца, для мужчын, тут я яўна лахануўся...

Званчэўская пасьміхаецца — спачувальна, але лагодна. Затым націскае на схаваную пад сваёй сукенкай пімпачку, і на яе прыгожай стромкай сьпіне зьяўляецца прапэлер, які расьсякае ў капусту твар цёткі зь вядром парэчак.

* * *

Вапрухін ікае. Магчыма, у гэтыя моманты яму, хутчэй, выпадала бы плакаць, аднак арганізм, гэтае ягонае пухнатае тулава з чатырма складкамі па-над дзетародным органам, працятае цэнтральнай нэрвовай сыстэмай з усімі яе незьлічонымі канчаткамі і вузламі (*на вялікі жаль, аўтар меў у школе «траяк» па біялёгіі, і брак ведаў моцна абмяжоўвае яго фантазію*), натуральным чынам абірае зусім іншую рэакцыю.

Таму Вапрухін ікае. Ягоны кадык нерытмічна ўздрыгвае, а глотка адзін за адным выдае жаласьлівыя гукі. Зьмерзлыя пальцы зачэрпваюць горстку сьнегу, і Вапрухін запіхвае яго ў рот. Але іканьне чамусьці толькі мацнее.

Вапрухін прыціскае зьледзянелую далонь да бярвеньняў зрубу і адчувае тонкі струменьчык цяпла, які сочыцца праз мікраскапічныя шчылінкі ў сьцяне. Напэўна, там, унутры, добра пратоплена печка.

У хаце пануе той характэрны пах, які сустракаецца ў прыродзе менавіта і выключна ў старых вясковых хатах. На сьценах старыя фотаздымкі, чые колеры настолькі ненатуральныя, што падаецца, быццам іх расфарбавалі флямастэрам. Па-над ложкам — пацьвілы дыванок з кветкамі, адметны ўзор савецкага кітчу. У печцы стаіць казанок, дзе ўжо пачынаецца прыемнае булькаценьне.

На падваконьні — пажоўклая газэта, на якой сушацца яблыкі. У кутку рамы, паміж дзьвюма шыбінамі, непрыкметна атабарыўся павучок. Трохі вышэй разьвешаныя доўгія нізкі баравікоў, а ўжо пад самай стольлю застылі рыбіны, нацятыя праз вочы на леску. На стале — трохлітровы слоік, прыкладна на дзьве траціны поўны малаком. Мусіць, яно ўжо прастаяла якіх пару гадзін — за тое сьведчаць ледзь прыкметная плеўка трохі цямнейшага колеру, што пакрывае ягоную паверхню, а таксама разводы на парожняй частцы слоіку.

За драўлянай сьценкай, у прысабачанай да хаціны пуні, Вапрухін бачыць дзяўчыну, падвешаную да столі за левыя нагу і руку. Магчыма, хтосьці назваў бы гэтую паставу падобнай да ластаўкі — хаця насамрэч яна куды больш нагадвае нейкага тарантула. На аголенай скуры заўважныя пупырышкі — усё ж, ня травень месяц... Вочы дзяўчыны завязаныя павязкай. Даўгія чорныя валасы ападаюць долу, прыкрываючы ад спазорцы самыя вабныя выгіны ейнага цела.

Хтосьці спэцыяльна перасунуў у пуню козлы, якія раней стаялі ў двары (гэта відаць па сьледзе, які ножкі пакінулі на падлозе, усеянай пілавіньнем). На козлах месьціцца старэнькі сьпіральны калярыфер. Ягоны дыск спакваля напальваецца, мяняючы свой колер. Адзін час ён нават набывае тое самае адценьне, што і правы смочак палоньніцы, які быў клапатліва ўціснуты кімсьці паміж кратак калярыферу — так, каб зрабіць непасрэдны канктакт са сьпіральлю непазьбежным. Калі пільна прыгледзецца, можна ўбачыць звыклую ў такіх выпадках дэфармацыю мяккіх тканак; менавіта на гэткія дэталі гурманы зьвяртаюць асаблівую ўвагу.

Па меры таго, як сьпіраль чырванее, мяняецца і ўспрыяцьцё ўбачанага. Статычная сцэна спакваля набывае напружаньне, цалкам прадказальнае і падкантрольнае лёгіцы разьвіцьця падзеяў.

Трохі лявей ад цэнтра выявы ў яе ўнурваецца яўна чужародны сэгмэнт — ледзь прыкметная белая кропка. Любы прафэсіянал адразу ўцяміў бы, што гутарка вядзецца пра біты піксэль.

Вапрухін робіць яшчэ адзін крок і правальваецца ў прыцярушаную сьнегам яміну, куды гаспадары гэтай сядзібы, мяркуючы па ўсім, згрузілі гнілыя яблыкі. У той самы момант за каўнер яму ўпала буйная кропля. У яго двойчы зьявілася нагода, каб мацюкнуцца.

Вапрухін пачынае ачышчаць калашыну портак ад наліплае сьлізі. Але далей усё чамусьці спыняецца.

* * *

Ведаеш, як бы я назваў гэты твор? «Русалачка» або «Трагізм Сьнягуркі», або... магчыма, «Апошні танец маленькага лебедзя». Толькі што прыдумаў. Дарэчы, выдатны экспромт, як ты лічыш? Тым болей, неўзабаве будзе выстава на тэму аховы птушак у Палацы мастацтва. Што называецца, у тэму! Можаш быць пэўная, я ўжо знайшоў спэцыяльна для гэтай скульптуры добры экспазыцыйны ход. Заўчора нават замовіў адмысловую лядоўню, акурат пад твае габарыты.

Ты бязладна лыпаеш сваімі прыгожымі даўгімі вейкамі. Пад

вачыма ледзь бачныя кругі, якія ня здолеў схаваць макіяж. Ён, дарэчы, табе не пасуе, гэта я шчыра кажу. Табе ўсё адно? Так, я гэта ведаю. Хаця, папраўдзе, і трохі сумняюся — калі шчыра.

А вось мне дык твае аранжавыя валасы даспадобы. Уяўляеш, сьвятло, скіраванае маёй умелай рукой, трапляе праз тонкую ільдзяную абалонку, і вакол тваёй галавы ўтвараецца лёгкае зіхаценьне. Няўлоўны колеравы прысмак, які можа ўбачыць і ацаніць толькі вока сапраўднага гурмана! Напэўна, у такой ненавязьлівасьці паўтаноў і тоіцца хараство.

Ты пытаешся, куды табе падзецца? Тваё цела падаецца табе некім прыдуманым? Магчыма, магчыма. Вось, бачу, што твой тварык пачырванеў. Толькі, просьба, ня трэба румзаньняў. Лепей ужо макіяж, чым макіяж размазаны.

Што да тваёй скуры... Ведаеш, яна падаецца мне занадта бялявай. Канешне, я ня бачыў цябе поўнасьцю, але калі меркаваць па тых частках, якія мы не хаваем ад староньніх сузіральнікаў... Павер мне, твой аўтэнтычны колер выглядае трохі банальна, я ўжо прадбачу, што напіша пра гэта аглядальнік газэты «Культура». Але не хвалюйся. Акурат хвілінку таму ў мяне зьявілася ідэя, як можна выправіць сытуацыю... Зрэшты, цябе гэта ўжо і не павінна хваляваць. Навошта табе чужыя клопаты? Пакінь іх чужым — напрыклад, мне.

Тое, пра што ты гаворыш, для мяне зразумела. Выпі вось лепей гарбаткі, ды сырам частуйся, ён у «Рызе» досыць сьвежы. Зараз і макароны зварацца. Страхі, страхі, страхі, страхі... Вось ужо мне гэтыя дзявочыя страхі.

Так, згодны. Скажу нават болей. Падзеленасьць твайго існаваньня стала банальнай звычкай. Табе здаецца, нібы ўся твая істота — душа і цела — сьпярэшчаная мярзотнымі мікрашчылінкамі, не заўсёды бачнымі для заўсёды няўважлівага назіральніка, але ж добра адчувальнымі знутры. Гэтыя шчылінкі, яны... Ня тое, каб балела, але ж... неяк сьвярбіць, праўда?

Ня трэба такой рэзкай жэстыкуляцыі, спакайней! Бо яшчэ адзін няўклюдны рух локця — і ты ўрэжаш па твары камусьці з плястылінавых Брэжневых, Насераў, Бісмаркаў, Сьвідрыгайлаў. Навошта мне так шмат гэтых істотак? Сапраўды, яны ўжо ў мінулым, яны былі датуль, пакуль я ня вынайшаў новую мову мастацтва, але... Ну, ведаеш, яны ж маіх рук справа, і мне шкада будзе разьвітвацца хаця б з адным. Як, напэўна, і кожнаму з творцаў.

Бачыш, усё плыве і сьлізгае пад тваімі падэшвамі. Глеба перад табою пакрытая ільдом, а катацца на каньках ты ня ўмела нават у дзяцінстве. Дарэчы, адзін даволі абазнаны ў тваім целе чалавек (можаш нават здагадацца, пра каго я) паведаміў мне па сакрэце, нібы ў цябе ёсьць татуіроўка на левым сьцягне. Такую пікантную дэталь таксама можна будзе неяк цікава абыграць.

Можаш далей і не казаць, усё адно я цябе разумею. Крок наперад — гэта крок у нікуды. У новую пастку ілжывых уяўленьняў і інтэлегібельнага сьмецьця, у новыя калодзежы фальшывых сэнсаў ды вобразаў. Навошта табе гэта патрэбна? Лепш паслухай маю эксклюзіўную для цябе прапанову. Не, пачакай, даслухай уважліва, ня трэба так непакоіцца.

Даруй, што перапыняю... Я магу сфармуляваць два твае галоўныя страхі. Першы зь іх — страх быць. Другі — страх ня быць. Я ведаю паратунак ад абодвух.

Ты марыш пра той момант, калі твае ногі ўтульна ўладкуюцца ў цёплыя сухія тапкі. Ты паўсячасна прагнеш нейкай трываласьці, пэўнасьці, грунтоўнасьці. І заўсёды кідаешся ў дэпрэсію, калі высьвятляецца, што ў цёплым тапку, куды ты, нарэшце, засунула зьмерзлую ў лістападаўскую непагадзь нагу, знайшла сабе пристанішча гадзюка.

Ведаеш, у тапках немагчыма ісьці па балоце. Правалішся.

І, дарэчы, не хвалюйся так адносна сваёй фігуры (хаця, падазраю, тут я ізноў маю справу са звычайным какецтвам). У мастацкім аспэкце навязаныя нам парамэтры прыгажосьці ня маюць аніякага значэньня. Для перадачы аўтарскай думкі важна нешта іншае — тонкія выгіны, ледзь адчувальныя шурпатасьці, лёгкі вугал нахілу смочка...

Я працягну за цябе. Быць непадзельнай, быць чымсьці цэласным, ня здраджваць сабе ў кожны момант свайго жыцьця. Што ж, тут мой сродак, пагадзіся, будзе найаптымальнейшым.

Адным словам, так я і думаў. Ты ня можаш падзецца ад жарсьцяў, што цябе разьдзіраюць. Ты адчуваеш, быццам развальваешся на кавалкі. Але кожны з гэтых кавалкаў прагне цэльнасьці.

Твае памкненьні, твае мары, твае падзелы, твае тамагочы, твае раздражненьні, твае лібіда, твае веры, твае безнадзейнасьці, твае слодычы, твае страхі, твае кракадзілавыя сьлёзы, твае здрады, твае параманчавыя валасы, твае экзыстэнцыі, мяккія адбіткі тваіх босых ног на сьнезе, твае эпатажныя рынгтоны, твае дрыготкія павекі, твае маскі, твае капрызы, твае даўгія пальцы піяністкі, твае новыя боцікі на высокіх абцасах, твае прагненьні любіць, твае пазногці, пафарбаваныя чорным лакам, твае трэшчынкі на вуснах... Думаю, гэта ўсё пара ўжо *сашкрэбсьці*.

Я маю апошні козыр. Табе ўсё адно нічога іншага не застаецца. Ці ня так?

Вось, ну дык што ты цяпер скажаш наконт маёй прапановы?

Добра, тады распранайся. Можаш заходзіць у душ, зараз толькі сьвятло ўключу. Тут у мяне створаныя адмысловыя кліматычныя ўмовы. Як, не сьпякотна?

Не хвалюйся, даўжыні шлянгу павінна хапіць. Вазьмі гумовы дыванок, бо інакш суседзі зноў будуць скардзіцца на тое, што іх залілі.

Вось, а цяпер я стаўлю перад табой задачу. Ты павінна ўяўляць зь сябе балярыну. Нагу трохі вышэй, станку ў мяне ў ваньне, вядома, няма, але ж гэтая іржавая труба яго лёгка заменіць. Ты ж казала, што калісьці займалася харэаграфіяй? Ну паспрабуй яшчэ раз, толькі ня трэба так дрыжэць. Не, дзякуй, ну пасьміхся, жыцьцё, урэшце, не такое і сумнае.

Ага, а татуіроўка ў цябе і сапраўды цікавая. Хаця, па шчырасьці, я разьлічваў, што яна трохі ніжэй. Павярніся яшчэ на хвілінку, дай лепей разгледзець. Добра, трэба прыдумаць, як яе абыграць у назьве працы.

Паводзь сябе як мага больш натуральна. Зрабі выгляд, быццам ты... эээ... збан, які мусіць быць поўным... эээ... духмяным парным малаком, але... ён парожні, трагічна парожні. Знаёма, так? Адчувай, адчувай сваю паражнечу, выяўляй, паказвай яе мне, ня трэба саромецца эмоцыяў .

Не, даражэнькая, пастаўся да сваёй задачы крышку сур'ёзьней. Ты мусіш цяміць, што гэтае імгненьне застанецца на вякі. У гісторыі мастацтваў, вядома.

Левую руку трохі наперад, калі ласка. А цяпер зірні на мяне. З такім выглядам, быццам я твой адзіны збаўца.



Нічога, праз якую хвілінку твой твар зьменіцца. Гэтая штучнасьць пройдзе сама сабою, не хвалюйся. Зараз, я вось толькі... Халера, ізноў нешта не працуе.

І апошняя просьба. Трохі вышэй правае плечыка, каб смочак, усё ж, глядзеў уверх.

Напор брансбойта досыць моцны, і рэцэптары скуры не адразу адэкватна рэагуюць на такую неспадзяванку.

Праз долю сэкунды твае пунцовыя вусны трохі скрывіліся, утвораная імі фігура, як мне падаецца, можа азначаць прыемную зьдзіўленую ўсьмешку — як быццам, ты знайшла пад елачкай неспадзяваны падарунак, нейкую густоўную бранзалетку або флякончык францускай парфумы.

Струмень паціху ахоплівае ўсё большую і большую плошчу, тваё цела ўздрыгвае, хай і зь невялікім спазьненьнем. Канвульсіі — гэта акурат тое, што здатнае спатоліць твой даўні голад на моцныя эмоцыі. Ня горай за падарожжа на Шры-Ланка, пагадзіся?

Цябе скаланаюць дрыжыкі, але можаш быць пэўнай у тым, што неўзабаве ты ўжо будзеш вызваленая ад навязьлівай неабходнасьці рабіць разнастайныя рухі, якая так моцна ўвесь час прыгнятала.

З твайго роту пакуль яшчэ ідзе пара, але павер — хараство кампазыцыі яна ўжо ня здатная парушыць. Зараз, засталося яшчэ пару штрыхоў, і...

Угу, і пакуль не застыне, трэба не забыцца пра аўтарскі подпіс.

■

**Ілля СІН** нарадзіўся ў 1978 годзе ў Менску. Аўтар кніг «Ілля Сін памёр», «0», «Сапсаваныя лялькі», «Тэатральныя дэманы». Кіраўнік перформарнага праекта «Тэатр псіхічнае неўраўнаважанасці».

# ПАРАДЫ АД КАПІТАНА ДУЛІНА

**для дзяцей пасля 18 гадоў (фрагменты з рамана)**

**1.**

Звініць вецер. Спяваюць марскія хвалі. А на душы ў цябе моташна, сябра. Карабельныя мачты цябе не натхняюць на подзвігі. Ром у бутэльках нагадвае пракіслае малако. Здаецца, што жыццё сёння пакрылася нейкай сіняй лупінай. Ты стаіш, глядзіш на адлівы і прылівы. Разглядаеш згаслае зімовае сонца. Мацней закручваешся ў дзіравы плед. Сплёўваеш праз крывыя карыесныя зубы. Спрабуеш згадаць санэт Шэкспіра. Ён, сабака, не згадваецца. Ты раздумваеш пра надвор'е, яно, братка, гадаснае цяпер. З рота выпаўзаюць марозныя аблокі. Ты намацоўваеш дзесьці ў кішэні кубінскую цыгару. Няўжо варта псаваць марознае паветра ёйным смакам? Гэты пошук навобмацак так і застывае ў прасторы часу. Ты не запальваеш. Ты глядзіш на хвалі, на халодныя пырскі. Думаецца, што дамы ператварыліся ў кубікі лёду.

**2.**

**А)** Калі ты прыйшоў на вяселле да сябра, нажэрся, як свіння, усіх абмацярыў, пацягаў за цыцкі святочных дзяўчат — што рабіць? Вешацца ці з глухім грукатам ператварыцца ў танк і сысці ў падпольны запой? Што рабіць, капітан Дулін?

**Б)** Самае галоўнае — не панікаваць, дзеці. Зрабі выгляд, што, калі ты абляваны, — гэта твой натуральны выгляд. Бо і тарты часам выглядаюць пенай ад бражкі, але на смак можа быць тое, што трэба. Таму папраў гальштук ці матылёк — і падай пад стол. Святочны храп, чым не музыка для вяселля?

**3.**

**А)** Што рабіць, калі ты закахаўся ў шаснаццацігадовую дзяўчыну, а табе ўжо сорак шэсць гадоў? Твая галава ўжо ўпрыгожылася праплешынамі, якія перамяжоўваюць выспачкі сівых валасоў. На носе біноклем сядзяць цяжкія панцырныя акуляры. Нос, нібы чырвоны багор, разразае твар. Шчотка няголенасці прымушае дзень зафіксаваць гэты краявід ва ўсёй ягонай прыгажосці. Што рабіць, капітан Д улін?

**Б)** Важна зразумець, што ты жывеш не ў Амерыцы. І цябе адразу не пасадзяць у каталажку. Але і не варта забывацца на народную прымаўку «за пятнаццаць даюць пятнаццаць». Анікога не слухай. Каханне, братка, гэта святое. У гісторыі чалавецтва процьма выпадкаў, калі паміж каханымі ляжала бездань розніцы ва ўзросце. Але і не забывайся на бацькоў сваёй абранніцы. Бо твая старая чарапахавая галава можа ператварыцца ў грушу для бокса. А ўвогуле, бярыся тады за вершы. Што ж табе яшчэ рабіць у такім узросце? Будзе на гэтым свеце больш на аднаго недабітага графамана.

**4.**

Ну, што? Час перакусу. Так. Дзе мая скураная торба? Вось яна. Уся ў замочках і заклёпках — стыльная чорная торбачка. Сюды якраз уціскаецца палка сыравяленай каўбасы «Мядовая» і пляшка гарэлкі «Хлебнае віно» — прэзент ад сябра капітана беларускага рачнога парахода. Вось, не прайшлі

дарэмна цкаванні сятрыцы Глорыі. Яна заўсёды казала: «Прыйдзеш на бераг мора, выпі і закусі». А што ж капітану трэба? Калі ром пракіс — толькі гарэлку і піць. Цяпер капітан Дулін вып’е і закусіць. А што ж яшчэ рабіць на беразе мора ў Вентспілсе?

**5.**

**А)** Што рабіць, калі са свята цябе скрадае жанчына старэшая за цябе і цягне да сваёй хаты? Яна, натуральна, разведзеная, і дома ў яе бегаюць дзеці. Жанчына прыгожая, але ейныя мазгі працуюць толькі на вытворчасць нашчадкаў. Жанчына выглядае на звычайную самку. У яе не дом — гняздо. Дома пузацяцца прадуктамі лядоўні. Па калідорах перапаўзаюць тоўстыя каты і робаты. Ёйная кватэра нагадвае новы касмічны зоркалёт. Але няма капітана. Папярэдні быў атручаны ці з’едзены на дэсерт. Ты не сэксіст, але неўзабаве ў такога пераўтвараешся. Што рабіць, капітан Дулін?

**Б)** Самае галоўнае — прадугледзіць шляхі адыхода. Правер, ці засталіся ключы ў дзвярах. Пасля кубка гарбаты — папрасі кубак кавы. Прымусь яе пакутваць. Не давай ёй расслабіцца. Няхай адчуе надыход позехаў, тады ёй захочацца спаць — і ў цябе будзе момант збегчы. Бо калі ты застанешся — зробішся звычайным самцом. Капітанам гнязда. Хаця, ці не гэтага ты чакаў і шукаў? Гняздо, яйкі, пульхная самка пад пахай — можа, ў гэтым ёсць сэнс?

**6.**

**А)** Калі ты не любіш лекараў і стараешся іх наведваць як мага менш (цябе калоціць ад аднаго погляду на белыя халаты), а тут раптоўна забалеў зуб, што ж рабіць, капітан Дулін? Зубкі-та не вечныя — з цягам часу яны ператвараюцца ў зруйнаваныя бастыёны. Белыя прыгожыя горы ўпрыгожваюцца прасторнымі дупламі.

**Б)** Усё — тып-топ. Звычайны працэс. Можна нагадаць, што кожны з нас не застрахаваны ад старэння. У будучым усе мы будзем пачываць на нябёсах — так бы мовіць — душы будуць там, а нашыя састарэлыя целы будуць ляжаць на могілках і карміць чарвякоў. Таму, калі разабрацца, якая розніца: будуць на могілках ляжаць запламбаваныя ці дзіравыя зубы? А тут можна і патрываць. Самы просты спосаб заліць зуб моцным алкаголем. Прыродная анестэзія. Але ж яна не надоўга — боль можа вярнуцца. Таму ёсць дзедаўскі метад выратавання ад болю — пакласці на дупло кавалак сала. Не ведаю, як вам, дзеткі, а мне дапамагае. Дарэчы, не зашкодзіць папаласкаць рот вадой з соллю. На шклянку вады кладуцца дзве сталовыя лыжкі солі. Калі ж анічога не дапамагае — спрабуйце гада выдзерці! Поспехаў!

**7.**

Нашто ты пайшоў у капітаны? З дзяцінства ты любіў лавіць рыбу. Ды есці ты любіў крабаў, ракаў, мідзіі, вустрыцы. Распілаваны марскі краб на дзве паловы нагадвае расколаты грэцкі арэх. Бярэш лыжку і вылоўліваеш з панцыра чароўную масу. Потым шчыпцамі расціскаеш клешні і выцягваеш чырвонае мяса. Га — смаката. Выганяць цябе з партыі «Зялёныя», капітан. Не шкадуеш ты нашых марскіх братоў меншых.

**8.**

Што здарылася з тваім караблём, капітан Дулін? Чаму ты на беразе, нібы выкінуты за борт карабельны пацук? Твой сіні кіцель пашараваўся, але ж і дагэтуль здалёк ты нагадваеш маленькага кашалота. Усё вельмі проста — на тваім караблі адбыўся бунт — уладу забралі жанчыны. Іх было сем. Яны прыйшлі з кухонымі нажамі і чарпакамі Яны блішчэлі жалезнымі савецкімі зубамі і клацалі скуранымі тапачкамі. Яны выклалі на палубу вялікі рондаль з баршчом, расклалі паўсюль алюмініевыя талеркі і лыжкі. Цяпер яны хрупаюць долькамі часнyку і, сёрбаючы ружовае варыва, абмяркоўваюць апошнія навіны спорту, палітычныя выбары, даказваюць самі сабе, што жанчына стала эмансіпаванай. Яны ўпарта крычаць паміж сабой, нібы на базары, што замуж ісці — гэта цяпер не іх мэта, а дзяцей няхай нараджаюць гэтыя мядузападобныя мужыкі. Усё б — нічога, толькі карабель сеў на мель, а жанчыны па-ранейшаму працягваюць сёрбаць смярдзючы боршч і абмяркоўваць прыгажосць спадніцы ў гарохі, якую нібыта апранала Кандаліза Райс у

гэты чацвер. Што сталася з тваім караблём, капітан Дулін?

**9.**

**А)** Дзядзя Дулін, а ці пасуе мне гэтая спадніца ў гарохі? Ці мо Федзя не будзе на мяне звяртаць увагі?... У мяне, здаецца, прыгожыя ногі...

**Б)** Бяры прыклад з сястрыцы Глорыі, даражэнькая, — вось дзяўчына бяз комплексаў. Яна лічыць, што мужчына мусіць лавіцца на мазгі. Ці, як яна кажа, змяншона-ласкава: на моск! Менавіна праз літару К. МосК вырашае ўсё! Я скажу табе — так, даражэнькая. Мы, вядома, любім прыкідвацца і любім дагаджаць жанчыне. Мы з ёй пагодзімся, што нас цікавіць у ёй выключна МОСК. Але гэта, безумоўна, будзе хлуснёй. Ну, калі жанчына выглядае, як супрацьтанкавая гаўбіца — нафіг мне ейны моск? Я лепей са сваімі мазгамі застануся. Жанчына павінна быць гарманічнай ва ўсім! Я асабіста шукаю ідэал: МОСК + ногі. Але некаторыя хлопцы напраўду лічаць, калі ёсць ногі — навошта патрэбны МОСК? Што паробіш, самца таксама цяжка перарабіць. Філосафаў сярод нас няшмат. Але ты апранай спадніцу ў гарохі. Яна вельмі табе пасуе. Такія белыя лапкі мусяць упрыгожваць менавіта гарохі. Федзі спадабаецца.

**10.**

І ўсё ж твой капітанскі мосцік застаўся ў кавярні «Чорны кот». Тут ты можаш заўсёды пачуваць сябе капітанам Дуліным — сапраўдным прапаленым марскім ваўком. Тут заўсёды для цябе знойдзецца кубак з грогам або твой улюбёны напой — ром «Капітан Джэк».

— Я абышоў усе акіяны і палову мораў, — скажаш ты. І наведнікі кавярні спыняць свае гаворкі і ўтаропяцца позіркамі ў твой твар. Усе будуць чакаць аповедаў пра піратаў, акул, чорныя выспы і штормы. Абавязкова знойдзецца нехта, хто з прыдыханнем запытае: «А як там — гарэмы сустракаліся? Га?» І ты не падвядзеш, згадаеш пра таемныя землі, што ляжаць недзе каля Гавайскіх выспаў, дзе ты трапіў у палон да племені Фулюлю і як там цябе выратоўвала прыгожая мурынка Косціка. Табе заўсёды нальюць яшчэ. І ты працягнеш гісторыю сваіх вандровак па свеце.



**11.**

**А)** «VANA TALLIN» — эстонскі лікёр... Ці п'юць яго ў Вентспілсе? Што вы можаце нам распавесці, капітан Дулін? Кажуць, што пасля ягонага ўжывання перад вачыма пачынаюць лётаць барвовыя ластаўкі? Ці праўда?

**Б)** Упершыню я пакаштаваў гэты напой у мараходнай вучэльні. Яшчэ за савецкім часам. Як цяпер памятаю, закусвалі яблыкамі. Цудоўныя былі часы. Маладосць. А ўвогуле — гэты напой для дзяўчатак, не для прапаленых марскіх бадзягаў. Ластавак барвовых не памятаю, а вось хамячкі былі. Памятаю трох. Ляжалі — не варушыліся. Падохлі, мабыць, пасля таго лікёра. Рэкамендую хлопцам у якасьці зброі спакушаць дзяўчат. П'яніць добра. Моцны напой. Дзяўчат добра ім спойваць. Ага.

**12.**

**А)** Ці апахмяляецеся вы, капітан Дулін? Бо прыняты з вечара ром можа запатрабаваць галаўнога болю. Бывае, прачнешся пасля ўчарашняй пагулянкі, а ў роце стаіць ядзерная зіма, па скронях шпацыруюць нябачныя гімнасты... ды ўвогуле цела нагадвае нейкае бервяно. А гэта не ёсць добра. Кажуць, што піва здымае пахмельныя сімптомы... Што скажа на гэты конт прапалены морам прафесіянал?

**Б)** Памятаецца, быў такі расейскі даследчык Пахмелкін, дык ён вельмі не рэкамендаваў ужываць алкаголь да 16 гадзінаў вечара і пасля апоўначы, каб алкаголь паспеў выйсці з арганізма. Бо інакш у крыві будзе замнога небяспечнага рэчыва — а гэта прамы шлях да алкагалізму. Таму я рэкамендую піць зранку кефір! Шклянка гэтага напою, нібы жывы элексір, — гэта колер сняжынкі і смак свежага ветра! Самае галоўнае — не пераблытаць яго з гарэлкай. Бо тады атрымаецца запой, і анічога добрага з гэтага не вынікае. Будзе ў хаце шмат бярвення, якое для будоўлі будзе зусім непрыдатнае. Хіба распаліць печку...

**13.**

**А)** Я нядаўна закахалася ў хлопчыка... Ён такі прыемны; з рудай бародкай, у вачах ліхтарыкі

і тэрмасы плаваюць, надброўныя дугі танчаць італьянскія танцы... у вуху ён носіць кліпсу ў выглядзе галавы цмока... На ягоных руках — срэбныя пярсцёнкі, — напраўду блізкая мне душа... Ну, прынамсі, так падаецца. Штосьці, здаецца, аб'ядноўвае нас... Магчыма, гэтыя ліхтарыкі і тэрмасы... Мне нават падалося, што мяне штосьці працяла, мо куля якая? Я яму ў нэце напісала: гарбата — кароль усіх каралей... А ён маўчыць, сабака... Ён што, тупы ці дэбіл? Як вы думаеце, капітан Дулін?

**Б)** Трэба было проста і даступна напісаць: пайшлі на гарбату! А так ён, пэўна, яшчэператраўлівае інфармацыю... Раздумвае пра каралей і троны. Раю набыць у сувенірнай краме цацачнага ката. Я памятаю, што ў дзяцінстве майму сябру адна дзяўчынка падарыла цацку ў выглядзе бегемота... Дык мой сябрук ператварыўся ад радасці ў шчанюка... Так-так, падары гэтаму дэбілу вялізнага штучнага ката — ён тады стане спаніэлем. Упэўнены — на сто адсоткаў. А калі не спрацуе... Запрасі на гарбату і замест цукру падсып яму солі. Калі ён аддае перавагу напою без дадатковых інгрыдзіентаў, тады... Тады мусіць у кожным выпадку быць падстрахоўка. На вашую сустрэчу павінна абавязкова выпадкова завітаць твая маці. Пераканаханы, знаёмства з ёй наблізіць яго да прамовы патрэбных словаў. І магчыма, калі ты абнадзеіш яго, што выдаткі на вяселле будуць сумесныя — гэта надасць яму сілы ў мужных крокаў да сям'і. Амін. Кажаш, што не спрацуе? А ты згадай, што дзесьці ў шафе была бацькавая пастка на мядзвядзя. Ён спрацуе дакладна!

## 14.

Капітан Дулін бавіў час у бары «Чорны кот», калі з'явіўся ён. Гэта быў дзіўнаваты чалавек. Ягоны твар нагадваў поле для баскетбола, здавалася, што замест вачэй ў яго два карычневыя мячыкі. Чалавек зняў руды капялюш, усміхнуўся, паказваючы белыя, нейкія ненатуральныя зубы, — было адчуванне, што яны выраблены з фарфору.

— Вы, капітан Дулін? — запытаўся незнаёмец.

Дулін пагледзеў на гадзіннік — было без трох хвілінаў тры гадзіны. Стрэлкі поўзаўзалі маленькімі катвігамі. Сам цыферблат утрымліваў трохмачтавы серабрысты карабель. І варта дадаць, што гадзіннік не цікаў, а ціхмяна булькаў — вынаходка сучасных майстроў. Нехта яшчэ спрабаваў цешыць не толькі дзяцей, але і бывалых маракоў.

— Да шостага лютага да без трох хвілінаў тры гадзіны — быў такім, — адказаў капітан.

— У мяне да вас справа, — сказаў чалавек.

— Слухаю вас ўважліва, — пагадзіўся капітан і жэстам прапанаваў чалавеку прысесці на суседняе крэсла.

— Самае галоўнае, што вы павінны зразумець, — распачаў незнаёмец, — што заўтра ўвечары да вас прыйдуць нашыя людзі. Юнга Калібры трапіў у вельмі непрыемную гісторыю. Яму дапамагчы можаце толькі вы. Але не пытайцеся пра здарэнне.

— І як мне на гэтае рэагаваць? — здзівіўся капітан.

— Як дадзенасць. Вы можаце толькі дапамагчы. Але падзеі рухаюцца ўжо сваім кірункам, спыніць іх ці запаволіць не ў вашых сілах. Набудзьце на вячэру вэнджанай камбалы — яна супакойвае нервы. А калі яшчэ ў страўнік закінуць куфаль піва — дык зусім выдатна. Не перажывайце! Поспеху.

Сказаўшы гэтае, незнаёмец падняўся. Капітан адпіў рому і заўважыў, на выхадзе да кавярні яшчэ нейкіх падазроных тыпаў.

— Я буду заўтра чакаць вашых людзей, — пагадзіўся капітан.

Было адчуванне, што крыветка на талерцы выгнулася, нібыта пацягваючыся пасля сну. «Ну-ну, давай без сюрпрызаў», — падумаў ці, хутчэй, папярэдзіў нахабную ружовую крэветку капітан. Відэлец расклаў ўсё па сваіх месцах — ад яго было цяжка схавацца жыхарам тутэйшых сталоў. «Хруп!» — і вось ужо бедалага плыве ў хвалях рому.

## 15.

**А)** А што мне рабіць з катом Фердзінадам? Я месяц таму падабраў на вуліцы чорнага кацёнка — маленькага такога... Выглядаў такім цацачным... плюшчовым. І вось месяц праходзіць і кацяня ператвараецца ў агромністага ката — памерам са свінню... Уяўляеце, калі па кватэры такое шматкілаграмовае носіцца з вялікай хуткасцю? Што цяпер рабіць,

нават і не ведаю... Падкажыце выйсце з гэтай сітуацыі, капітан Дулін.

**Б)** Т-а-а-ак... Складаная сітуацыя. Зноўку гэтыя кацяры... распладзіліся. Але нешта можна прыдумаць. Павінна быць выйсце. Як казаў нябожчык марак Трунін: «Праблемы трэба вырашаць па меры іх з'яўлення»... Абмежаванне з ядой, думаю, тут не дапаможа — можа выклікаць толькі непрыхаваную агрэсію. Можа, ў клетку пасадзіць драпежніка? Хаця гэта, вядома, зусім не гуманна. А можа, завесьці бультэр'ера? Парве тады яго, як тузіка. Але ж таксама нібыта не гуманна... Што ж зрабіць?.. Паспрабуйце забіяку абмежаваць рацыён... Давайце меней мяса і кіўбасы... Можа, гэта на яго паўлывае — хаця вельмі сумняюся... А лепш — вось прыйшла нечаканая ідэя — падары Фердзінанда ворагу! Падары — мастаку Шышкіну, — няхай точыць свае кіпцюры аб ягоныя палотны! Так — гэта самае лепшае рашэнне!

### 16.

**А)** Што рабіць, калі на вуліцы завея, а на душы, як кажуць у народзе, шкрабуцца выдры? Каханне сышло, шэф на працы азвярэў, душ зламаўся, тараканы перадохлі... Што рабіць у гэтай сумнай сітуацыі, капітан Дулін?

**Б)** Не расслабляцца! Можна напісаць партрэт з тварам непрыемнага табе чалавека, потым можна выкарыстоўваць карціну накшталт мішэні. Вельмі добра шпурляць у ворага ножыкі і відэльцы. Завея і маркота знікнуць, нібыта страшэнны сон. Запі ўсё гарбатай, згрызі цукерку і пачынай думаць пра дабрыню.

### 17.

**Капітан Дулін падумаў і занатаваў:**

**1.)** калі ты выпіваеш першы кілішак, ты яшчэ адэкватны і можаш трымаць сябе ў прыстойных межах. Твае паводзіны пакуль не палохаюць прысутных. Зазвычай з новымі людзьмі выпіваеш за знаёмства і сяброўства паміж народамі. Самае галоўнае, каб той кілішак быў натхняльным. Гарэлачку пад цытрынку ці агурок, каньяк пад шакаладку. Глядзіш, і неўзабаве месяц над галавой будзе ператварацца ў кругляк галандскага сыру.

**2.)** калі ты выпіваеш другі кілішак — твае вока пачынае свяціцца вясёлым ліхтарыкам. Па твары пачынае гуляць глупая ўсмешка. Гэта гаворыць пра тое, што працэс пайшоў. Любіш згадваць... тост «Яхада»! Але істотна, каб да гарэлачкі былі селядзец ці катлета, а да каньяка — шклянка халоднага яблычнага соку. Вось ужо і карагоды празрыстых людзей пацягнуліся вакол.

**3.)** трэці кілішак зазвычай выпіваецца за каханне! Каб душа была распасцёртая на ложку. Перадусім можна ў дадатак і шампанскага сербануць. Бурбалкі надзейна прышпіляць цябе да невядомых вуснаў невядомай дзяўчыны. Самае галоўнае — прачнуцца ў патрэбны момант і не забыцца на ананасы і кавуны. Закусвай, і тады не згубішся ў прасторы часу.

### 18.

**А)** Як жа вы варыце яйкі, капітан Дулін... Хто ж іх варыць разам з бульбай? Яны ж будуць сінія, накшталт нябожчыкаў... Не шкадуеце свайго здароўя... Зрабілі бы сабе зупкі... Цела ж не вечнае... Капусткі, гуркоў бы паелі... Душыцеся адной варанай бульбай і яйкамі, ды яшчэ маянэзу і кетчыпу да іх шпуляеце... Гідка гэта ўсё — есці так нельга.

**Б)** Так — да яйкаў я стаўлюся, мабыць, без павагі. Але яны хоць сінія, хоць жоўтыя, але ператравяцца ў маім страўніку з вялікай ахвотай. Згадваю, як у дзяцінстве мы качалі яйкі ў лунку... Некаторыя прафесіяналы выйгравалі цэлымі вёдрамі. Вось былі часы! Жоўтыя і сінія, пратухлыя і свежыя — гэтак па-майстэрску лёталі над чырвоным полем. Гэх.

### 19.

**А)** Нядаўна адно зялёнае дзяўчо ўпэўнена выклала ў нэце два фота з адным чалавекам. На адным — ён вельмі тлусты і стаіць каля цэлага горада, пабудаванага з гральных картаў, на другім — худы, спартовы, але побач невялікі дамок з гральных картаў. А побач з фотаздымкамі яна змясціла наступны надпіс: «Губляй час на сябе, а не на ўсялякае глупства»! Як вы пракаментуеце гэта, капітан Дулін?

**Б)** Я — за таўстуна! Тлушч — гэта святое! Згадваецца, што з кітовага

тлушчу некалі рабілі вельмі цудоўныя свечы! Так і ўяўляю гральныя карты ў выглядзе вогненных светлякоў!..

**20.**

Капітан Дулін любіў гэты порт. Тут заўсёды ў вялікім мностве швартаваліся не толькі караблі, але і стайкі качак. Лёталі кірлі. У гэтым месцы моцна пахла рыбіным тлушчам. Тут можна было раскладаць святло на чорныя і белыя палоскі. Падчас гэтага занятку ў галаву капітана прыходзілі лекары ў накрухмаленых белых халатах і распачыналі грымець прабіркамі і шпрыцамі. Зазвычай яны падчас гэтай незразумелай працэдуры ўсміхаліся і казалі: «Чыыыыыыз!»

**21.**

**А)** А ці ёсць яно — каханне, дзядзя Дулін? Можа гэта мыльная бурбалка? Міф, прыдуманы кімсьці з далёкіх продкаў? Мне падаецца, што жанчына можа пакахаць кожнага... Згадайце, як у старажытныя часы зялёных дзяўчат выдавалі замуж за старпёраў... І што жа? У выніку часцяком былі шчаслівыя шлюбы... Дзяўчаты праз пэўны час пачыналі кахаць сваіх дзядуляў... Вось ён — вынік... Ахвяра і каханне...

**Б)** Не, даражэнькая! Ёсць яно! Калі самец у полі арэ і косіць, у пэўны момант з'яўляецца яна — мадонна! І падносіць табе збан халоднага малака. Бывае, і чарку самагонкі табе падасі. Усялякае бывае... А бывае, пакладзе цябе, нібы дзіцятка ў калыску, калі ты нямоглы, і цягне па гарах і ямінах, нібы куфар з золатам. Хіба гэта не яно? Шчасце... Няхай часам і драпежнае, але шчырае, светлае і празрыстае, нібы твая душа пасля пахмелля. Усялякае бывае...

**22.**

Дождж супакойвае нервы. Добра сядзець дома і слухаць, як кроплі барабаняць па шыбах. Ты слухаеш дробат, раздумваеш пра жыццё. У такія моманты складаецца ўражанне пэўнай абароны ад варожага свету. Нібыта дождж змыў усіх ворагаў і ўвесь негатыў. Сядзіш, цэдзіш з келіха ром, час ад часу малюеш у галаве партрэт прыемнай незнаёмкі. Джаконду новага часу. Дождж — Джаконда — ром «Пірат Джон». Цудоўна.

**23.**

**А)** Што рабіць, капітан Дулін, калі жанчына кепска разумее жарты? Ты ёй жартам: «У кожнага чалавека мусіць быць сакрэт». Яна ў адказ: «Сволач, кажы, хто яна!» Ты пачынаеш ёй тлумачыць, што, маўляў, у кожнага чалавека мусіць быць маленькая таямніца. Згадваеш ёй песеньку з мульціка пра «сакрэт у маленькай кампаніі». Яна ў адказ: «Сволач, што за капанія?!!» Ты ёй: «Я ж фігуральна...»

**Б)** Галоўнае — не расслабляцца. Гэта як у шторм. Тут варта ўзважваць кожнае слова. Па ўсім бачна, што самка займаецца дрэсіроўкай самца. Як кажа мой сябра матрос Марэйна: «Палец у рот не кладзі — адкусіць». Што тут яшчэ сказаць і параіць? Жартуйце! Жартуйце! Толькі не забывайцеся на качалкі, талеркі, прасы, выбівалкі, чарпакі — яны могуць трапіць у рукі жанчыны ў якасьці галоўнага аргумента. Самае небяспечнае — патэльня! Гэтая ў маленькіх пяшчотных ручках жанчыны ператвараецца ў вельмі магутную зброю. Каб супакоіць самку, старайцеся абыходзіць тэму сакрэтаў — хавайце іх глыбока на самае дно хатняга куфра. А калі раптам ляпнулі нешта пра сакрэцік — пажартавалі дык пажартавалі, — тады хлусіце! Хлусіце пра таемнага караеда, які быў выпадкова распнуты вашым ботам. Распавядайце пра карася, што сарваўся з кручка! Сакрэтаў заўсёды процьма! Некаторымі лепш і падзяліцца. А ўвогуле наастатак дадам — не гуляйцеся ў хованкі з раўнівіцамі, бо ад жартаўніка могуць застацца адно «рожкі ды ножкі».

■

**Зміцер ВІШНЁЎ** нарадзіўся ў 1973 г. ў Дэбрацэне (Вугоршчына), вывучаў філалогію і журналістыку ў Менску і Маскве. Піша вершы, прозу, крытыку, займаецца жывапісам. Аўтар кніг: «Штабкавы тамтам» (1998), «Тамбурны маскіт» (2001), «Трап для сусліка, альбо Некрафілічнае даследаванне аднаго віду грызуноў» (2002), «Верыфікацыя нараджэння» (2005), «Фараон

у заапарку» (2007), «Замак пабудаваны з крапівы» (2010), «Шоргат жукоў» (2011). У 2006-ым годзе атрымаў стыпендыю Literarisches colloquium (Берлін, Нямеччына). У 2008-ым годзе атрымаў стыпендыю Homines Urbani (Vills Decius, Кракаў, Польшча). Удзельнік шматлікіх міжнародных паэтычных фестываляў і кангрэсаў. Перакладзены больш чым на дваццаць моваў.





# ЖЫВЫ ЧАСОПІС RETSHYZA

**(Фрагменты)**

### «ГЭТА НЕ МОЙ ВАРЫЯНТ»

Прэзентацыя кнігі Леры Сом «Каралева прыйдзе ноччу» на Управе БНФ, сустрэча з групай «Індыга» і яе салісткай Русяй. Лера чытала вершы невыразна, спявала крыху лепей. У зборніку, якога аніхто на прэзентацыі так і ня ўбачыў, сабраныя вершы пра каханьне, якія Лера напісала па-беларуску за апошнія 20 гадоў. Некалькі цытатаў: «Аб’ектаў каханьня было вельмі шмат. А вось прысвячэньняў я ня ставіла, бо ёсьць такая цікавая рэч — часам, пэўны верш, напісаны для аднаго чалавека, раптам ператвараецца ў прысвечаны абсалютна іншаму»; «...Ёсьць людзі, якім на ўсё жыцьцё патрэбны толькі адзін чалавек. Але гэта не мой варыянт».

*9.03.2007*

## СМАЛЯНЕ

Некалькі дзён па службовых справах прабыў у Смаленску, які аглушыў мяне, ашаломіў, ды пакінуў у душы шмат супярэчлівых уражаньняў. Веліч і запусьценьне. Магутная прырода і абшары. Цэрквы і манастыры. Жывая архітэктура. А найбольш цікавілі людзі. Іх гутарка. Напрыклад, у сталоўцы: «А ці ёсць бульбачка?» «І *бульбачка* знойдзецца, ды яшчэ *са шкваркамі*!» А ў мясцовай газэце вычытаў: «Я *прытулилася* к стене и простояла весь вечер».

*29.03.2007*

## КЛАПЫ

У падземным пераходзе, каля гатэлю «Юбілейная», працуе кветкавая крама. За шклом — тэрарыум з вялізнымі заакіянскімі прусакамі і яшчэ нейкімі павукамі. І надпіс: «Наши насекомые не продаются!» І тады я прыгадаў тых, хто нашыя. Салдацікі-клапы! Настальгічныя ўспаміны пра гэтых цёплых жыхароў усіх старых прызбаў у вёсках, дзе мне выпадала бываць, абудзіліся ў Заспе, там, дзе жылі і дзяды мае, і мой бацька. Маршыруюць пэўна там сабе й дагэтуль дзясяткамі і сотнямі ўздоўж сцяны хаты, а то проста грэюцца пад гарачымі промнямі сонца, назапашваюцца на зіму цяплом.

*31.05.2007*

## ХТО ЧЭСНА ПРАЦУЕ

Цытата з рэкламнага буклета Мінскага піўзавода «Беларусь» (Сёньня — «Аліварыя»): «Нашыя напоі — жаданае і неабходнае дапаўненьне да стала ўсіх, хто ЧЭСНА ПРАЦУЕ і годна адпачывае дома або на ўлоньні беларускай прыроды!» Мараль простая: нячэсныя няхай захлынаюцца кан'яком ды шампанскім!

*24.08.2007*

## ГУЛЬНІ Ў ГЛОБУСА

Яшчэ не зусім старымі мы пілі брэндзі і сьпявалі свае ўлюбёныя песьні. Яны, праўда, не зусім былі нашымі: папса розная ды беларускія савецкія напевы. Але адметным было адно — там, дзе магчыма, нейкі назоўнік ці імя замянялася на слова «Глобус». Напрыклад, «Ой бацька наш родны, ой Глобус...» і гэтак далей. Потым брэндзі стала цікавіць меней і песьні скончыліся... А Глобус застаўся. Разам з Барысам Пятровічам мы сталі гуляць у новую гульню, «Пальцам па Глобусу» называлася. Бралася нейкая з кніжак Адама Глобуса, затым па чарзе кожны заплюшчваў вочы і тыцкаў пальцам у адвольнае месца на адвольнай старонцы. Атрымліваўся суперканцэнтрат творчае думкі. Пазней сталі выкладаць гэтыя плёны на паперы. А сёньня раніцай выпадкова знайшліся гэтыя старонкі і нахлынула... Прывяду некалькі ўзораў:

Вецер забаўляецца з галькаю  
Забіваюць мастака  
Салодкі пах.

Ара схіліў галаву  
Аскепкі шкла  
А ты змог бы?

Няўмольна бягуць  
Кволай дзяўчыны  
Пакуль невысокія.

Хлопец. Канчай!  
Ад першага чалавека  
Нешта сьмешнае.

Страх галадам  
Распілі і гэтую  
Сьвятло на відэльцы.

*28.08.2007*

## КАМУ ШТО, А ДУРНЮ — ГНІЛКІ

У дзяцінстве аднымі з найлепшых прысмакаў для нас, вясковых смаркачоў, былі грушы-дзічкі, калі яны цямнеюць ўжо і становяцца мяккімі... Узгадваю старую раскідзістую грушыну пад плотам у суседкі бабці Харыціны, якая нас часта літаральна карміла. Зьбягаеш на дзень на Дняпро або ў лес і напіхваеш паўнюткія кішэні гэтага дабра, якое мы называлі гнілкамі. Не разумею чаму, але людзі ў нашай мясцовасьці кажуць: «Каму што, а дурню — гнілкі». Несправядліва гэта!

*30.08.2007*

## КАМЯНІ І КАМЕНЬЧЫКІ

Я «дзіця Палесься» і таму заўсёды «западаю» на камяні, якіх на маленькай радзіме проста няма. А тут, на Меншчыне — гарод пад Заслаўем, дзе процьма дробных і не вельмі, каменьчыкаў. Зьбіраю і брукую імі бліжэйшыя сьцяжыны. А вось нядаўна захацелася завалодаць вялізным валуном, што жыў на ўзлеску. Дзьве гадзіны куляў яго да агароду, прымасьціў на шыкоўным месцы, так бы мовіць «прыхватызаваў». І сорамна адразу стала, бо такое адчуваньне, што скраў нешта ў людзей. Цяпер думаю, як назад яго адвалакчы ў лес. А многія дачнікі, дзе можна і ідзе няможна, валуны прыватызавалі, і сумленьне іх не пячэ.

*4.09.2007*

## МАЛЮТКА ЛЕНІН

Гэты выпадак прыгадаўся пасьля прачытаньня нечага падобнага ў пасьце magdalenы_jo_jo (Югасі Каляды). Неяк у курортным гарадку, назва якога заканчвалася на «здруй», у Судэцкіх Татрах, немалады львавянін прадаваў турыстам розную камуняка-савецкую атрыбутыку. Сярод розных значыкаў, эмблемаў і шэўронаў сьвяціліся і зорачкі з кучаравенькім Вовікам Ульянавым.

Побач спыніліся два заможныя чэхі. Прыглядзеліся і ткнулі ў зорачку пальцам: «Хто гэта?» Прадавач адказаў: «Малютка Ленін». Далей больш недакладны пераклад: «Ха-ха-ха! Такі бялявы анёльчык, ха-ха-ха, а якая сволач!» Тым не меней, чэхі набылі, можа, з дзясятак гэтых зорачак, пэўна, палохаць сяброў.

*16.09.2007*

## ВЕЧНЫ ВЫГНАНЬНІК

Пасля таго, як паэт Анатоль Сыс паслухаў упершыню рускага паэта Агафона (Уладзіміра Агафонава) у аўтарскім выкананьні, — заўважыў толькі адно: «А я думаў, што вершы я адзін чытаць умею». Мяне ж Анатоль жартаўліва аднойчы папрасіў, каб я навучыў Валодзю пісаць пабеларуску. «Будзе яшчэ адзін добры паэт на Беларусі» — казаў ён. Толькі Уладзімер Агафонаў пасьміхаўся: каму трэба — зразумее і так.

Агафон — не меней эпатажны і нахабны, і такі ж безабаронны перад жыцьцём, як Сыс. А яшчэ — надзвычай справядлівы (зэдлік раструшчыўся аднойчы ў знаёмага на галаве толькі за некалькі няшчырых словаў !). Ён мог давесьці паўнюткую залу сытага люду да экстазу, што і рабіў нярэдка ў Менску, выступаючы зь сябрамі ў кавярнях ды рэстаранах. Пражыўшы колькі год без пашпарту паміж Піцерам, Крымам, Менскам і Гомлем, Уладзімер вырашыў легалізавацца ў Гомлі і, неяк аднавіўшы даведкі, выправіў сабе сінюю кніжачку ды яшчэ і з прапіскай у знаёмай. У першы ж дзень пашпарт скралі разам з рэчамі. «Напэўна, не лёс», — глыбакадумна зазначыў Агафон з гэтай нагоды. Праз нейкі час ён быў затрыманы пры нелегальным пераходзе беларускай мяжы і канчаткова дэпартаваны на Украіну.

*17.09.2007*

## МРОІ Ў ПРАДЧУВАНЬНІ ЗІМЫ

А вось жа прыйдзе зіма, сьнежная, калючая, сама ў сабе такая... І сьнег будзе валіць, балюча хлабыстаць па твары. І нос будзе мерзнуць.

А я ў лес, пад яліну вялікую завалюся, ды й марыць буду пра беларускі рай, пра камуну нашую містычную, якую нават Сяргей Дубавец не збудаваў. І прымрою шляхі, і прымрою выйсьце. І салодка-салодка за-с-ну...

*5.10.2007*

## ГРЫБНОЕ ЗДАРЭНЬНЕ

Учора раніцай пайшоў у лес на ціхае паляваньне, пахадзіў, стаміўся. Знайшоў вязізную елку і заваліўся пад яе, нягледзячы на дробны, аднак спорны дождж. Спалася доўга і добра, пакуль не вымак канчаткова і зрабілася мокраю сьпіна. Прачнуўся, але падняцца ня здолеў: пасьпеў пусьціць карэньчыкі і цела маё трывала прырасло да зямлі. Пачаў у роспачы кідацца: «А як жа безь мяне жыцьцё, праца, дзеткі, сябры?» Стаміўшыся ўрэшце і, супакоіўшыся, ўспомніў пра нож, што захапіў з сабой, каб нарэзаць грыбоў. Было балюча, нясцерпна балюча, але я падрэзаў ўсе свае парасткі, карэньчыкі і вызваліўся з гэтага недарэчнага палону. Яшчэ доўга з ранаў на маім целе цурчэла кроў. І нават прачнуўшыся дома, сёньня, з жахам глядзеў на бялюткую звечара прасьціну, перапэцканую крывёю. Гэта быў ня сон...

Перад тым, як пайсьці на вуліцу, я вывесіў свой бел-чырвона-белы сон на гаўбец.

*9.10.2007*

## КАХАНЬНЕ З ВУЖАКАМІ

Усю ноч любіўся з вужакамі, склізкімі і халоднымі, стамляўся, палохаўся, крычаў. Прачнуўся і аж прымлеў ад шчасьця: сон! Але, прыбіраючы ложак перад сыходам на працу, заўважыў раптам на прасьціне некалькі невялічкіх шэранькіх лускавак. Зараз вось п'ю халоднае піва на вуліцы і думаю пра тое, што будзе далей?

*12.10.2007*

## ДТП

Толькі што за вакном на перасячэньні Нямігі і Пераможцаў-Машэравых сутыкнуліся і разьбіліся два пешаходы. Сабралася шмат машын, захоплена абмяркоўваюць падзею. Хацеў далучыцца да іх праз выпадзеньне з вакна, ды не хапіла сілы, волі!

*20.10.2007*

## ВАР'ЯЦТВА

Кожны дзень я забываюся на многія рэчы, сустрэчы, даты і справы. Гэта прагрэсуе... Я не памятаю пра дні народзінаў блізкіх людзей, але забываюся і пра свой дзень. Ведаеце, я станаўлюся больш шчаслівым. А яшчэ я магу ўсьміхацца ўсім!

*9.11.2007*

## РАДАСЬЦЬ АД АДКРЫЦЬЦЯ АЛКАГОЛЮ

Вяртаючыся з далёкіх падарожжаў, надта ж люблю рассоўваць па закутках і кніжных паліцах бутэлечкі з рознымі алкагольнымі напоямі. Крупнікі там розныя, каньякі, настойкі і брэндзі ўсялякія... Ніколі потым ня ведаеш, што і калі трапіцца на вочы, якія ўспаміны агорнуць. Але адкрыеш і глынеш з найвялікім задавальненьнем. Ціхенька так! Ну хіба, каб які «Вугорскі танец» Брамса гучэў і кілішак быў поўны.

*28.11.2007*

## ДЗЕ ЯНА, РАДЗІМА ТАЯ?

Паеду заўтра на радзіму Сяргея Дубаўца... Яму ўсё роўна, а мне прыемна. Дубавец, калі даведаўся, што я зьбіраюся у Мазыр, адказаў так:

«Радзіма наша ў Тыбеце, там, дзе цячэ рака Дунай, а па-над ёю стаіць габрэйскі горад Мазыр, і цёткі ў хвалях палошчуць бялізну і пяюць-пяюць, а побач круцяцца мурзатыя карапузы. Адзін з іх я....»

*30.11.2007*

## СЛОДЫЧ ЖЫЦЬЦЯ

Ня здзейсьненае, але адно толькі жаданае, чаканае — вось дзе сапраўдная слодыч жыцьця!

*28.01.2008*

## ГІСТОРЫЯ З НЯБОЖЧЫЦАЙ

Нейкая знаёмая папрасіла дапамагчы разабрацца з ейнай сваячкай, нябожчыцай. Не магу сказаць чаму, але разам з калегам па працы мы вымушаныя былі вылакчы ўбранае ў пахавальныя строі цела з труны і перанесьці ў невялічкае прахалоднае памяшканьне нанач. Прачнуліся позна ад людскіх галасоў і сьпехам сабраліся ізноў пераносіць нябожчыцу ў труну. Асцярожна зайшлі ў пакойчык, а бабуля якраз ужо падымаецца з ложка — чыстая такая, сьветлая, вясёлая. Тады я ірвануў назад, каб схаваць некуды труну і ...не пасьпеў. Мне яшчэ й зараз няёмка перад уваскросшай за тое, што спрычыніўся да яе пахаваньня.

Такая вось гісторыя прысьнілася сёньня ўначы.

*29.01.2008*

## ЯКАЯ НОЧ? ЯКІ ЎЗРОСТ?

«У нашым узросьце кожны дзень — ноч» — сказаў Класік (гомельскі паэт Багданаў), калі я намагаўся падняць яго раніцой з падлогі ў сваёй кватэры і выправіць на працу. Я пакінуў цела ў спакоі і моцна тады задумаўся...

*1.02.2008*

## ВОСЬ ДЫК СУЦЕШЫЛА...

Адно дзяўчо, відаць, паўнагадовае, шчыра заявіла ўчора: «Не заганяйцеся! Вы ж ЯШЧЭ не зусім стары і такі прыгожы!»

Суцешыла, блін, дагэтуль адысьці не магу! Увесь час думаю пра Панікоўскага, які енчыў: «Меня девушкі не любят!»

*12.02.2008*

## «ПРЫСЬНІЛАСЯ...»

Дзьве маладзенькія прастытуткі (адна высокая, з вялікім носам, але ўсё роўна прыгожая, а другая простая такая Клава з Данбасу), якіх нехта з вядомых палітыкаў мне падбэндзіў з нагоды Дня Сьвятога Валянціна, рашуча запатрабавалі грошай за неаказаныя паслугі. Я даў ім трыццаць тысячаў тутэйшых рублёў... Яны пакрыўдзіліся і выклікалі «браткоўсутэнёраў». Бандыты прывезьлі шмат таннага каньяку, які я не ўжываю з-за дрэннай якасьці.. Пачаліся разборкі. Урэшце пагадзіліся канфлікт замяць: тыя дзеўкі павінны былі адпрацаваць свае грошы... Я стаў распранацца і... прачнуўся на лесьвічнай пляцоўцы ў нейкім доме ў цэнтры Менску. Косьці ня гнуліся — відаць, устылі на халодным зімовым бетоне. Я няўклюдна падняўся і выпадкова перакуліў бутэльку шампанскага, што стаяла побач. Вадкасьць заліла мабільны тэлефон, які валяўся проста на бетоне, і ён больш не працуе... Так што тэлефанаваць мне сёньня і верагодна яшчэ дні два-тры не варта...

А кветкі жонцы я такі падараваў, вось і цэтлік захаваўся: «40 000 руб»

*15.02.2008*

## Я НЕ ЛЮБЛЮ ІХ...

Ёсьць людзі, якія сьмяюцца заўсёды: добра ім ці дрэнна, — але сьмяюцца салодка, ненатуральна, паўсюдна. Я не люблю іх...

*18.02.2008*

## УФ, ГЭТА Я ТАК, ПРЭВЕНТЫЎНА!

Ведаеце, надакучыла пры знаёмстве зь людзьмі чуць адно і тое: «Сыс? Дык вы ж памёрлі?»

*20.02.2008*

## ЯКІ ВЕТЛІВЫ І ВЫХАВАНЫ ЧАЛАВЕК!

Вельмі добры і выхаваны чалавек патэлефанаваў мне сёньня. Ён ветліва павітаўся і... моўчкі паклаў трубку.

Уяўляеце, нічога не прасіў, не патрабаваў, не напружваў!

Адзінае прыемнае тэлефанаваньне за дзень!

*24.03.2008*

## ЗНАЁМСТВА З АРНОЛЬДАМ МАКМІЛІНАМ

Прыпаўзаю з працы ўчора стомлены, а тут Арнольд Макмілін імпэтна так працягвае кілішак хатняга «брэндзі» дый кажа мне па-беларуску:

«Ну што, будзем знаёміцца?»

Нарэшце-такі назнаёміліся.

*11.04.2008*

## У ГАРОШКАВЕ, НА МОГІЛКАХ...

На Радаўніцу быў у Гарошкаве на могілках...

Крыж на магіле паэта Анатоля Сыса стаў карацейшым: напэўна пасьпеў падгнісьці і яго абкарналі.

Той помнік, пра які вялася дыскусія летась і збіраліся ахвяраваньні, зрабіць не пасьпелі, верагодна яго ўстановяць восеньню.

У Гарошкаве вельмі прыемныя і сьветлыя могілкі... Бярозы... бярозы...

Там сьпіць Сыс...

*13.05.2008*

## ПАЧВАРЫНА

У чаканьні адкрыцьця крамы на Лысай Гары пасьля абеду палілі зь лясным паэтам Сяргеем Верацілам апошнюю цыгарэту. Паволі падыходзілі дачнікі. Сярод іх — сямейная пара з французскім бульдогам. «Ну і пачварына!» — толькі і азваўся сасьмяглымі вуснамі Вераціла. Хвілін праз некалькі гаспадыня плоскатварай псіны перапытала: «А эта ваша пачварына как будет по-русски?»

— А хто яго ведае!

Пачалі разам перакладаць на гішпанскую, нямецкую...

Толькі праз некалькі хвілін зь цяжкасьцю ўзгадалі, што па-расейску гэта «чудовище».

Было бачна, што сям'я пасьля такога вызначэньня для ўлюбёнага бульдога засталася незадаволенай. Але ў гэты час адчынілася крама, і мы рушылі за «Аліварыяй».

*14.06.2008*

## РЫБАЛКА

Каторы дзень на лецішчы Лысай Гары не могуць наладзіць нармалёвае водазабеспячэньне: старыя трубы ўзімку паразрывала ў многіх месцах, патрэбны грунтоўны рамонт. За пітной вадой даводзіцца хадзіць далекавата, аж да дамка Максіма Клімковіча. А вось ваду для градаў можна здабываць бліжэй — у невялікай копанцы. Ранкам учора чарпануў два вядры і пакінуў на летні для жонкі. У апоўдзень пачуў Гальчын голас: «Глядзі! Тут рыбіна!» І сапраўды, на дне эмаліраванай ёмістасьці плёхаўся невялікі ці то ратан, ці то карась. Пашкадавалі трывожыць ягонае новае царства, так і застаўся мой выпадковы ранішні ўлоў на лецішчы, «падрастаць» да наступнага прыезду.

*17.06.2008*

## ЧМЕЛЬ

Злосны, незадаволены раніцай, чмель сустрэў мяне ў пакоі на лецішчы. Ён біўся аб шкло, пагойдваўся на фіранцы. Але я быў ня меней злосны, таму што гудзела ў галаве пасьля ўчарашняга бальзаму «Клімавіцкага». Праз гадзіну бутэлькай «Белавежскай пушчы» пагрукаўся ў дзьверы паэт Сяргей Вераціла... Пахмяліліся. Вось тады надышла чарга ратаваць чмяля: знайшлі пусты карабок запалак, упхнулі туды кашлатазебрага летуна і адпусьцілі на волю. Пасьля гэтага ўсім стала добра...

*20.06.2008*

## ЗГАРЭЦЬ У МАРШРУТЦЫ...

Сёньня на гэтым, самым незалежным прасьпэкце, сеў у маршрутку...

Праз хвіліну засьмярдзела паленымі дратамі, з-пад прыборнай дошкі паваліў дым і пасыпаліся іскры.

Сорамна, але я чамусьці падхапіўся да выхаду першы, расьпіхваючы іншых пасажыраў. Гэта што, эгаізм або інстынкт самазахаваньня?

*18.07.2008*



## ЛОЎЧЫЯ ЗНІЧАК...

Уначы доўга сядзеў на камені на Лысай Гары, але змог пабачыць толькі толькі тры зьнічкі: начное небе захінала незразумелая смуга.

На жаль, жаданьняў загадаць не пасьпеў — вельмі хутка зьнічкі зьнікалі...

Затое ўгледзеў нейкі патаемны магутны пражэктар, які праразаў неба некалькі хвілінаў, а таксама міргацееньне далёкага самалёта, які вяртаўся ў свой «Менск-2» і яшчэ нешта імклівастрашкае, што прымусіла мяне схавацца ў доме і добра адхлябнуць піва...

*13.08.2008*

## АЗЬВЯРЭЮЦЬ?

Мне падаецца, што мужчынам і жанчынам трэба сябраваць...

Інакш, яны азьвярэюць...

*4.09.2008*

## МАЛАВАТА БУДЗЕ!

У славутай маскоўскай кнігарні на Новым Арбаце на вочы трапілася некалькі кніжак беларускіх пісьменнікаў на расейскай мове. Гэта былі кнігі Васіля Быкава і Адама Глобуса. Малавата!

*23.02.2009*

## СУСТРЭЧЫ НА ЛЫСАЙ ГАРЫ

Учора на Лысай Гары сустрэў Сяргея Дубаўца — нешта ён там усё піша ды піша. Няйначай, нейкі раманец замуціў. А яшчэ адзін Сяргей — Вераціла —вечарам чытаў самотныя вершы, заядаючы салёнай рыбай. Каго яшчэ ня «здаў»? Хіба што сябе... Цягаў зь лесу папілаваныя цурбакі...

*29.03.2009*

## ТВОРЧЫ МОМАНТ

У Ветку спачатку паеду, затым, мусіць, у Гомлі заначую, а тады ўжо на радзіму, на Дняпро. Будзе там мне лазьня, а яшчэ — рыбалка, сябры, мама...

Во, ледзьве не забыўся, гарэлкі шмат будзе, хатняй!

Усю вып'ю, не пакіну на заўтра.

*24.06.2009*

## ЗАЛАТЫ ТУМАН...

Прачнуўся на лецішчы, згатаваў каву, напоўніў грудзі цыгарэтным дымам («Camel» з блакітным канцікам за 2 700), пацалаваў жонку і пайшоў...

У шэсьць раніцы краявіды ля Лысай гары (якая пад Заслаўем) былі схаваныя ў густым тумане. Зверху яго падсвечвала ранішняе сонца, таму туман здаваўся залатым і пяшчотным... хоць ты нырца ў яго рабі.

Але толькі адна думка зварухнулася ў маёй галаве: ну, цяпер чакай грыбочкаў. У сераду пайду шастаць па лясох у пошуках ціхага шчасьця!

*11.07.2009*

## «ЛЯТУЧАЯ МЫШ» АКСАНЫ СПРЫНЧАН

На яблыні на лецішчы ў Аксаны Спрынчан вісіць-пагойдваецца старая лямпа «Лятучая мыш»... Крыху пабралася іржой, але звонку цэлая і, мабыць, яе можна было б рэанімаваць, каб знайсьці кнот ды газы (карасіну). Ну, кнот — справа вырашальная, відаць, але вось газы, — нават не ўяўляю, дзе прыдбаць. Ці ўвогуле яна зараз дзе прадаецца?

*23.07.2009*

## ШЭРШАНЬ. САМАГОН. ВАЙНА

Раніца пачалася не зусім звычайна...

Абуваючыся ў 6 раніцы на лецішчы, усунуў нагу ў пантофлю, дзе ночыў гіганцкі шэршань. Ён скарыстаўся мамантам і ўджаліў. Я зароў, як бялуга, перакуліўшы пры гэтым зэдлік. На шум выскачылі заспаныя жонка і цешча. Усчаўся вэрхал.

Боль быў невыносны, таму, начытаўшыся розных здарэньняў з укусамі шэршняў са сьмяротнымі зыходамі, стаў прамаўляць жоначцы, каб шукала другога мужа...

Зараз вось, здаецца, што буду жыць, хаця нага разрываецца па-ранейшаму ад болю... А тут яшчэ бязглуздая вайна...

Думаю, што пасьля яе Расея канчаткова разьвітаецца са сваім уплывам на Каўказе. Гэта была вялікая памылка, якая кансалідавала грузінаў, сцэментавала гэты народ у адзіны маналіт.

Я не люблю вайны... І шэршняў таксама...

*9.08.2009*



## МЁРТВЫ МЕНСК

Шляхотнай сталіцай тутэйшага краю магла б стаць Гародня альбо Віцебск, ці на скрайні выпадак нават абмаскалены Гомель, ну толькі ня Менск. Мёртвае гэта места, нежывое, стэрыльнае нейкае.

Пустэльня, якую нават эмігранты мясцовыя ня могуць раскатурхаць...

*28.08.2009*

## А ЖЫЦЬЦЁ ПРАЦЯГВАЕЦЦА...

Зайшоў да мяне Славамір, каторы Адамовіч... Перакінуліся словамі, большай часткаю пра С. Вераціла ды Бахарэвіча. Прэзентаваў яму цудоўную кнігу Сяргея Рублеўскага «Ў, тое, што мы скарацілі», якая выйшла днямі, і «Алаізу» Анатоля Сыса.

Славамір паехаў некуды ў цэнтр.

*25.11.2009*

## ПЕРШАЯ КРОЎ

У 1971 годзе перад Калядамі мой бацька з суседам «завалілі» чарговага кабана. Я, тады яшчэ засранец, па вясковай завядзёнцы, мусіў быць побач, каб спасьцігаць навуку забойства...

Сусед, які добра такі «ўвагрэўся» першаком, упёр руку з металічнай квартай некуды ўглыб вымытай тушы і чарпануў сьвежай сьвінячай крыві. Памятаю, што ад яе ішоў пар. Ён піў гэтую кроў, а маленькі струменьчык выцякаў з роту і цурчэў па падбародзьдзю.

Відаць, яго раззлаваў мой дзікі позірк, і сусед працягнуў кубак: «Бяры, пі, калі хочаш стаць мужыком!» Бацька дыпламатычна стрэсваў у сьнег сукровіцу з адсечанай галавы кабана.

Я выпіў... Я змог...

*08.12.2009*

## ЯКІЯ РОЗНЫЯ СНЫ!

Станіславе прысьніўся сёньня сон: нібыта на кветкавым лузе яна пасьвіць статак тыграў.

А я сасьніў іншае... Паштавік прынёс вялікую бандэроль, напоўненую

пачкамі з драждживамі. У пакунку была цыдулка ад Яўгена Вапы: «Дасылаю табе дрожджы, каб варыў болей самагону. Відаць, на Беларусі дрожджы — дэфіцыт». Падумаў я раніцай ды махнуў рукой — усё роўна ня ўмею гнаць самагон.

*03.03.2010*

**НАЗІРАНЬНІ ЎРАНЬНІ**

Колькі не выпісвай на сьнезе слова «Вясна» — пальцам цяплей не становіцца...

*05.03.2010*

**ГАРАДЫ,**
**ЯКІЯ МЫ ВЫБІРАЕМ...**

Калі б нехта раптам прапанаваў мне далучыць да Беларусі ў выглядзе адмысловага анклаву нейкі далёкі і замежны горад, я спыніўся б на Пецярбургу...

Ня трэба Венецый, Парыжаў і Рымаў,
Калі ты, вядома, не надта пратух:
Я прэзентую любай радзіме —
Салёны і мокры Санкт-Пецярбург.

Я здагадваюся, што амаль у кожнага ёсьць такое запаветнае месца, але ніхто не прызнаецца чамусь...

*09.03.2010*

**ГУСІ-ЛЕБЕДЗІ**

Гусі крычалі роспачна над Траецкім у 6 раніцы. Вяртаюцца, бачыш ты, а тут — ані травінкі, ані былінкі... Ці выжывуць гусі-лебедзі, ці вытрываюць?

Два гады таму, 3 сакавіка, таксама раніцай, можа, гадзін у сем, дзікія гусі парвалі сваім крыкам неба над Берлінам...

Але ж тады было цёпла...

*19.03.2010*

**ПРА ПІВА**

Выйшлі неяк у Гомлі з кафетэрыя з пластыкавымі куфлямі піва на прыступкі, пакурыць.

Пакуль запальнічку з джынсаў даставалі, цыгарэтамі дзяліліся — піва на паўхвілінкі паставілі долу. І трэба ж! У адзін момант паршывая балонка падбегла, падняла заднюю ножку і пазначыла наш напой сваім спецыфічным спосабам.

Пакуль апрытомнелі — дык дагнаць ужо не змаглі. А так хацелася даці ёй пад...

*18.05.2010*

**МАЯ КНІГА І ТОЛЬКІ МАЯ...**

Слынная паэтка Людка Сільнова зрабіла мне ўчора шыкоўны падарунак: падпісала сваю новую кнігу «Філазафемы». Але вы яе не пачытаеце. Яна выйшла накладам 1 асобнік і зараз толькі я ейны адзіны ўладальнік...

*08.10.2010*

**ЧАМУ ВІКА ТРЭ НОС?**

Вечарам жонка чытала новы «Дзеяслоў».

Падыйшла Стася і запыталася: «Матуль, што ты робіш?»

«Чытаю»

«А хто гэта?»

«Віка Трэнас»

«А чаму Віка трэ нос?

*29.10.2010*

**СЫС І «БЕЛСАТ»**

Учора тэлеканал «Белсат» паказаў фільм Міколы Ваўранюка пра Анатоля Сыса па сцэнару Паліны Сцепаненкі. «Сыс пра Сыса» называецца. Пра гэта даведаўся толькі з некалькіх тэлефанаваньняў знаёмых і не зусім знаёмых людзей. Многія шкадавалі, што фільм скончыўся нечакана... Многім хацелася працягу...

А мне нарэшце захацелася завесьці дома «Белсат».

*04.11.2010*

**КРАНУЛА І ЎРАЗІЛА**

Школьнікі з Гомельшчыны даслалі мне ліст: зьбіраюць матэрыялы пра пісьменьнікаў і паэтаў Гомельшчыны.

Асабліва кранула просьба дапамагчы ў стварэньні экспазіцыі і даслаць сярод іншага: «асабістыя рэчы (калі яны ёсьць)».

Я задумаўся — ці ёсьць?

*11.11.2010*

## ДА ЗАЎТРА ТРЭБА ДАЖЫЦЬ

Выводзілі мяне прыгожа, ветла... Грамілы, якія запаланілі офіс, рассунуліся, каб я прайшоў па калідоры. У асобны легкавік пасадзілі на пярэднім сядзеньні. Ззаду яшчэ кагосьці запхнулі, і два прыгажуны з кароткімі АКМ па баках расьселіся. Затым прывезьлі ў РАУС, запрасілі ў актавую залю, там дзе здымкі «перадавікоў вытворчасьці» вывешаныя. Праз гадзіну сьледчы запрасіў на допыт. Падняліся на другі паверх.

У кабінеце слядак дазволіў пакурыць нарэшце. Тлумачэньні мае запісаў хутка і сказаў: «Прабачце, што так атрымалася, можаце, маўляў, ісьці». Ну і пайшоў я марознай ноччу ў бок праспекту Незалежнасьці.

І падумаў я: «Якое шчасьце ісьці вось так, пехатою па апусьцелых вуліцах скрываўленага горада. Хаця б сёньня. А заўтра... дажыць яшчэ трэба да яго».

*23.11.2010*

## ШТО МЯНЕ НАТХНЯЕ НА ТВОРЧАСЬЦЬ?

Правакацыйнае пытаньне. Нішто мяне не натхняе. Асабліва, калі мець на ўвазе паэзію. Тут толькі адно: як запячэ ў душы, агаломшыць сьвядомасьць, тады і прарывае. Тут боль павінны спачатку прыйсьці. Калі душа пераключаецца на «нейтралку» — можна перакладаць улюбёных паэтаў, рэдагаваць нешта з ранейшага, занатоўваць тое, што некалі прыдасца выкарыстаць.

*13.01.2011*

## МАБІЛКА-ДУРЫЛКА

Я паважаю нашых цудоўных паэтаў Алеся Разанава і Андрэя Хадановіча за многае. А яшчэ і за тое, што яны прынцыпова не маюць мабільных тэлефонаў.

*14.01.2011*



## ЁСЬЦЬ ЯШЧЭ НАДЗЕЯ!

Учора супрацоўнікі КДБ, якія ладзіліператрус на «Вясьне», чыталі мае вершы. Я пераканаўся ў гэтым раніцай, калі зьбіраў разбэрсаны рукапіс на блакітнай паперы пад сталом. Я ўцешаны хіба ўжо тым, што чытаюць.

Нездарма, выходзіць, ствараліся паэтычныя творы.

*18.01.2011*

## КОЛА ЖЫЦЬЦЯ

У даўні час я наіўна думаў, што жыцьцё — вялізны акіян малака.

На жаль, малака з гадамі станавілася ўсё меней, а гарэліцы болей.

Зараз я ізноў вяртаюся да малака. Вось і ўсё кола жыцьця.

*09.02.2011*

## НЯСТОМНЫ ВАЛЕР СТРАЛКО

Блукаючы лабірынтамі 13 Менскай міжнароднай кніжнай выставы, натрапіў на аб'яднаны стэнд украінскіх кнігавыдаўцоў. Вока зачапілася за знаёмую назву — «Круглянскі мост».

Не памыліўся — аповесьць народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава «Круглянскі мост». Стваральнік перакладу на ўкраінскую мову Валер Стралко.

Вось жа толькі нядаўна, здаецца, пераклаў аповесьць Караткевіча «Дзікае паляваньне караля Стаха», «Новую зямлю» Коласа, спрычыніўся да выданьня «Трыяды славянскай паэзіі».

Які ж ён нястомны, гэты Валер Стралко!

*10.02.2011*

## КРЫЎДНА НЕЯК...

Хто ў ложак любай каву паднясе,
Хто ружамі памахвае шчасьліва...
А я на працы прахну пакрысе
Ды чухаю ўскудлачаную грыву.

*08.03.2011*

## ВІТАЛЬ РЫЖКОЎ І СТАНІСЛАВА

Пакуль паэт мне падпісваў *«Дзверы, замкнёныя на ключы»* для многіх —
Дачка адабрала ў паэта цукерку,
А потым зрабіла з кнігарні «ногі».

*16.03.2011*

## ХОЧАЦЕ ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ

Іду па Менску, не чапаю нікога.

На сьцяне «МакДака» ля «Цэнтральнага» ўніверсаму нечакана зазваніў тэлефон-аўтамат.

«Ну і ну», — падумаў я, мімаволі падымаючы слухаўку.

«Алё, і хто там?» — пытаюся.

«Гэта піла. Я хачу адпілаваць вам ногі,» — чую ў адказ грубы мужчынскі голас.

«А што я вам зрабіў кепскага?» — здзівіўся я.

«А што ты зрабіў добрага?» — перапытаў на тым канцы дроту невядомы правакатар.

Тады я павесіў слухаўку і няўпэўнена пайшоў да знаёмых п’янтосаў.

*17.03.2011*

## УЗДРЫГАНЕЦЦА ЛЫСАЯ ГАРА

У Сяржука Верацілы 29 красавіка вялізная падзея — паўстагадовы юбілей.

Вось гэта будзе сьвята дык сьвята!
Хопіць усім! І ўсяго!

Толькі б потым наступіла заўтра!

*21.04.2011*

## «ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ...»

Гучыць зраніцы ў вушах: «Ты мне вясною прысьнілася...»

А на вуліцы равуць сірэны і сотні міліцыянерыкаў топчуцца ў падваротнях...

*19.05.2011*

## «БЕРАГІ МАЙГО ЮНАЦТВА»

Паэт Анатоль Сыс не перастае зьдзіўляць нас нават пасьля свайго сыходу. Так, напрыканцы мінулага году на радзіме паэта ў Гарошкаве быў знойдзены рукапіс нявыдадзенай кнігі Анатоля Сыса «Берагі майго юнацтва», якая змяшчае каля 80 невядомых вершаў паэта. Пра гэты рукапіс даўно хадзілі пагалоскі, некаторыя нават казалі, што трымалі яго ў руках, аднак урэшце ён перададзены ў надзейныя рукі.

«Берагі майго юнацтва» будуць выдадзеныя асобнай кнігай, а пакуль складаюцца паэтычныя падборкі для часопіса «Верасень» і часопіса «Дзеяслоў». Прадмовы да гэтых публікацый рыхтуе Алесь Бяляцкі.

*03.06.2011*

## РЫТМЫ ЖЫЦЬЦЯ

Учора нечакана ўбачыліся з Дубянецкай: яна выйшла з заслаўскай маршруткі, а я якраз сядаў у такую ж, толькі ў адваротным напрамку. Часу было тры хвіліны. Пасьпелі паўсьміхацца адзін аднаму ды абмяняцца буськамі. Сёньня жоначка выбралася ў вёску Маркава, пад Маладэчна, радзіму Тацяны Сапач. Там паэтычная імпрэза. 26 жніўня Тацяна нарадзілася, 28 сьнежня — загінула.

*26.08.2011*

## ГАННА ЧАРНУШКА І БЯЛІЗНА

Глінішчанская прыгажуня Ганна Чарнушка ніколі не насіла сподняга. Яна нават ня ведала, што такое станік і майткі. Так вырашыў Іван Мележ.

Перад вяселлем яна набыла паркалю, каб кохту пашыць шлюбную і дабралася да адзінай у мястэчку жыдоўскай швачкі, якая ёй і патлумачыла пра сподняе. Ганна была здзіўленая і шакаваная.

*21.09.2011*

## СЬЦІПЛАЕ ЖАДАНЬНЕ

У хмелявішча зьбегчы
Зь вясковаю дзяўчынай...
І ціхенька прылегчы...
Хай пчолы джаляць сьпіну.

*07.10.2011*

## НАРЭШЦЕ...

Нарэшце я нарадзіўся! Проста пасярод белага дня.

Везьлі мамку на трактары зь вёскі Пракісель у мястэчка Хоўмеч, дзе

была радзільня, скрозь завею па сумётах...

Далей анічога ня памятаю.

*26.01.2012*

**БУЛЬБА І ДЗІКІ**

Заўчора ўначы статак дзікіх і нахабных парсюкоў атакаваў мой агарод. У выніку пацярпела бульба, морква і буракі. З'елі, можа, і небагата, але вытапталі палеткі ўшчэнт, хоць ты сьлязамі акрапляй зьнішчаную працу. Учора да глыбокай ночы прыбіраў сьляды шалёнага банкету, расклаўшы вогнішча.

А раніцай суседка прызналася, што ёйныя соткі таксама дзікі прарэдзілі тыдзень таму. Летась жа вяпрукі ласаваліся бульбаю пісьменніка Васіля Зуёнка.

Побач з нашымі гародамі — лясок, які належыць Менскай лесапаркавай гаспадарцы, а вакол 7 дачных паселішчаў. Там паўсюль гуляюць дзеці. Можа, зьвярнуцца да каго, каб «паставілі да сьценкі» лясных нахабаў?

*27.07.2012*

**ТАНКІ НА УСХОД!**

Пад час шматлікіх паездак па гарадах і мястэчках Беларусі заўважыў адну заканамернасьць: дзясяткі Т-34, САУ, ІСаў, Квэшак ды іншых танкаў, зацягнутых на п'едэсталы, абавязкова павернуты дуламі на Захад. Аднак час даўно зьмяніўся, можа, павернем гэтыя іржавыя панцыры на Усход? Няхай едуць дахаты...

*01.11.2012*

■

**Сяржук СЫС** нарадзіўся 1962 годзе ў Пракiселі Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл. Закончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Паэт, перакладчык, публіцыст. Друкаваўся шмат дзе: у анталогіях і альманахах, замежных выданнях; аўтар калектыўных зборнікаў, а таксама кніг паэзіі «За трапяткім матыльком кахання» (2000) і «Стрэмка»(2010). Творы перакладаліся на ангельскую, польскую, расійскую, украінскую, літоўскую і сербскую мовы.



# Кастусь Жыбуль

## ДАРОГА ДАГАРЫ НАГАМІ

* * *

Ножкі-ножкі
ў матрошкі,
ляжкі-ляжкі
неваляшкі.

*Ліпень 2007 г.*

* * *

Коўдра-доўдра каўбасіна,
Фарба-барба чурчхеліна.
Коўдра-доўдра фаўдра-даўдра,
Фурда-дурда кофта-дофта.

*2008 г., Араў, Швейцарыя*

## ГУШКАЛКА

Вы звАліся —
вы злавіліся.
Вы звaліліся —
вЫзваліліся!

*Лістапад 2008 г.*

* * *

Дрэвы-галапупінкі
малако п'юць,
печыўка ядуць.
Дрэвы-галапупінкі
па падлозе бегаюць,
яйкі нясуць.
Куры вылупляюцца,
свечкі запаляюцца.

*16 лістапада 2008 г.*



* * *

Кветачка ў гаршку.
Булачка з пяску.
Каштанавая кніжка.
Шкілецік у мяшку.
Рысь на дыванку сядзіць.
Што ёй са слупком рабіць?
Кветачка з пяску,
булачка ў гаршку...

*16 лістапада 2008 г.*

## ПЕСЕНЬКА

Спевы
лятуць на дрэвы,
на каменьчыкі,
на карэньчыкі,
на парэнчыкі,
на мішэньчыкі,
на лазенчыкі,
на клазенчыкі,
на глязенчыкі,
на зямленчыкі,
на дрыжэньчыкі,
на квадрацікі,
на трыкутнічкі,
на свечкі,
на літаркі,
на лісцейкі.

Сок, сок —
на пясок.
На пясок —
сок, сок.

Уверсе — кафялёк,
уверсе — кашалёк,
уверсе — гадзіннік,
уверсе — пудраніца!

*16 лістапада 2008 г.*

* * *

Бабры спускаюцца з гары.
У іх марозіва ўнутры.
Бабры зусім не дзікія.
У іх хвасты вялікія.

*16—18 лістапада 2008 г.*

* * *

Затычка як затычка.
Затычка-экзатычка.

*22 лістапада 2008 г.*



* * *

Пасадзім маму
ў клетку ў выглядзе мамы.
Пасадзім Косцю
ў клетку ў выглядзе Косці.

*Вясна 2009 г.*

* * *

Гэта лічба нумар пяць,
гэта лічба нумар тры,
гэта лічба нумар два...
Палічылі мы казла.

*16 траўня 2009 г., фестываль «Кіеўскія лаўры»*

* * *

Была лыжка драўляная,
а стала паламаная.

*30 траўня 2009 г.*

* * *

Скок —
задам на кручок!
Адкусіў бычок
свой язычок!

*2010 г.*

* * *

Я надзеў піжаму
і вываліўся ў яму.

*2010 г.*

* * *

Лямпы не гараць —
можна цалаваць.

*2010 г.*

**ПЛЫТКАЯ ЛОДКА**

Плыла плыткая лодка.
За гэтай лодкай была калодка.
Гэтая лодка не звалілася —
Проста яна на ліпе засушылася.

За гэтай лодкай плыў бабёр,
і ён за птушачкай папёр.
Гэтая лодка паплыла ў далёкі край,
і там укусіў страшны бабай.

Выкінуў нехта фотаальбом,
і за ім пабег фотапаром.
А што такое фотапаром?
А гэта фота з тапаром.

Плыткая лодка сказала: «Вай!»
Патанула лодка ад бабра.
Ён схаваўся ад лодкі,
а лодка схавалася ад калодкі.

*2010 г.*

* * *

Вечар — свечар.
Ноч — істоч.
Дзень — Ісціны Прамень.
Раніца — танецатаніца.

*8 лістапада 2011 г.*

## СУСВЕТРА

З сусветрам лётаць,
з сусветрам спаць,
з сусветрам бегаць,
сусветра хаваць!

*8 лістапада 2011 г.*

## ПРАСЯНКА МАЛАЯ

Тут ляціць прасянка малая,
А яна ляціць такая.
У прасянкі пёрак 18
Альбо можа быць 20.

*21 красавіка 2012 г.*

## ПРАСЯНКА ВЯЛІКАЯ

А ў прасянкі, а ў аўсянкі
Ёсць вялікая бляшанка.
У бляшанкі добры корак,
А ў прасянкі пёрак 40.

*21 красавіка 2012 г.*



## ПІЦЬ СОК

Я п'ю сок.
Прасянка ідзе на вуліцу.
І ўсё.

*21 красавіка 2012 г.*

## КОЛЬКІ ЧАСУ?

Мы глядзім на гадзіннік —
Патрэбны нам імяніннік.

*21 красавіка 2012 г.*

## ЧАЦВЁРТЫ СНЕГ

Мы лепім снежкі
і называем гэта ўсмешкі.

Мы будзем бегаць па снезе,
пакуль машына на нас не наедзе.

Мы ўсе-ўсе ляпіць будзем —
дастануцца снежкі людзям.

Мы лепім снег,
і сёння ў нас смех.

*Снежань 2012 г.*

* * *

Пускайся, пускайся, панцырскі пень!
Папраўся па полі, працоўны прамень!
Пянькі паляцелі па полі, па полі
Прахожыя прокалі: «Проле! Проле!»
Па проле плыло поле
Прамяні палююць
Пуст паліп па поле
Пянькі, пакро прыліпла
Прахожыя пусташылі пралез

*24 снежня 2012 г.*

* * *

Мы не плачам, не злуемся,
мы гарачаму смяемся.

*Студзень 2013 г.*

* * *

Прывітанне! Прывітанне!
Мама й тата ў прыбіральні!

*Студзень 2013 г.*



## МАНАВЕРШЫ

* * *

Гасілі лямпы, лілі кока-колу...

*21 ліпеня 2007 г.*

### БЯРОЗЫ

У дрэвы наліта малако.

*10 траўня 2009 г.*

* * *

Рака падобная да рыбы.

*4 чэрвеня 2009 г.*

* * *

І кавалак паверха ляжаў у кіпцістым пакеце.

*8 жніўня 2009 г.*

## МЫ ДОМА

На вуліцы нуль нас гуляе.

*8 верасня 2009 г.*

* * *

Цыкады ядуць цукаты.

*Вясна 2010 г.*

## ЮЦЬ

*Паэма*

а то зямля рассыпалася ў пустэчку
у нас дзень народзінаў
мы лезем у печку
мы ж купілі гірлянду
мышку пілігір лянду
мы з’елі лямпу-кашу
мы з’елі лапу кашы
грычкова кусана ў радах

у ваколіцы ў нас вырасла капуста
няма пуста паявілася пуста
у пустэчку біліся шклянкі
стаяў чалавек на ганку
і восем чалавек працерлі пятку

у радах канцэп вузбаецца
вузілічы зівяды
звікона зніць
ніцеза тэд
чверт туцоза цас
звік у кяк
скіпюлі кілюшкі
Сап Папевіч патрапіў у фітут
і Сап Малютка таксама
і Сап Мацэвіч зрабіў тут
і Сап Кікевіч ехаў
ляца фяца
флюкіт юкі
вісіль груш
фікель скун
вісіль груш кен
і жоўты сукен

кука звалі кукум
зязюля ў гасцях у малюска
кракадзіл пісяў-какаў пісяў-какаў пісяў-какаў
зязюля ў гасцях у кракадзіла
з’ехала зязюля ў кук
малюск з’еў кракадзіла
кузурка какала каля малюска
кузурку ўкусілі восы
асу ўдарыў чмель
і сам чмель згарэў
а плюс кватэра поўная
кузурка памерла
паказаўся скат
і аса памерла

малюск на ската сеў
і паехаў малюск у скачы дом
а там лямпаед сядзіць
і хрумстае хрумстае
ніяк не нахрумстаецца

Лямпа гарыць. Вечар.
— Бачыце? — Што? — Гэта лямпаед.

мы жывем у дзевяціпавярховіку
на шостым паверсе
дык паехаў лямпаед
разам са скатам і малюскам
у чарапашыны дом
у машыне была ноч
выйшлі ў 10 раніцы
бачым — светла
неяк скуканАскука нам
і прыехалі мы да чарапахі
скат сеў на чарапаху
лямпаед сеў на ската
малюск сеў на лямпаеда
і Сап Мацевіч выключыў святло
і паехалі мы да кальмара
лямпаед кіраваў машынай
вось і даехалі яны наступнай раніцай
а Сап Малевіч спакушаўся гэтым
мірг-бліснь мірг-бліснь мірг-бліснь
вось і блізь

прыехалі і да кальмара
потым зноў паехалі на машыне назад
у госці да матыля
слухайце прыехалі да матыля ў госці
а матыль адзываецца
аў
матыыль, ты дзе?
нясі антэну — патрэбна нам
і малюск утраціўся што там жыла п’яўка
ніякі ж гэта не матыль
і Сап паехаў за вяроўкай
давай у іншы дом паедзем
а там сабака як засвісціць зашуміць
так і не з’есць
давай пераедзем у іншы дом
аказваецца, гэта знайшоўся матыль
ах бясплаўнік
але ў адной куртцы
і звязаў ён з кветкі краты

*Снежань 2012 г.*

**Кастусь ЖЫБУЛЬ** — самы малады аўтар часопіса «Тэксты», нарадзіўся 6 снежня 2005 г. Вучань 1 «Б» класа СШ № 177 г. Мінска. Першы верш склаў у 1 год і 7 месяцаў. Удзельнічаў у літаратурным конкурсе «Гуляй, зіма, твая часіна!» (Мінск, Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, 2013), на якім атрымаў Падзяку за творчую неардынарнасць. Захапляецца маляваннем, керамікай і матэматыкай.

## WOMEN'S CLUB

* * *

Першае правіла жаночага клюбу —
ўсім расказваць пра жаночы клюб.
Не чыніць пералюбу або чыніць пералюб
у залежнасьці ад таго, ці магчымы шлюб.

У чарговым спадзеве, што гэты — нарэшце той,
пад завязку закінуцца фоліевай кіслатой.
Выйсьці ў аптэку, купіць яшчэ кіслаты.
Прачынаешся ў Алма-Аты.

Гартаваць кулакі, бо самы важны двубой —
гэта выхад адна на адну з самою сабой.
З чужаземкай, якая па-твойму ні а, ні бэ.
Прачынаешся ў Душанбэ.

І, няхай гавораць: вайна — справа маладух —
Незаўважна пакінуць бугурт, перавесьці дух.
Саступіць сьвісток таму, хто яго пераняў.
Прачынаешся ў Кіеве.
Прачынаешся ў Кішыняў.

*2012*

* * *

Не адводзь, не адводзь ад мяне
лёс мой дзявочы:
мама, мама, купі шампунь,
што шчыпае вочы.

Без рамонкаў, бязь іх, мама,
бяз Божай расы.
Купі, буду ліць яго прама
на валасы.

Будуць, хай як асьцё,
Буду, хай паўсьляпая, —
мама, гэта жыцьцё, жыцьцё
вочы шчыпае.

*2008*

* * *

Friends only — ня захад супроць ананімаў, а стан душы.
Вершы — ваніты: ня можаш іх не пісаць — пішы.
Вось жа, на лецішчы зімна, і палец мой ные.
Госьці дзяжурна на зоркі глядзяць, дэманструюць душу
рамантычную, і неадрыўна гучыць увушшу
слова з напаўзацертай касэты — ангеданія.

Але Янісею ня будзе, а будзе Дунай,
у верхняй ягонай плыні, і ўсё будзе най-
ажурнейшым і неасяжным, od morza do morza.
Ды рука ўсё адно сягае па рэвальвер, але
ўзьнімае келіх за тых, хто танчыць на гэтым стале,
хто ляжыць на гэтым стале, і яшчэ за кагосьці, можа.

*2006*

* * *

Восеньскі ранак. Прыпынак. На дрот
крумкач прысеў адзінока,
бы дзяўчынка, якой абвясьцілі байкот,
едзе ў школу да трэцяга ўрока.

А ўночы — й няма ўратавацца як —
на сьвет нападае зіма,
нечаканая, нібы з-за рогу маньяк, —
і дзяўчынка ўжо не сама.

*2005*



* * *

Для таго цераз Буг і Віслу,
цераз Эльбу
брысьці па сьвеце,
каб уночы намёртва завіснуць
недзе ў Кройцбэргу,
ў cheap-internet'це,
дзе хваробе табе слаць лісты,
йдзе насустрач паўсонны турак.
Маё сэрца —
Эўропа,
і ты —
яго апошняя дыктатура.

*Бэрлін, 2006.*

* * *

Салату з капусты
робяць так:
шынкуюць капусту,
у адну руку бяруць соль,
у другую — цукар і —
жмякаюць,
жмякаюць,
жмякаюць,
покуль капуста ня пусьціць сок.

Жыцьцё, у прынцыпе, робіцца гэтаксама.

*2011*

**Марыя МАРТЫСЕВІЧ** (Maryia Martysevich) нарадзілася ў 1982 г. ў Мінску. У 2004 г. скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсітэта, у 2005 — аддзяленне філасофіі / літаратуры Беларускага Калегіюма. Стыпендыятка Homines Urbani (таварыства Villa Decius, Кракаў, 2007 г.) і International Writing Program (Універсітэт Аявы, ЗША). Як журналістка супрацоўнічае з газетай «Новы час» і мультымедыйным часопісам 34mag.net. Перакладае паэзію і прозу з англійскай, польскай, рускай, украінскай, чэшскай моваў. Як эсэістка і паэтка ўдзельнічала ў шэрагу міжнародных фестываляў культуры ў Беларусі, Польшчы, Літве, Славакіі, Расіі, Украіне, Швецыі. Яе вершы і эсэ перакладаліся на ўкраінскую, чэшскую, славацкую, польскую, літоўскую, нямецкую, рускую мовы. У Беларусі публікуецца ў часопісах «ARCHE», «Дзеяслоў», «pARTyzan». Аўтарка кніг «Цмокі лятуць на нераст: эсэ ў вершах і прозе» (2008) і «Амбасада: эсэ ў вершах і прозе» (2011). Жыве ў Мінску.



# (пера-клады)

■

Рышард КАПУСЦІНСКІ



# ЯШЧЭ АДЗІН ДЗЕНЬ ЖЫЦЦЯ

**(фрагмент з кнігі)**

## ЗАЧЫНЯЕМ ГОРАД

Тры месяцы я жыў у Луандзе, у гатэлі «Цівалі». З майго вакна быў від на затоку і порт. Каля ўзбярэжжа стаялі некалькі гандлёвых караблёў эўрапейскіх акіянскіх ліній. Іх капітаны падтрымлівалі радыёсувязь з Эўропай і пра тое, што адбудзецца ў Анголе, яны маглі ведаць лепш і больш, чым мы, зачыненыя ў абложаным горадзе. Калі па свету разыходзіліся весткі, што набліжаецца бітва за Луанду, караблі адыходзілі ўглыб мора і затрымліваліся на мяжы далягляду. Разам з імі аддалялася і апошняя надзея на ратунак, бо ўцёкі сухапутным шляхам былі немагчымыя, і паўтараліся чуткі, што ў кожны момант непрыяцель закідае бомбамі і паралізуе лётнішча. Потым выяўлялася, што тэрмін атакі на Луанду быў перанесены, і флот вяртаўся ў затоку ў бясконцым чаканні груза кавы і бавоўны.

Рух гэтых караблёў быў для мяне важнай крыніцай інфармацыі. Калі затока пусцела, я пачынаў рыхтавацца да самага горшага. Прыслухоўваўся, ці не набліжаецца водгулле артылерыйскай кананады. Задумваўся, а ці не праўда тое, што нашэптвалі паміж сабой партугальцы, быццам ў горадзе хаваецца дзве тысячы жаўнераў Ольдэна Рабэрта, якія толькі чакаюць загаду, каб распачаць разню. Але пасярод той трывогі караблі ізноў уваходзілі ў затоку. Невядомых мне маракоў я вітаў у думках як збаўцаў: на нейкі час прадказвалася цішыня.

У суседнім пакоі жылі два старых чалавека — дон Сільва, гандляр дыяментамі, і ягоная жонка — дона Эсмэральда, якая памірала ад раку. Апошнія дні яна дажывала без дапамогі і паратунку, бо шпіталі былі ўжо зачыненыя, а лекары выехалі. Яе цела памірала ў сцірце падушак, скручанае ад болю. Я баяўся туды ўваходзіць. Аднойчы я зайшоў і спытаў, ці не перашкаджае ёй, што я начамі грукаю на друкарцы. Яе думка вызвалілася на момант ад болю, роўна на столькі, каб сказаць:

— Не, Рыкарда, мне ўжо нічога не можа перашкодзіць, каб дайсці да канца.

Дон Сільва гадзінамі хадзіў па калідоры. Сварыўся з усімі, лаяў свет, ягоны карак набрыньваў ад благой крыві. Ён крычаў нават на чорных, хоць у гэты час усе ставіліся да іх ветліва, а адзін з нашых суседзяў нават набраўся такой звычкі, што спыняў зусім незнаёмых афрыканцаў, падаваў ім руку і прыніжальна кланяўся. Тыя думалі, што вайна зацямніла яму розум і паспешліва адыходзілі. Дон Сільва чакаў прыходу Ольдэна Рабэрта і дапытваў мяне, ці я ведаю нешта на гэты конт. Выгляд адыходзячых караблёў напаўняў яго найвялікшай радасцю. Ён паціраў рукі, выпростваўся, паказваў штучныя зубы. Нягледзячы на прыгнятальную спёку, ён заўсёды хадзіў у цёплай вопратцы. У фалдах ягонага гарнітура былі пазашываныя ружанцы дыяментаў. Аднойчы ў прыліве задавальнення, калі здавалася, што FNLA ужо на парозе гатэлю, ён паказаў мне жменьку празрыстых каменьчыкаў, якія выглядалі як дробна патоўчанае шкло. Гэта былі дыяменты. У гатэлі казалі, што Сільва носіць на сабе паўмільёна даляраў. Сэрца старога было разарваным. Ён хацеў уцячы са сваім багаццем, але яго прыкоўвала хвароба доны Эсмэральды. Ён баяўся, што, калі не выедзе зараз жа, хто-небудзь данясе і ў яго адбяруць ягоныя скарбы. Ён ніколі не выходзіў на вуліцу, нават хацеў паставіць дадатковы замок у пакой. Але ўсе майстры ўжо выехалі і ў Луандзе не было чалавека, які здолеў бы гэта зрабіць.

Насупраць мяне жыла маладая пара — Артура і Марыя. Ён быў каланіяльным чыноўнікам, а яна — спакойнай маўклівай бландынкай з затуманенымі і пачуццёвымі вачыма. Яны чакалі выезду, але спачатку ім трэба было памяняць ангольскія грошы на партугальскія, а гэта цягнулася тыднямі, бо чэргі да банкаў былі кіламетровыя. Наша прыбіральшчыца, жвавая, сардэчная старушка — дона Картажына, данесла мне абураным шэптам, што Артура і Марыя жывуць сумесна не пабраўшыся. Гэта азначае, жывуць, як мурыны, як тыя бязбожнікі з MPLA. Па ейнай шкале каштоўнасцяў гэта быў самі нізкі ўзровень дэградацыі і зняслаўлення белага чалавека. Дона Картажына таксама чакала прыходу Ольдэна Рабэрта. Яна не ведала, дзе знаходзяцца ягоныя войскі, і потайкі пытала ў мяне пра навіны. Пытала таксама, ці добра я пішу пра FNLA. Я адказваў, што так, што з захапленнем. Яна з падзякаю заўсёды прыбірала ў маім пакоі так, што ажно блішчэла, а калі ў горадзе не было чаго піць, прыносіла мне, невядома адкуль, бутэльку вады.

Марыя трактавала мяне як чалавека, які рыхтуецца да самазабойства, бо я сказаў ёй, што застаюся ў Луандзе да дня незалежнасці Анголы, да 11 лістапада. На яе думку, да таго часу ад горада не застанецца каменя на камені. Усе загінуць і тут узнікнуць вялізныя могілкі, населеныя сцярвятнікамі і гіенамі. Яна раіла мне, каб я хутка выяжджаў. Я пабіўся з ёй аб заклад на бутэльку віна, што перажыву і што мы з ёй спаткаемся у Лісабоне, у элегантным гатэлі «Альціс», 15 лістапада, а сямнаццатай. Я спазніўся на тое спатканне, але Марыя пакінула мне ў рэцэпцыі цыдулку, што яна чакала і што наступнага дня яны з Артура выяжджаюць у Бразілію.

Увесь гатэль «Цівалі» быў запоўнены цераз край і нагадваў нашыя вакзалы адразу пасля вайны: напоўненыя нервовым і апатычным на змену натоўпам, а таксама кучамі абы як звязаных клункаў. Паўсюль быў дрэнны, кіслы запах, будынак напаўняла ліпкая, сціскаючая духата. Людзі пацелі ад гарачыні і ад страху. Панаваў настрой апакаліпсісу, чакання моманту пагібелі. Нехта прыносіў вестку, што ноччу будуць бамбаваць горад. Хтосьці іншы даведваўся, што ў сваіх кварталах чорныя вострацЬ нажы і хочуць іх выпрабаваць на партугальскіх горлах. У любы момант павінна было пачацца паўстанне. «Якое паўстанне?» — дапытваўся я, каб напісаць пра гэта ў Варшаву. Ніхто дакладна не ведаў. Проста — паўстанне, а што за паўстанне, гэта будзе відаць, калі пачнецца.

Плёткі знясільвалі ўсіх, вымотвалі нервы, пазбаўлялі здольнасці думаць. Горад жыў у атмасферы істэрыі, лякацеў ад страху. Людзі не ведалі, як даць рады той рэчаіснасці, якая іх цяпер атачала. Як яе патлумачыць, як яе засвоіць. Мужчыны збіраліся на калідорах гатэлю і праводзілі штабныя нарады. Прыземленыя прагматыкі былі за тое, каб гатэль на ноч барыкадаваць. Тыя, хто меў больш шырокія гарызонты і здольнасць глабальнага погляду на свет, лічылі, што трэба выслаць дэпешу ў ААН са зваротам да інтэрвенцыі. Але, як гэта заведзена ў лацінасаў, усё скончалася дыспутамі.

Вечарамі над горадам лятаў самалёт і скідваў улёткі. Гэта быў самалёт чорнага колеру без агнёў і знакаў. Улёткі паведамлялі, што войскі Ольдэна Рабэрта стаяць пад Луандай і што увойдуць у сталіцу хоць заўтра. Каб палегчыць гэтую задачу, насельніцтва заклікаюць вынішчыць усіх расійцаў, вугорцаў і палякаў, якія камандуюць аддзеламі MPLA і вінаватыя ва ўсёй гэтай вайне і ўсіх няшчасцях, што зваліліся на змучаны народ. Усё гэта адбывалася ў верасні, калі я быў адзіным чалавекам з Усходняй Еўропы ва ўсёй Анголе. У горадзе лютавалі баевікі з PIDE, яны прыходзілі ў гатэль, пыталіся, хто ў ім жыве. Яны бы бяскарныя, у Луандзе не было ніякай улады, а яны хацелі помсціць за ўсё, за рэвалюцыю гваздзікаў, за страчаную Анголу, за зламаную кар'еру. Кожны стук у дзверы мог быць для мяне дрэнным сігналам. Я стараўся не думаць пра тое, гэта быў адзіны спосаб у такой сітуацыі.

Баевікі збіраліся ў начным бары «Адао», каля гатэля. Там было заўсёды цёмна, афіцыянты хадзілі з ліхтарыкамі. Уладальнік бару, тоўсты, знішчаны плэйбой з чырвонымі вачыма, прыкрытымі спухлымі павекамі, аднойчы завёў мяне ў свой кабінецік. Ад падлогі да столі сцены былі забудаваныя паліцамі, на паліцах стаяла дзвесце дваццаць шэсць гатункаў віскі. Ён выцягнуў з шуфляды пісьмовага стала два пісталеты і паклаў іх перад сабой.

— Заб'ю, вось гэтым, дзесяць камуністаў і толькі тады супакоюся, — сказаў ён.

Я глядзеў на яго, усміхаўся і чакаў, што ён зробіць. Праз дзверы чулася музыка, баевікі забаўляліся з п'янымі мулаткамі. Тоўсты схаваў пісталеты і бразнуў шуфлядай. Дагэтуль не ведаю, чаму ён пакінуў мяне ў спакоі. Можа, ён належыў да тых людзей, якіх я сустракаў неаднойчы, каторыя найбольшае задавальненне атрымліваюць не ад самога забойства, але ад усведамлення таго, што маглі б забіць, толькі гэтага не робяць.

Увесь верасень я клаўся спаць, не ведаючы што адбудзецца гэтай ноччу і на наступны дзень. Вакол мяне круцілася некалькі тыпаў, я распазнаваў іх твары. Мы ўвесь час сустракаліся, не перакідваючыся словам. Я не ведаў, што рабіць. Спачатку вырашыў не спаць, не хацеў, каб мяне заспелі падчас сну. Але ў сярэдзіне ночы напружанне слабела і я засынаў у вопратцы, у ботах, на вялікім ложку, прыгожа засланым донай Картажынай.

MPLA не магло мяне абараніць: тыя людзі былі далёка, у афрыканскіх кварталах, альбо яшчэ далей — на фронце. Эўрапейскі квартал, у якім я жыў, ім яшчэ не належыў. Таму я любіў ездзіць на фронт — там было больш бяспечна, больш свабодна. Аднак такія выезды надараліся рэдка. Ніхто, нават людзі са штаба не маглі дакладна акрэсліць, дзе фронт. Не было ніякай сувязі. Самотныя, маленькія атрады няўмелых партызанаў-пачаткоўцаў, згубленыя ў вялізных, падступных прасторах, перасоўваліся то тут, то там без плану і ідэі. Гэтую вайну кожны праводзіў па-свойму, кожны спадзяваўся толькі на сябе.

Кожны дзень, а дзявятай вечара адгукалася Варшава. У апараце тэлекса, які стаяў у рэцэпцыі, запальвалася святло і машына выстуквала сігнал:

814251 PAP PL ДОБРЫ ВЕЧАР ПРОСІМ ПЕРАДАВАЦЬ

альбо:

НАРЭШЦЕ ЎДАЛОСЯ НАМ ЗВЯЗАЦЦА

альбо:

ЦІ НЕШТА СЕННЯ АТРЫМАЕМ? PLS GA GA.

Я адказваў:

OK OK MOM SVP
і ўключаў стужку з тэкстам дэпешы.



Для мяне дзявятая гадзіна была самым важным момантам дня, была перажываннем, якое паўтаралася кожны вечар. Я пісаў кожны дзень, пісаў найбольш з эгаістычных памкненняў, пераадольваў унутраную апатыю і дэпрэсію, каб зрабіць хоць самую кароткую дэпешу і ўтрымаць сувязь з Варшавай, бо гэта ратавала мяне ад самоты і пачуцця пакінутасці. Калі я меў час, дзяжурыў каля тэлекса задоўга да дзявятай. Святло, якое запальвалася ў апараце, узбуджала ўва мне такі самы энтузіязм, які выклікае раптам знойдзеная крыніца ў чалавека, што заблукаў у пустыні. Я намагаўся зацягнуць час гэтых сеансаў любымі спосабамі. Дэталёва апісваў усе бітвы. Пытаўся, якое надвор'е ў краіне і скардзіўся, што ў мяне няма чаго есці. Але нарэшце надыходзіў момант, калі Варшава адгукалася:

ПРЫЁМ ДОБРЫ ЗВЯЗВАЕМСЯ ЗАЎТРА ГАДЗ. 20 00 GMT ДЗКВ BY BY

Святло згасала, і я зноў заставаўся сам.

Луанда гінула інакш, чым нашыя гарады, ў ваенныя гады. Не было налётаў, карных дзеянняў, разбурэнняў квартала за кварталам. Не было могілак на вуліцах і плацах. Я не магу ўзгадаць аніводнага пажару. Горад паміраў так, як гіне аазіс, у якім высахлі студні, — ён пусцеў, паглыбляўся ў змарцвенне, адыходзіў у забыццё. Але гэтая агонія надышла пазней. Пакуль жа паўсюль панаваў ліхаманкавы рух. Усе спяшаліся, усе выяжджалі! Кожны стараўся адляцець першым самалётам у Еўропу, у Амерыку, куды-небудзь. У Луанду збіраліся партугальцы з усёй Анголы. З самых аддаленых закуткоў прыяжджалі караваны аўтамабіляў нагружаныя людзьмі і багажам. Мужчыны былі зарослыя, жанчыны — пакамячаныя і раскудлачаныя, дзеці — брудныя і сонныя. Па дарозе ўцекачы злучаліся ў доўгія калоны і так перасякалі краіну, бо чым большая грамада, тым больш бяспечна. Спачатку яны займалі ў Луандзе гатэлі. Але потым ужо не было месцаў, таму яны накіроўваліся проста на лётнішча. Вакол лётнішча ўзнік горад качэўнікаў без вуліц і дамоў. Людзі жылі пад адкрытым небам, увесь час прамоклыя, бо без перапынку ішлі дажджы. Жылі цяпер горш, чым чорныя ў суседнім

з лётнішчам афрыканскім квартале, але прымалі гэта абыякава, з панурай пакораю, не ведаючы, каго праклінаць за свой лёс. Салазар ужо не жыў, Каэтана ўцёк у Бразылію, а ў Лісабоне ўрады ўвесь час мяняліся. Усяму віной была рэвалюцыя, бо перад гэтым панаваў супакой. Цяпер урад абяцаў чорным свабоду, чорныя пабіліся паміж сабой, падпальваюць і забіваюць. Яны не здольныя да кіравання. Чорны гэта так: выпіць, а потым спаць увесь дзень. Начапляе на сябе караляў і ходзіць задаволены. Працаваць? Тут ніхто не працуе. Яны жывуць як сто гадоў таму. Як сто, пане? Як тысячу! Я бачыў такіх, што жывуць, як тысячу гадоў таму. А што, можна ведаць, як было тысячу гадоў таму? Натуральна, што можна, кожны ведае, як было. Гэтай краіны больш не будзе. Мабуту возьме кавалак, тыя, з поўдню, возьмуць кавалак — і гэтак скончыцца. Каб толькі зараз адсюль адляцець. Каб больш гэтага не бачыць. Я тут уклаў сорак гадоў працы. Усе свае грошы, зробленыя потам і крывёю. Хто мне цяпер іх верне? Пан думае, што можна пачаць жыццё спачатку?

Людзі сядзяць на клунках накрытыя плёнкай, бо імжыць дождж, медытуюць, усё абдумваюць. Часам у гэтым пакінутым тлуме, які існуе тут тыднямі, выбухае іскра бунту. Жанчыны паб'юць жаўнераў, прызначаных да пільнавання парадку, а мужчыны зробяць намаганне захапіць самалёт, каб свет даведаўся, да якой роспачы яны даведзеныя. Ніхто не ведае, калі адляціць адсюль і ў якім напрамку. Пануе страшэннае бязладдзе. Арганізаваць партугальцаў цяжка, бо гэта катэгарычныя індывідуалісты, натуры, якія не здольныя жыць у цеснаце і разам. Перавагу маюць цяжарныя жанчыны. Чаму яны? Я павінна быць горшай, бо нарадзілася на паўгода раней? Добра, перавагу маюць цяжарныя і з немаўлятамі. Чаму яны? Я павінна быць горшай, бо майму сыну споўнілася тры гады? Добра, перавагу маюць жанчыны з дзецьмі. Так? А я, таму што мужчына, павінен тут загінуць? І вось той, хто мацнейшы, грузіцца ў самалёт, а жанчыны з дзецьмі кладуцца на бетон, пад колы, так, каб пілоты не маглі крануцца. Прыходзіць войска, выганяе мужчынаў, кажа сядаць жанчынам, яны ўваходзяць па трапу з трыюмфам, як атрад пераможцаў у ізноў здабыты горад.

Спачатку дамо адляцець зламаным псыхічна. Выдатна, не трэба далёка шукаць: каб не вайна, я ўжо даўно быў бы ў вар'ятні. А на нас пад Кармонай напаў атрад дзікуноў, усё забралі, пабілі, хацелі расстраляць. Мяне дагэтуль усяго трасе. Звар'яцею, калі не вылечу адсюль зараз жа. Дарагія мае, скажу вам толькі тое, што я страціў увесь жыццёвы набытак. Апроч таго, у нас, у Лумбале, двое з UNITA трымалі мяне за валасы, а трэці прыставіў рулю да самага вока. Лічу, што гэтага дастаткова, каб страціць розум.

Ніводны крытэр не атрымліваў ухвалы грамадства. Роспачны натоўп напіраў на кожны самалёт, міналі гадзіны, перш чым атрымлівалася ўстанавіць, хто нарэшце атрымае месца.

Трэба перавезці паветраным мастом паўмільёна ўцекачоў на другі канец свету.

Усе ведаюць, чаму яны хочуць выехаць. Яны ведаюць, што верасень атрымаецца перажываць, але ў кастрычніку ўжо будзе вельмі дрэнна, а лістапад не перажыве ніхто. Адкуль яны гэта ведаюць? Пан задае такія пытанні! Я пражыў тут дваццаць восем гадоў, я магу нешта сказаць пра гэтую краіну. Ведае пан, што я нажыў? Старую таксоўку, якую пакінуў там, на вуліцы.

Людзі ўцякалі, як перад блізкай пошасцю, як перад паморкам, якога не бачна, але які нясе смерць. Потым прыйдзе вецер і пясок засыпе сляды апошняга чалавека.

Ты верыш у гэта? — пытаў я Артура. Артура не верыць, аднак жа хоча выехаць. А пані, дона Картажына, пані верыць у гэта? Так, дона Картажына ў гэтым перакананая. Калі мы застанемся да лістапада, дык нас не будзе. Тут старушка энэргічна праводзіць пальцам па шыі, на якой яе пазногаць пакідае чырвоны след.

Перш чым горад быў зачынены і асуджаны на смерць, адбыліся розныя падзеі. Як хворы, які раптам ажывае ў хвіліны агоніі і да яго на момант вяртаюцца сілы, так і ў Луандзе, жыццё напрыканцы верасня набрала асаблівай энэргічнасці і тэмпу. Ходнікі былі запоўненыя, на вуліцах узнікалі коркі. Людзі бегалі знерваваныя, спяшаліся, вырашалі тысячы справаў. Абы хутчэй выбрацца, своечасова ўцячы, раней, чым першая хваля паморку ўварвецца ў горад.

Яны не хацелі Анголы.

Ім было досыць гэтай краіны, якая павінна была быць іх зямлёй абяцанай, а прынесла ім расчараванне і прыніжэнне. Яны развітваліся са

сваім афрыканскім домам з сумессю роспачы і раз'юшанасці, жалю і бездапаможнасці, з адчуваннем таго, што ад'язджаюць назаўжды. Яны прагнулі толькі выйсці жывымі і вывезці свой набытак.

Усе былі занятыя будаваннем скрыняў. Папрывозілі горы дошак і фанеры. Кошты на малаткі і цвікі падскочылі.

Скрыні былі галоўнаю тэмаю размоваў — як іх будаваць і чым лепш умацоўваць. З'явіліся самазваныя знаўцы — скрыняры, дамарослыя архітэктары скрынярства, скрынярскія стылі, школы і кірункі. Унутры Луанды — пабудаванай з бетону і цэглы, пачаў узнікаць новы, драўляны горад. Цяпер я хадзіў па вуліцах, як па вялікай будаўнічай пляцоўцы. Спатыкаўся аб раскіданыя дошкі; цвік, што вытыркаўся з бэлькі, разарваў мне кашулю. Некаторыя скрыні былі велічынёй з летнія домікі, бо раптам стварылася скрынярская шкала прэстыжу — чым багацейшы быў чалавек, тым большую скрыню будаваў. Імпазантнымі былі скрыні мільянераў — перакрытыя бэлькамі і абабітыя ўсярэдзіне ветразёвым палатном. Іх сцены былі салідныя і элегантныя, зробленыя з самых дарагіх гатункаў трапічнага дрэва, настолькі добра дапасаваныя і так старанна адпаліраваныя, што гэтыя скрыні нагадвалі антычную мэблю. У іх пакавалі цэлыя салоны і спальні, канапы, сталы і шафы, кухні і лядоўкі, камоды і фатэлі, абразы, дываны, жырандолі, парцаляну, пасцель і бялізну, усю вопратку, вышытыя сурвэткі, пуфікі і вазоны, нават штучныя кветкі (што таксама бачыў), увесь велічэзны і незлічоны склад старызны, які загрувашчвае дом кожнага мяшчаніна, такім чынам, фігуркі, ракавіны, шкляныя кулі, флаконы, пудзіла яшчарак, металічная мініятурка міланскай катэдры прывезеная з экскурсіі ў Італію, лісты!, лісты і здымкі, шлюбныя здымкі ў залачоных рамках. «Дык можа пакінем?» — кажа пан. «Ну ведаеш, як табе не сорамна!» — абурана ўсклікае пані. Усе здымкі малых, а тут — як першы раз сеў, а тут — як першы раз сказаў «дай, дай», а тут — з лізакам, а тут — з бабуляй, такім чынам, усё гэта, літаральна ўсё, бо яшчэ скрыні з віном, той запас макаронаў, які купіла, як толькі пачалі страляць, і яшчэ вуда, шыдэлак, мае ніткі! Мой штуцар, каляровыя кубікі Тутуні, птушкі, фісташкі, пыласмок і дзед для арэхаў таксама павінны змясціцца, проста — павінны і ўсё, так, каб засталася толькі голая падлога, пустыя сцены, поўнае негліжэ, стрыптыз кватэры выкананы да канца, ля акна без фіранак, і яшчэ толькі зачынім дзверы і па дарозе на лётнішча затрымаемся на бульвары, і закінем ключ у мора.

Скрыні беднякоў горшыя ў некалькі разоў. Перш за ўсё яны меншыя, а часта проста малыя і непрыкметныя. Яны не могуць прэтэндаваць на знак якасці, паколькі іх рабочая сіла пакідае жадаць лепшага. У адрозненне ад багатых, якія могуць дазволіць сабе наймаць сталярных майстроў, беднота вымушана збіваць скрыні ўласнымі рукамі. Матэрыялам ёй служаць адкіды з тартакаў, гарбылі, крывыя бэлькі, разбухлая фанера, увесь драўляны тандэт, які можна купіць за дробязь на трэцярадным складзе. Многія з тых скрыняў, абабітыя бляхай з бляшанак ад алівы, са старых шыльдаў і заржавелых прыдарожных рэкламаў, выглядаюць, як разваленыя трушчобы ў афрыканскіх кварталах. Няварта зазіраць усярэдзіну гэтых скрынак. Няварта і няёмка.

Скрыні багатых стаяць на галоўных вуліцах у цэнтры горада, альбо ў цяністых завулках шыкоўных кварталаў. Іх можна разглядваць і захапляцца. Скрыні ж беднаты хаваюцца ў варотах, на падворках і ў павецях. Хаваюцца да часу, бо іх жа трэба будзе правезьці праз увесь горад, у порт. І думка пра гэтае сумнае відовішча — непрыемная.

З-за гэтай вялікай колькасці дрэва, якое апынулася ў Луандзе, пустынны, запылены горад, бедны на зеляніну і дрэвы, цяпер пахне цудоўным, смалістым лесам. Нібыта той лес раптам вырас на вуліцах, на пляцах, у скверах. Увечары я адчыняю вакно, глыбока ўдыхаю гэты запах і тады вайна аддаляецца, я не чую енкаў доны Эсмэральды, не бачу знішчанага плэйбою з двума пісталетамі, і адчуваю сябе так, нібыта сплю ў леснічоўцы ў Тухольскіх барах.

Будаванне драўлянага гораду, гораду скрыняў, цягнецца цэлымі днямі, ад світанка да змяркання. Працуюць усе, мокнучы пад дажджом, палячыся пад сонцам, нават мільянеры, калі яны фізічна спраўныя, бяруцца за працу. Запал дарослых перадаецца дзецям. Яны таксама будуюць сабе скрынкі для лялек і цацак. Пакаванне адбываецца пад покрывам ночы. Так лепей, бо тады ніхто не суне

носа ў чужыя рэчы, ніхто не будзе падлічваць, колькі і што я вывожу, а вядома ж, круціцца шмат такіх, якія выслужваюцца перад MPLA і хацелі б даносіць.

Таму начамі, у самую глыбокую цемру, мы пераносім нутро каменнага горада ў сярэдзіну горада драўлянага. Гэта каштуе вялікіх высілкаў і поту, пераношванняў і перасоўванняў, болю ў плечах ад запіхвання багажу, болю ў каленях ад прыціскання рэчаў, бо ўсё павінна змясціцца, каменны ж горад быў вялікі, а драўляны горад — малы.

Паступова, ад ночы да ночы, каменны горад страчваў сваю вартасць на карысць горада драўлянага. Таксама паступова мянялася мысленне людзей. Людзі перасталі думаць катэгорыямі дома і кватэры і разважалі толькі пра скрыні. Замест таго, каб сказаць: «мне трэба ісці паглядзець, як там у мяне дома», казалі: «мне трэба ісці паглядзець, як там мая скрыня». Гэта была ўжо адзіная рэч, якая іх цікавіла і пра якую яны клапаціліся. Тая Луанда, якую яны пакінулі, была для іх штучным і чужым макетам, забудаванай, але пустой сцэнай, як пасля заканчэння відовішча.

Такога горада я больш не бачыў нідзе на свеце і, можа, ніколі больш не ўбачу. Ён існаваў месяц, а потым раптоўна пачаў знікаць. Ці, дакладней, квартал за кварталам горад быў перавезены грузавікамі ў порт. Цяпер ён раскінуўся над самым берагам мора, асветлены ўначы партовымі ліхтарамі і бляскам агнёў пастаўленых на якар караблёў. Удзень па ягоных хаатычных вулках круціліся людзі, якія малявалі на шыльдачках свае прозвішчы і адрасы так, як гэта робіцца па ўсім свеце, калі нехта пабудуе сабе прыватны дом. Такім чынам можна падманваць сябе, што гэта нармальны драўляны горад, толькі што зачынены сваімі жыхарамі, якія па невядомых прычынах павінны былі спехам пакінуць яго.

А потым, калі ў каменным горадзе было ўжо вельмі дрэнна і мы, жменька ягоных жыхароў, як смяротнікі, чакалі дня пагібелі, драўляны горад адплыў па акіяну. Яго ўнёс вялікі флот, і праз некалькі гадзін знік разам з ім за даляглядам. Гэта адбылося раптоўна, быццам у порт увайшла пірацкая флатылія, захапіла бясцэнны скарб і ўцякла з ім у мора.

Аднак мне ўдалося ўбачыць, як адплывае горад. На досвітку ён яшчэ гойдаўся ля берага, бязладна нагрувашчаны, бязлюдны, без жыцця, якператвораны ў музей горад старажытнага Ўсходу пасля адыходу апошняй экскурсіі. У той час было туманна і холадна. Я стаяў на сушы з групай ангольскіх жаўнераў і купкай чорных дзяцей, абарваных і замерзлых. «Усё ў нас забралі,» — сказаў адзін з жаўнераў, нават без злосці і пачаў разразаць ананас, бо гэтыя плады, настолькі пераспелыя, што пасля разразання сок выліваўся, як вада з кубка, былі тады нашай адзінай ежай. «Усё ў нас забралі,» — паўтарыў ён і паглыбіў твар у залацістую чарку плода. Бяздомныя, партовыя дзеці ўзіраліся ў яго прагным, заваражаным позіркам. Жаўнер узняў твар, запэцканы сокам, усміхнуўся і дадаў: «Але затое у нас цяпер ёсць дом. Мы атрымалі сваё. Ён узняўся і, ўзрадаваны той думкай, што Ангола ягоная, выпусціў у паветра цэлую серыю з аўтамата. Адгукнуліся сірэны, чайкі сарваліся і панесліся над вадой, горад здрыгануўся і паволі пачаў адплываць.

Я не ведаю, ці здаралася калі-небудзь такое, каб цэлы горад пераплыў акіян, але на гэты раз менавіта так і было. Горад паплыў у свет, у пошуку сваіх жыхароў. Гэта былі ранейшыя жыхары Анголы, партугальцы, якія расцерушыліся па Эўропе і Амэрыцы. Частка з іх адправілася ў Паўднёвую Афрыку. Усе яны выехалі з Анголы паспешна, ад пажару вайны, перакананыя, што ў гэтай краіне больш не будзе жыцця і што застануцца толькі магілкі. Але перш чым яны выехалі, здолелі яшчэ пабудаваць у Луандзе драўляны горад, у які запакавалі ўсё, што было ў горадзе каменным. На вуліцах засталіся толькі тысячы пакрытых пылам аўтамабіляў, якія з'ядала ржа. Засталіся таксама сцены, дахі, асфальт на вуліцах і жалезныя лаўкі на бульвары.

І цяпер драўляны горад плыў праз Атлантыку і яго шпурляла парывістая штармавая хваля. Недзе ў акіяне адбыўся падзел горада і адзін з раёнаў, найбольшы, паплыў у Лісабон, другі ў Рыё дэ Жанэйра, а трэці раён — у Кейптаўн. Кожны з тых раёнаў шчасліва дабраўся да свайго порта. Я ведаю пра гэта з розных крыніц. Марыя пісала мне, што яе скрыні ўжо знаходзяцца ў Бразіліі, а гэтыя скрыні былі ж часткаю драўлянага гораду. Пра тое, што адзін з раёнаў паспяхова даплыў да Кейптаўну, пісала шмат газетаў. А цяпер пра тое, што я бачыў

на ўласныя вочы. Пасля выезду з Луанды я затрымаўся ў Лісабоне. Калега вёз мяне па шырокай вуліцы над вусцем Тэжу, паблізу порта. І тады я ўбачыў фантастычныя горы скрыняў, нагрувашчаныя да рызыкоўнай вышыні, пакінутыя, некранутыя, нібыта нічыйныя. Гэта і быў менавіта той, самы вялікі раён драўлянай Луанды, які даплыў да берага Еўропы.

У тыя дні, як толькі ўзяліся будаваць драўляны горад, найбольш клопату мелі камерсанты. Што зрабіць з гэтай масай усялякага тавару, які ляжаў у крамах і запаўняў склады пад самыя столі, заплеценыя павутой? Ніхто не можа ўявіць сабе такой скрыні, у якой змясцілася б тое, што меў на складзе найбуйнейшы ў Луандзе гуртоўнік — дон Кастра Сарэмэньё э Саўза. А іншыя гуртоўнікі? А тысячны клан камерсантаў раздробнікаў?

У дадатак усе імпарцёры паводзяць сябе так, нібыта ім бракуе пятай клёпкі. Эўрапейскія фірмы (ці там ніхто не чытае газетаў?) дасылаюць у Луанду даўно замоўленыя тавары, не звяртаючы ўвагі на тое, што Ангола палае ў вагні ваеннага пажару. Каму цяпер патрэбныя поўныя камплекты лазенак, дасланыя ўчора суполкай «Кёніг і Сыны» з Гамбурга? Ці можа не развесяліць вестка, што з Лондана прыбыў транспарт тэнісных мячыкаў і ракетак, а таксама кіёў для гольфа? Як па іроніі, з Марсэлю даходзіць вялікая партыя сродкаў супраць інсэктаў замоўленая плантатарамі кавы, уласна тых самых, якія б'юцца за месца ў самалёце, што адлятае ў Еўропу.

Дон Урбану Таварэш, уладальнік ювелірнай крамы на галоўнай вуліцы, нягледзячы на шалеючыя навокал няшчасці, можа быць задаволены. Выбіраючы шмат гадоў таму свой занятак, ён трапіў у дзясятку. Золата заўсёды пойдзе, а тое, што застанецца, можна без цяжкасці вывезці ў падручным багажы. У ягоным інтарэсе цяпер пануе ажыўлены рух. Але не толькі золата мае поспех. Людзі найперш кідаюцца на харчовыя крамы, бо ежы становіцца ўсё менш. Таўкатня і цісканіна пануе на складах з гатовую вопраткай і абуткам. Збыт маюць гадзіннікі і транзістары, касметыка і лекі. Рэчы невялікія і лёгкія, якія могуць прыдасца на новай дарозе жыцця, там, у заморскіх краях.

Сумнае ўражанне пакідае візіт у кнігарню на Ларгу ду Партугал. Там пуста. Пыл шэрым слоем пакрыў стары прылавак. Аніводнага пакупніка. Каму зараз у галаве чытанне кніжак? Жаўнеры даўно скупілі апошнія парнаграфічныя выданні і завезлі іх на фронт. Тое, што засталося, стосы шэдэўраў у перамешку з самай другараднай літаратурай, нікога не цікавіць. Тыя, хто займаецца пісаннем, могуць атрымаць тут сур'ёзны ўрок сціпласці. Несмяротны твор ці банальны бульварны раман для ўцекачоў аднолькава непад'ёмныя па простай прычыне: папера цяжкая.

У краме пад пабожнай назвай «Cruz de Cristo» таксама пуста. Спецыялізацыя фірмы: продаж і наймы шлюбных сукенак. Уладальніца, дона Аманда, гадзінамі сядзіць нерухома, бяздзейна сярод тлуму манекенаў, таксама нерухомых, анямелых, зачараваных нябачнай варажбіткай. Сукенак столькі, як на зборных шлюбах, якія дагэтуль практыкуюцца ў Мексіцы. Усе белыя, да самай зямлі, але кожная мае іншы пакрой, кожная цудоўная ў сваім барочным багацці фальбонкаў і карункаў. На што разлічвае ўладальніца крамы, дона Аманда? Дастаткова паглядзець праз вітрыну на яе сумны, пахмурны твар. Часы радасці і весялосці мінулі і дона Аманда засталася ў атачэнні непатрэбных рэквізітаў з эпохі, якая згасла.

Больш шчасця — калі гэтае слова можна тут ужыць, у чым я сумняюся, — мае дон Франсіску Амарэль Рэйш, уладальнік фірмы «Caminho ao Ceu» («Дарога ў неба»), абачліва схаванай ў бакавой вулачцы, на краю цэнтра горада. Спецыялізацыя: труны, крыжы, бляшаныя кветкі, іншыя жалобныя аксэсуары. У гэтыя дні шмат паміраюць, бо страх, роспач і фрустрацыя даводзяць людзей да магілы. Адбываецца мноства трагічных аўтамабільных аварый, паколькі ў агульнай атмасферы разгрому, няшчасця, злоснасці і зацкаванасці, менш устойлівыя кіроўцы пераўтвараюцца ў бестый. Такім чынам, маем пахаванне за пахаваннем.

Я пішу пра людзей, з якімі мяне пазнаёміла дона Картажына. Старушка была апякунскім духам гатэлю, хацела вырашаць усе справы. Яна была адзінай асобай, якая цікавілася сукенкамі доны Аманды, бо прыдумала сабе шлюб Марыі і Артура. З донам Франсіску спрачалася за цану апошніх паслугаў для доны Эсмэральды, якая ўжо не прыходзіла

ў прытомнасць. Толькі ў кнігарню я хадзіў сам, бо люблю бавіць час у атачэнні кніжак.

Дону Эсмэральду мы пахавалі на могілках, якія ляжаць на стромым адхоне над морам, такіх белых, што здаецца іх пакрываў вечны снег. Са снегу вырастаюць стваліістыя, стромкія кіпарысы, якія на сонцы выглядаюць амаль што гранатавымі. Брама пафарбаваная ў блакіт, што ў дадзеным выпадку з'яўляецца колерам цёплым і аптымістычным, бо падкрэслівае, што тыя, хто праходзіць сюдой, ідуць у неба, як святыя з песні Армстронга.

На наступны дзень выехаў дон Сільва, нязносны скнара ў гарнітуры з дыяментаў.

Потым я завёз на лётнішча Марыю і Артура.

Цяпер прылятаілі некалькі самалётаў на дзень, французскіх, партугальскіх, савецкіх, італьянскіх. Пілоты выходзілі, аглядвалі лётнішча. Я прыглядаўся да іх, здзіўлены думкаю, што яшчэ некалькі гадзінаў таму яны былі ў Еўропе. Глядзеў на іх, як на людзей з іншай планеты. Еўропа — гэта была далёкая, нерэальная кропка ў галактыцы, існаванне якой можна было даказаць толькі шляхам складаных высноваў. Вечарам яны адляталі, непаваротлівыя машыны цягнуліся па ўзлётнай паласе, з цяжкасцю набіралі вышыню і знікалі сярод зорак.

Качавы горад без дахаў і сценаў, горад уцекачоў, раскінуты вакол лётнішча, паступова знікаў з зямлі. У той самы час драўляны горад пакінуў Луанду і чакаў далёкага падарожжа ў порце. З усіх гэтых гарадоў, якія ляжалі над затокай, засталася толькі каменная Луанда, усё больш бязлюдная і непатрэбная.

Гэта быў пачатак кастрычніка.

Горад пусцеў з кожным днём.

З раніцы я цягаўся па вуліцах без мэты, без сэнсу, пакуль знішчальная спёка не заганяла мяне назад у гатэль. У поўдзень сонца навальвалася на галаву, рабілася так душна і горача, што не было чым дыхаць. Пачыналася лета, расчыняліся брамы трапічнага пекла. Бракавала вады, бо помпавая станцыя знаходзілася на лініі фронту і пасля кожнага рамонту ізноў разбуралася ў часе баёў. Я хадзіў брудны, мне так хацелася піць, што ў мяне пачыналася гарачка, я бачыў рухомыя памаранчавыя плямы.

Усё больш камерсантаў зачынялі крамы, чорныя хлопцы барабанілі палкамі па апушчаных, бляшаных жалюзі. Рэстараны і кавярні ўжо не працавалі, крэслы, столікі і выцвілыя парасоны валяліся на ходніках, а потым зніклі ў афрыканскіх трушчобах. Часам нейкая машына праяжджала па пустой вуліцы на чырвоныя агні светлафораў, якія працягвалі аўтаматычна пераключацца, невядома дзеля каго.

У гэты час нехта прынёс у гатэль вестку, што выехалі ўсе паліцыянты!

Луанда, адзіны горад у свеце, у якім цяпер не было паліцыі. Кожны, хто апынецца ў такой сітуацыі, зазнае дзіўнае адчуванне. З аднаго боку яму лёгка і прасторна, з другога — ён адчувае пэўны неспакой. Рэшта белых, якая яшчэ блукала тут, прыняла гэтую вестку з жахам. Разышлася плётка, што чорныя раёны рынуцца на каменны горад. Усе ведалі, што чорныя жывуць у самых жахлівых варунках, у самых горшых трушчобах, якія можна ўбачыць ва ўсёй Афрыцы, у гліняных мазанках, якія запаўнялі пустыню вакол Луанды, як крушні дрэнных, пабітых чарапкоў. І вось гэты каменны, камфортны горад са шкла і бетону быў пусты і нічыйны.

Каб жа яны яшчэ прыйшлі спакойна, упарадкавана, сем'ямі і занялі б тое, што пакінута і свабодна. Але на думку напалоханых партугальцаў, якія падавалі сябе знаўцамі тубыльскай ментальнасці, чорныя ўварвуцца, агорнутыя шаленствам знішчэння і нянавісці, п'яныя, адурманеныя таямнічымі зёлкамі, прагныя крыві і помсты. Ніхто не стрымае гэтай навалы. Людзі знясіленыя, з сапсаванымі нервамі, безабаронныя і замучаныя выказваюць у размовах самыя апакаліптычныя ўяўленні. Усе загінуць і загінуць смерцю самай агіднай — зарэзаныя на вуліцы, пасечаныя мачэтэ на парогах дамоў. Тыя, хто разважае больш прытомна, прапануюць розныя варыянты самаабароны. Адныя — каб гасіць усё святло і пільнаваць у зацемненым горадзе, іншыя — наадварот, каб запальваць святло нават у пакінутых дамах, бо толькі вялікай колькасцю, масавасцю можна будзе адпалохаць чорных. Як звычайна, нічыя праўда не перамагае і ўначы горад выглядае, як падраная заслона: тут прасвечваецца нейкі фрагмент асветленай сцэны, а навокал нічога не відаць, і зноў відаць фрагмент, а рэшта заслоненая. Дона Картажына, якая, хутчэй, па звычцы, чым па неабходнасці, прыбірае ў пакінутых пакоях на маім паверсе (на якім я цяпер жыву сам),

час ад часу перапыняе замятанне і прыслухоўваецца, ці не насоўваецца з афрыканскіх раёнаў злавесны гул натоўпу, прадвеснік нашага канца. Яна нерухомее так, як усе жанчыны, калі прыслухоўваюцца, ці не пачуюцца праз хвіліну грымоты. Потым жагнаецца ўрачыстым крыжам і прыбірае далей.

Выехалі ўсе пажарнікі!

Ужо ніхто не ўратуе горад ад пажару. Спачатку людзі не верылі, каб пажарнікі ўцяклі з посту, але ў гэтым яны маглі пераканацца, наведаўшы цэнтральнае дэпо на прыморскім бульвары. Вароты дэпо былі адкрытыя насцеж. У глыбіні стаялі вялікія машыны ў чырвані і золаце, грувасціліся драбіны і помпы. На паліцах ляжалі пажарніцкія шлемы. Не было жывой душы. Вядома што FNLA даведаецца пра гэты факт і хопіць таго, каб замест улётак заўтра скінулі адну бомбу. Уся Луанда згарыць, як запалка. Дажджы перасталі ісці, горад быў нагрэты сонцам і сухі, як пілавінне. Каб толькі не было замыкання ці нейкі п'яніца не кінуў агню. Пазней жаўнеры завялі адну з тых машын і карысталіся ёй, каб вазіць ваду на фронт. Паколькі яе можна было заўважыць здалёк, у гэтую машыну пацэлілі, яна звалілася ў роў і там засталася.

Выехалі ўсе смецяры!

Напачатку на гэта ніхто не звярнуў увагі. Горад быў брудным і закінутым, таму людзі меркавалі, што смецяры даўно адляцелі ў Еўропу. Тым часам аказалася, што яны выехалі толькі ўчора. І раптам, невядома адкуль, пачало збірацца смецце. Засталася ж толькі жменька жыхароў, якія ў дадатак жылі ў такой апатыі і бяздзейнасці, што іх немагчыма было падазраваць у стварэнні гораў смецця. Аднак жа такія горы пачалі ўзнікаць на вуліцах пакінутага горада. Яны з'явіліся на ходніках, на вуліцах і на пляцах. У брамах камяніц і на вымерлых рынках. Праз некаторыя вуліцы можна было прайсці з вялікай цяжкасцю і агідаю. У гэтым клімаце празмерная колькасць сонца і вільгаці прыспешвае і ўзмацняе гніенне і браджэнне. Увесь горад пачаў смярдзець. Калі нехта ўваходзіў з вуліцы ў гатэль, ён таксама доўгі час смярдзеў, іншыя размаўлялі з ім на адлегласці. Увогуле людзі адышлі адзін ад аднаго, нягледзячы на тое, што ў сітуацыі, на якую мы былі асуджаны, павінна быць наадварот.



Дона Картажына зачыняла ўсе вокны, бо гнілым паветрам, якое даходзіла звонку, немагчыма было дыхаць. Пачалі здыхаць каты. Напэўна яны атруціліся нейкай падлінаю, усе разам, бо аднаго ранку паўсюль ляжалі мёртвыя каты. Праз два дні яны распухлі і зрабіліся пукатымі, як парсюкі. Над імі раіліся чорныя мухі. Смярдзела так, што не вытрымаць, я хадзіў па горадзе абліты потам, затыкаючы нос насоўкаю. Дона Картажына ўзносіла антыэпідэмічныя малітвы. Не было лекараў, не працаваў ніводзін шпіталь, ніводная аптэка. Смецце расло, памнажалася, нібыта бурліла нейкае велізарнае, агіднае цеста, раздзіманае на ўсе бакі атрутнымі, забойчымі дрожджамі.

Потым, калі выехалі ўсе пекары, манцёры, паштары і вартаўнікі, каменны горад страціў сваю падставу існавання, свой сэнс. Ён быў, як сухі шкілет паліраваны ветрам, як мёртвая костка, што вытыркаецца з зямлі да сонца.

Жыцця трымаліся яшчэ сабакі.

Гэта былі дамашнія сабакі, пакінутыя сваімі гаспадарамі, якія ў паніцы ўцякалі. Можна было ўбачыць безгаспадарчых сабак усіх самых дарагіх заводаў — баксёраў, бульдогаў, хартоў і даберманаў, таксаў, пінчэраў і спаніеляў, нават шатландскіх тэр'ераў, а таксама догаў, мопсаў і пудзеляў. Пакінутыя, заблукалыя, яны хадзілі вялікай зграяй у пошуках корму. Пакуль было партугальскае войска, гэтая незлічоная сабачая плойма кожную раніцу збіралася на пляцы перад генеральным штабам, дзе вартаўнікі кармілі іх кансервамі з жаўнерскага рацыёну паўночна-атлантычнага пакту. Відовішча было такое, быццам бы ішоў агляд сусветнай выставы заводных сабак. Потым накормленая, задаволеная зграя перабіралася на мягкую, сакавітую траву, якая расла ў цяністым скверы перад Палацам Ураду. Пачыналася неверагодная агульная сэксуальная оргія, узбуджанае і нястомнае шаленства, сумятня і беганіна да стану поўнай знямогі. Сумуючыя вартаўнікі мелі з гэтай прычыны шмат непрыстойнай радасці.

Пасля таго, як войска пайшло, сабакі пачалі галадаць і худзець. Нейкі час яны соўгаліся па гораду бязладнай зграяй, марна шукаючы ежы. Аднаго дня яны зніклі. Думаю, што яны пакінулі Луанду следам за людзьмі, бо пазней я нідзе не трапляў на здохлага сабаку, а тых,

што прыходзілі пад генеральны штаб і потым дурэлі перад Палацам Ураду, было сотні. Можна выказаць здагадку, што ў грамадзе выявіўся энэргічны важак, які вывеў сабачую зграю з паміраючага горада. Калі сабакі пайшлі на поўнач, яны трапілі да FNLA. Калі на поўдзень — трапілі да UNITA. Калі ж яны падаліся на ўсход, у бок Далатанду і Саўрыму, яны маглі дайсці да Замбіі, затым да Мазамбіку і нават да Танзаніі.

Можа быць, яны працягваюць вандраваць, але я не ведаю, у якім напрамку і ў якой краіне яны цяпер.

Пасля сыходу сабачай грамады горад запаў у канчатковае здранцвенне. Таму я вырашыў выехаць на фронт.

*Пераклад з польскай*
*Яўгена Салейчука*

■

**Рышард КАПУСЦІНСКІ** (1932—2007) польскі пісьменнік, публіцыст, журналіст. Аўтар кніг «Калі б уся Афрыка», «Яшчэ адзін дзень жыцця», «Футбольная вайна», «Падарожжа з Герадотам» і інш. У 1996 годзе адзначаны ўзнагародаю імя Яна Парандоўскага, у 1999 г. атрымаў «Ікара». Абраны Журналістам стагоддзя ў плебісцыце штомесячніка *Press*. Лаўрэат Узнагароды імя Дарыюша Фікуса за 2004 год. Двойчы намінаваўся на Нобелеўскую прэмію па літаратуры.



# Моніка РЫНК

## ЗНЯСІЛЕНЫЯ КАНЦЭПТЫ: КАХАННЕ

### ПРА ЎСЁ РАЗВАЖАЦЬ І ІМКНУЦЦА

паэтамі людзі былі ні к чорту
і дочкі іх панараджалі вялізных байструкоў
усё, хопіць. вырашыў бог у нябёсах.

і ніводная іскарка літасці не асвяціла бераг у чэрні ліхой.
абрынуліся воды.

(той-сёй сказаў сабе:
пакуль ты тут усіх звяроў падлічыш,
то лепш ужо патануць).

### ШТО ПАРАБЛЯЮЦЬ ЖАНЧЫНЫ Ў НЯДЗЕЛЮ?

дарэчы, я стала хацець благога.
цябе гэта больш не зачэпіць, а мяне не міне.
мяне працінаюць размаітыя ўзросты.
ні ў адным з іх няма для мяне прынады.
таму бачу ўсё дакладна такім, якім яно ёсць. Абрысы.

з павыліваным нутром, поўныя мёду й атруты,
злосці, трывожныя ад пакоры. ніводзін не ўцяміць.
зразумеюць толькі жанчыны. жанчыны цудоўныя.
жанчыны цудоўныя нават вельмі. жанчыны
яшчэ і вабныя. у іх вабныя душы.
у іх пекныя чаравікі. жанчыны
заўсёды будуць са мной гаманіць. яны застаюцца,
нават калі пакідаюць краіну. жанчыны, яны не знікаюць.
я адчуваю, ў жанчынах мацнее гатоўнасць
да гвалту. жанчыны бясконца растуць і выходзяць
за межы. мы разносім здымкі сваіх аплявух.
усё адно. што ўзята, што дадзена.
не адпавядае сутнасці. пісаць. пасылаць.
працягваць. крычаць. быць няўцямным для іншых.
на мысе фіністэры эмпатыі. мы — у самым фінале.
і сны затое робяцца больш зямнымі.
бо рэшты дня будуць жыць векавечна. яны прабіваюцца
безупынна, нават калі змяняецца змест.
у адным сне ты быў тут, у берліне, тут стаяла палатка,
тут лаўкі, тут я стукнула табе ў грудзі,
ты паваліўся, тады я таптала тваю торбу нагамі,
зноў і зноў, са страшнаю сілай. тут ты сказаў, перастань,
я прыйшоў сюды зусім не да цябе. і тут
на іншым баку лаўкі былі ўжо брахун ды падбрэхіч,
яны сказалі, так, не да цябе, зараз суцішся,
і мне ў сне так шкада было майго дзівоснага гневу.
але ж ты быў маладзейшы, выглядаў, бы ёзаф хрысціцель.
ва ўчорашнім сне чарнавалосыя мелі рудое валоссе
і высокія шчокі, паўсюдна мядзяны пух, жылкі пад ім
чырвоныя злёгку, але тыя, з чорнымі валасамі, такія, як раней.
бездапаможны воплеск. цяпер публіка ў адчаі,
вобраз сябе растаптаны, да таго ж нейкія крыкі



і знакі сэксуальнага трапятання. усё вельмі пераканаўча.
раны носяць бы брошкі, мы робім дзюркі,
дзе іх не было і хочам усунуць туды наш чэляс.
усё гэта будзе засведчана, скарапісцы прыносяць клямары,
на якіх можна прымацоўваць што-небудзь, калі б ты тое што-небудзь меў.
потым падае канфеці і штучны дзёрн, і тады ідзем мы дахаты
і сядаем ля вокнаў так, як бы рамантыка яшчэ існавала.
і гэта ўсё адной адзінай нядзеляй. займаюцца гэтым
жанчыны. так, вось бачыш. А ЦЯПЕР ТЫ!!!

## DRIFTING ACCUMULATION

заўсёды на складах спыняцца. цяпер я гэта ведаю дакладна:
нешта мяне прыняло, прыняло, каб знішчыць.
гэта быў звер. можа медуза ці аб'яднанне медуз.
вялізарнае нешта. нутраное заўсёды, цяжкое.
яно мае свае спадзевы. я памылілася. гэта не звер.
дэпрэсія лёгкіх не мае. медуза таксама.
дэпрэсія мае толькі вагу. я думаю: лавалямпы. хіба ж
не было цудоўна, як мы лавалямпы пілі, адну за другой. тут было?
тут было калісь, страшыдла тое, што зверам не ёсць і мае толькі вагу?
чаго мы толькі не рабілі, каб не выбіцца з такту і не паддацца,
пакуль яно не злапала нас, як мы ляжалі ў накаўце.
няма сэнсу пра гэта думаць. яно тут. пакуль яно тут было.

## ДАЙЦЕ СЯБЕ ЗНЯСІЛЬВАЦЬ ДАЛЕЙ

знясільваць — той дзеяслоў, што мне даваў прытулак.
я вапнаю тым часам выспела ў цвёрдасць новую. але ж
ці не яшчэ цвярдзейшыя падохлыя медузы? жывыя дрэйфяць.
лопаюць, як дождж ідзе. Гніюць, бы вялізарныя кавалкі. і плямамі
ідуць. аднак жа пляма — то з'ява для медузы няпростая, яна адначасова
след (паслаблення) і павелічэнне (насычанасці колішняй).
але калі нутро чыёсьці адначасова крэпне і слабее, імкнёмся мы
далей яго паслабіць. ці ўсё ж падмацаваць! веліч, з вашага дазволу,
што ж вы чытаеце апошнім часам, што можаце сцвярджаць,
нібы ўсё гэта ёсць адно? хто ахвярue і хто апускае рукі? вы стаіцё
паміж двух акіянаў, і кожны з іх выходзіць з берагоў. і вокамгненна
плыве у Вашых уяўленнях апошняя мяжа, якую мелі.
ці цвёрдасць іншую Вы прымеце цяпер? з ахвотаю. Вы ўжо неспадзявана
зрабіліся адной з тых дзвюх, што ўчыняе і церпіць таксама.

*© Monika Rinck: zum fernbleiben der umarmung. Berlin, Idstein: Kookbooks, 2007*



## ЗНЯСІЛЕНЫЯ КАНЦЭПТЫ: КАХАННЕ

*«Яе канцавіны, усё яе цела, бясконца таксама і душа, спаўзаюць»*
*Хэндль Клаўс: Легенды*

Не прыдатная яна — стома — да таго, каб яны цябе зразумелі. Не прыдатная яна, каб адгаварыцца ад радасных альбо нудных абавязкаў. І прабачэннем яна не будзе, ва ўсялякім выпадку не там, дзе кахаеш ты ці цябе. Як ты можаш зараз быць стомленай. Відаць, магу. Яна недавызначаная — такая недавызначаная, што нібы осмас разрознівае ды рэканцэнтруе напоўненасць. Якая ж яна ніякая! Ні слова пра тое, адкуль яна з'яўляецца. Вось яна кажа, яна, маўляў, стамілася. Як ты мяркуеш, чаму перадаючы яе словы трэба казаць «маўляў»? Таму што мы не маем магчымасці праверыць, вось чаму. Акалічнасць улічваецца, але ж не існуе як дадзенасць. *Малако стамілася, я яго выкіну.*

Бы вадкасць разліваецца, белая і шырокая, як прасціродла, не падымаецца і ўсё сцякае. Як падобна гэта на хваробу. Але мы былі не ў хваробе, але ў тым месцы, ад якога аддалілася дадзенасць, абдымным, як мора, было прадчуванне бясформнасці: нанёсак радасці і велічы, перанесенай на нас. Покрыў ахоўны ці нешта над намі спустошылася. Ці паказалі мы сілу? Сілу для чаго? *Каб унесці святло збянтэжанасці у цемру дамоўленасцяў.* Так. А потым? Ці не была б збянтэжанасць, прынамсі, хоць нейкай формай побач з тым, што саступае і нават саступаючы не дапамагае. Чымсьці іншым павінна стаць збянтэжанасць. То бок дапамогаю, пругкім супрацівам.

Нехта занатаваў: Гэтая палёгка. Гэтае абуджэнне. Гэтае аднаўленне. Давайце не будзем забывацца на наступнае: аднойчы ў целах пасялілася свабода. Прыйшло новае мысленне, яно ўзнялося, бы вецер, бы струмені гарачага паветра, што імкнуцца насустрач навальніцы. Тут была аўтаномная непарушная стома закаханых, якую яны атрымалі адзін ад аднаго — трапяткое і абсалютна асацыяльнае пачуццё. Яна была непранікальнай і інтымнай. Яна належала нам напоўніцу. *Насамрэч знясіленасць = інтэнсіўнасць: грамадства яе не прызнае.* Таму гэтая стома была таксама і крытыкай дадзенасці, таго, што дарослыя абавязаныя чуйнаваць. Але ўсё ж такі: крытыкай нашай сіле.

Калі мае ўмацаванні палі, я з павагай адрэагавала на вялікую чужую энергію, што рухалася мне насустрач. Маленькае «я» было збянтэжанае, але з самага пачатку гатовае да прыняцця іншага. З ахапкам адзежы, прытомнеючы, падняцца з двара на другі паверх. Суседзі. Суседзі. Усё засталося там, дзе было пакіданае, а дзверы распятымі. Але варта зазначыць, як уцешна гэта было! Прыхільнасць і ўпэўненасць. Ці не пісалі мы нешта падобнае да натацый гэтаму адчуванню? Не, гэта мізэрныя нататкі. Яны былі перад стомай.

Штосьці лупілася, унутрана лупілася, новае Я, што унутрана ўсё яшчэ скідала з сябе шалупінне. Па лушпінцы, нібы ў адваротным парадку штосьці зацвітала, а потым блякла, а потым блякла і блякла.

Ці вызваліцца там штучнае ядро з ментальных металаў? Можа там запрацуе, дрыготкая і зубчастая, з жалобным тэхнічным скавытаннем нейкая гібрыдная машыначка? Мы сталі сведкамі нечуванага развіцця, супакойвала толькі тое, што адбывалася яно ў сярэдзіне нас саміх. І такая нашая надзвычай адважная разважлівасць нават ў самую ліхую гадзіну прывяла да ладу пазнавальныя здольнасці, што тыцкаліся сюды-туды, але адна згадка прагнула вырвацца з мяшанкі — нібы жыццё наша трымаецца на цалкам выпадковай кагерэнтнасці.

Тое, што у нашай нечаканай самаахвярнасці спачатку было адважным, прыпадобнілася да падзей. Мы зрабіліся бязвольнымі і не мелі больш патрэбы множыць падзеі мужнасцю. Там, дзе больш няма волі, няма чаго пераадольваць. Прытулак і пастка. Здавалася, нібы мы яшчэ свабодныя. Але свабода, кажуць, гэта пачуццё. А ці была стома таксама пачуццём? І як суадносяцца пачуццё і стан? Мы, знясіленыя, залівалі адно аднаму іншыя атруты ды расцінalі нашы стомленыя целы. Ды білі іх потым, такім чынам, мы спадзяваліся на новыя павевы. Мы спадзяваліся на пратэст. І вось шкуматалі мы і сплятаалі. І ўсё ж знясільвалі яшчэ больш. Гарачы лоб. Цягліцы. Там, дзе яны некалі былі. Казуркі, што хочуць нас з'есці. Сціхні. Калі баліць, гэта добра. Дай сабе стаміцца, дай сябе ашчаслівіць, дай сябе знясільваць далей. Недзе, пэўна, павінна быць мяжа.

Знямоглыя, назіралі мы за тым, як падкрадваецца, з'яўляецца, праблісквае слабасць, белае нешта, што і не меншылася. Выкручанае цела, стома і думка здабыць са зморы жаданне. Завіхацца як раз так, як не прыстала. Чалавек, зафіксаваны у сваіх путах. Паказаць яму, што ты з ім зробіш і як. Ён, той скарыстаны, мае, маўляў з таго, пэўную выгаду, а менавіта, тую, што можа быць карысным. І сабе самому таксама. Пэўныя дапасаванні патрабаваліся па той бок. *Націсніце тут, каб папярэдзіць змены.* І потым мы рушылі далей. Высвятлялася. Кожны крок цягнуў за сабою яшчэ адзін далейшы. І што толькі ты не імкнуўся агарадзіць паролямі. Які боль спрычыніць сабе пазней.

Нарэшце мы так знясілілі, што паражанасць набыла эратычную афарбоўку. Мы зразумелі: мозачак звяртаецца да новых фетышаў. Стомленыя і павязаныя целы. Нерухомыя, шпіталізаваныя. Калідоры, чаканне, паркур стомы. Усё, здавалася, стасуецца, і звыклыя працэсы выдавалі сваю зневажальную таямніцу. Ад устаноў у нас перахоплівала дыхаўку. Мы зазіралі бязглуздым клеркам у вочы, і ў той час, як вымушаныя былі чакаць, уяўленне, што мы напаўголымі робім гэта ў куточку на вачах у службоўцаў, набывала неверагодную прыцягальнасць. Мы разглядалі ўсе прадметы ў бюро, прыкідваючы іх сэксуальныя магчымасці. Мы расхіналі ногі, мы падпісвалі. Нам трэба было прыйсці зноў у аўторак.

Блізкасць была нечуваным месцам, дзе нічога акрамя яе не адбывалася. Магчыма, што тут пакаранне выклікала суцішанне. У кірунку вызваленасці, што зноў жа мела падабенства са слабасцю, але не была звязаная са страхам. Ні да чаго больш не быць прынадным — гэта было нібы трыўмф. Гэта нутраная безабароннасць: усё, што я маю, знаходзіцца на памежжы. Таму і гоіцца яно вокамгненна, бо ўжо амаль на паветры. Усё гоіцца, таму што ўсё так далёка звонку. Які быў боль — нутраны, ён вытанчыў нас навонак. Тонкая скура. Цягліцы разважалі, але потым перасталі. Той, чый язык мяне разбудзіў, калі, але калі? Таго я не магу ведаць, я ж яшчэ спала ў сваёй начной сціпласці. Хістаючыся, мы ўзняліся і адчувалі стому. Па шчытку вязнучы ў скарыстаных кандомах, гэта быў той ранак, калі рэчы занялі свае месцы, на якіх, на маю думку, і надалей застаюцца. Рэчы на сваіх месцах, яны мусяць там заставацца.

Пасля таго, як цела аднойчы страціла сваю сімвалічнасць, яно пачынаецца паўсюль і гэтак жа паўсюдна завяршаецца. Вытокаў больш не знойдзеш. Гэтае распушчанае, разгубленае, скасаванае, заморанае і знясіленае цела. Яно мусіць дыхаць. Дыхаючы яно ўзгадае. Мы ведалі, існуе здрада, але ўсё яшчэ плылі па-над, косці ломіць і ўсё цела смыліць. Такімі выйшлі мы на прастор, а потым вярнуліся адтуль. Што за камуфляж! Збор каляда. Усё такое нігілістычнае: і думкі пра абавязкі, і гэтак далей, і да таго падобнае. Ніхто не ўважае і ніхто не старэе. Кожнае каханне ёсць актам страты асобы на пазбаўленым органаў целе, якое павінна быць створаным, а пазбаўленае органаў

цела — стомленае. Яго, якога больш не тычыцца загад, і мы, якія баяліся ягонай знясіленасці. Гэтага нам не даравалі б. Не, наадварот: мы б ім. Збянтэжанасць так і не зрабілася нашай апорай. Мы правальваліся ў новыя стомы і мара далёка ўразалася ў дзень. Пачалася блытаніна. Працей было супрацьстаяць межам, калі яны, такія-сякія, у нас яшчэ былі.

Але што за тузанне. Яшчэ тузала, прынцыпы яшчэ змагаліся за кожны сантыметр, сігнал, што цягнуўся, бы смоўж, быў нібы вельмі затарможаны танец, калі ўвогуле быў танцам. І зноў жа цела, апалае ў знясіленне, з вялікім цяжарам. Усё ж такі заставалася абалонкай. Іншай жа абалонкі для мыслення не існуе. Нам варта было ў свой час пазмяняць умовы. Мы не ведалі, якія. Я нічога не даравала сабе, чым я толькі сябе не цешыла. Я перадумвала дробязі. Закаснелай здавалася гэтая завада, я не дасягала мэты. Тым не менш, я успрымала прыгнечанасць — яна належала мне. Мне маглі б параіць сысці адтуль. Але як жа, калі ласка, магла я сысці адтуль, дзе патрабаванне дня зводзілася толькі да вячэрніх трафеяў? Што табе тут? Час абумоўлівае досвед: я ўсё скажу табе, як толькі больш не будзе сэнсу ўтойваць гэта ад цябе. Ці: глядзі, у мяне зусім няма часу абараняцца.

Падточанае спатканне, звышчуллівасць да любога асвятлення. Так ясна, так відавочна, як тыя агні — я цвярозая выйшла з дому і натомленая вярнулася назад, заправіўшыся «лонгдрынкамі» без смаку. У кватэры нічога не змянілася. Я ўключыла святло, балела. Усё гэта можна было б насамрэч даваць альбо праглынуць. З'есці, пракаўтнуць.

Твой першы выступ у тэатры тактоўнасці. Яшчэ раз вымавіць прагавораныя словы.

Нарэшце я так стамілася, што можна было падумаць і пра сон. Як зноў усё з'іначылася. Быць адзінствам, калі я адна — адзінства, тады я сумняюся. Не абавязкова разумець, што змяняе чалавека. І змены разумець не абавязкова. Магчыма, можна штосьці заўважыць па-за вачыма, нешта такое ж незразумелае. Вочы кажуць, скажы мне гэта. Такі ў іх погляд. Круціцца ля людзей, нарэшце ўкладваць іх у ложак. І дапамагаць ім здзяйсняць іх уласныя жаданні. Так не пойдзе? А што робіш ты? Ці мне лепш запытацца, што адбываецца з твайго дазволу? І калі б гэта толькі магло ашчаслівіць цябе. Ніхто ні разу не запярэчыў бы. Але так нічога не вырашыш. Што ты хочаш пачуць? Тут у мяне музыка. Спрэсаваная меланхолія. Мы не зможам пасадзіць яго ў машыну. Чытай далей.

Мне ўжо зноў трэба легчы.

■

*Пераклад з нямецкай*
*Ірыны Герасімовіч*



*Пераклад зроблены*
*пры падтрымцы Інстытута*
*імя Гётэ ў Мінску*

**Моніка РЫНК** нарадзілася ў 1969 годзе ў Цвайбрукене, жыве ў Берліне. Вывучала рэлігіязнаўства, гісторыю і параўнальнае літаратуразнаўства. У 2001 годзе выйшла кніга «Студыя паняццяў», што стваралася на працягу 1996—2001 гг. (www.begriffsstudio.de), у 2004 годзе — зборнік паэзіі «Экстатычныя дыстанцыі». У 2006 годзе пабачыў свет зборнік эсэ пад назвай «Ах, штучка-каханне!», а вясной 2007 года — паэтычны зборнік «каб абдымкі заставаліся ўбаку». У 2008 годзе — аўдыёкніга «Уважліва, Поні». У 2009 годзе — паэтычны зборнік «Светлая збянтэжанасць. Рэчавае і жывёльнае жыццё Монікі Рынк». Кніга аўтаркі «Адзінаццаць невялічкіх дрэсур», створаная ў супрацоўніцтве з Максам Марэкам, выйшла ў 2009 годзе. У 2011 годзе выйшлі кнігі «RIDING і PARA-RIDING» і «Я ёсць ветрам», у 2012 — кніга «Мядовыя пратаколы». Аўтарка мае шматлікія ўзнагароды, сярод якіх Прэмія Эрнста Майстэра (2008), Прэмія Арно Райнфранка (2009), Прэмія Георга Глазера (2010), Берлінская мастацкая прэмія ў галіне літаратуры (2012), Прэмія Петэра Хухеля за паэтычны зборнік «Мядовыя пратаколы» (2013).

Сяргей ЖАДАН

# І МАМА ХАВАЛА ГЭТА Ў ВАЛАСАХ

**(фрагмент з аповесці)**

## 16

Уначы ў гатэлі хтосьці пасяліўся. Скрозь сон я чуў крокі ў калідоры, прыглушаны смех, доўгае падбіранне ключэй, рыпенне дзвярэй і аканіц, цяжкія мужчынскія і лёгкія жаночыя крокі, галасы, што заціхаюць і ўсё ніяк не заціхнуць, скрыпанне ложкаў, апошнія пырскі смеху, шчаслівае размеранае дыханне людзей, якія пасля доўгага падарожжа такі атрымалі чыстыя прасціны і могуць цяпер да ранку ні пра што не хваляваццa, пераглядаючы гатэльныя сны, нібыта кнігі з чужой бібліятэкі. Суседзі — гэта добра, думаў я, засынаючы, суседзі ствараюць ілюзію дому. Хаця часам яны апынаюцца маньякамі. Я прызвычаіўся жыць побач з малазнаёмымі мне людзьмі. Пастаянныя пераезды, пастаянная змена жытла далі мне магчымасць пазнаёміцца з безліччу мілых і ненавязлівых суседзяў. Большасць з іх была алкаголікамі. Напэўна, менавіта гэта рабіла суіснаванне з імі хай і клапатлівым, але напоўненым сэнсам. Я прызвычаіўся дбаць пра бліжніх, мяне гэта не напружвала. Зранку пазнаёмлюся, думаў я ўжо праз сон, напэўна гэта мілая пара каміваяжараў, мужчына і жанчына, магчыма, яны нават не жанатыя, хаця абавязкова спяць у адным ложку. Мужчыну, мабыць, гадоў пяцьдзясят, у яго грыжа і праблемы з сэрцам, жанчына маладзейшая за яго, і праблемы ў яе хіба што з галавой, што з увагі на нашу прафесію і праблемамі не назавеш, так — вытворчая траўма. Ён прачнецца першы, будзе ціха хадзіць па пакоі, намагаючыся яе не пабудзіць, але ўсё адно пабудзіць. Яна будзе ўпарта рабіць выгляд, што спіць, хаця заснуць ужо не зможа. Іхняя раніца будзе мірная і светлая, і скончыцца сямейным сняданкам у якім-небудзь кафэ, калі ў гэтым горадзе, вядома, ёсць кафэ са сняданкамі. Колькі выпадковай і нечаканай публікі спыняецца ў такіх гатэлях, колькі ўсяго хаваецца за іхнім маўчаннем. Цікава, што яны падумаюць пра дзяўчынку, з якой я жыву ў адным нумары?

Калі я прачнуўся, Аліса знаў сядзела на падваконні і грызла шакалад. Пераапранулася ў футболку з нейкімі непрыстойнасцямі і сінія джынсы. Пазногці на нагах былі ў яе пафарбаваныя ў далікатны колер, раней я гэтага не заўважаў. Учора ўвечары яна маўчала, нават не сварылася і ці не ўпершыню не цягнулася за тэлефонам. Засынаючы, нават пажадала мне прыемных сноў.

— Адкуль шакалад? — спытаў я.

— Цётка на вахце дала, — адказала задаволена яна.

— Анна?

— Анна.

— Што, проста так дала? — не паверыў я.

— Ну, не проста так, — патлумачыла Аліса, — спачатку доўга распытвала пра жыццё. Пасля дала шакалад.

— Можа я ёй таксама пайду пра жыццё распавяду? — запрапанаваў я.

Аліса толькі засмяялася.

— Добра, — вырашыў я, апранаючыся. — Зараз што-небудзь прыдумаю. Сёння мой дзень.

— Пра цябе яна таксама, дарэчы, распытвала, — дадала Аліса.

— І што ты ёй такога распавяла, што яна падзялілася з табою шакаладам?

— Распавяла, што ты ў сне размаўляеш, — з ахвотай патлумачыла Аліса. — На незразумелай мове.

— Гэта сербская, — патлумачыў я.

— Ты размаўляеш па-сербску? — зацікавілася Аліса.

— Так, — запэўніў я. — Але толькі ў сне.

Я моўчкі адчыніў валізу, пачаў даставаць адтуль каляровы тавар.

— Можна я з табой? — запытала Аліса неспадзявана.

— Не думаю, — адказаў я дзелавіта.

На рэцэпцыі сапраўды стаяла Анна. Я падышоў.

— Дзяўчынка два дні не ела, — сказала Анна строга. — Вы не заплацілі за нумар. Што вы сабе думаеце?

— Вось, — сказаў я ёй, — менавіта гэта я і хацеў вам сказаць. Зараз я на пошту. Грошы ўжо павінны былі пералічыць. Праз гадзіну вярнуся. Вы будзеце на месцы? — запытаў я на ўсялякі выпадак.

— Буду, — халодна адказала Анна.

— Я так і думаў, — згадзіўся я.

— Паслухайце, — працягнула Анна, — вы мне вельмі не падабаецеся. Я не ведаю, што з вамі рабіць. Калі вы прыехалі ў шпіталь, дык і жывіце ў шпіталі.

— Ань, — пачаў я здалёк, — вы калі-небудзь жылі ў шпіталі?

Анна замаўчала. Пад яе далікатна-белай блузкай моцна білася халоднае сэрца, ажно марозная пара падымалася па яе далікатных жаночых лёгкіх. Што ж яна такая непрыязная да кліентаў, падумаў я. Гэта ж непрафесійна і для скуры шкодна.

— Што вы намагаецесь мне сказаць? — абражана запытала Анна. — На што вы ўвесь час намякаеце?

— Ну, не сварыцеся, — сказаў я. — Усё ж добра, усё ў парадку. Дзяўчынку я накармлю. Хочаце вам кветкі прынясу?

— Прынясіце мне даведку, — папрасіла Анна, — ад лекара. Што ў вас усё ў парадку з галавой.

— Можа ўсё ж такі кветкі? — засумняваўся я.

Тут за маёй спінай хтосьці нецярпліва і патрабавальна гмыкнуў. Я азірнуўся. Прыемная пара стаяла і чакала сваёй чаргі. У мужчыны быў паголены твар, які выражаў пакуту. Апрануты быў афіцыйна — у цёмныя джынсы і белую зашараваную кашулю, на плячы ягоным вісела цяжкая торба, напханая нейкай лухтой. Жанчынка была маладзейшая і больш сухая, шэра апранутая, невыразна нафарбаваная. Але мужчыну яна, без сумневаў, падабалася і такой. Я адступіў убок. Мужчына паклаў перад Аннай ключ ад нумара.

— Дзе ў вас тут паснедаць можна? — запытаў сур'ёзна.

— Лепш за ўсё ў якім-небудзь вагоне-рэстаране, — адказала Анна.

## 17

— Ды ладна, — сказала Аліса, дагнаўшы мяне на лесвіцы і прытрымаўшы за руку, — давай пайду з табой.

— Ты будзеш перашкаджаць, — не згадзіўся я.

Насамрэч, я быў і не супраць. Хай ідзе, падумаў. Але па звычцы ўсё адно не згадзіўся.

— Не буду перашкаджаць, — проста адказала Аліса, і я не знайшоў, што запярэчыць.

— Куды пойдзем? — спытаў.

— Ясна, што на вакзал, — хмыкнула яна і збегла па лесвіцы.

З боку мы падобныя былі, напэўна, да брата і сястры. Ад розных бацькоў. І незнаёмых паміж сабой маці. На мне быў яшчэ не зусім зацяганы цёмны касцюм, які я апранаў на працу. На Алісе былі футболка і акуратныя джынсы. Пад футболкай нават прасвечваўся станік. Я, скажам, не ведаў, што бываюць станікі такіх памераў.

Па Прывакзальнай снавалі нешматлікія пасажыры, стаяў чырвонага колеру «жыгуль», у якім спаў такога самага колеру таксіст. Дзіўнае месца, падумаў я, ніхто не прыязджае, ніхто не ад'язджае. Менавіта тут падкацілася электрычка, адтуль выйшла заспаная праваднíца, прайшлася па пероне, як па подыуме, сагнала з асфальту галубоў, сумна зайшла ў суседні вагон. За пуцямі пачынаўся сасновы лес, пахла цяплом і хацелася назаўсёды адсюль з'ехаць. Але ёсць рэчы, мацнейшыя за нашыя жаданні. Скажам, адсутнасць нармалёвага чыгуначнага спалучэння.

Мы прайшліся па некалькіх крамах, супынілі некалькі жанчын у хатняй вопратцы, нават падышлі да электрычкі, якая мела рушыць. Аднак усё гэта было непераканальна і несур'ёзна — ніхто нават размаўляць не хацеў пра ніякія парфумы ці касметыку. Я па звычцы пачаў нервавацца, Аліса, якая спачатку ішла за мной бадзёрым скаўцкім крокам, прыцiхла і глядзела навокал з дрэнна прыхаваным скепсісам. Нарэшце зайшлі ў залу чакання, селі на лаву. Вакзал быў пусты, сонечныя водбліскі ляжалі на падлозе, і цені дрэваў за вакном кладліся на сцены таямнічымі знакамі. У дзяцінстве вакзалы падаваліся мне загадкавымі і напоўненымі чымсьці

неверагодным, нейкай дзіўнай энергіяй, якая з'яўляецца толькі падчас падарожжа, і якая знікае, як толькі ты вяртаешся дахаты. Магчыма, гэта ад майго старога, ён, са сваімі сербскімі народнымі прыбамбасамі, любіў браць мяне з сабой на вакзал, ідучы туды па нейкіх сваіх надзвычай важных справах. Таму вакзал у маім дзіцячым уяўленні асацыяваўся з сур'ёзнымі справамі і п'янымі жанчынамі. Потым, пазней, калі падрос, думку сваю пра вакзалы я так і не змяніў. Але тут, здаецца, пра п'яных жанчын можна было і не марыць. Залы чакання стаялі, нібыта замініраваныя — пуста і ўрачыста. Крокі лунаді звонка і непрыемна. Часам у адчыненыя вокны заляталі галубы. Часам яны выляталі вонкі.

Тут Аліса пацягнула мяне за рукаў, паказваючы на прыадчыненыя дзверы даведкавага. Па пакоі разліваўся летні прыцемак, нябачны вентылятар разганяў паветра, і бачна было хіба што пару жаночых ног, абутых у цёмна-крывавыя боты на высокіх абцасах. Наш кліент, адразу вырашыў я. Аліса пайшла за мной.

Жанчына была акуратная, але ў гадох. Мела гадоў пад пяцьдзясят, да апошняга трымаючыся за рэшткі дароў прыроды. Актыўна карысталася касметыкай: пудра, туш ды бледна-ружовая памада надавалі яе твару па-сапраўднаму трагічны выраз. Фарбаваная была ў чырвоны, вопратку насіла адкрытую, пазірала стомлена, але выразна. Я зразумеў, што гэта лёс. На маё традыцыйнае «вам сёння неверагодна пашчасціла» ды «толькі сёння мы праводзім акцыю: набудзь адну рэч і атрымаў у падарунак непатрэбны табе кітайскі фен» рэагавала без асаблівага ажыўлення, хаця вачэй не адводзіла, толькі час ад часу закідвала нагу на нагу, нібы дэманструючы свае боты. Аліса стаяла каля дзвярэй і з цікаўнасцю разглядала жанчыну. Калі я сказаў усё, што кажу звычайна ў падобных выпадках, яна ў чарговы раз перакінула ногі і загаварыла. Папрасіла схаваць фен і паказаць штосьці цікавейшае.

— Я вас зразумеў, — адразу ж падхапіў я. — Думаю, у мяне для вас нешта ёсць. Келвін Кляйн, — сказаў, дастаючы каштоўную каробку. — Сапраўдны, — дадаў на ўсялякі выпадак. — Вышуканы арамат, адрасаваны жанчыне, якая выпраменьвае ўнутраны свет.

Яна напружылася. Пра свет ёй можна было не казаць.

— Складаная кветкавая кампазіцыя, — адважна працягнуў я. — Сэрца арамату — кветкі калы.

Тут яна напружылася яшчэ больш. Я бачыў гэта, аднак спыніцца ўжо не мог.

— І галоўнае, — працягваў, зазіраючы ёй у вочы. — Арамат разлічаны на даспелых кліентаў. Звычайна, гэта жанчыны за сорак, яны разумныя, і прыгажосць іхняя не падпарадкаваная жорсткаму безупыннаму часу.

— У вас ёсць што-небудзь іншае? — абарвала яна мяне.

Я замёр, аднак усяго толькі на момант.

— А як жа, — сказаў, — згодны, вы яшчэ занадта юная. Паразмаўляем пра калы гадоў праз дваццаць, — сказаў з запалам. — Я ўсё адно паспрабую вас здзівіць. Глядзіце, — сказаў, дастаючы чарговы флакон. — Дыёр. Якія ў вас адносіны з Дыёрам?

Жанчына горка ўздыхнула, маўляў, не марочце мне галаву.

— Водар, — не адступаў я, — складаецца з акордаў чорнага чаю ў ансамблі з вытанчаным язмінам, сандалавым дрэвам і пікантнасцю кардамона.

— Чаю? — Зноў перабіла яна мяне.

— Так, чаю, — пацвердзіў я. — Чорнага, — дадаў.

— Ну і што мне яго, піць? — неяк адасоблена спытала яна і ўжо пацягнулася да гузіка мікрафона, быццам намякаючы, што сеанс завершаны, у яе куча працы, і мы ёй не тое, каб перашкаджалі, але не дапамагаем — гэта дакладна.

Але я паспеў перахапіць яе руку і, вытрымаўшы паўзу, сказаў:

— Не спяшайцеся, — сказаў ціха, — гэта яшчэ не канец. Гуччы, — сказаў я, — вы чулі што-небудзь пра Гуччы?

— Чула, — адказала яна гэтаксама ціха, — чула.

— Тады гэта дакладна для вас, — сказаў я ўпэўнена. — Гуччы — гэта тое, чаго вам бракуе.

Тут яна і ўвогуле неяк пакрыўдзілася, і погляд яе казаў: з чаго ты, чувак, узяў, што мне ўвогуле чагосьці бракуе тут, у маёй даведкавай. Але я не звяртаў увагі.

— Ён таксама сапраўдны, — казаў я, разумеючы, што лепш мне далей не казаць. — Гэты Гуччы. Вы разумееце?

— І што?

— І што? Чары маладосці, модны вінтаж. Спецыяльна для рамантычнай дзяўчыны, не пазбаўленай азарту,

якая патанае ў саладкаватых адценнях півоні і ружы, якія адценьваюцца характэрнымі сандалам і пачулямі.

Думаю, калі б я не ўзгадаў пра пачулі, усё яшчэ магло абысціся. Але не абыйшлося.

— Выйдзіце адсюль, — халодна сказала яна. — І пачулі свае забярыце.

І сказала гэта так, што я нават не адважыўся запярэчыць. Моўчкі пакідаў усё назад у пакет, прырэчана падняўся.

— Гэта ваша? — раптам звярнулася да яе Аліса.

— Што? — не зразумела жанчына.

— Памада, пытаю, ваша?

— Мая, — няўпэўнена адказала жанчына.

— Яна вам не пасуе.

Ну ўсё, падумаў я, зараз яна выкліча міліцыю. Па мікрафоне.

— У сэнсе? — вырашыла ўдакладніць адміністратарка.

— Не пасуе да вашых ботаў, — спакойна патлумачыла Аліса. — Вось глядзіце.

Яна ўзяла ў мяне з рук пакет, дастала адтуль пару касметычных набораў, падышла да жанчыны і, выцягнуўшы з кішэні джынсаў хустачку, далікатна сцёрла ёй з вуснаў бледную памаду. Пасля чаго намалявала палкую і цемнаватую ўсмешку. Атрымалася не надта па-майстэрску, але жанчына ўсё адно зачаравана паглядзела на сябе ў люстэрка, працягнутае Алісай.

— У вас зусім іншы тып твару, — казала малая бестурботна, — і зусім іншы колер абутку. Вы разумееце?

Тая ўсё разумела.

Выйшаўшы з вакзала, мы пералічылі бабкі.

— Адкуль ты ведаеш? — спытаў я здзіўлена. — Ну, пра памаду.

— У маёй мамы такая, — адказала Аліса. — Толькі яна ёй не карыстаецца. У яе і так яскравыя вусны.

Да вечара мы прадалі яшчэ некалькі кітайскіх набораў.

## 18

Мне заўсёды было прыкра, што яны так хутка старэюць. Нібыта ўсё выглядала як заўсёды, стары нават працягваў хадзіць у сваю кантору, дзе яму даўно ніхто нічога не плаціў, а мама ўпарта падтрымлівала хатні парадак і намагалася мяне выхоўваць. Але я бачыў, як моцна яны здалі, як іх накрыла нябачнай хваляй, так, нібыта яны выпадкова ўвайшлі ў цемру, а назад пад сонца выйшлі зусім іншымі — з іншым выразам твару, крыху напужаным, ці што. Старасць — гэта і ёсць, перш за ўсё, страх у вачах, занадта хуткія рухі, няўпэўнены голас, беспадстаўныя абвінавачванні. Асабліва прыкра было за старога. Ён храбрыўся і пастаянна паўтараў, што гэта ягоная праца і што ніводзін капіталіст яго адсюль не выкіне, што ён і далей будзе хадзіць, паколькі паклаў на гэту працу ўсё сваё жыццё. Колькі разоў мне здаралася такое чуць — пра недарэмна пражытае жыццё, пра пакінутую пасля сябе памяць, пра сяброў, што ў якую заўгодна хвіліну стануць за цябе сцяной. Калі іхняя кантора абанкроцілася афіцыйна, старому не было і шасцідзесяці. Яго гэта прыбіла канчаткова. Ён сядзеў на кухні і слухаў транзістар, які я яму прыцягнуў. Выходзіў толькі ў краму, і тое — толькі калі яго выганяла туды мама. Нават футбол слухаў па транзістары, хаця ў суседнім пакоі стаяў цалкам нармалёвы тэлевізар. Пра мае справы амаль не пытаўся, сваіх у яго не было. Пачаў часта хварэць, нервавацца і зрывацца. Мабыць, менавіта тады я і зразумеў, што ніякі бізнэс не дае табе ўпэўненасці. Ніякія актывы не абароняць цябе ад уласнага ценю, якога ты насамрэч баішся больш за ўсё. І што найважнейшае — тваё жаданне прадзірацца далей, не спыняцца, не баяцца, не мець таго страху, які робіць нас бездапаможнымі і безабароннымі. Забаішся — будзеш сядзець, пераможаны, вылоўліваючы навіны з эфіру, быццам пахі з чужой кухні. Я сабраў рэчы, зняў кватэру ў суседнім квартале і пачаў жыць адзін. Заносіў старым грошы ды харч і намагаўся не распавядаць асабліва пра тое, чым займаюся.

Праз некалькі гадоў Пашынага брата пасадзілі. На той час пасадзілі таксама добрую палову нашых аднакласнікаў. А тыя, каго не пасадзілі, сталі міліцыянтамі. Калі я браў баскетбольны мяч і выходзіў на нашу старую пляцоўку, мне нават гуляць не было з кім.

*Пераклад з украінскай*
*Іры Блоцкай*

**Сяргей ЖАДАН** — нарадзіўся ў Старабельску (Луганская вобл., Украіна) у 1974 г. Украінскі паэт, пісьменнік, перакладчык і грамадзянскі дзеяч. Аўтар зборнікаў паэзіі «Цытатнік», «Эфіопія», «Лілі Марлен», раманаў «Дэпэш Мод», «Варашылаўград» і інш. Творы Сяргея Жадана перакладзеныя на трынаццаць моваў, аўтар з’яўляецца лаўрэатам шматлікіх нацыянальных і міжнародных узнагарод. Актыўны ўдзельнік літаратурнага жыцця Украіны, (з 2000 г. — віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі ўкраінскіх пісьменнікаў), арганізатар і ўдзельнік мультымедыйных мастацкіх праектаў. Жыве і працуе ў Харкаве.

# (тэорыя)

Ірына Шаўлякова

# (ВЫ)ТВОРЧЫЯ БІТВЫ Ў КУМІРНІ

Парадыгмальнае станаўленне інфармацыйнага грамадства (адным з найбольш важкіх наступстваў якога ўжо сёння паўстае фарміраванне новай інфармацыйнай рэальнасці, што атачае сучаснага чалавека і радыкальна змяняе ўмовы яго існавання) абумоўлівае глыбінныя аксіялагічныя трансфармацыі самога разумення рэчаіснасці; гэта, у сваю чаргу, дэтэрмінуе парадыгмальныя трансфармацыі культуры і анталагічнай структуры ў цэлым.

Акрэсліваючы асноўныя рысы інфармацыйнага грамадства, амерыканскі даследчык Э. Тофлер называе ў ліку эканамічных, палітычных, ідэалагічных адзнак далейшую індывідуалізацыю асобы пры захаванні салідарных стасункаў паміж людзьмі і супольнасцямі. Шэраг іншых сацыялагічных канцэпцый інфармацыйнага грамадства тэарэтычным грунтам абралі ідэю так званага «антарапалагічнага павароту»: паколькі грамадства няздольнае справіцца з сацыякультурнай нестабільнасцю, варта перайсці «ад сацыяцэнтрызму да антрапацэнтрызму», то бок да «пабудовы сацыяльных канцэпцый, што сыходзяць з асобы самога чалавека» [6].

Айчынны даследчык літаратуры А. Андрэеў прапануе адрозніваць літаратуру сацыяцэнтрычнага, індывідацэнтрычнага і персонацэнтрычнага тыпу. Так, у школе, на яго думку, выкладалася і выкладаецца літаратура сацыяцэнтрычнага тыпу, арыентаваная на каштоўнасці, больш актуальныя для грамадства, чым для асобы. Сучасная мастацкая славеснасць, у сваю чаргу, даследуе феномен індывідацэнтрызму, апелюючы менавіта да індывідацэнтрычнай карціны свету і свядомасці. У шэрагу прац А. Андрэева [гл., напрыклад: 3] указваецца на тое, што сучасныя людзі перастаюць бачыць у літаратуры неабходную, актуальную з пункта гледжання духоўных патрэб крыніцу інфармацыі. Пафас персонацэнтрычнай літаратуры (якой, на думку даследчыка, яшчэ няма, можна толькі адшукаць яе «ўкрапленні» ў сацыяцэнтрычных і індывідацэнтрычных творах) звязаны са спробай наблізіцца да гармоніі грамадскага і асабовага пачаткаў на грунце складанага, дыялектычнага ў сваёй аснове светапогляду, са спробай асэнсавання грамадскага праз прызму асобаснага. Пры гэтым асоба разглядаецца як цэласная інфармацыйная структура, дзе вітальнае (бессвядомае) спасцігаецца ментальным свядомым, хаця і не падпарадкоўваецца яму непасрэдна. Асобасная свядомасць вызначаецца наяўнасцю ў культуры бясконцых, але розных па глыбіні сістэм духоўных каштоўнасцей. Паводле А. Андрэева, вектар развіцця культуры — ад сацыяцэнтрызму да персонацэнтрызму.

Канстатацыя імклівасці і татальнасці грамадскіх трансфармацый, што фарміруюць «новую сацыяльную рэальнасць, адрозную паводле сваіх анталагічных параметраў ад папярэдніх тыпаў» [7], сталася агульным месцам сучасных сацыяльна-філасофскіх даследаванняў. Менавіта «пастаянная трансфармацыя» вылучаецца ў якасці асноўнай рысы сучаснай ідэнтыфікацыйнай мадэлі [11].

Брытанскі сацыёлаг Э. Гідэнс у межах сваёй канцэпцыі сучаснасці ўказвае на відавочны ***канфлікт*** паміж найноўшымі тэхналогіямі камунікацыі і ростам патрэб у лакальнай аўтаноміі ды культурнай ідэнтычнасці, звязанай з *паняццем традыцыі як прадуктам* ***бесперарыўнай інтэрпрэтацыі***, што злучае сучаснасць з мінулым [7]. На фоне агульнага дамінавання канвергенцыі актывізацыя працэсаў этнічных (дазволім сабе пашырыць іх да этнакультурных) «рэнесансаў» цэлым шэрагам аўтарытэтных

даследчыкаў розных аспектаў інфармацыйнага грамадства (Э. Тофлер, Д. Нэсбіт, П. Эбурдзін, Б. Барбер і інш.) разглядаюцца як «заканамерная сацыякультурная рэакцыя насельніцтва на глабальныя працэсы інтэграцыі і цэнтралізацыі ўлады» [5].

Найбольш «утульнай» формай вырашэння згаданага вышэй канфлікту ў айчынным калялітаратурным дыскурсе цягам апошніх двух дзесяцігоддзяў становіцца ***«вайна інтэрпрэтацый»***.

Як вядома, адной з вызначальных тэндэнцый літаратуразнаўчага досведу на мяжы XX—XXI стагоддзяў з'яўляецца пашырэнне паняційна-катэгарыяльнага інструментарыя, як за кошт прыцягнення зусім новых для гэтага адгалінавання гуманітарных ведаў тэрмінаў, так і шляхам спецыфічнай актуалізацыі даўно вядомых паняццяў. На гэтым фоне надзвычай цікавыя змены — змястоўныя і функцыянальныя — адбываюцца з паняццем *інтэрпрэтацыі*: яна пачынае акрэслівацца ў якасці сапраўднай ідэалагемы найноўшага тэарэтыка-літаратурнага і крытычнага дыскурсу.

Гісторыя *інтэрпрэтацыі*, па сутнасці, роўная *культурнай* гісторыі чалавецтва. На карысць гэтага сведчыць і міфалагічная версія яе паходжання, звязаная са старажытнагрэчаскім богам гандлю, апекуном дарог і вандроўнікаў Гермесам, што мусіў не проста перадаваць людзям волю насельнікаў Алімпа, але адмысловым чынам вытлумачаць сэнс гэтых пасланняў. Цягам некалькіх тысячагоддзяў існавання герменеўтыкі[1] ні «рэчыва», ні функцыі *інтэрпрэтацыі* як паняцця сутнасна не змяніліся. Разам з тым, пашырылася прастора запатрабаванасці *інтэрпрэтацыі* як катэгорыі передусім праблемнай, палемічнай (гнасеалогія, логіка, метадалогія навукі, філасофія мовы, семіётыка, тэорыя камунікацый і інш.).

У цэлым, разнастайнасць апісанняў літаратурна-мастацкай *інтэрпрэтацыі* можна звесці да двух асноўных падыходаў:

— асэнсаванне яе як *вытворчасці*, генератара сэнсавай варыятыўнасці, функцыянальна прызначанага дзеля таго, каб навучыць («прымусіць») разуменню таго альбо іншага тэксту (сэнсаформы) суадносна з умоўным эталонам;

— усведамленне яе як *творчасці*, «інстынкту» і «актыўнасці» самога жыцця (Ф. Шлеермахер), адмысловага *мастацтва*.

Першы падыход легітымуе адвечнасць *інтэрпрэтацыі*, нібыта лагічна вынікае з папярэдняй яе гісторыі. Так, М. Мажэйка, адсочвае нараджэнне гэтага «метадалагічнага прыёму» з антычнасці, дзе ў межах вытлумачэння неаплатонікамі алегарызму класічных літаратурных помнікаў *інтэрпрэтацыя* была заптарабаваная як кагнітыўная працэдура [8, с. 427—429]. У хрысціянскай сярэднявечнай культуры яна ўжо не проста культывуецца свядома, але становіцца базавым прыёмам, скіраваным на вычытванне экзэгетычных сэнсаў у «кнізе прыроды» (менавіта тут пачынаюць фарміравацца адносіны да свету як да тэксту). Развіццё і ўдакладненне апісанняў, скіраваных на працэдуры разумення і тлумачэння, прыводзіць да крышталізацыі з экзэгетычнай традыцыі філасофскай герменеўтыкі, дзе праблема *інтэрпрэтацыі* нарэшце набывае канцэптуальнае асэнсаванне.

Цікава, што ідэі філасофа, псіхолага, гісторыка культуры, нарэшце — стваральніка «герменеўтычнага метада» В. Дзільтэя і прадстаўнікоў так званай «духоўна-гістарычнай школы» (Р. Унгера, Э. Эрмацінгера ды інш.) наконт выключнай ролі Аўтара як найбольш важнай постаці ў працэсе *інтэрпрэтацыі*, як крыніцы сэнсу, праз чыю рэканструкцыю яна і рэалізуе сябе, здавалася б, відавочна ўмацоўваюць аб'ектывісцкае разуменне і сэнсу, што закладзены ў тэкст, і ягонай інтэпрэтацыі. Але разам з тым у згаданых ідэях ад пачатку ўтрымліваецца насенне таго суб'ектывісцкага валюнтарызму ў абыходжанні з анталагічнымі катэгорыямі і законамі, якія расквітнеў пасля на грунце поструктуралісцка-дэканструктывісцка-постмадэрнісцкага ідэалагічнага комплексу. У разважаннях В. Дзільтэя *інтэрпрэтацыя* паўстае аднаўленнем унутранага вопыту Аўтара, яна ўсутыч набліжаецца да другога ключаво-

[1] У дадзеным выпадку пад герменеўтыкай маецца на ўвазе передусім тэорыя інтэрпрэтацыі тэксту і навука пра спасціжэнне сэнсу (*англ.* hermeneutics, *ням.* hermeneutik), прадметам якой з'яўляюцца інтэрпрэтацыя, разуменне; з герменеўтыкай звязанае ўстойлівае ўяўленне пра універсальны метад у сферы гуманітарных навук, у прыватнасці, пра універсальны прынцып тлумачэння гістарычных фактаў на падставе філалагічных дадзеных пры аналізе літаратурных помнікаў [10, с. 195].

га паняцця герменеўтыкі — да *разумення*, магчымага толькі на грунце традыцыі і *агульнасці* чалавечай прыроды; дзякуючы апошняй магчымая і сама *інтэрпрэтацыя*, што становіцца суперажываннем чужых форм жыцця ва ўласныма светаадчуванні. Інакш кажучы, Аўтар, што ўвасабляе неперарыўнасць духоўнага і культурнага вопыту чалавецтва, усведамляецца рупарам традыцыі; у пэўным сэнсе, мы маем справу не столькі з *аўтарам*, колькі з *аўтарытэтам*, ступень супадзення з якім і вызначае выніковы поспех для інтэрпрэтатара-вытворцы.

Аднак ужо афіцыйны бацька філасофскай герменеўтыкі Г. Г. Гадамер сцвярджаў, што сэнсавы патэнцыял тэкста далёка перасягае намеры яго стваральніка: тэкст не выпадкова, але непазбежна не супадае з тым, што меў на ўвазе аўтар[2]. Для аднаго з найбольш буйных прадстаўнікоў сучаснай літаратурнай герменеўтыкі Э. Д. Хірша асноваю (і мераю) сапраўднасці *інтэрпрэтацыі* становіцца прынцып «аўтарскай аўтарытэтнасці», а мэта яе вызначаецца сістэмай каштоўнасцяў інтэрпрэтатара, ягоным сацыяльна абумоўленым этычным выбарам, іначай — характарам яго стасункаў з пануючай ідэалогіяй [10, с. 199].

Такім чынам, укаранёнасць *інтэрпрэтацыі* ў **традыцыі**, падмацаваная **цэласнасцю** як неабходнай умовай здзяйснення, забяспечвае выніковаму культурнаму прадукуту статус «класічнасці», то бок той *аўтарытэтнасці*, якая для нашчадкаў колішніх экзэгетыкаў — постмадэрністаў — тоесная таталітарнасці як антыкрэатыўнаму пачатку. Для Ж. Дэрыда *інтэрпрэтацыя* магчымая толькі як метафарычна-ўмоўная «дэканструкцыя» тэксту, што адкрывае дарогу патэнцыяльна бязмежнай варыятыўнасці прачытанняў. Ва ўяўлені постмадэрнізму *інтэрпрэтацыя* прывязаная не да постаці Аўтара, і нават не да тэкста, а да Чытача. Паколькі Аўтар (які, на думку Р. Барта, надзяляе тэкст канчатковым значэннем і тым самым «замыкае пісьмо») воляю дойлідаў постмадэрнага хранатопу апынаецца ў адной дамавіне з суб'ектам (згадаем апаведныя канцэпцыі іх «смерцяў»), дык *інтэрпрэтацыя* тут паўстае эквівалентнай самому стварэнню тэкста, набывае сэнс «крэатыўнай творчасці».

Больш за тое, філасофы-постмадэрністы мелі намер абвясціць следам за смерцю «аўтара» і «суб'екта» і смерць *інтэрпрэтацыі* (тоеснай «путам і абцугам», сімуляцыі сэнсу замест генерацыі і г. д.), дзеля чаго паспрабавалі замяніць яе паняццем *эксперыментацыі*. Акрэсленыя намеры тыпалагічна нагадваюць памкненні постструктуралістаў замяніць катэгорыю *структуры* даволі цьмянай катэгорыяй *стрыктуры*, таксама закліканай засведчыць радыкальную, рэвалюцыйную адрознасць якасці найноўшай мысленча-пазнаваўчай прасторы ад папярэдняй традыцыі. Умоўна кажучы, *эксперыментацыя* супрацьпастаўляецца *інтэрпрэтацыі* як свабода — гвалту: калі першая ўсведамляецца, напрыклад, Ж. Дэлёзам ці Ф. Гватары ў якасці «свабоднай працэсуальнасці азначвання», дык другая, па М. Фуко, ёсць працэдурай падпарадкавання (прымусовай ці добраахвотнай — гэта ўжо нюансы). Зазначым, што і дагэтуль *эксперыментацыя* не ўяўляе для *інтэрпрэтацыі* колькі-небудзь сур'ёзнай канкурэнцыі — і ў сэнсе ўнутранай змястоўнасці, і адносна запатрабаванасці ў найноўшым дыскурсе. Апошняя застаецца аднолькава прыцягальнаю як для «традыцыяналістаў», так і для «авангардыстаў» ад літаратуразнаўства — з прычыны своеасаблівай яе «пратэістычнасці»: падобна антычнаму богу Пратэю, што мог прымаць любыя аблічы — мімікрыраваць пад асяроддзе, *інтэрпрэтацыя* мае шанцы стацца адным з самых універсальных інструментаў пазнання ў свеце, зразуметым як *хаосмас*[3]. У класічным постмадэрнізме хаосмас характарызуецца праз сувязь з канцэптамі «нонсэнсу» і «нестабільнасці», маецца на ўвазе, што хаос першапачаткова аплоднены зернем космасу, інакш — можа быць спецыфічна ўпарадкаваны.

Паказальна, што *інтэрпрэтацыя* (поруч з *рэфлексіяй, дыскурсам* і *крэатыўнасцю*) і ў айчынным літаратуразнаўчым досведзе мае сёння статус амаль універсальнай катэгорыі. Аднак захопленасць яе патэнцыялам адсоўвае на другі

[2] Зрэшты, і для Г. Г. Гадамера інтэрпрэтацыя мае сэнс толькі тады, калі робіць магчымым выхад у неперарыўнасць мастацкай традыцыі.

[3] Варта нагадаць, што з'яўленне тэрміна *хаосмас* звязваецца з раманам Дж. Джойса «Памінкі па Фінегане», дзе ён паўстае прадуктам спароўвання паняццяў *хаосу*, *космасу* і *осмасу*.

план небяспеку, якую нясе ў сабе *інтэрпрэтацыя* як інструмент рэлявітызацыі мастацка-эстэтычнай каштоўнасці. Някалі спароджаная «асабістай віртуознасцю вучоных-філолагаў» (В. Дзільтэй), *інтэрпрэтацыя* як прадукт масавага спажывання без асаблівых цяжкасцяў дазваляе ўраўняць у культурных правах вулічны слэнг і метамову філасофіі, гарадскі раманс — і санеты Ф. Пятраркі, псеўдагістарычныя дэтэктывы — і інтэлектуальныя раманы У. Эка. Інакш кажучы, у бітве творчасці і вытворчасці, з якой можна параўнаць тыя працэсы, што вызначаюць спецыфіку найноўшай мастацкай славеснасці, якраз *інтэпрэтацыя* адыгрывае адную з ключавых роляў. Парадокс заключаецца ў тым, што яна асэнсоўваецца як «служка двух гаспадароў», таму, нягледзячы на задоўжанасць «паўстання масаў» (Х. Артэга-і-Гасэт), сыход бітвы паміж *мастацкай літаратурай* і *маслітам* далёка не відавочны, асабліва калі браць пад увагу неадназначныя шанцы нацыянальнага прыгожага пісьменства ў «захапляльнай» (да вусцішы) перспектыве так званага інфармацыйнага грамадства.

Беларускі літаратурны працэс канца XX — першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзяў у шэрагу літаратуразнаўчых даследаванняў, у публікацыях бягучай крытыкі і асабліва яе эрзац-«версій» даволі часта не столькі *асэнсоўваецца*, колькі *інтэрпрэтуецца* на грунце паняцця «пераходнасці». Апошняя ў дыскурсе прафанным нярэдка суадносіцца з канвеерам па вытворчасці ўніверсальных «індульгенцый», закліканых легітымаваць у каламуці **СучЛіту** *права на ўсё*, а найперш, права прамаўляць (ці верашчаць) — і права інтэрпрэтаваць адпаведны «прадукт» як тэкст, нават калі яго аўтар (дакладней, вытворца) па вызначэнні пазбаўлены «літаратурнага голасу».

Між тым адным з найважнейшых вынікаў рэальнай сітуацыі «пераходнасці» для беларускай мастацкай славеснасці стаўся *крызіс ідэнтычнасці* (аксіялагічнай, эстэтычнай, мастацкай). Тэктанічныя агульнакультурныя зрухі ў «глакальным свеце» (захоўваючы агульныя рысы глабалізаванасці, ён адначасова набывае тэндэнцыі лакальнага ці рэгіянальнага развіцця [11]), адным з «прыватных» наступстваў маюць актывізацыю працэсаў ***мастацкай (сама)ідэнтыфікацыі*** беларускай нацыянальнай літаратуры — як рэакцыі на маштабны крызіс яе ідэнтычнасці.

У працах сучасных айчынных даследчыкаў лейтматывам гучыць думка пра тое, што ўся новая і найноўшая беларуская літаратура прасякнута пафасам аднаўлення нацыянальнай ідэнтычнасці, які для яе застаецца нязменна актуальным. Напрыклад, Л. Сінькова даводзіць, што «беларуская культура штораз, са сваіх патрэб зыходзячы, асвойваецца ў больш развітых культурных кантэкстах праз дынаміку арыгінальных мастацкіх структур. Так, наша класіка XX ст., ад Купалы і Гарэцкага да Танка і Быкава, наша выбітная літаратура ў кожным таленавітым творы вырашае адраджэнцкую задачу — задачу сцвярджэння беларуса, беларускага светабачання — як задачу кожны раз мадэрновую (сучасную)» [9, с. 398].

Варта мець на ўвазе, што катэгорыі «ідэнтычнасць» і «самасць» атрымліваюць у беларускім тэарэтыка-літаратурным дыскурсе адмысловае напаўненне. У гісторыка-філасофскай рэтраспектыве адшукваецца шмат аргументаў на карысць таго, што праблемы нацыянальнай, этнічнай і культурнай ідэнтыфікацыі, актулізаваныя як спробы асэнсавання ўласнай ідэнтычнасці і аўтэнтычнасці праз пошук уласнай адрознасці і спецыфічнасці, з'яўляліся своеасаблівым канстытутыўным пачаткам для беларускай самасвядомасці XIX — першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзяў (Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Аляксандр Цвікевіч) [1, с. 402]. Для айчыннага літаратуразнаўства апошняй трэці XX — пачатку XXI стагоддзяў праблема асэнсавання *самасці* звязана з пошукам у літаратурна-мастацкім дыскурсе таго агульнанацыянальнага ідэалу, своеасаблівай «інтэгратыўнай» мадэлі нацыянальнага быцця, што паўстае гарантам цэласнасці, жыццяздольнасці і жыццятворчасці беларусаў, гарантам своеасаблівай *нацыянальнай перспектывы*. У сваю чаргу, пад *мастацкай ідэнтычнасцю* літаратуры пэўнага перыяду мы прапануем разумець *комплекс эстэтычных, аксіялагічных, сацыякультурных ідэй, арыенціраў і ўстановак, увасабленне якіх у літаратурным працэсе абумоўлівае дамінаванне пэўнага тыпу (ці суіснаванне шэрагу тыпаў) літаратурнай творчасці.*

На ўзроўні агульных настрояў у найноўшай беларускай літаратурнай прасторы як часткі агульнасусветнага культурнага хранатопу крызіс ідэнтычнасці выяўляецца ў адчуванні зместавай «інфляцыі» легітымаванага (асвечанага сацыякультурнымі стэрэатыпамі) прыгожага пісьменства, у адчуванні несупадзення яго плёну і з «культурнымі чаканнямі» беларускага чытача, і з тэндэнцыямі так званай новай літаратурнай сітуацыі. Разам з тым, і ў *тэзаўрусе* беларускай літаратуры пачатку XXI стагоддзя дамінуе тая ж цэнтральная ідэя, што і напачатку XX стагоддзя — ідэя адраджэння (аднаўлення) *нацыянальнай самасці*. Калі браць пад увагу тое, што найважнейшым канцэптам айчыннага гуманітарнага дыскурсу з'яўляецца ідэя пра «літаратурацэнтрычнасць» беларускай культуры XIX—XX стагоддзяў, пра вызначальную ролю мастацкай славеснасці ў фарміраванні ідэалогіі розных этапаў («хваляў») нацыянальнага Адраджэння, становіцца відавочна: (сама)ідэнтыфікацыйныя «пытанні» нацыянальнай літаратуры і ў пачатку XXI стагоддзя скіраваныя на атрыманне агульназначных для культуры Беларусі «адказаў».

Пералік базавых міфаў пра літаратуру (якіх, на думку некаторых даследчыкаў, не вельмі многа, затое «міфалагічных варыянтаў і камбінацый — безліч» [2, с. 4]) у першае дзесяцігоддзе XXI стагоддзя дапоўніўся міфам пра непазбежнае забойства *«камп'ютарам»* (тут: сімвал інфармацыйнага грамадства) *«кнігі»* (тут: штандар мастацтва слова). Інакш кажучы, станаўленне інфармацыйнага грамадства прыхільнікамі і стваральнікамі найноўшай мастацкай славеснасці інтэрпрэтуецца як «пярэдадзень памірання» *сапраўднай* («высокай», «сур'ёзнай») літаратуры. Згаданая сітуацыя ў дачыненні да беларускай літаратуры ўскладняецца дадатковымі (адмыслова беларускімі) сацыякультурнымі «канатацыямі», звязанымі з глыбіннай (у пэўным сэнсе — іманентнай) канфліктнасцю самой сутнасці інфармацыйнага грамадства і спецыфікі гісторыка-культурнага развіцця нацыянальнай літаратурнай традыцыі.

Не маючы на мэце заглыбляцца ў нетры палемікі вакол размежавання канцэпцый постіндустрыяльнага і інфармацыйнага грамадства, заўважым, што ў якасці сутнаснай прыкметы апошняга ў розных дэфініцыях паўстае вызначальная роля інфармацыі / ведаў, якія з'яўляюцца ў дадзеным выпадку галоўнымі прадуктамі вытворчасці. Сутнасць інфарматызацыі ўсіх сфер грамадскага быцця ў найбольш агульным выглядзе можна акрэсліць як глабальную рацыяналізацыю ўсіх відаў чалавечай дзейнасці, закліканую забяспечыць максімальна поўнае выкарыстанне дакладных, вычарпальных і своечасовых ведаў чалавекам з «новым тыпам мыслення», што адпаведнае запатрабаванням сучаснага (інфармацыйнага) грамадства [4]. *Найноўшая рацыянальнасць*, якая сёння пазіцыянуецца як прынцып і адначасова мэта развіцця інфармацыйнага грамадства, пераважнай большасці беларускіх пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, крытыкаў (многія з якіх ёсць вернікамі інтэпрэтацыі не толькі паводле «службовага функцыяналу», але і паводле натуральнай — душэўнай — схільнасці) падаецца выключна неспрыяльным, нават агрэсіўным асяроддзем для далейшага развіцця нацыянальнага прыгожага пісьменства. Бо калі *рацыянальна* асэнсоўваць грамадска-палітычныя і культурныя ўмовы існавання беларускай літаратуры (хоць бы толькі ў XIX—XX стагоддзях), гісторыя яе бачыцца, так бы мовіць, «ірацыянальнай»; з пункта гледжання *найноўшай рацыянальнасці*, самой гэтай гісторыі не павінна было б быць. Тым не менш, у межах літаратурнага працэсу першага дзесяцігоддзя XXI стагоддзя паступова акрэсліваецца своеасаблівая («самаарганізаваная») стратэгія пераадолення згаданага вышэй крызісу ідэнтычнасці, галоўным вектарам якой становіцца рэміфалагізацыя *беларушчыны* як культуратворнага канцэпта нацыянальнага Міфа. Грунтам гэтай рэміфалагізацыі з'яўляецца маштабная *інтэпрэтацыя* ў літаратурна-мастацкіх хранатопах аўтараў розных пакаленняў і эстэтычных зацікаўленняў артэфактаў традыцыйнай і класічнай нацыянальнай культуры як феноменаў, актуальных для сацыякультурнай перспектывы.

Калі разглядаць беларускую літаратуру пачатку XXI стагоддзя як складанае цэлае (чыннікамі якога з'яўляюцца не толькі паэтычныя, празаічныя, драматычныя творы, эсэістыка, літаратурна-крытычныя публікацыі і літаратуразнаўчыя

даследаванні, але і калялітаратурныя падзеі, праекты, канфлікты, супрацьястаянні), то яе «канцэптавая тапаграфія» ў спецыфічнай праекцыі аднаўляе, *адраджае* адмысловую *контурную карту* актуальнай нацыянальнай культуры як культуры «аўтэнтычнай» (у процівагу «эрзацавай», «тыражаванай», «сімулякравай») ***беларушчыны***. Цікава, што раўназначнымі ў канцэптуальна-ўплывовым сэнсе сегментамі гэтай умоўнай «карты» ў літаратурнай прасторы апошніх дзвюх дзесяцігоддзяў паўстаюць рэчы надзвычай «рознафарматныя», нераўназначныя паводле эстэтычнай і мастацкай вартасці.

Спецыфіка беларускай сітуацыі заключаецца ў тым, што менавіта ў прасторы нацыянальнага Міфа сёння маецца найбольш рэальная магчымасць выразна «артыкуляваць» нацыянальную ідэю. І Ягамосць *Інтэпрэтацыя* з усіх прэтэндэнтаў на пераможцы ў тутэйшых канцэптуальна-(вы)творчых бітвах аказваецца самай увішнай, бо паўстае (як ні парадаксальна) ці не самай устойлівай платформай для выштукоўвання «рацыянальнага» бачання перспектыў нацыянальнага быцця. Абумоўлена тое не толькі спецыфічным «рэсурсным забеспячэннем» нашае літкумірні, але і адмысловым *традыцыяналізмам* нават самых радыкальна настроеных суб'ектаў найноўшага літаратурнага працэсу. Бо дагэтуль улюбёнай формай любога змагання (у тым ліку «канцэптуальнага», «вы(творчага)») ТУТ застаецца ***вайна інтэрпрэтацый*** як супраціў партызанскага кшталту. Вось і адносна сціплую прысутнасць беларускай літаратуры ў Сеціве можна вытлумачыць тым, што ў гэтай «пушчы» яе рупліўцы настолькі добра асвойталіся, што натуральным чынам здолелі прыстасаваць «нетры» адкрытай віртуальнай прасторы пад ідэальныя (для нашчадкаў колішніх партызан)... спраты. Словам, дзякуй Богу, Долі і новай інфармацыйнай рэальнасці: ***інтэрпрэтацый лесу*** хопіць не на адно пакаленне беларускіх літаратараў і нават калялітаратурных персанажаў.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Абушенко, В. Л. Идентичность / В. Л. Абушенко // Новейший философский словарь : 3-е изд., исправл.; сост. и главн. науч. ред. А. А. Грицанов. — Минск: Книжный Дом, 2003. — С. 402.
2. Андреев, А. Н. Теория литературы: в 2 частях / А. Н. Андреев. — Минск: «Издательство Гревцова», 2010. — Ч. 2: Художественное творчество. — 264 с.
3. Андреев, А. Н. Ценностно-смысловые ориентиры, подходы и принципы развития культуры личности в системе литературного образования: педагогический аспект / А. Н. Андреев // Образование и педагогическая наука: тр. Нац. ин-та образования. Сер. 1. Гуманитарное образование. Вып. 3. Подходы и принципы. — Минск: НИО, 2009. — С. 27—43.
4. Беляев, М. И. Информационные и коммуникационные технологии в современном открытом образовании / М. И. Беляев, Г. А. Краснова. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http//ido.edu.ru/open/ikt/3.htm/ — Дата доступу: 10.01.2008.
5. Лащенов, А. Н. Аналитика постиндустриального общества: от кибернетических к социологическим теориям / А. Н. Лащенов. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.jourssa.ru/2006/4/2aLashenov.pdf. — Дата доступу: 07.06.2011.
6. Литвак, Н. В. К вопросу о классификации концепций информационного общества / Н. В. Литвак. — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://ecsocman.edu.ru/data/2011/02/04/1214886001/Litvak_01.pdf. — Дата доступу: 07.06.2011.
7. Лукина, Н. П. Информационное общество: состояние и перспективы социально-философского исследования / Н. П. Лукина // Открытый междисциплинарный электронный журнал «Гуманитарная информатика». — [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://huminf.tsu.ru/e-jurnal/magazine/1/lukina.htm. — Дата доступу: 07.06.2011.
8. Можейко, М. А. Интерпретация / М. А. Можейко // Новейший философский словарь: 3-е изд., исправл.; сост. и главн. науч. ред. А. А. Грицанов. — Минск: Книжный Дом, 2003. — С. 427—429.
9. Сінькова, Л. Д. Тэрміны «паскоранасць», «паскоранае развіццё» ў апісаннях славянскіх і неславянскіх літаратур / Л. Д. Сінькова // Мовазнаўства. Літаратура. Культуралогія. Фалькларыстыка:

XIII Міжнар. з’езд славістаў (Любляна, 2003): Дакл. бел. дэлегацыі / НАН Беларусі. Беларускі камітэт славістаў. — Мінск : Бел. навука, 2003. — С. 388—399.

10. Современное зарубежное литературоведение (страны Западной Европы и США): концепции, школы, термины. Энциклопедический справочник; науч. ред. и сост. И. П. Ильин, Е. А. Цурганова. — М.: Интрада — ИНИОН, 1996. — 320 с.

11. Сурова, Е. Э. Идентичность, идентификация и идентификационные модели / Е. Э. Сурова // Весник Санкт-Петербургского университета. Сер. 6: Философия. Культурология. Политология. Право. Международные отношения. — 2008. — Вып. 3. — С. 56—67.

■

**Ірына ШАЎЛЯКОВА** (Шаўлякова-Барзенка; нарадзілася ў 1974 г.) — літаратуразнаўца, крытык, кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Скончыла аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ (1996), аспірантуру пры кафедры тэорыі літаратуры БДУ (1999); абараніла кандыдацкую дысертацыю па тэорыі метафары і сімвала (2001). Артыкулы і рэцэнзіі ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы пачалі з’яўляцца з пачатку 1990-х гг. Аўтар публікацый у газетах «Літаратура і Мастацтва», «Культура», часопісах «Дзеяслоў», «Маладосць», «Першацвет», «Полымя», «Всемирная литература», «Нёман» і інш. Асобныя літаратуразнаўчыя працы перакладаліся на польскую, англійскую, украінскую, аўстрыйскую мовы. Сфера навуковых інтарэсаў улучае даследаванне паэтыкі мастацкага твора ў гісторыка-генетычным і эвалюцыйным аспектах, вывучэнне тыпаў мастацкай свядомасці ў дынаміцы літаратурна-мастацкіх эпох, аналіз заканамернасцяў і тэндэнцый развіцця найноўшага літаратурнага працэсу. Аўтар кніг артыкулаў «Галерэі сноў» (1995), «Сентыментальнае паляванне» (2001), «Рэстаўрацыя шчырасці» (2005), «Сапраўдныя хронікі Поўні» (2011).



# Віктар ЖЫБУЛЬ

# У ГОРАДЗЕ САЛОДКІХ БЭРАЎ: СЛУЦКІ ПЕРЫЯД ЖЫЦЦЯ І ТВОРЧАСЦІ ПАЎЛЮКА ШУКАЙЛЫ

*— С-л-у-ц-а-к. Смачныя бяз меры*
*Тут расьлі калісьці бэры.*
*Тут спазнаўся юнаком*
*Я з Шукайлам Паўлюком.*
*Эх і голас! Эх і постаць!*
*Ён узор клясычны даў нам…*
*Часам можна палкай тоўстай*
*Пракладаць дарогу к лаўрам*[1].

Так казаў Хвядос Чырвоны Нос у аднайменнай паэме Кандрата Крапівы. Калі ўявіць сабе, што крапівоўскі персанаж жыў насамрэч, то пазнаёміцца з Паўлюком Шукайлам ён меў магчымасць паміж траўнем/чэрвенем 1925 — лютым 1926 г. Менавіта ў гэты перыяд Шукайла жыў у Слуцку і менавіта тут ён пачаў «пракладаць дарогу к лаўрам»,

[1] Крапіва К. Хвядос Чырвоны Нос: Казка. Менск: ДВБ, 1931. С. 66. У пазнейшых перавыданнях, у тым ліку і ў апошнім Зборы твораў К. Крапівы, згадкі пра некаторых рэпрэсаваных пісьменнікаў, улучна з П. Шукайлам, былі прыбраны, а самі героі паэмы асуджаны на доўгае забыццё. Тут і далей цытаты прыводзяцца згодна з правапісам арыгінала.

разгарнуўшы сваю літаратурную, рэдактарскую і арганізатарскую дзейнасць. Тут ён займеў і свой запамінальны й непаўторны імідж «беларускага футурыста».

Яшчэ ў 1924 г. у Чырвонай Слабадзе Паўлюк Шукайла пазнаёміўся з выпускніком сямігодкі Янкам Будзькам (дарэчы, школьным сябрам Максіма Лужаніна), які тады не здолеў паступіць у Менскі педтэхнікум і рыхтаваўся штурмаваць шлях да навукі ў наступным годзе. Янка захапляўся творчасцю Якуба Коласа і сам спрабаваў пісаць вершы. Праз пяцьдзясят гадоў, у лісце да Максіма Лужаніна, Янка Будзька пісаў пра сябе як пра сузаснавальніка філіі і ўзгадваў, як разам з Шукайлам «прымаў таго ж Янку Відука ў члены»[2].

Удакладнім: філіі як такой на той момант яшчэ афіцыйна не было, яна існавала толькі ў зародку, а былы студэнт Слуцкага сельскагаспадарчага тэхнікума Янка Скрыган, які даслаў на пачатку вясны 1925 г. свае вершы ў рэдакцыю «Вясковага будаўніка», Відуком яшчэ не зваўся. *«Мабыць, памятаючы ўсё таго ж Байрана, я выбраў сабе страшнае прозвішча — Пірат»*[3], — напісаў потым ён. Менавіта пад такім псеўданімам Я. Скрыган і друкаваўся цягам вясны — лета 1925 г. Зацікавіўшыся новым паэтам, Шукайла прызначыў яму сустрэчу ў рэдакцыі, куды прыйшоў разам з Будзькам. На суразмоўцаў Скрыган зрабіў такое добрае ўражанне, што яму адразу ж — вядома, па пратэкцыі Шукайлы — прапанавалі ў газеце працу. З таго часу Паўлюк Шукайла і Янка Скрыган моцна пасябравалі і захоўвалі самыя прыязныя пачуцці, ажно пакуль сталінскія рэпрэсіі не пазбавілі аднаго з іх жыцця, а другога — волі...

Адчуўшы ў асобах Будзькі і Скрыгана падтрымку, а галоўнае — упэўненасць, што актыўныя творчыя сілы на Случчыне сапраўды ёсць, 16 траўня 1925 г. Паўлюк Шукайла з радасцю дакладаў Цэнтральнаму Бюро «Маладняка»: *«У нашай вакрузе заложаны хвундамэнт двох філіяў. Адна з іх у Чырвонай Слабадзе (гэта там, дзе я працую) і налічвае ў сабе пяць сяброў, з іх сяброў партыі — два, камсамольцаў два, і адзін бязпартыйны пісьменьнік — празаік стары дзед 65 гадоў, сябра РВК і АКРУГ. ВК* [так у арыгінале — ***В. Ж.***], *быў дэлегатам на усебеларускім зьездзе саветаў, вельмі цікавы чалавек;*

*2) у Слуцку: пяць асоб, з якіх большасьць партэйцаў і камсамольцаў»*[4].

Ахоплены арганізацыйным энтузіязмам, Шукайла спадзяваўся ўжо ў вельмі хуткім часе[5] выдаць друкаваны двухтыднёвы орган філіі (газету) пад назваю «Слуцкі маладняк», хоць Цэнтральнае Бюро літаратурнай арганізацыі яшчэ нават не паспела даць на гэта згоду. Мала таго: у планах Шукайлы было і выданне «маладнякоўскага трохмесячніка» (г. зн. даволі ёмістага часопіса), і ён ужо дамовіўся пра гэта ў належных установах (Акругкаме КПБ і КСМ). Але на справе твораў патрэбнай колькасці й якасці на часопіс не набіралася, а выданне газеты давялося адкласці.

3 чэрвеня 1925 г. Шукайла апублікаваў у «Вясковым будаўніку» «Аглашэньне», у якім паведамляў пра адкрыццё ў Слуцку філіі (секцыі) «Маладняка» і запрашаў «усіх пісьменнікаў і паэтаў Слуцкай вакругі» да супрацоўніцтва. Тыя не прымусілі доўга чакаць, і неўзабаве творчы актыў філіі быў сабраны.

Паводле «Дакладной пісулькі» П. Шукайлы ў ЦБ «Маладняка», па стане на 1-га верасня 1925 г. у склад Слуцкай філіі «Маладняка» ўваходзілі пяць сяброў: Паўлюк Шукайла, Язэп Сукала, Янка Скрыган (Пірат), Апанас Атава, Іда Чырвань, і сем кандыдатаў у сябры, з якіх чацвёра [Янка Будзька, Максім Жук, Мікола Чарнушэвіч і Янка Красуцкі (Крыніца)] пісалі пабеларуску і трое (Лейба Шулякоўскі, С. (Серафім?) Баранаў-Чыжэўскі і Пятрук Стралкоўскі) — па-руску[6]. Гэта былі пераважна маладыя людзі 17—25 гадоў. Найстарэйшаму —

---

[2] Тамсама. Ф. 140, воп. 2, адз. зах. 181, арк. 2 адв. (ліст Я. Будзькі да М. Лужаніна ад 7.10.1976 г.).

[3] Скрыган Я. Выбраныя творы. Мінск: Бел. кнігазбор, 2005. С. 55.

[4] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 3 («Дакладная пісулька» ўпаўнаважанага па Слуцкай акрузе П. З. Шукайлы ў ЦБ «Маладняка» ад 16.05.1925).

[5] Тамсама. У П. Шукайлы: *«...і 18[-га] мабыць выйдзе ўжо першы нумар»*, але без удакладнення, у якім месяцы гэта мае адбыцца.

[6] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 6 («Дакладная пісулька» П. Шукайлы аб становішчы ў Слуцкай філіі Усебеларускага аб'ядання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» на 1-е верасня 1925 г.).

Максіму Аляксеевічу Жуку — было не 65 гадоў (як пісаў у лістах Паўлюк Шукайла), а «ўсяго» 59, аднак сярод моладзі ён сапраўды выглядаў «старым дзедам».

Адзін з кандыдатаў Слуцкай філіі «Маладняка» — Мікола Чарнушэвіч *(«Сябра КПБ і ЛКСМБ. Селянін. У сучасны момант працуе ў Капыльскім РВК. Від творчасьці — верш»)*[7] — узяў сабе пазней псеўданім Хведаровіч і стаў вядомым паэтам і перакладчыкам. З Паўлюком Шукайлам Хведаровіча пазнаёміў Рыгор Мурашка, на той момант празаік-пачатковец, на першым з'ездзе рабселькораў Случчыны (1925). Вось як прыгадвае тую сустрэчу сам Хведаровіч у кнізе ўспамінаў «Памятныя сустрэчы»:

*«Перад пачаткам пасяджэнняў з'езду па зале прайшоў каржакаваты, добра апрануты хлапец у беларускай вышыванай кашулі, падпяразаны шырокім саматканым поясам. Пышная шавялюра, акуратна зачэсаная на патыліцу, аж кранала плячукоў, а шырокі з кірпатым носам твар выяўляў нейкую скептычную насцярожанасць.*

*— Вунь, бачыш, — штурхнуў мяне пад бок Рыгор Мурашка, — гэта той самы Паўлюк Шукайла. Ён і з'яўляецца рэдактарам і ўжо вядомы на Случчыне як здольны паэт. Яго вершы часта друкуюцца ў газеце. А той вунь хударлявы хлапчук з вясёленькімі вочкамі, што разам ходзіць з ім, дык гэта ж наш слуцкі паэт Янка Відук.*

*У перапынках паміж пасяджэннямі мне ўдалося пазнаёміцца з Паўлюком Шукайлам. Ён аказаўся вельмі ўважлівым і простым чалавекам. Я прызнаўся яму, што сам пішу вершы, але пакуль што яшчэ іх нікуды не падаваў. Шукайла прасіў заходзіць да яго, абяцаў пазнаёміць з пісьменнікамі Слуцкай філіі «Маладняк». Але на другі ж дзень пасля сканчэння з'езду рабселькораў я быў выкліканы Слуцкім угаркомам камсамола і накіраваны на рэспубліканскія палітасветныя курсы ў Мінск»*[8]].

[7] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 6 («Дакладная пісулька» П. Шукайлы аб становішчы ў Слуцкай філіі Усебеларускага аб'ядання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» на 1-е верасня 1925 г.).

[8] Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы. Выд. 2-е, дап. Мінск: Вучпедвыд БССР, 1963. С. 245. Гэтае выданне ўспамінаў М. Хведаровіча — найбольш поўнае. У 1-м (1960) і 3-м (1977) выданнях «Памятных сустрэчаў» многія фрагменты, у тым ліку і згадкі пра П. Шукайлу, адсутнічаюць.



Увайшоў П. Шукайла і ў аўтабіяграфічную аповесць М. Хведаровіча «Споведзь перад будучыняй» (1978), у якой аўтар абыходзіцца з жыццёвымі фактамі больш вольна, аддаючы перавагу мастацкай умоўнасці. Таму імёны і прозвішчы рэальных асобаў там зменены: Паўлюк Шукайла выведзены тут як «паэт, рэдактар павятовай газеты «Будаўнік» Пятрук Шукальнік», Янка Відук — як Янук Макавей (паводле асацыяцыі: відук — дзікарослы мак, мак-самасейка), Рыгор Мурашка — як Лёша Арцішок, пад Балотным трэба разумець Апанаса Атаву альбо Язэпа Сукалу. Самога сябе аўтар прадставіў як маладога драматурга і паэта, а сваё знаёмства з Шукайлам перанёс на літаратурную вечарыну ў партыйным клубе. І тым не менш, нягледзячы на ўсе змены ў імёнах, а таксама ў паслядоўнасці падзей, для чалавека, абазнанага ў літаратурным працэсе 1920-х гг. гэтыя персанажы з'яўляюцца пазнавальнымі, а атмасфера літаратурнага Слуцка выведзена аўтарам ярка і дакладна. Вось як апісваецца ў аповесці Пятрук Шукальнік, то бок Паўлюк Шукайла:

*«Шукальнік падаў мне вельмі гладкую і цёплую руку і, як мне здалося, зацікавіўся маёй асобай, бо ветліва запрашаў прыходзіць у рэдакцыю і, не саромячыся, прыносіць свае творы. Зблізку я выразней разгледзеў яго скептычны твар. З вузкіх шчылін прыплюснутых павек пазіралі вельмі насмешлівыя і самаўпэўненыя вочы. Статную яго постаць яшчэ выразней вызначаў яго добры гарнітур. З-пад капелюша вытыркаліся светлыя пасмы, на чаравікі надзеты былі зусім новыя бліскучыя галёшы»*[9].

Неўзабаве пасля стварэння філіі, як быццам з пачуццём выкананага абавязку Шукайла пайшоў у адпачынак, а заадно з'ездзіў у Менск вырашыць арганізацыйныя маладнякоўскія пытанні[10]. У «Маладняку», напэўна, адказалі, што стварэнне адразу дзвюх філій у адным рэгіёне (Слуцкай і Чырвонаслабодскай) — гэта зашмат і параілі аб'яднаць іх у адну. Не далі дазвол і на выданне «маладнякоўскага трохмесячніка». А вось рабіць літаратурную старонку

[9] Хведаровіч М. Споведзь перад будучыняй: Аповесць. Мінск: Маст. літ., 1978. С. 226.

[10] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, спр. 12, арк. 3 («Дакладная пісулька» ўпаўнаважанага па Слуцкай вакрузе П. З. Шукайлы ў ЦБ «Маладняка» ад 16.05.1925).

ў «Вясковым будаўніку» дазволілі, афіцыйна прызначыўшы Шукайлу адказным рэдактарам газеты — разам з напарнікам Чарнікевічам.

Пра актыўную дзейнасць Слуцкай філіі і яе нястомнага кіраўніка мы даведваемся найперш з лістоў Паўлюка Шукайлы ў Цэнтральнае Бюро «Маладняка» і рэгулярных абвяшчэнняў у газеце «Вясковы будаўнік» за 1925 год. Так, напрыклад, філія рыхтавала да друку свой калектыўны зборнік, выпускала літаратурныя старонкі ў «Вясковым будаўніку», праводзіла студыйныя заняткі, збіралася арганізаваць шэраг імпрэзаў з удзелам як саміх случчакоў, так і гасцей з Менска: пісьменнікаў У. Дубоўкі, Я. Пушчы, К. Чорнага, А. Бабарэкі, актораў трупы Беларускага дзяржаўнага тэатра пад кіраўніцтвам Е. Міровіча...




Дом культуры, у якім адбываліся найбольш буйныя і ўрачыстыя вечарыны Слуцкай філіі «Маладняка», размяшчаўся ў будынку былога камерцыйнага вучылішча, адноўленым у 1924 г. — праз чатыры гады пасля спалення польскім войскам падчас адступлення. У 1920-х гг. гэта было самае высокае збудаванне ў Слуцку. Акрамя Дома культуры, тут месціліся школа-сямігодка і камітэты прафсаюзаў. Будынак захаваўся да нашых дзён — цяпер яго займае адзін з цэхаў кансервавага завода (вул. Леніна, 104).

Галоўным цвікам праграмы на вечарынах быў, безумоўна, сам Паўлюк Шукайла. Ён адразу кідаўся ў вочы сваёй высокай постаццю і каларытнай знешнасцю. І хоць часта ягоныя вершы былі далёкія ад дасканаласці, паэт з уласцівым яму артыстызмам умеў паднесці іх публіцы. *«На сцэну выходзіў малады, шыракаплечы дзядзька ў беларускай вышыванай кашулі. Яму было тады ўсяго 20 год, але ён выглядаў значна старэйшым. Ільвіная грыва русых валос надавала шырокаму твару мужнасць і паважнасць. Сваім паэтычным выглядам і мастацкім чытаннем Паўлюк Шукайла прыцягваў увагу аўдыторыі. Ён умеў дэкламаваць і драматызаваным голасам перадаваў пачуццёвы настрой прысутным. Ягонае выступленне заўсёды суправаджалася бурнымі воплескамі. Тэматыка ягоных вершаў была рэвалюцыйнай. Ён пісаў пра змаганне з польскімі панамі, пра гераізм у Заходняй Беларусі. Аўтар пісаў тое, што было асабіста ім перажытае»*[11], — прыгадваў паэт Рыгор Крушына (Казак).

А вось як атмасфера вечарынаў Слуцкай філіі «Маладняка» перададзена ў «Споведзі перад будучыняй» М. Хведаровіча — нагадаем, што імёны і прозвішчы ўдзельнікаў гэтых падзей у творы зменены:

*«Калі ўжо сядзелі ў зале і аглядалі публіку, шукаючы знаёмых, па шырокім праходзе прайшоў вельмі важны чалавек у капелюшы, з-пад якога вытыркаліся русыя патлы валасоў. У адной руцэ ён трымаў вялікі жоўты партфель, які мне давялося ўбачыць упершыню ў жыцці, другою рукою ён абапіраўся на тоўстую «крамную» палку. Скептычна азірнуўшы перапоўненую залу, адхінуўшы ражок заслоны, палез на сцэну.*

*[...]*

*Раптам паднялася заслона, і мы ўбачылі на сцэне Петрука Шукальніка ў суправаджэнні двух увішных хлапцоў. Адзін з іх, які назваўся Януком Макавеем, абвясціў, што пачынаецца літаратурнае выступленне, і слова для прамовы і чытання сваіх паэм перадаў кіраўніку літаратурнага аб'яднання Петруку Шукальніку. Цяпер я ўжо не толькі ўбачыў сапраўднага паэта, а нават пачуў яго голас. Больш за ўсё мне спадабалася, што ён гаварыў на роднай мове. Расказаўшы, што пры павятовай газеце працуе аб'яднанне пралетарскіх пісьменнікаў, ён пералічыў з паўдзясятка зусім невядомых нам імён і адзначыў як самага таленавітага Янука Макавея. Ён казаў, што пралетарскія паэты змагаюцца за новую літаратуру і ўсё старасвецкае шкумаццё будуць вымятаць са сваіх шэрагаў*[12].

У вусны Петрука Шукальніка М. Хведаровіч уклаў некалькі аўтарскіх вершаваных стылізацый, якія сэнсава і інтанацыйна перагукаюцца з вершамі Паўлюка Шукайлы, напрыклад: *«Не будзе, не будзе спагады / таму, хто кіне ў нас камень. / Яго мы — пачварнага гада — / задушым сваімі рукамі. / / І пойдзем шукаць сваю долю, / а песня нас клікаць будзе. / за турмы, за здзек у няволі / я нож усаджу яму ў грудзі...»*[13]




[11] Крушына Р. Выбраныя творы. Мінск: Бел. кнігазбор, 2005. С. 298—299.

[12] Хведаровіч М. Споведзь перад будучыняй... С. 224—225.

[13] Хведаровіч М. Споведзь перад будучыняй... С. 248—249.

Трапна перададзены і стыль, манера чытання, а таксама ўражанне, якое Шукайла рабіў на публіку:

*Шумела і апладзіравала зала. Слухачы патрабавалі, каб яшчэ чытаў Шукальнік. Праўда, ён не вельмі адмаўляўся. І, калі сціхлі апладысменты, абвясціў, што будзе чытаць урыўкі з новай паэмы «Буду трушчыць галовы».*

*Адразу стала ціха. І ў гэтай цішыні асабліва востра прагучалі словы паэта:*

*Панове! Вы — каты, вы — каты!*
*Мае вас палохаюць словы?*
*Як выйдзем на волю з-за кратаў,*
*Пачнем вам трушчыць галовы!..*

*Пажылая жанчына, настаўніца, якая сядзела побач са мною, перапалохана шаптала сваёй сяброўцы:*

*— Ну, гэта ўжо занадта, занадта...*

*Доўга яшчэ не змаўкалі апладысменты, так моцна ўздзейнічалі на прысутных вершы Шукальніка»*[14].

Ян Скрыган прыгадваў: *«Паўлюк Шукайла быў чалавек агнявой натуры, добрага шчырага сэрца, партызанскай зухаватасці і бунтарства. І ў вершах ён прызнаваў толькі бунт і таму адразу пачаў кіраваць нас на футурызм. Мы ў ім не разбіраліся, але Шукайлава энергія перадавалася і нам, і мы выпіналіся як маглі, каб толькі папасці ў той футурызм»*[15]. Што з гэтага атрымалася — можна меркаваць па публікацыях слуцкіх маладнякоўцаў у «Вясковым будаўніку», а таксама на яе старонцы-дадатку, якую планавалася зрабіць перыядычнаю. Упершыню такая старонка пад назваю «Літаратурны маладняк Случчыны» з'явілася ў газеце 10 ліпеня 1925 г. Усяго ўбачылі свет тры выпускі старонкі: другі (пад назвай «Рабоча-сялянская літаратурная творчасць») выйшаў 24 ліпеня, а трэці — толькі 31 кастрычніка. Такі досыць працяглы перапынак паміж выпускамі можна патлумачыць часткова загружанасцю Паўлюка Шукайлы арганізацыйнай працай, а часткова яго перабываннем у адпачынку. Для ўсіх слуцкіх маладнякоўцаў «Вясковы будаўнік» стаў сапраўднай літаратурнай стартавай пляцоўкай. Нягледзячы на «футурыстычную ўстаноўку» кіраўніка філіі, тэматычны і стылістычны дыяпазон твораў, што друкаваліся на літстаронцы слуцкага «Маладняка», мала чым адрозніваўся ад творчасці шараговых удзельнікаў іншых філій, якія толькі нядаўна ўзяліся за пяро. Мы знойдзем тут апяванне вясковай працы, вершаваныя прысвячэнні памежнікам, вяскорам, піянерам, паднявольным жыхарам Заходняе Беларусі, а таксама самому «Маладняку». Друкаваліся і творы сатырычнага зместу, скіраваныя супраць вясковых знахарак-шаптух, хлуслівых і ахвочых да хабару царкоўных служкаў. Карацей, што заўгодна, толькі не футурызм, мастацкая практыка якога прадугледжвала адмаўленне класічных традыцый культуры, апалогію тэхнікі і ўрбанізму, радыкальнае абнаўленне паэтычнай мовы. Аднак пра якое абнаўленне можа ісці гаворка, калі аўтары — уключаючы самога кіраўніка філіі (рэдактара газеты!) — па прычыне недахопу элементарнай адукацыі нярэдка грашылі моўнымі неахайнасцямі, непісьменнымі абаротамі? Для гэтых пераважна вясковых паэтаў было актуальнейшым пытанне не абнаўлення мовы, а якога-кольвек больш-менш прыстойнага засваення яе. І натуральна, маючы невялічкі багаж прачытаных твораў і зусім не футурыстычныя літаратурныя прыхільнасці, спасцігнуць «з налёту» цэлы авангардысцкі кірунак, як гэтага хацеў Шукайла, яны не маглі.

Вось што, напрыклад, пісаў пра сябе Апанас Атава ў лісьце ў ЦБ «Маладняка» незадоўга да прыняцця ў Слуцкую філію: *«Я селянін з вёскі Невязцаў на Случчыне, ад нараджэньня мне 22 гады. З сярэдняю асьветаю, кончыў у 1921 г. у Слуцку школу ІІ-ой ступені. Жыву на гаспадарцы, бацька мае 9 S дзес. зямлі — серадняк. Самаадукацыяй займацца мне нельга, акрамя таго што няма даволі свабоднага часу, дык ня маю магчымасьці вылічыць, што колечы, на выпіску газэт і часопісаў. Змог выпісаць дзьве самыя танныя газэты: «Малады Араты» і «Крестьянскую газету». З беларускай моваю пазнаёміўся ў часы вучэньня ў Слуцкім беларускім гуртку «Папараць-кветка», а далей праз выпатковае чытаньне, дзе нарвуся, беларускіх газэтаў. З сучаснае літэратуры чытаў толькі «Полымя» № 7-8 і чатыры нумары дадаткаў да «М[аладога]*

[14] Тамсама.

[15] Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 55.

*А[ратага]» «Камсамольскага вечара». З вялікаю ахвотаю вершы і апавяданьні пачаў пісаць з зусім маладых гадоў, але незнаёмства заўсягды з сучаснаю літэратураю, напрамкамі і матывамі, не давала мне магчымасьці выступаць на літэратурным шляху»*[16].

Яна Скрыгана (Пірата, Відука) да ўласнай творчасці падштурхнулі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Змітрака Бядулі, знойдзеныя «на рынку, у будачнікаў». *«Праз іх я ўбачыў народ куды глыбей, і ў душы варушылася патрэба самому гаварыць. Я пачаў шукаць паэтычнага слова»*[17], — прыгадваў пісьменнік. У той час захапляўся ён і творамі вялікага ангельскага паэта-рамантыка Джорджа Байрана. «Вялікі, у добрай абкладцы том з «Парызінай», «Абідоскай нявестай», «Яўрэйскімі мелодыямі», «Аблогай Карынфа», «Чайльд-Гарольдам»» быў маладому беларусу па душы «настроямі бунту і расчаравання»[18].

Янка Будзька сярод прачытаных ім на той момант аўтараў называў класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, рэвалюцыйнага рамантыка Міхася Чарота, маладнякоўскага тэарэтыка Адама Бабарэку, пралетарскага байкапісца Дзям'яна Беднага, камсамольскага паэта-песенніка Аляксандра Жарава, французскага раманіста Аляксандра Дзюма і аўтара «Дон Кіхота» Мігеля дэ Сэрвантэса[19]. Такое ўражанне, што Будзька проста чытаў усё, што траплялася яму на вочы.

А вось як пра свой шлях у літаратуру распавядала Іда Чырвань:

*«Калі мне йшоў адзінаццаты год, я задалася мэтай прачытаць усе творы Льва Талстога, сачыненьне якога поўнасьцю было ў бацькавай бібліятэцы. Я чула, як бацька абзываўся аб ім з сур'ёзнай пашанай і бралася яго чытаць з нейкім таемным страхам. З дзяцінства я ніколі не кідала вызначанай сабе мэты, а праца, якую я сабе задала, была надта цяжкай для адзінаццацігадовай галавы, і пагэтаму, прачытаўшы творы Талстога, я кінулась у бок лёгкай літаратуры і прачытала бязьлікавую колькасьць раманаў, не разьбіраючыся ў іх якасьці. Дзякуючы нэрвовай зморанасьці і напружанасьці зьмест гэтых раманаў не затрымліваўся ў маёй галаве. [...]*

*З расейскіх паэтаў мне больш заўсяго падабаюцца цвёрдыя як абрубленыя словы Маякоўскага, усюды брыжжушчый лірызм Есеніна (праўда, прыходзіцца згадзіцца з тым, што ён не заўсёды здаровы). З празаікаў Пільняк — за асабістае абмалёўваньне прыроды.*

*З беларускіх пісьменьнікаў — проза Зарэцкага і Бабарэкі за псіхолёгічную вытрыманасьць гэрояў. Вершы Пушчы за мілагучны лірызм, вершы Дудара за бадзёры ўздым і сьмелы пагляд уперад»*[20].

У параўнанні з іншымі слуцкімі маладнякоўцамі, у Іды Чырвань былі бадай найбольшыя шанцы захапіцца футурызмам — ёй, прынамсі, падабаўся Маякоўскі. Свае вершы яна напаўняла вобразамі (дакладней сказаць, штампамі) рабочай паэзіі. Напэўна, менавіта дэкларацыйная прывязка да гарадской тэматыкі *(«Творчасьці напрамкі — / Пах з заводаў гары. / Маладняцкі рамкі — / Молата удары»*[21]*)* і стала прычынай таго, што Паўлюк Шукайла як рэдактар зрабіў усё магчымае, каб прасунуць падобныя слабыя творы ў друк. Абы было «як у людзей», то бок у модных гарадскіх паэтаў.

Робіцца абсалютна зразумелым, чаму слуцкіх маладнякоўцаў так цяжка было «скіраваць на футурызм». Парадокс, але менавіта Відук, Атава і Сукала разам з Шукайлам склалі потым касцяк «Беларускай Літаратурна-Мастацкай Камуны».

Трэба сказаць, што і сам Паўлюк Шукайла «адчуў сябе футурыстам» не адразу. У анкеце «Маладняка», запоўненай 6 чэрвеня 1925 г., сярод прачытаных заходнееўрапейскіх пісьменнікаў ён назваў празаіка Кнута Гамсуна, драматургаў Жана Батыста Мальера, Генрыка Ібсэна, Герхарта Гаўптмана. На пытанне «Ці чыталі Вы творы з расійскіх суч[асных]

[16] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 19, арк. 13 — 13 адв. (ліст А. Атавы ў ЦБ «Маладняка», [травень 1925 г.] Да ліста прыкладзены 6 вершаў («Сёе-тое», «Шчырае прывітаньне», «Вяскорам», «Праўдзівае», «Іду з жніва...», «Ўсталі баюць») і 2 апавяданні («На мяцежнай вясковай вуліцы», «Праўда дзеда Максіма»)).

[17] Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 51.

[18] Тамсама. С. 52.

[19] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 9 (Адказы Я. Будзькі на анкету «Маладняка» ад 14.06.1925 г.).

[20] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 9, арк. 69 адв. — 70, 72 («Характарыстыка Іды Чырвань»: [Аўтабіяграфія]).

[21] Чырвань, І. Маладняку: [Верш] // Вясковы будаўнік. 1925. 31 кастр. С. 2.

пісьменьнікаў?» Шукайла адказаў даволі скептычна: *«Чытаў, але мала, і нічога новага і вельмі цэннага не знайшоў»*, а наконт беларускіх аўтараў лаканічна зазначыў: *«Усіх патроху»*[22]. Ніводны футурыст, нават Маякоўскі, у адказах на гэтую анкету не згадваецца. Што гэта — знарочыстае імкненне адмежавацца ад расейскага ўплыву, каб адвесці ад сябе магчымыя абвінавачанні ў эпігонстве? Ці футурызм тады яшчэ сапраўды не займаў такога вялікага месца ў творчай свядомасці Паўлюка Шукайлы? А між тым пазнаёміцца з гэтым кірункам, як і са здабыткамі расійскай літаратуры ўвогуле, ён мог яшчэ ў часы навучання ў калужскай гімназіі, калі жыў у эвакуацыі (1915—1920).

Мяркуючы па публікацыях, на момант запаўнення анкеты паэт пісаў яшчэ ў традыцыйнай, амаль нашаніўскай стылістыцы, напаўняючы свае вершы пафасам рэвалюцыйнай барацьбы: *«Даволі стагнаньня, / Даволі няволі, / Пара да змаганьня, / Да лепшае долі! / На пана працуем — / Крывавая праца. / Нам турмы будуюць, / Сабе — палацы»* («Братам-беларусам»)[23]. Такой самай лозунгавасцю, публіцыстычнай рыторыкай і сацыяльна-класавай завостранасцю вызначаюцца і іншыя вершы П. Шукайлы, напісаныя на заходнебеларускую тэматыку і апублікаваныя ў чэрвені-ліпені 1925 г.: «Чуй, Беларусь», «Тым, што ў няволі», «Эх, песьні мае...». Яны маюць даволі вучнёўскі характар — казаць пра сфармаванасць індывідуальнага стылю паэта яшчэ рана. Асобныя творы сваёй стылістыкай нагадваюць подпісы да агітплакатаў: *«Пайшлі сусьлікі па полі / Шчыпаюць калосься, / Самалёт ляціць паволі, / Травіць іх... вось вам!»*[24]

Разам з тым, пачынаючы з ліпеня 1925 г., некаторыя вершы Паўлюка Шукайлы сваёй графічнай формай набываюць нейкае падабенства «лесвічкі». Але гэтае падабенства даволі прыблізнае. Як вядома, вынаходнік «лесвічкі» Уладзімір Маякоўскі адаптаваў графічную форму ўласных вершаў пад разгорнутасць сваіх насычаных эмацыйнымі метафарамі радкоў. Шукайла ж ужываў куды больш сціплыя, часам нават мінімалістычныя сродкі, і выкарыстанне «лесвічкі» — вузкай, нібыта «сціснутай» — мела для яго перадусім эксперыментальны характар:

*Кроў бяжыць*
*льецца*
*цячэ з ран...*
*Моцна сэрца б'ецца.*
*А страляе пан...*

*Тук адна...*
*Тук другая...*
*Трэцяя*
*Седзьмая...*
*Куля ў грудзі.*
*Утрох бягуць...*
*Бачце людзі!..*
. . . . . . . . . . . . .
*У вачох вагонь.*
*Штось зьвязала рукі...*
*Чую звон...*
*Ах!.. кайданы...*
*Мукі...*

*Цягнуць, вядуць...*
*Гараць грудзі,*
*Не магу сапнуць.*
*Бачце, людзі!*

*Кроў бяжыць...*
*Льецца...*
*Цячэ з ран...*
*Моцна сэрца б'ецца —*
*А ўсё страляе пан*[25].

Гэты верш пабудаваны па законах хутчэй кінематаграфіі, чым паэзіі: фрагментарнасць, кароткія адрывістыя сказы, беглыя штрыхі ў абмалёўцы дэталяў, хуткая змена дзеянняў выклікаюць асацыяцыі з мантажом кадраў у кінафільме батальнага жанру.

Падобна, што ў той час Шукайла сам толькі-толькі пачаў знаёміцца з творчасцю футурыстаў (а хутчэй — лефаўцаў), у якой яго прывабілі рэвалюцыйная тэматыка вершаў, бунтарскі дух, разняволенасць паэтычнага радка, эксперыменты з формай... Яшчэ не паспеўшы да канца спасцігнуць сутнасць лефаўскай паэтыкі, ён пабачыў у ёй ідэальную форму для мастацкага выказвання пратэсту. Для яго

[22] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 8 (Адказы П. Шукайлы на анкету «Маладняка» ад 06.06.1925 г.).

[23] Шукайла П. Братам-беларусам: [Верш] // Маладыя араты. 1925. № 5. С. 4.

[24] П. Ш. Авіяхімскае...: [Вершы] // Вясковы будаўнік. 1925. 10 ліп. С. 2.

[25] Шукайла П. На вуліцах Варшавы: [Верш] // Вясковы будаўнік. 1925. 31 ліп. С. 1.

гэта быў найперш пратэст супраць сацыяльнай несправядлівасці ў Заходняй Беларусі, а заадно і супраць капіталістычнай улады ўвогуле. Авангардысцкая паэтыка была новай для лідара слуцкіх маладнякоўцаў, і засваенне яе праходзіла павольна і з цяжкасцямі — на гэтым шляху ў Шукайлы было болей няўдачаў, чым поспехаў. Але брак эстэтычнай дасканаласці сваіх вершаў ён імкнуўся кампенсаваць за кошт артыстычнай выканальніцкай манеры і знешняга эфектнага іміджу. Ужо ў вельмі хуткім часе, як мінімум у верасні, ён абвясціў сябе «правадыром новай плыні ў маштабе ўсяго «Маладняка»», скіроўваючы, хоць і амаль беспаспяхова, на шлях футурызму і іншых сяброў Слуцкай філіі. Даводзячы «футурыстычнасць» случчакоў прадстаўнікам іншых філій, а таксама пісьменнікам са сталіцы, Шукайла па сутнасці выдаваў жаданае за спраўджанае, але ўжо толькі гэтым уздымаў праблему эстэтычнай разнастайнасці беларускай літаратуры. Ён вельмі марыў пра стварэнне футурыстычнай школы ў беларускай паэзіі і першым полем для гэтага эксперыменту бачыў Случчыну. Сваю мастацкую пазіцыю ён дэкляраваў пераважна ў вуснай форме: ніякіх згадак пра футурызм ні ў ліставанні з Цэнтральным Бюро «Маладняка», ні ў газетных спавешчаннях Шукайлы мы не знаходзім. Іх паэт цалкам вытрымліваў у адпаведнасці з тагачаснымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі, кажучы пра «будаванне пралетарскай культуры» — без усялякага ўдакладнення, якімі менавіта эстэтычнымі сродкамі ён лічыць патрэбным гэта ажыццяўляць: адлюстроўваць думкі й памкненні рабочага класу можна па-футурыстычнаму радыкальна, а можна і ў даўно сфармаваных рэалістычна-рамантычных традыцыях. Наконт гэтага трэба заначыць, што базу «пралетарскай культуры» Шукайла грунтаваў усё ж найперш на авангардысцкіх пастулатах, у прыватнасці, такіх як антытрадыцыяналізм — сцвярджэнне новай эстэтыкі насуперак старой: *«Патрэбавалась не «Тарас на парнасе», а песьня буры, кніга жыцьця, партрэт рэвалюцыі. [...] Ня сум народнікаў, а песьня шчасьця прадвесьнік міжнароднай рэвалюцыі — дню помсты буржуазеі за тыя зьдзекі, якія яна ўчыняе над працоўнымі, гучаць у Маладнякоўцаў»*[26]. Як і многія іншыя літаратары яго пакаленьня, Шукайла быў перакананы, што *«беларуская культура можа быць адбудавана толькі шчырымі сынамі працоўнага народу пад чырвоным сьцягам сусьветнага кастрычніка»*[27]. Відавочна, што паэзію ён тады разумеў у вялікай ступені як зброю, якую можна было б скіраваць на барацьбу з панамі, капіталістамі, прыгнятальнікамі заходнебеларускага сялянства.

Але не толькі публіцыстыка складала тагачасны паэтычны арсенал Паўлюка Шукайлы. Звяртаўся ён і да больш асабістай, інтымнай лірыкі, якую крыху пазней прадставіў у калектыўным зборніку «Слуцкія песьняры» (1926). Паэт апублікаваў там вершы «Расьцьвіло», «Думкі асеньнія», «Песьня жаўра» і «Думкі аб бацькаўшчыне». Возьмем верш «Песьня жаўра», датаваны 23 кастрычніка 1925 г., на які, калі меркаваць па эпіграфе, Шукайлу натхніў верш Уладзіміра Дубоўкі «Апошняя песьня» з фінальнымі радкамі «О, як многа крыўды, / О, як мала слоў!» Напісана «Песьня жаўра» ў баладным стылі: жаўранак марыць узляцець да сонца, заўважае гругана і спачатку бачыць у ім хаўрусніка, з якім можна будзе ляцець разам. Але ў груганових думках «зусім ня тое»: ён хапае жаўранка, які ў кіпцях драпежніка, аднак, працягвае спяваць: «*— З вясною, / мілы сябра, / паляцім / да сонца / на вяршыны. / Разам / падвойчым / пры палёце / сілы / і крыльлем / схопім / небасхіл / ды сіні...»*[28]

І толькі пасля таго як груган пусціў у ход дзюбу, жаўра збірае апошнія сілы, вырываецца і, нягледзячы на раны, «да сонца нясецца йзноў». Фальклорна-сказавы стыль спалучаецца з танічным вершам, неўрэгуляванымі страфічнай структурай і сістэмай рыфмаў: апошнія калі й з'яўляюцца, то прыблізныя або ўвогуле выпадковыя (складаецца ўражанне, што яны то «знікаюць», то зноў нечакана «ўсплываюць»), даволі шмат халастых радкоў: *«Круціцца / ў паветры / яго брацьця жаўры. / — Браточкі, / ратуйце! — / Бяз моцы / прасьпяваў ён. / / І чулася / песьня / радзімых жаўраў: /*

[26] Заходні П. Маладняк // Літ. маладняк Случчыны. 1925. 10 ліп. С. 1 (= Вясковы будаўнік. 1925. 10 ліп. С. 3).
[27] Тамсама.

[28] Слуцкія песьняры: Вершы. Менск: Выд. ЦБ «Маладняка», 1926. С. 16.

*— Зачым высока / ты нёсься?.. // І сабраўшы жаўра / апошнюю натугу, / паюнацку рвануўся / з-пад чорнага груга... // Пярынкі ў ветры... / Крыві мала... / Усё ў ранах, / але сілы дала / воля жаўру. // Да сонца / нясецца ізноў. / Крыльлі песьня / разьвязала: / «О, як многа крыўды, / о, як мала слоў», / сэрца жаўра напявала»*[29].

Фальклорныя матывы прысутнічаюць і ў вершы «Асеньнія думкі» (таксама кастрычнік 1925 г.), дзе паэт сустракае прыродныя з'явы рытарычнымі запытаннямі кшталту: *«А поле, / каласістае поле, / дзе-ж тваё хараство? / Учора / жніво ў вочы біла, / сёньня — / іржышчам / прад вачыма / прашло. // Дык чаму-ж ты, / лета пяклівае, / уступіла / той пары, / калі дні / хмура-дажджлівыя, / калі восень / ды сьцеле / свае дываны?»*[30]

Напісаны крыху раней, у чэрвені 1925 г., верш «Плятуцца вянкі», у графічным плане хоць і мае элементы «лесвічкі», але паводле зместу ўяўляе з сябе стылізацыю пад купальскую варажбу-замову. Сістэма паўтораў у вершы быццам бы сімвалізуе перапляценне кветак у вянку, а разбіўка радкоў адпавядае інтанацыйным паўзам — вельмі верагодна, што звяртаючыся да яе, Шукайла ўяўляў, як бы гэта гучала са сцэны: *«Плятуцца вянкі / Дзявочымі рукамі... / Сонца паліць / Жыта, / Вочы паляць / Сэрца... / А яны плятуць, / Плятуць / Заплятаюць. / Ты, рука, / Ня блытай / Карэньняў / Лейцы... // З кветкамі / І думкі / Круцяцца дзявочыя, / Што сонца / Паліць жыта, / Вочы паляць / Сэрца. / З вяночкам прыгожа, / Як майскаю ноччу. / Ты, рука, / Ня блытай / Карэньняў / Лейцы...»*[31]

Традыцыйныя фальклорныя матывы й стылістычныя фігуры, прыродная вобразнасць, уласцівая народнай творчасці персаніфікацыя прыродных з'яваў, сцвярджэнне ўзвышаных, гераічных ідэалаў, апяванне свабоды духу — усё гэта больш збліжае тагачасную паэзію слуцкага маладнякоўца з рамантызмам, чым з футурызмам. Можна дапусціць, што Шукайла, падобна Максіму Танку, таксама заходняму беларусу, быў знаёмы з фальклярыстычнымі, «сялянскімі» тэндэнцыямі ў паэзіі некаторых польскіх футурыстаў (Анатоля Стэрна, Станіслава Младажэнца, Тытуса Чыжэўскага і інш.)[32], але ж іх творчасць вызначалася вялікай роляй фанетычнай інструментоўкі верша з выкарыстаннем шматлікіх алітэрацый, каламбураў, гукаперайманняў, паэтычных этымалагізмаў і неалагізмаў. У Шукайлы ж гэтага пакуль што не было.

Тым не менш, успаміны Яна Скрыгана сведчаць: ужо тады, у Слуцку, Шукайла не толькі дэклараваў сваю прыналежнасць да футурызму, але і пацвярджаў гэта практыкай — пісаў творы, у якіх адбывалася «разбурэнне рытмікі і ўсёй прывычнай вершаванай формы»[33]. Цяжка сказаць, якія менавіта творы меў на ўвазе Я. Скрыган. Можа нават і вышэй цытаваныя. Можа, усіх гэтых рытмічных збояў і нерэгулярных рыфмаў, ды яшчэ ў спалучэнні з аўтарскай экспрэсіўнай жэстыкуляцыяй і перападамі інтанацый, было і дастаткова, каб дашчэнту ўразіць і нават напалохаць непадрыхтаваную рабоча-сялянскую аўдыторыю, у вачах якой Паўлюк Шукайла выглядаў самым апантаным разбуральнікам традыцый. Іншых футурыстаў жыўцом ім бачыць не даводзілася. Ніколі.

І ўсё ж з'явіўся ў гэты перыяд у Шукайлы твор, які найбольш яскрава адлюстроўваў яго эстэтычную пазіцыю менавіта як авангардыста і ўвабраў у сябе асноўныя рысы шукайлаўскага футурызму, якія будуць выяўляцца ў ягонай творчасці і надалей. Назву гэты верш мае абсалютна традыцыйную — дакладней, тыповую для лірычнага жанру: «Маё каханьне». Толькі замест чаканага ўзору інтымнай лірыкі мы бачым напісаны «лесвічкай» своеасаблівы маніфест урбаністычнай паэзіі, які адмаўляў традыцыйную сялянскую вобразнасць, а таксама ідэалы хараства, сцверджаныя папярэднікамі й старэйшымі сучаснікамі, паэтамі-адраджэнцамі. Па апетых Максімам Багдановічам васільках — увасабленні «чыстага мастацтва» — Шукайла без усялякай літасці гатовы быў пусціць трактар — сімвал індустрыялізацыі: *«Гораду гоман... / стук, / грохат, / клік гудкоў, / сьпеў машын — / маё каханьне, / вобраз... / з ім — я, /*

[29] Тамсама. С. 17—18.
[30] Тамсама. С. 12.
[31] Шукайла П. Акрываўленая зямля: Паэзія. Менск: БДВ, 1930. С. 134—135.
[32] Гл.: Gazda G. Futuryzm w Polsce. Wrocław: Ossolineum, 1974. S. 114—124.
[33] Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 137.

*не адзін!.. / / Што мне да поля / з яго васількамі, / пагубнаю / кветкай палёў. / Эх! каб моц — / вылiў-бы мора, / затапiў-бы / з галавы / да ног!.. / / Зруйнаваў-бы / бур'яныя межы / і кветкі, / што губяць / насеньне — / трактарам / сталёва-лямежным / сонца адкрыў-бы / праменьня. / / Што мне / месяц / з салаўём, / начное зацішша! / Ім на зьмену / абаём — / дынаму, / з сьветам, / з сьвістам! / / Дык / вось чаму / люблю я горад, / таму, што мой / ён брат / у барацьбе / за нову вёску / з жыцьцём — / як Ленінград!»*[34]

Такое рэзкае супрацьпастаўленне «месяца з салаўём» і «дынамы з сьветам, з сьвістам» глядзелася сапраўды эфектна і магло выклікаць у вясковага чытача культурны шок. Асабліва гэты кантраст адчуваўся на фоне твораў паплечнікаў Шукайлы, якія збольшага заставаліся адданымі традыцыйнай паэтыцы, хоць і згадвалі часам пра «машыны», як А. Атава. Назвы вершаў, змешчаных на той самай старонцы, гавораць самі за сябе: «Я вёскі сын — маладняковец» Апанаса Атавы, «Я вырас у вёсцы кудлатай...» Язэпа Сукалы, «Гэй, мой конік, йдзі на спачын...» Янкі Відука.

Васількі для Паўлюка Шукайлы былі ўвасабленнем «застарэлай» традыцыйнай паэтыкі, аджылай культуры, з якой ён, футурыст, мусіць змагацца. Вобраз васількоў у рознай негатыўнай канатацыі працягвае сустракацца ў яго і надалей — як у вершах, так і ў артыкулах і публічных прамовах. Пры гэтым у паэтычных творах васількам супрацьстаяць, зноў жа, прылады сельскагаспадарчай тэхнікі: *«Там, дзе ўчора цьвілі / васількі, асот / і пырняк / на межах бур'яных — / Загудзіць / звон сталёвых калёс / трактароў, / жняярак»*, *«Кулямі сэрца / страляй адважней / па людзях / васількова-бур'яных»* (верш «Эй, нацiсьнем, хлопцы!», 1927)[35].

Трэба сказаць, што ў слуцкі перыяд, як і пазней, Паўлюк Шукайла спрабаваў сябе ў розных літаратурных жанрах. Ён апублікаваў абразок «На рубяжы» і апавяданне «Вёска сёньня», а 24 ліпеня 1925 г. на старонках «Вясковага будаўніка» з'явіўся пачатак першай часткі рамана «У хвалях жыцьця». Усе названыя творы напісаны ў традыцыйным рэалістычным кірунку, аднак сама па сабе заяўка на раман выглядала для таго часу наватарствам: на той момант раманы ў беларускай літаратуры можна было пералічыць на пальцах адной рукі — да Шукайлы за гэтую буйную эпічную форму браліся толькі прадстаўнікі старэйшага літаратурнага пакалення: Якуб Колас, Цішка Гартны і Ядвігін Ш. Пачатак рамана абяцаў разгортванне праблемы бацькоў і дзяцей у тыповай для савецкай літаратуры 1920-х гг. распрацоўцы: бацькі й дзеці мусілі ўвасабляць адпаведна стары й новы сацыяльны лад. Галоўнай гераіняй рамана аўтар зрабіў габрэйскую дзяўчыну Розу — студэнтку маскоўскага музычнага тэхнікума, якая прыехала на летні адпачынак дадому, у беларускі правінцыйны горад. Роза не апраўдала спадзяванняў свайго бацькі, які хацеў, каб яна паступіла вучыцца на доктара, бо гэта «лепей, прыбыльней» — і выбрала музыку, да якой у яе ляжала душа. Розіны бацькі — Хаім і Роха — паказаны людзьмі кансерватыўнымі і рэлігійнымі, якія занадта апекаваліся дачкой і амаль не лічыліся з яе поглядамі й памкненнямі. Насуперак ім Роза — асоба вальналюбная, празмерна, да экзальтаванасці захопленая жыццём, ідавочна задуманая аўтарам як увасабленне ягонага ідэалу рамантычнай гераіні. Гэта яскрава выяўляецца ў апісаннях яе знешнасці, а таксама дыялогах і маналогах. Напрыклад, на бацькаву просьбу адысці ад вакна, бо «наш клімат ні то, што маскоўскі», Роза са смехам адказвае:

*«— Маскоўскі!.. Ха, ха, маскоўскі! [...] Эх, тата, тата, што Вы разумееце... Што значыць маскоўскі?.. Духата, пыльната... нязьмярымы рух, які напружае, нацягвае тваё нэрвы, бэсьціць тваю кроў, а тут: дыханьне сьвежаю паветраю, напоўненаю пахучай зеленьню, сьветак дрэва і пад канец рыканьне гэтых кароў... Музыка, сумная музыка пастушшага пасьвісьцела і вось тое, з ярка чырвонай зарніцай сонца, якое сваім раняшнім блескам прымушае моцна забіцца маё сэрца. Ды ўласьне толькі маё? Мне здаецца, каб гэты блеск можна было бачыць з мураў турэмных закаранеламу злачынынiку, і то закалыхалася-б яго сэрца... зайгралі-б струны ў яго каменнай*

[34] Шукайла П. Маё каханьне: [Верш] // Вясковы будаўнік. 1925. 31 кастр. С. 2.

[35] Шукайла П. Акрываўленая зямля... С. 120—121.

*душы, ён прыліп бы да ваконца, куды падалі-б яго праменьня поўныя ранічнай чырвані, і калі нават яму пагражала куля турэмнага вартаўніка, ён не адарваў-бы сваіх вачэй ад гэтае прыгажосьці... а тут на волі, ды не скарыстаць гэтай хвіліны жыцьця. Такая раніца ў прыродзе ўсё адно, што раніца ў жыцьці, зловіш яе момант — будуць калісь успаміны, а не — дык пуста, гніла й нецікава жыць на сьвеці... Раніца з гэтакім хараством хутка прабягае, яе трэба лавіць, каб было ня позна... А ты, татка, холад... ерунда... плявать... Трэба лавіць хвіліны жыцьця, трэба плыць яго хвалямі, пакуль плывецца»*[36].

Нават аднаго прыведзенага ўрыўку дастаткова, каб зразумець, што ў Шукайлу празаіка ўпарта перамагаў паэт. І раманны жанр аказаўся не па сілах маладому аўтару: абяцанага працягу чытачы не дачакаліся і пра далейшы лёс «хвілязоўкі» (так назваў яе бацька) і летуценьніцы Розы так і не даведаліся. Твор абрываецца на словах: *«“Сьмялей зару спаткаем, браты ў барацьбе”, — чулася гучная камсамольская песьня камсамольцаў, ідучых за горад жаць жыта ленінскай палоскі... Дышала другім жыцьцём... Новым... іншым... зусім іншым жыцьцём...»*[37] Пройдзе ўсяго нейкіх два-тры гады — і жанр рамана будзе паспяхова асвоены іншымі пісьменнікамі з «Маладняка» і «Узвышша»: Міхасём Зарэцкім, Змітраком Бядулем, Рыгорам Мурашкам, Кузьмой Чорным, Платонам Галавачом...

Акрамя мастацкіх твораў, цягам 1925 г. Шукайла змяшчаў на старонках «Вясковага будаўніка» ўласныя публіцыстычныя артыкулы, нататкі, фельетоны на грамадска-палітычную і культурную тэматыку: «Шышыканьне і вайна» (17 ліп.), «Вуліцы абліваюцца рабочай крывёю», «“Будаўнік” у вёску» (31 ліп.), «Аб беларускім друку і беларусізацыі» (15 жн.), «Літаратурная рамантыка, слуцкія будні і сакрэтная перапіска» (9 сьнеж.), «Сем год» (16 сьнеж.). Некаторыя з іх аўтар падпісваў поўным прозвішчам, некаторыя толькі імем — *Паўлюк*, а некаторыя крыптанімам *П. Ш.*

Быў у літаратурным жыцці Случчыны і эпізод, які трывала асеў у памяці і зафіксаваны ў мемуарах адразу трох чалавек: Яна Скрыгана (Відука), Рыгора Казака (Крушыны) і Станіславы Плашчынскай (да замужжа — Шпакоўскай). Тут, быццам у кіно, перад намі паўстае жывы Шукайла — чалавек са сваімі вартасцямі й слабасцямі. Паколькі ў мемуарах распавядаецца фактычна пра адныя падзеі, гэты ўяўны фільм пра Паўлюка Шукайлу атрымліваецца нібыта знятым «трыма камерамі», з трох розных кропак — і, такім чынам, ён падасца больш цікавым, змястоўным, а магчыма, нават «стэрэаскапічным». Кожнае, нават самае дробнае, сведчанне дадае яшчэ адзін дадатковы штрых да каларытнага вобраза беларускага футурыста. І тая дэталь, якую не згадаў адзін мемуарыст, можа «ўсплыць» у другога ці трэцяга.

...У верасні 1925 г. Слуцк ускалыхнула навіна: у горад прыязджаюць Кузьма Чорны і Язэп Пушча! Сталічныя пісьменнікі сюды зазіралі нячаста, і случчакі імкнуліся зладзіць гасцям з Менска належны прыём, а заадно абмеркаваць надзённыя справы, пагутарыць і паспрачацца на творчыя тэмы. Для Станіславы Шпакоўскай гэтая сустрэча стала яшчэ больш знакавай: паміж ёю і Язэпам Пушчам успыхнула каханне і неўзабаве яны пабраліся шлюбам[38]. Таму і ўспаміны яе афарбаваныя ў светлыя рамантычныя колеры. Цікава, што да Пушчы ў «смуглявую Стасю» быў закаханы і Шукайла. І хоць гэтая закаханасць не была ўзаемнай, С. Шпакоўская-Плашчынская праз шмат гадоў згадвала Паўлюка з пэўным захапленнем і сімпатыяй:

*«Гэта была цікавая асоба. Летам ён насіў вышываную белую кашулю, падпяразаную беларускім поясам з кутасамі. У яго былі прыгожыя светлыя доўгія валасы. Хадзіў ён заўсёды з вялікім партфелем і сукаватым кіем. Зімой быў апрануты ў футраную цялячую куртку і ў*

[36] Шукайла П. У хвалях жыцьця: (Роман). Частка першая // Вясковы будаўнік. 1925. 24 ліп. С. 3.

[37] Тамсама.

[38] Захаваўся вершаваны ўспамін Я. Пушчы пра іх знаёмства: *«З песняй-лёсам / Я ў дарогу рушыў. / Трэсла восень / Яблыкі, ігрушы. // Носім-зносім... / Даспявалі бэры. / Ў гэну восень / Ты мяне сустрэла. // Слуцк і песня / Даўніх успамінаў. / Вецер, смейся / Над маёй калінай. // Чырванею, / Проста твару сорам. / З поўнай жмені / Ночка сее зоры. // Я пад імі, / Як той мак чырвоны. / Тваім імем / С[тася] зачарован»* (Пушча Я. Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Вершы. Паэмы. Пераклады. Крытычныя артыкулы. 1930 — 1963. — Мінск: Маст. літ., 1994. С. 215).

*лакавых пантофлях. Апранаўся на той час вельмі багата. Часам мог узяць з сабою пяць-шэсць дзяўчат і павесці іх у кіно. Наогул, быў дзядзька добры. Яму было 27 год*[39]*. Я яму вельмі падабалася, і ён прапанаваў мне быць яго жонкай. Але я адмовілася. Прыходзіў ён і да мамы, прасіў, каб яна аддала мяне за яго. Прыносіў ёй, паказваў шмат сваіх фотаздымкаў. Угаворваў маму, што і ёй будзе лягчэй жыць. Мама будзе гаспадарыць, а я — вучыцца, будзем жыць разам. Але мама сказала: «Стасі ўсяго 17. Вось падрасце, пакахае і тады выйдзе замуж»»*[40]*.*

Надоўга запомніўся той верасень і Янку Скрыгану (Відуку):

*«Неяк раз ішлі мы з Паўлюком Шукайлам па Пралетарскай вуліцы ў Слуцку. Была хмурная гразкая восень 1925 года. Я, памятаю, стараўся ісці асцярожна, каб не надта мясіць ботамі гразь, а Шукайла, надушаны, элегантна адзеты, у лакавых чорных туфлях, ішоў абы-як, ступаў дзе папала, і мне шкада рабілася гэтых туфляў. Але пасля я забыўся на іх, бо пачуў ад яго вельмі важную навіну: да нас у Слуцак прыязджаюць Кузьма Чорны і Язэп Пушча»*[41]*.*

Некалькі дзён і літаратары, і проста аматары паэзіі жылі гэтай навіною, нецярпліва чакаючы сустрэчы з гасьцямі. «Жарты сказаць — я пабачу сапраўдных пісьменнікаў»[42], — хваляваўся Янка Відук. І Чорны, і Пушча былі хоць і маладымі (25 і 23 гады), але ўжо вядомымі на Беларусі творцамі, а іх першыя кніжкі цаною ў 20 капеек, выдадзеныя ў «Кніжніцы «Маладняка»» («Апавяданьні» і «Срэбра жыцьця» К. Чорнага, «Раніца рыкае» Я. Пушчы) з'яўляліся для іх аднагодкаў з правінцыі ўвасабленнем творчай сталасці, дзякуючы якой яны здаваліся «паважнымі старымі дзяцюкамі».

Спачатку госці завіталі ў рэдакцыю газеты «Вясковы будаўнік», дзе іх сустрэлі Паўлюк Шукайла, Янка Скрыган, Іда Чырвань і Рыгор Казак (Крушына) — як ён сябе адрэкамендаваў — «іхны прыяцель, у той час аматар паэзіі». Пушча запомніўся случчакам вытанчаным, узнёслым і добра абазнаным у літаратуры чалавекам. Вось як апісвае тую сустрэчу ў рэдакцыі Р. Крушына:

*«Мы пачалі пытацца пра навіны ў Менску. Завязалася гутарка на тэму аб паэзіі. Язэп Пушча выказаў свае думкі аб імажынізме, аб сістэме вобразаў, эмацыянальнасці верша. Голас у яго быў спакойны, меладычны, з выразнымі інтанацыямі. Словы «паэт» і «паэзія» ён вымаўляў неяк натхнёна, імпульсіўна, з падвойным націскам, захоўваючы ў першым складзе гук "о"»*[43]*.*

Спыніліся Чорны і Пушча ў Шукайлы, а на наступны дзень пасля іх прыезду, 25 верасня 1925 г., у Доме культуры адбылася літаратурная вечарына з дыспутам. Грымела музыка, зала была перапоўнена публікай, пераважна моладдзю. Язэп Пушча, акрамя ўласных вершаў, прачытаў даклад пра творчую працу «Маладняка». Выступілі і найбольш актыўныя слуцкія маладнякоўцы: Янка Пірат, Апанас Атава, Язэп Сукала, Іда Чырвань, ну і натуральна ж, сам Паўлюк Шукайла.

Шмат было і спрэчак на літаратурныя тэмы, а завяршылася ўсё канцэртам. З вечарыны Стася, Іда, Пушча і Чорны пайшлі разам. Паўлюк Шукайла і Янка Скрыган паспелі забегчы па справе ў рэдакцыю «Вясковага будаўніка» і неўзабаве далучыліся да агульнай кампаніі. Хлопцы запрасілі дзяўчат пасядзець у Шукайлы, а па дарозе «зайшлі ў нэпманскі рэстаран і накупілі вінаграду, шакаладу, цукерак і віна», якое Стася Шпакоўская піла тады ўпершыню ў жыцці. Ёй было вельмі няёмка заходзіць у госці да свайго нежаданага залётніка, але сябры пераканалі яе, што кампанія вялікая і «нічога дрэннага тут няма».

Як згадвае С. Плашчынская, Паўлюк Шукайла жыў тады «на галоўнай вуліцы горада» (г. зн. Пралетарскай, цяпер — Леніна), у «прыгожым доме з парадным ганкам»[44]. Дом, па ўсім відаць, раней належаў заможным мяшчанам, бо кватэра для тых часоў выглядала няблага: «адзін пакой, але прасторны, крэслы, абабітыя аксамітам, на канапе плюшавыя

[39] Насамрэч П. Шукайлу на той момант было 20 гадоў, але выглядаў ён старэйшым.
[40] Плашчынская С. З дзён далёкіх і блізкіх // Пушча Я. Збор твораў. У 2 т. Т. 2. Вершы. Паэмы. Пераклады. Крытычныя артыкулы. 1930—1963. — Мінск: Маст. літ., 1994. С. 382.
[41] Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 136.
[42] Тамсама.
[43] Тамсама. С. 306—307.
[44] Плашчынская С. З дзён далёкіх і блізкіх... С. 382.

падушачкі» (Я. Скрыган)[45]. Кузьма Чорны, увайшоўшы туды, быў уражаны. «Жывеш ты, можна сказаць, як слуцкі князь», — прамовіў ён[46]. Звычка жыць «з шыкам», захапленне антыкварнай мэбляй засталіся ў Паўлюка Шукайлы і надалей. «Бацька любіў жыць прыгожа», — пацвярджае паэтава дачка Дзіва Паўлаўна Кандратава[47].

Паўлюк Шукайла і Язэп Пушча ўяўлялі сабою, можна сказаць, два яскрава акрэсленыя супрацьлеглыя полюсы беларускага авангарду. Першы свядома лічыў сябе прадстаўніком футурызму і імкнуўся спрыяць развіццю гэтага кірунку на Беларусі; другі называў сябе імажыністам і выступаў не толькі практыкам, але й тэарэтыкам гэтага кірунку — дастаткова згадаць ягоны праграмны артыкул «Вобраз у беларускай паэзіі» («Радавая рунь», 1924, № 2). Вядома ж, такія, здавалася б, розныя, але аб'яднаныя авангардным светапоглядам творчыя асобы мелі пра што пагутарыць. Праведзенага ў Доме культуры бурнага публічнага дыспуту ім падалося мала — яны вырашылі працягнуць літаратурныя дыскусіі на кватэры ў Шукайлы. Вось як гэта выглядала ў апісанні Яна Скрыгана:

«І гаворка пачалася адразу са спрэчак. Шукайла вельмі хацеў паказаць, што і ўсе мы, тутэйшыя маладнякоўцы, яго паслядоўнікі, самыя чыстакроўныя футурысты. Сам сябе ён лічыў правадыром новай плыні ў маштабе ўсяго «Маладняка» і цяпер меў выпадак пахваліцца гасцям, што і мы ў Слуцку не лыкам шыты. Ён адразу заявіў, што мы ломім усе старыя літаратурныя традыцыі і каноны, робім літаратуру новай рэвалюцыйнай фармацыі, і, каб давесці гэта практычна, пачаў чытаць свае вершы, напісаныя і папраўдзе так, што ў іх разбуралася рытміка і ўся прывычная вершаваная форма.

*Язэп Пушча сядзеў у крэсле каля стала, склаўшы адна на адну свае прыгожыя рукі. Кузьма Чорны — каля задняй сцяны на канапе; ён сядзеў, адкінуўшы галаву назад і раскінуўшы рукі, як бы проста адпачываў. Ён, здаецца, нават не глядзеў, як ходзіць па пакоі Шукайла, чытаючы свае вершы, жэстыкулюючы і то гнеўна падымаючы голас, то спускаючыся да ледзьве чутнага шэпту. Нічога нельга было разабраць на твары ў Чорнага: думаў ён ці папраўдзе адпачываў, падабаецца яму гэта ці не. Поўны спакой у вачах, у чутачку адстаўленай ніжняй губе, у круглаватым падбародку. І ўсё ж такі па нечым другім, невядомым і не распазнаным, было відаць, што ён слухае»*[48].

Выканальніцкая манера беларускага футурыста добра запомнілася і Станіславе Плашчынскай *(«Павел Шукайла любіў чытаць свае вершы. Чытаў моцна, размахваючы рукамі»)*[49]. Пасля ягонага гучнага выступу Язэп Пушча адразу, як сведчыць Ян Скрыган, «паспрабаваў запярэчыць, процістаўляючы футурыстычнай грамавітасці радкі з імажыніцкай паэзіі»[50].

Пушча таксама чытаў адметна і прыгожа, але ў яго манера выканання была зусім інакшая, спакойная, меладычная, і сам ён ствараў больш інтэлігентнае ўражанне: «мілы, сціплы, сарамлівы, з такой цудоўнай усмешкай»... Ён і выклікаў большую прыхільнасць у слухачоў, проста зачараваўшы іх:

«Ён чытаў плаўныя страфы, суправаджваючы мяккую рытміку жэстамі свае пластычнае рукі, але Шукайла перабіваў і ўвесь час позіркам адрасаваўся да Чорнага. А Чорны маўчаў. Спакойна ляжалі на спінцы канапы яго раскінутыя рукі. Мы, чалавек колькі, запрошаных сюды для паўнаты аўдыторыі [...] моўчкі сядзелі па кутках і заміралі ад шчасця, што нам давялося пабыць на такой сапраўднай літаратурнай гаворцы.

Нарэшце Чорны зняў рукі са спінкі капапы і палажыў іх на сядзенне.

— Вельмі добра ты робіш, браце Паўлюк, што пішаш, — сказаў ён. — Усё трэба пісаць, абы толькі людзі чыталі, бо гэта вельмі важна. Але ж ці варта ў вершах крычаць?

Паўлюк трохі збянтэжыўся. Але ненадоўга. Праз хвіліну ён пачаў даводзіць, што рэвалюцыя павінна гаварыць голасам мужным, што народ, які скінуў з сябе ярмо прыгнёту, не можа цярпець мярцвячыны і мяшчанскага пошапку.

*— Ды яно, браце, у кожнага бывае такая часіна, што хочаш пакрычаць, — лёгка згадзіўся Чор-*

45 Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 137.
46 Тамсама.
47 Гутарка з Дз. П. Кандратавай, ліпень 2006 г. (асабісты архіў аўтара).

48 Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 137.
49 Плашчынская С. З дзён далёкіх і блізкіх... С. 383.
50 Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 138.

*ны. — Няўдача якая ці пасварышся з кім. Але ж яно скора і праходзіць. Так што, панечку мой, можаш сабе і пакрычаць, калі табе так хочацца»*[51].

У выніку кожны застаўся пры сваім меркаваньні...

Менавіта ў той вечар і «закрынічыла каханне» (як казалі потым слуцкія маладнякоўцы) Язэпа і Стасі. *«Язэп Пушча быў моцна ўзрушаны, зачараваны. Ён не зводзіў воч з прыгожай дзяўчыны, а тая адказала яму гарачым позіркам прызнання»*[52], — прыгадваў Рыгор Крушына. Калі ж госці надумалі йсці да хаты, Язэп Пушча папрасіў у Стасі Шпакоўскай правесці яе дадому. «А Шукайла буяніў»[53], — зазначыла яна ва ўспамінах. Лёгка ўявіць, што Шукайла раўнаваў Стасю да Пушчы, які апынуўся ёй бліжэй па духу, паводле светаўспрымання, з якім яна знайшла большае паразуменне. Пазней, калі Пушча дасылаў Стасі тэлеграмы на адрас рэдакцыі «Вясковага будаўніка», Шукайла хаваў іх ад яе. «Знайшоў, каму пасылаць», — казала яна Пушчу[54]. Неўзабаве ён зрабіў ёй прапанову, і Шукайла зразумеў, што яму са Стасяй болей нічога «не свеціць». І пачаў паводзіць сябе ўжо інакш. «Паўлюк Шукайла адчуваў сябе як-бы сватам»[55], — сведчыць Р. Крушына.

Тая вераснёўская сустрэча пацягнула за сабою яшчэ адно вяселле — Кузьмы Чорнага з Ідай Чырвань. 13 лістапада яны разам пераехалі ў Менск. Але іхні шлюб апынуўся няўдалы і нядоўгі і ледзь не прывёў да трагічнай развязкі: *«Кузьма купіў ёй усё, што трэба было для зімы: добрае паліто, капялюш, чаравікі, сукенкі. Пад канец рабочага дня Іда брала рамізніка і ехала да Кузьмы на працу, яны ішлі абедаць у рэстаран. Іда стала сябе дрэнна паводзіць. Завяла непрыгожыя знаёмствы. Кузьма пра гэта даведаўся і хацеў павесіцца, яго ледзьве ўратавалі»*[56]. Скончылася ўсё тым, што Язэп Пушча, Адам Бабарэка і Уладзімір Дубоўка прыйшлі да Станіславы Плашчынскай, працягнулі ёй грошы і папрасілі: *«...Аднясі Ідзе. І скажы ёй, што Кузьма болей у гэты пакой не прыйдзе»*. Іда Чырвань мусіла з'ехаць з Менска і ўжо ў студзені далучылася да Магілёўскай філіі «Маладняка»[57].

А што адбывалася тым часам у асабістым жыцці Паўлюка Шукайлы? Калі меркаваць па адным з вершаў, у канцы 1925 г. ён перажываў чарговае захапленне, прычым інтымныя пачуцці былі гэтым разам узаемныя: *«Расьцьвіло / лістом зялёным / сэрца / у той дзень, / калі вокам / ты глыбока / мне сказала: / вер... / / Расьцьвіло, / абліта сокам, — / не пацалункам, / не... / Ў ласцы / шчырай, / сінявокай / адчуваў я: / вер... / / Расьцьвіло / у жнівень цёплы, / і карэньні / йдуць глыбей... / Хоць-жа сьнежань / сьцеле коўдру, / але чую тое-ж: / в е р...»*[58]

Верш мае назву «Расьцьвіло...», датаваны 1 снежня 1925 г. і прысвечаны таямнічай *Н.С.Б.*, з якой паэт, калі правільна зразумець намёк у вершы, пазнаёміўся ў жніўні. Расшыфраваць гэтыя ініцыялы нам не ўдалося. Імя яшчэ адной тагачаснай Шукайлавай прыяцелькі даведваемся з верша «Марыльцы-Случанцы», напісанага 15 сакавіка 1926 г. у Менску. Па ўсім відаць, што ў слуцкі перыяд паэт перажыў некалькі любоўных захапленняў. У выніку аднаго з іх у паэта з'явіўся пазашлюбны сын Янка (Іван)[59]. Але нарадзіўся ён, калі Шукайла жыў ужо ў Расонах, і пра яго існаваньне паэт і яго сваякі даведаліся значна пазней.

25—29 лістапада 1925 г. у Менску адбылася важная падзея ў літаратурным жыцці — Першы ўсебеларускі з'езд «Маладняка», на які былі дэлегаваныя чацвёра сяброў Слуцкай філіі: Паўлюк Шукайла, Янка Відук, Апанас Атава і Язэп Сукала (на пасяджэннях прысутнічала таксама Іда Чырвань[60], але дэлегаткай яна не была). Згадваючы гэтае мерапрыемства, Алесь Звонак распавёў, быццам «на першы з'езд «Маладняка» случакі з песнямі ішлі пехатою ў Менск»[61], хоць сам

[51] Скрыган Я. Выбраныя творы... С. 138.

[52] Крушына Р. Выбраныя творы... С. 307.

[53] Плашчынская С. З дзён далёкіх і блізкіх... С. 384.

[54] Тамсама. С. 385.

[55] Крушына Р. Выбраныя творы... С. 307.

[56] Плашчынская С. З дзён далёкіх і блізкіх... С. 387.

[57] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 9, арк. 40 (пратакол пасяджэння Магілёўскай філіі «Маладняка» 12 студзеня 1926 г.).

[58] Слуцкія песьняры... С. 9—10.

[59] Гутарка са сваякамі П. Шукайлы (г. Масква, Расея), жнівень 2007 г.

[60] БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 9, арк. 71 адв. («Характарыстыка Іды Чырвань»: [Аўтабіяграфія]).

[61] Звонак А. Разбітыя скрыжалі лёсу / Зняў з магнітнай стужкі А. Пашкевіч // Першацвет. 1995. № 6. С. 104.

непасрэдны ўдзельнік слуцкай філіі Ян Скрыган сведчыў, што яны разам з Шукайлам у Менск менавіта прыехалі: *«Як правінцыяла ён пракаціў мяне з сталічным фасонам і на фаэтоне — ад вакзала да гасцініцы «Бельгія»»*. Яго словы падаюцца больш слушнымі, бо пераадолець пехатою адлегласць у 105 кіламетраў даволі праблематычна.

На з'ездзе падводзіліся вынікі плённай працы «Маладняка»: за два гады існавання арганізацыі колькасць яе ўдзельнікаў узрасла з 6 да «500 з лішкам», ува ўсіх акругах утварыліся маладнякоўскія філіі, у некаторых гарадах і мястэчках — літаратурныя гурткі й студыі, быў наладжаны выпуск серыі «Кніжніца «Маладняка»», працягвалася выданне часопіса «Маладняк»... Якое месца ў той час адводзілася літаратуры ў БССР ды ў іншых савецкіх рэспубліках, можна меркаваць па змесце агучаных на з'ездзе дакладаў і прамоваў: у іх закраналіся пытанні перадусім арганізацыйнага й ідэалагічнага кшталту, шмат увагі надавалася «палітычнаму твару» «Маладняка», дэкларавалася яго вернасць пралетарскай ідэалогіі ды курсу, вызначанаму камуністычнай партыяй. І толькі ў апошні дзень з'езда, амаль перад яго заканчэннем, слова было дадзена дакладчыку Адаму Бабарэку і яго судакладчыку Уладзіміру Дубоўку, якія распавялі непасрэдна пра мастацкія дасягненні маладнякоўцаў, праілюстраваўшы іх канкрэтнымі прыкладамі.

Паўлюк Шукайла выступіў са справаздачай аб працы Слуцкай філіі. Са справаздачы бачна, што за восень 1925 г. філія вырасла колькасна больш як удвая і была гатовая актыўна распачаць выдавецкую дзейнасць: *«Слуцкая філія організавалася ў канцы мая,* — сказаў ён. — *У сучасны момант філія налічвае 11 сяброў і 17 кандыдатаў. Маецца гэтак сама 2 гурткі «Маладняка», у якіх 83 сябры. Філія сваю працу аддавала гушчам рабочых і сялян. Зроблена 11 выступленьняў у горадзе і 4 ў вёсцы.*

*Выдавецтва слабае. Да гэтага часу выдана 3 літаратурныя старонкі ў мясцовай газэце. Адначасова знаходзіцца ў друку зборнік 5 актывістых філіі пад назвай «Слуцкія песьняры». Падрыхтоўваюцца да друку 5 кніжак паасобна лепшых песьняроў...»*[62].

[62] Тамсама. С. 49.



Паэт Анатоль Вольны лічыў, што па арганізацыйным пытанні Слуцкую філію можна ставіць у прыклад як «самую моцную»[63], аднак, калі размова дайшла да эстэтычнай пазіцыі яе кіраўніка, Вольны падвергнуў яе рэзкай крытыцы: *«Шукайла казаў аб васільках і мілагучнасьці. Без мілагучнасьці поэзіі няма. Нашы творы павінны быць ня толькі ідэолёгічна вытрыманымі, але і мастацкімі. Валайтэс ідэолёгічна вытрыманы, Есенін — памастацку, у Шукайлы ёсьць месца: «Сукін сын і смаркаты» — нельга казаць, што тут найглыбейшая поэзія. Ня ўсякі аграном крытык»*[64]. Як бачым, у лексіцы некаторых тагачасных твораў беларускі футурыст не асабліва саромеўся, а эстэтыка, якую ён імкнуўся супрацьпаставіць «васільковай самабытнасці», знаходзіла разуменне далёка не ва ўсіх.

Зборнік «Слуцкія песьняры», пра які казаў на з'ездзе Паўлюк Шукайла, рыхтаваўся цягам усёй 2-й паловы 1925 г. Аб працы над гэтай кнігай кіраўнік філіі перыядычна паведамляў то ў сваіх лістах у ЦБ «Маладняка», то на старонках прэсы[65]; анонс зборніка публікаваўся ў «Чырвонай зьмене» за 15 лістапада. Нягледзячы на тое, што тады філія ўжо налічвала «11 сяброў і 17 кандыдатаў», у зборнік увайшлі вершы толькі пяці слуцкіх паэтаў — тых, хто паспеў зарэкамендаваць сябе ў друку: Паўлюка Шукайлы, Язэпа Сукалы, Апанаса Атавы, Янкі Відука і Іды Чырвань. Магчыма, гэта было абумоўлена невялікім аб'ёмам зборніка (64 малафарматныя старонкі), а магчыма — высокай патрабавальнасцю ўкладальніка да выбару твораў: хоць спачатку філія мелася выдаць зборнік на пачатку жніўня, вершы для яго, мяркуючы па датах, працягвалі дадавацца яшчэ цягам восені, а выйшла кніга ў Менску ў серыі «Кніжніцы «Маладняка»» на самым пачатку 1926 г. Свой верш «Расьцьвіло» Шукайла дадаў увогуле ці не ў самы апошні момант: пад ім стаіць дата *1/XII.1925 г.*: бачна, што паэту было вельмі важна ўставіць у зборнік верш, прысвечаны каханай. Напэўна, рамантычнае захапленне

[63] Тамсама. С. 55.
[64] Тамсама. С. 74.

[65] П. З-ні. У Слуцкай філіі «Маладняка» // Літ. маладняк Случчыны. 1925. 10 ліп. С. I (= Вясковы будаўнік. 1925. 10 ліп. С. 3); БДАМЛМ. Ф. 225, воп. 1, адз. зах. 12, арк. 7.

ўвогуле паўплывала на адбор Шукайлам сваіх твораў: як ні дзіўна, ён не ўключыў у падборку ніводнага прыкладу публіцыстычна-лозунгавай паэзіі, ні нават антытрадыцыяналісцкага ўрбаністычнага верша «Маё каханьне». Заходнебеларуская тэматыка і згадка пра «выбух пратэсту», што «гучыць на савецкіх палёх», прысутнічае толькі ў вершы «Думкі аб Бацькаўшчыне» — паэтычным успаміне пра пераход польска-савецкай мяжы. Астатнія ж, як мы зазначалі, былі прысвечаны прыроднай («Думкі асеньнія») альбо адцягнена-рамантычнай («Песьня жаўра») тэматыцы амаль без усялякіх фармальных прыкмет футурызму.

Прыкладна ў такой самай эстэтычнай роўніцы палягаюць і творы ўсіх астатніх слуцкіх маладнякоўцаў. Толькі зрэдку можна заўважыць, што маладыя паэты сапраўды «выпіналіся як маглі, каб толькі папасці ў той футурызм» — вядома ж, у адпаведнасці са сваім цьмяным і павярхоўным уяўленнем пра яго. Так, аўтар гэтага прызнання Янка Відук (Скрыган) імкнуўся ўразіць чытача паралельнымі сінтаксічнымі канструкцыямі з таўталагічнымі рыфмамі: *«З тэй пары у завульлі вясковым / спадабаліся сьпевы дзяўчат; / карагоды на сонцы вясковым / палюбіліся мне... Ой, гучаць!»* («Палюбіліся мне...»)[66], а яго таварыш па філіі Апанас Атава — арыгінальнымі вобразамі: *«Сэрца молатам білася ў грудзях / і маланкі красаліся з воч. / Стаць хацелася волатам-бурай, / пракалоць з краю ў край цемруноч»* («Мае думкі — то жыцьця шаптаньне»)[67]. Язэп Сукала апяваў «сталёвых птахаў», якія «нясуцца ў высь у ветра-хвалі» і «матораць там... уволю» (верш «Палёт»)[68] і ўяўляў сябе ручайком, які затапіў бы панскія палацы («І чаму я ня той...»), а Іда Чырвань прызнавалася, што *«Закахалася гораду шумам / Яго хваляй жыцьця — таўхатнёй»* («Закахалася...»)[69]. У цэлым жа сябры Слуцкай філіі «Маладняка» пісалі як тыповыя паэты-самавукі і выкарыстоўвалі традыцыйную форму, лексіку і сістэму вобразнасці, і трэба было быць вялікім авантурыстам, каб выдаваць усё гэта за «чыстакроўны футурызм»! Зрэшты, многія Шукайлу менавіта такім і ўспрымалі.

Кніга «Слуцкія песьняры» стала першым і апошнім выданнем філіі, нават, у нейкім сэнсе, яе «лебядзінай песняй»: у лютым 1926 г. газета «Вясковы будаўнік» зачынілася, і Шукайла выправіўся ў Расоны, куды яго перавялі на пасаду сакратара райкама. Кіраванне філіяй ён перадаў Язэпу Сукалу, аднак той не меў такіх арганізацыйных здольнасцяў, і пра філію ні на старонках друку, ні на літаратурных дыскусіях больш не было нічога чуваць. Ціха і амаль незаўважна праіснавала яна да чэрвеня 1927 г., знікнуўшы зусім разам са скасаванай Слуцкай акругай[70].

---

[66] Слуцкія песьняры... С. 54.
[67] Тамсама. С. 40.
[68] Тамсама. С. 23.
[69] Тамсама. С. 62.
[70] Хромчанка К. Р. Слуцкая філія «Маладняка» // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Т. 5. Мінск: БелСЭ, 1987. С. 71.

Юр Пацюпа

# ДВА ПЕРАКЛАДЫ

**Матар’ялы да расейска-беларускага слоўніка**

Адзін мой сябра надумаўся зьбіраць пераклады клясыкі на беларускую мову. Асабліва яго цікавілі тэксты расейскіх пісьменьнікаў. Неўзабаве ён меў ладную бібліятэку А. Радзішчава, М. Гогаля, І. Тургенева, І. Ганчарова, Л. Талстога і М. Горкага па-беларуску. Я памагаў чым мог. А таксама ўзіраўся на гэтае «непатрэбнае» багацьце і гадаў: якая карысьць зь яго? Аднак той, хто не адзін год займаецца стварэньнем расейска-беларускага слоўніка ня можа не знайсьці карысьці. Мне прыйшла ў галаву ідэя, што гэта цікавы матар’ял для лексыкографа. Калі прасьлібізаваць з падчытваньнем пару-другую кніг, дык назьбіраецца ладны сьпіс адпаведнікаў да самых розных кантэкстаў.

А яшчэ раней для свайго лексыкаграфічнага экспэрымэнту я нагледзеў пераклад двух урыўкаў: «Дзьве дарогі» і «Чым жыве народ» з В. Бялінскага, зроблены нашаніўскім паэтам М. Арлом. Вельмі ж цікавыя слоўцы там пракідваліся. І вось лучылі на вочы «Выбраныя творы» Бялінскага 1949 г. зь сябравай калекцыі. Спачатку я меўся навыбіраць адтуль і адтуль каштоўнага, дый годзе. Але прымеркаваньнем тэкстаў адкрыў больш цікавыя рэчы і зрабіў ужо расейска-беларускі слоўнік не паасобных слоў, а практычна ўсяго тэксту Арла і адпаведных фрагмэнтаў савецкага выданьня.

* * *

Тэкст В. Бялінскага цікавы як практыкаваньне для перакладніка тым, што перанасычаны царкоўнаславянскай лексыкай. Царкоўнаславянізмы, даўно ведама, зь беларускай мовай не злучаюцца, як алей з вадою. Затое яны арганічныя для мовы расейскае і найчасьцей служаць там маркерамі высокага ды кніжнага стылю. (На жаль, гэтую простую рэч ня ўсе здатныя засвоіць.)

Ёсьць невялікая група царкоўнаславянізмаў, пры перакладзе якіх і М. Арол і савецкі перакладнік салідарызуюцца, што вельмі важна для адзінства мовы: *благо* — ***дабро;*** *благой* — ***добры;*** *блаженство* — ***шчасьце;*** *венец* — ***вянок;*** *выстрадать* — ***выпакутаваць;*** *кои* — ***гэтыя;*** *младенчественный* — ***малады;*** *ниспосылать* — ***пасылаць;*** *овцы* — ***авечкі;*** *почитать* — ***лічыць;*** *провозгласить* — ***абвесьціць;*** *сей* — ***гэты;*** *сокровищница* — ***скарбніца;*** *чуждый* — ***чужы.***

Аднак у бальшыні выпадкаў пераклады царкоўнаславянскай лексыкі больш ці менш розьняцца: *бітва* — А: ***змаганьне***, С: ***бойка***; *благодатный* — А: ***жывы***, С: ***шчасьлівы***; *вдохновение* — А: ***прасьвяда***, С: ***натхненьне***; *вещий* — А: ***прарочы***, С: ***прароцкі***; *вне Рима* — А: ***апроч Рыму***, С: ***па-за Рымам***; *возложить* — А: ***налажыть***, С: ***пакласьці***; *вопли* — А: ***стогны***, С: ***лямант***; *изобличать* — А: ***выяўляць***, С: ***выкрываць***; *лесть* — А: ***пахлебства***, С: ***лісьлівасьць***; *невежество* — А: ***цемната***, С: ***невуцтва***; *неизбежный* — А: ***неабмыльны***, С: ***немінучы***; *непреложный* — А: ***бесьпераменны***, С: ***неадхільны***; *нравственный* — А: ***духоўны***, С: ***маральны***; *обречь* — А: ***вызначыць***, С: ***прызначыць***; одр — А: ***пасьцель***, С: ***пасьцеля***; *отверзать* — А: ***адчыняць***, С: ***раскрываць***; *покорность* — А: ***пакора***, С: ***пакорлівасьць***; *покровитель* — А: ***абарона***, С: ***абаронца***; *поперетъ* — А: ***растаптаць***, С: ***затаптать***; *поприще* — А: ***дарога***, С: ***поле дзейнасьці***, *во прах* — А: ***да зямлі***, ***долу***; *прекрасный* — А: ***дзіўны***, С: ***прыгожы***; *проистекать* — А: ***выходзіць***, С: ***выцякаць***; *раздор* — А: ***спорка***, С: ***разлад***; *сирый* — А: ***сірата***,

С: **бедны**; соединение — А: **еднасьць**, С: **зьяднаньне**; *составить пляску* — А: **падняць танец**, С: **распачаць танец**; *страдание* — А: **мука**, С: **пакута**; *судьба* — А: **доля**, С: **лёс**; *творить* — А: **рабіць**, С: **ствараць**; *трепетать* — А: **дрыжаць**, С: **дрыжэць**; *трудиться* — А: **рабіць**, С: **працаваць**; *хваление* — А: **пахвалка**, С: **выхваленьне**; *чрезвычайно* — А: **вельмі**, С: **надзвычай**.

Пры ўсіх адрозьненьнях, тут важны супольны момант, тое, што і Арол, і савецкі аўтар шмат якія царкоўнаславянізмы перадаюць уласна беларускімі сродкамі. Хто больш удала гэта зрабіў, хто менш — пытаньне асобнае, нам трэба пакуль што зацеміць толькі сам факт — д а д а т н ы для мовы.

У савецкі час беларуская мова інтэнсіўна маскалізавалася, праўда, мала хто задумаўся, што менавіта царкоўнаславянізмы былі тымі барбарызмамі, якія разбуралі гістарычна сфармаваную сыстэму стыляў. Гэты эвалюцыйны працэс напоўніцу адбіўся і ў даных перакладах. Калі ў Арла падобных словаў вобмаль, то ў савецкім тэксьце знаходзім іх у найразнастайнейшых праявах. Зазначым перадусім пару супольных для абоіх аўтараў царкоўнаславянізмаў: *богослужение* — ~~*багаслужэньне*~~ і *огласиться* — ~~*агласіцца*~~. Яшчэ, зь вялікай доляй умоўнасьці, сюды ж можна аднесьці *освящаться* — *асьвячацца*, калі апошні разглядаць як кальку (бо аналягічныя перайманьні з польскае мовы — *сьвеньціць, пасьвеньціць*). Уласна Арловых царкоўнаславянізмаў няшмат, гэта выпадковае ~~*заваявацель*~~ (суфікс *-цель*) і недаперакладзеныя *опочить* — ~~*апачыць*~~; *подражание* — ~~*падражаньне*~~; *предсмертный* — ~~*прадсмертны*~~ там, дзе ў савецкім тэксьце ёсьць больш адметныя беларускія словы: ***спачыць, перайманьне*** і ***перадсьмяротны***. Затое ў астатніх выпадках савецкі аўтар чэрпае з царкоўнаславянскае мовы поўнаю жменяю.

Шмат якія царкоўнаславянізмы ў савецкім тэксьце не перакладаюцца, а бяруцца жыўцом, як яны ёсьць у расейскай мове. І некаторыя зь іх, на жаль, даволі частыя ў сучасным беларускім маўленьні — амаль што нарматыўныя: *истина* — ~~*ісьціна*~~; *послание* — ~~*пасланьне*~~; *подвиг* — ~~*подзьвіг*~~; *сословие* — ~~*саслоўе*~~. Некаторыя адносна мала ўжываюцца ці зусім не ўжываюцца: *божественный* — ~~*бажэственны*~~; *венчанный* — ~~*вінчаны*~~; *гонения* — ~~*ганеньне*~~; *заблуждение* — ~~*заблуджэньне*~~; *ложе* — ~~*ложа*~~; *порок* — ~~*парок*~~; *преследовать* — ~~*прасьледаваць*~~; *провидение* — ~~*правідзеньне*~~; *рамена* — ~~*рамены*~~; *тление* — ~~*тленьне*~~; *чело* — ~~*чало*~~. Пад тое ўзьнікаюць і яўныя абмылы: *своекорыстный* — ~~*своекарысны*~~. Тым часам у Арла знайшліся адпаведныя беларускія словы: ***божы, слаўны, напасьці, абмылка, ложак, зло, трывожыць, вышэйшая сіла, плечы, гной, лоб / галава, самалюбны***. Запазычаньні з царкоўнаславянскае мовы нічым ня лепшыя калькі і розныя перакручваньні, якія скрозь трапляюцца ў савецкім тэксьце: *миродержавный* — ~~*сьветаўладарны*~~; *неизбежный* — ~~*непазьбежны*~~; *повластвовать* — ~~*паўладарстваваць*~~; *посягательство* — ~~*пасяганьне*~~; *священнейший* — ~~*найсьвяшчэньнейшы*~~.



Своеасаблівым ухіленьнем Арла ад царкоўнаславянскага ўплыву было тое, што такія словы як *бедственный, послание* і *сословие* ён абмінуў, ніяк не пераклаўшы. Зазначым: толькі да першага зь іх у савецкага аўтара знайшоўся добры адпаведнік — ***згубны***. Затое калі ў савецкім тэксьце царкоўнаславянскія словы *труждающиеся и обремененныи, упокоить* ідуць зусім без перакладу, то Арол знаходзіць да іх арыгінальныя спалучэньні: ***гаротнікі і заціснутыя***, ***даць адпачынак***.

Цікава зьвярнуць увагу на пераклад слова *ближний*, якое здаўна цяжка перадаецца сродкамі беларускай мовы. У першых беларускіх лексыконах і ў сучасных расейска-беларускіх слоўніках трапляецца адпаведнік ***блізкі***, якога пэўна ж замала, хоць за яго заўзімаюцца пурыстыя — даводзіцца ўжываць *бліжні* ці **бліжны**. Савецкі перакладнік піша *блізкі* і *бліжні*, тым часам Арол стараецца больш папулярна і падрабязна перадаць: *брат, родны брат, бліжні брат-чалавек*. Усё гэта яшчэ раз пацьвярджае праблемнасьць данага слова.

У сучасным маўленьні неяк некрытычна ўжываецца дзеяслоў *весяліцца* — падобна што небеларускага паходжаньня. На жаль, на яго зусім ніхто не зьвяртае ўвагі. А тут маем у савецкага аўтара: *веселиться* — ~~*весяліцца*~~, у Арла: *веселиться* — ***цешыцца***. Апошняе цалкам у згодзе з народным маўленьнем.

Асабліва прыкрая калька — неапраўданае пашырэньне сэмантыкі слова *зрок* на ўзор расейскіх *взор, зрение*. У беларускай мове глядзяць в а ч ы м а, а ня зрокам. Таму варта зьвярнуць увагу на пераклад *сводить взор* — гарманічны ў Арла: **адрываць вока** і штучны савецкі: ~~*адводзіць зрок*~~, хоць асобна ўзяты дзеяслоў *адводзіць* — даволі ўдалы.

У беларускай мове прэдыкатыўную функцыю прыметнікі выконваюць куды радзей, чым у расейскай, дык невыпадкова кароткі прыметнік *рожден* у Арла перадаецца дзеясловам **нарадзіўся**, а ў савецкім тэксьце — прыметнікам ~~*народжаны*~~. У беларускай мове часта ўжываюцца прыслоўі, дзе ў расейскай прыметнікі і прыслоўнікі (азначальныя прыслоўі), таму невыпадкова ў Арла фраза *в беспрестанном раздоре* перастварaецца: **бесьперастанку ў спорцы**, а ў савецкага аўтара — бессаромна калькуецца: ~~*у бесьперапынным разладзе*~~, хоць можа падацца і лепшай з лексічнага боку (знаёмае нам *разлад* заміж нашаніўскага *спорка*). (Дарэчы, сучасныя пісьменьнікі такім спосабам ня толькі перакладаюць, а нават ствараюць арыгінальныя тэксты: на расейскі сынтаксычны каркас лепяць беларускія, часьцяком экзатычныя, словы і пад тое пэўныя, што пішуць на добрай беларускай мове).

У Арла яшчэ сустрэнем **грэцкі**, а ня прыкрае ~~*грэчаскі*~~, як у савецкім тэксьце, сустрэнем **падобны (да чаго)**, а не абрыдлае ~~*падобны (на што)*~~, як павяся і як ужыў ананімны перакладнік. У Арла яшчэ найвышэйшая ступень прыраўнаньня перадаецца згодна зь беларускай граматыкай: **найважнейшы**, а не з расейскай: ~~*важнейшы, велізарнейшы*~~, як у пазьнейшым перакладзе, у яго яшчэ *истина* — **праўда**, а ня ~~*ісьціна*~~, *чело* — **лоб, галава**, а не ~~*чало*~~ (апошняе мае крыху іншыя функцыі ў беларускай мове: абазначае ‘верх, верхнюю частку чаго-колечы’ ці служыць матар’ялам дэрыватаў *чалом! прычолак* і г. д.).

Прыемна зацеміць, што Арол яшчэ не цураецца беларускага **помніць** і не замяняе яго кніжным (фактычна, гіпэркарэктным) *памятаць*, як маем у савецкім перакладзе, і расейскае *покупщик* у яго — **купец**, а не ~~*пакупнік*~~, як стала пазьней, бо *купец* у беларускай мове — ня толькі прафэсійны гандляр, а наагул — ‘той, хто купляе’. Расейскае *судьба* ў Арла яшчэ перадавалася пашыраным у народзе **доля**, а савецкі тэкст ужо засьведчыў інавацыю *лёс*, якую Я. Станкевіч залучаў да палянізмаў і пільна рэкамэндаваў **кон** ‘рок’. Арол выкарыстоўвае сынтэтычную форму прыраўнаньня прыметніка: *шире* — **шырэйшы**, а савецкі аўтар — аналітычную: *больш шырокі*. Арол замяняе субстантываваны прыметнік *истинное* спакменьнікам **праўда**, а савецкі аўтар не замяняе, піша *ісьціннае*. У тым жа кірунку мянялася й рэшта нашаніўскага узусу на савецкі: *ошибка* — А: **абмылка**, С: **памылка**; *чувствовать* — А: **пачуваць**, С: **адчуваць**; *какой-нибудь* — А: **які-колечы**, С: **які-небудзь**; *что-нибудь* — А: **што-колечы**, С: **што-небудзь**; *окружить* — А: **абступіць**, С: **абкружыць**; *покорность* — А: **пакора**, С: **пакорлівасьць**; *хваление* — А: **пахвалка**, С: **выхваленьне**; *лесть* — А: **пахлебства**, С: **лісьлівасьць**; *рождение* — А: **радзіны**, С: **нараджэньне**, часам гэтыя замены зусім не бясшкодныя: *заблуждение* — А: **абмылка**, С: ~~*заблуджэньне*~~. Але які адменьнік лепшы, які традыцыйнейшы, ня будзем выракаваць.

Месцамі савецкія варыянты ў прынцыпе нельга зганіць, але ў Арла маем нейкія больш натуральныя, менш кніжныя, менш груваcткія адменьнікі, што надае яго перакладу лёгкасьці, нязмушанасьці: *надобно* — А: **трэба**, С: **патрэбна**; *насильственно* — А: **прымусам**, С: **гвалтоўна**; *невозможно* — А: **нельга**, С: **немагчыма**; *необходимо* — А: **заўсёды**, С: **абавязкова**; *творить* — А: **рабіць**, С: **ствараць**. Цікава прасачыць, як замяняліся некаторыя звыклыя народныя словы, формы слоў, ужываньні слоў на іншыя, нібыта патрэбныя, але ўжо не такія першаісныя: *задумчивый* — А: **задуманы**, С: **задуменны**; *картина* — А: **абраз**, С: **карціна**; *достигнуть (чего)* — А: **дайсьці (да чаго)**, С: **дасягнуць (чаго)**; *будут платить щедро* — А: **заплацяць добра**, С: **будуць плаціць шчодра**; *одежда* — А: **адзежа**, С: **вопратка**; *угнетенный* — А: **заціснуты**, С: **прыгнечаны**. Так ці сяк, гэта каштоўны матар’ял да роздуму. У разгляданых тэкстах далёка ня ўсё адназначна, некаторыя выразы ўдалейшыя ў Арла: *какая тебе нужда* — А: **што табе да таго**, С: **якая табе бяда**; *ты прав* — А: **твая праўда**, С: **на тваім баку праўда**, а некатоыя больш дакладныя, нават больш

беларускія ў савецкім перакладзе: *во прах* — А: **да зямлі**, С: **долу**; *во всеуслышание* — **ва ўсе вушы**; *на ўвесь голас, другой* — А: **другі**, С: **іншы**; *кроме* — А: **акром**, С: **апрача**; *отечество* — А: **свая старонка**, С: **бацькаўшчына**; *страдание* — А: **мука**, С: **пакута**. На жаль, перавагі ў савецкім — вынятак, а ня правіла.

Асобна трэба зацеміць, што некаторыя Арловы ўжываньні адпавядаюць рэкамэндацыям Я. Станкевіча. У Арла мы знаходзім упадабаную апошнім форму прыметнікаў *малодшы*, а ў савецкім тэксьце — *маладзейшы*, знаходзім слова *стоўп* (ня *слуп* і ня ~~*стоўб*~~), а ў савецкім чамусьці ~~*столп*~~. Станкевіч разглядаў як кальку дзеяслоў *убачыць* (заміж *абачыць*) і ў нейкай меры гэта пацьвярджаецца прымеркаваньнем тэкстаў: *увидеть* — А: **угледзець**, С: **убачыць**. Цікава, што Станкевіч дзеяслоў *параўнаць* адносіў да палянізмаў, а за альтэрнатыву меў *прыраўнаваць* — і гэта мае падмацаваньне ў перакладах: *сравнить (с кем)* — А: **прыраўнаваць (да каго)**, С: **параўнаць (з кім)**. Калі памянёныя рэкамэндацыі дзе спрэчныя, а дзе прыватныя, то асабліва вартая на ўвагу наступная. Я. Станкевіч і Я. Скрыган вельмі наракалі на калькаваньне расейскага слова *путь* беларускім *шлях*. Апошняе мае куды вузейшую сэмантыку, ніж расейскае і не ўжываецца ў пераносным сэньсе (трэба ня ~~*ў добры шлях*~~, а **шчасьлівай дарогі**). І ў нашым выпадку савецкі аўтар слова *путь* калькуе як ~~*шлях*~~, а Арол найчасьцей перадае традыцыйным **дарога**, у іншым месцы як сынонім ён ужывае **сьцежка**. На гэты досьвед і сёньня ня трэба забывацца.

Ёсьць у Арла ў перакладзе і некаторыя ўнікальныя, нават загадкавыя словы. Прыкладам, *гонения* перакладаецца як **напасьць** (у савецкім тэксьце — ~~*ганеньне*~~). Мала таго, што пераклад адметны, дык яшчэ вельмі нагадвае адзін артыкул з слоўніка В. Ластоўскага: **преследование** — *напасьць, напаставаць, напастоўнік* (Ваўкавыск). Яшчэ загадкавейшы пераклад слова *вдохновение* як **прасьвяда** (у савецкім варыянце — *натхненьне*). Адзінае жарала, дзе сустракаецца *прасьвяда*, — зноў жа слоўнік Ластоўскага, але там яно даецца як адпаведнік да **благодать**, а потым яшчэ прыточваецца ў прыкладзе да артыкула **свыше**: *Прасьвяда зыходзіць знаўзвышы, зь неба ад Бога*. Як гэтыя ўжываньні лучацца з «Расейска-крыўскім (беларускім) слоўнікам» — загадка. З аднаго боку — Арлоў тэкст прыкметна запабягае слоўнік, з другога боку — ведама, што В. Ластоўскі рэдагаваў артыкулы ў «Нашай Ніве». Што гэта — першае апрабоўваньне інавацыяў Ластоўскага? Ці жарало да ягонае працы? Так ці інакш — сэмантыка і *напасьці*, і *прасьвяды* тут не супадае з слоўнікам.

У часы «Нашае Нівы» мова была, як растоплены й неадліты ў формы мэтал. Шмат што было нясьпелае, зялёнае, бракавала дакладных паняткаў, але мажлівасьці былі неабсяжныя. Гэтыя народзіны слова варта агледзець адумысна на прыкладах з Арла і з савецкага аўтара: *бескорыстно* — А: *без надзеі на заплату*, С: *бескарысьліва; беспредельный* — А: *бязьмерны*, С: *бязьмежны; внезапно* — А: *разам*, С: *раптоўна; возложить* — А: *налажыць*, С: *пакласьці; для* — А: *дзеля*, С: *для; изобличать* — А: *выяўляць*, С: *выкрываць; изучать* — А: *спазнаваць*, С: *вывучаць; источник* — А: *прычына*, С: *крыніца; который* — А: *каторы*, С: *які; крепко* — А: *крэпка*, С: *моцна; минута* — А: *мінута*, С: *хвіліна; награда* — А: *падзяка*, С: *узнагарода; наследовать* — А: *заняць*, С: *насьледаваць; неизбежный* — А: *неабмыльны*, С: *немінучы; образование* — А: *навука*, С: *адукацыя; обстоятельства* — А: *варункі*, С: *акалічнасьці; общественный* — А: *грамадзянскі*, С: *грамадскі; общий* — А: *адзін*, С: *агульны; обычай* — А: *абычбй*, С: *звычай; около* — А: *кругом*, С: *каля; покровитель* — А: *абарона*, С: *абаронца; порок* — А: *зло*, С: *парок; потомки* — А: *унукі*, С: *нашчадкі; потомство* — А: *патомнасьць*, С: *нашчадкі; почести* — А: *пахвала*, С: *пашаны; правило* — А: *навука*, С: *правіла; предки* — А: *дзяды*, С: *продкі; предмет* — А: *рэч*, С: *прадмет; представить* — А: *убачыць*, С: *уявіць; прекрасный* — А: *дзіўны*, С: *прыгожы; принадлежащий* — А: *прыналежны*, С: *уласьцівы; просвещение* — А: *навука*, С: *асьвета; раздор* — А: *спорка*, С: *разлад; разрушить* — А: *зьніштожыць*, С: *разбурыць; сырый* — А: *сірата*, С: *бедны; соединен* — А: *зьвязаны*, С: *злучаны; торгаш* — А: *крамнік*, С: *гандляр; торговать* — А: *тар-*

*гаваць,* С: *гандляваць; угнетать* — А: *ціснуць,* С: *прыгнятаць; угнетенный* — А: *заціснуты,* С: *прыгнечаны; узнать* — А: *спазнаць,* С: *ведаць (будзеш); уничтожение* — А: *зьніштажэньне,* С: *зьнішчэньне; уничтожить* — А: *зьніштожыць,* С: *зьнішчыць; условливать* — А: *падтрымліваць,* С: *абумоўліваць; услужливость* — А: *услужнасць,* С: *прыслужлівасьць; услужливый* — А: *услужны,* С: *услужлівы; утомленный* — А: *змучаны,* С: *стамлёны.* Можа, савецкія варыянты звыклейшыя, дзе-нідзе дакладнейшыя, затое колькі творчасьці, колькі жывой думкі і нескарыстаных мажлівасьцяў знаходзім у нашаніўскіх адменьніках.

Некаторыя савецкія альтэрнатывы пры ўсіх мінусах нашаніўскіх — гэта капітуляцыя перад цяжкасьцямі, дэградацыя мовы: *миродержавный* — А: *кіруючы сьветам*, С: ~~*сьветаўладарны*~~; *неизбежный* — А: *неабмыльны*, С: ~~*непазьбежны*~~; *безвозмездно* — А: *без надзеі на заплату*, С: ~~*бясплатна*~~; *верования* — А: *вера*, С: ~~*вераваньне*~~; *посягательство* — А: *падняцьце рукі*, С: ~~*пасяганьне*~~. Нават тое, што нам здаецца недакладным у нашаніўскім тэксьце, насамрэч глыбока ўгрунтаванае ў мове. Прыкладам, сёньня не сакрэт, што слова *абмылка* ў XIX, пачатку XX стст. было больш нарматыўным, чым сучаснае *памылка*. Але чаму ў Арла *неизбежный* перакладаецца як ***неабмыльны***? Што гэта? Недакладнасьць? Паэтычная вольнасьць? Не! Калі мы ўспомнім, што ў беларускай мове дзеяслоў ***мыляць*** значыць ня толькі ‘блытаць’, але й ‘абмінаць, хадзіць мінавіцамі’ — тады ўсё становіцца на свае месцы. Аўтар нашаніўскага перакладу, як выяўляецца, тут вельмі дакладны.

Асобнае ўвагі вымагае дыялягічны аспэкт перакладу. Шмат якія, і ўжо разгледжаныя і яшчэ нечапаныя, рысы тэксту выкліканыя яго спэцыфічнай адрэсаванасьцю. Шырокая, не заўжды культурная аўдыторыя «Нашае Нівы» вымагала папулярызацыі выкладу, спрашчэньня й адаптаваньня складаных тэрмінаў і паняткаў, і перакладнік гэтага пасьпяхова дабіваецца. Вось толькі некаторыя, яўныя, «папулярызмы» Арловага перакладу: *ближний* — ***брат-чалавек;*** *варвар* — ***дзікун;*** *вопли* — ***стогны;*** *геркулесовы столбы* — ***канец;*** *журналист* — ***пісака;*** *лавры* — ***слава;*** *местность* — ***геаграфічнае палажэньне;*** *провидение* — ***вышэйшая сіла;*** *родина* — ***родны край;*** *у форме* — ***у складзе;*** *хаос* — ***тлум;*** *человечество* — ***усе людзі***. Далёка ня кожны чытач «Нашае Нівы» ведаў усе, пераносныя і скразныя, значаньні слова *драма*, таму Арол перакладае так, нібы тлумачыць: *разыгрывается ужасная, кровавая драма* — ***падымаецца страшэннае крывавае бязладдзе***, савецкі аўтар перадае той самы сэнс ужо нэўтральна: *разыгрываецца жахлівая, крывавая драма*.

І ў адным і ў другім перакладзе процьма дадатных і адмоўных дэталяў, на якія карысна зьвярнуць увагу. Прыкладам, добра, што абодвыя аўтары расейскае *решаться* пераклалі як ***адважвацца***, абодвыя кароткі прыметнік *веселб* ў ролі прэдыкатыву пераклалі як ***вясёлая***, але й той і другі аўтары ня вельмі добра пераклалі *борьба* як ~~*барацьба*~~ (трэба ***змаганьне***), *образ без лица* як ~~*абраз без твару*~~ (тут, прынамсі, больш падышло б слова ***аблічча***). У Арла кідаецца ў вочы небеларускае слова ~~*знаньне*~~, але куды больш прыкра бачыць неадоленыя маскалізмы ~~*прывольна*~~, ~~*заключацца*~~ ў тэксьце савецкага пэрыяду — было ж абвешчана пра стварэньне літаратурнае мовы. Некаторыя Арловы слоўцы выглядаюць больш гутарковымі, дыялектнымі і застарэлымі, як тое ж заходнебеларускае *каторы* заміж прынятага ў сучаснай мове *які* і іншыя падобныя: *опора* — А: *падпора*, С: *апора*; *принесть* — А: *прынясьці*, С: *прынесьці*. Аднак і ў савецкім тэксьце тое-сёе выглядае больш архаічным, дыялектным: *жертвовать* — А: *ахвяраваць*, С: *афяраваць*; одр — А: *пасьцель*, С: *пасьцеля*; *трепетать* — А: *дрыжаць*, С: *дрыжэць*. Цікава, што менавіта ў савецкім тэксьце ёсьць абмылы: *из выгоды* — ~~*дзеля выгоды*~~, а трэба, як у Арла *дзеля карысьці*; *титло* — ~~*цітла*~~ (трэба ўсё ж *тытул*). Недакладнасьць у Арла: *особенный* — ~~*асобны*~~ (трэба *асаблівы*) — гэта ўжо хутчэй вынік нясьпеласьці тагачасных нормаў. Ёсьць і супольныя хібы: *смоченный* — ~~*змочаны*~~ (а трэба *намочаны*, бо *змачыць* ‘моцна вымачыць’, а не ‘памачыць’).

Арол часта дапускае вольнасьці ў сваім перакладзе. І сёе-тое запраўды дакладней перадаецца ў савецкага аўтара: *страдание* — А: ~~*мука,*~~ С: ***пакута;*** *печать (гения)* — А: ~~*пячатка,*~~ С: ***адзнака;*** *другой* — А: ~~*другі,*~~

С: ***іншы***. Але ёсьць і адваротныя выпадкі, калі савецкі аўтар прыблізны ў перадаваньні арыгіналу: *благодатный* — А: ***жывы***, С: ~~*шчасьлівы*~~; *поверье* — А: ***забабоны***, С: ~~*паданьне*~~. Думаецца, што некаторыя Арловы недакладнасьці тлумачацца асаблівасьцямі беларускае народнае мовы, дзе, скажам, прычына й вынік могуць перадавацца тымі самымі сродкамі, адсюль, відаць, і ўзьнікла розьніца: *вследствие* — А: ***з прычыны***, С: ***у выніку***; *потому* — А: ***дзеля***, С: ***таму***. Аднак нам цікавыя іншыя «недакладнасьці» ў Арла, тыя, за якімі стаіць філязофія, прынцыпы перакладу: *бытие* — ***жыцьцё***; *существование* — ***жыцьцё***; *уничтожение* — ***пагібель***; *преследовать* — ***трывожыць***; *хохот* — ***сьмех***; *дорожить (чем)* — ***трымацца (чаго)***; *нравственный* — ***духоўны***. Ведама, можна было гэтыя словы пераказаць і дакладней, але ўся штука ня ў іх, бо словы — толькі вяршыня айсбэргу. Тут мы наблізіліся да прынцыповага моманту ўсяго нашага разгляду.

**Прынцыпова тое, што Арол перакладае ня с л о в ы, а с э н с ы.** Калі раскласьці тэкст як слоўнік, то мы ўбачым, што аб'ектамі перакладу ў Арла служылі цэлыя фразы, а савецкі аўтар проста калькаваў арыгінал. Як гэта выглядае практычна, пакажам на такім прыкладзе: выраз *подави эгоизм* Арол пераказвае сваімі словамі: ***кінь любіць сябе***, а савецкі перакладнік нават добрых адпаведнікаў не знаходзіць, піша: ~~*падаві эгаізм*~~. Цікава, што ў адным месцы пры пераказе выразу *за гробом* Арол схібіў, так і пераклаў: ~~*за гробам*~~, а савецкі аўтар наадварот знайшоў тут жывы народны выраз: ***на тым сьвеце***. Ёсьць таксама некалькі мясьцінаў, дзе абодвыя аўтары не калькавалі арыгіналу: *болезненный одр* — А: ***сьмяротная пасьцель***; С: ***перадсьмяротная пасьцеля***; *понуждать к бегу* — А: ***падганяць бегчы***; С: ***прымушаюць бегчы***. Рэшта савецкага тэксту — суцэльныя прыкрыя калькі, якраз там, дзе ў нашаніўскім адменьніку гучаць натуральныя беларускія фразы. І ў гэтым ня цяжка пераканацца:

● *блестящая жизнь* — ***шчаснае жыццё***, ~~*бліскучае жыццё*~~; *в беспрестанном раздоре* — ***бесьперастанку ў спорцы***, ~~*у бесьперапынным разладзе*~~; ● *венчанное чело* — ***слаўная галава***, ~~*вянчанае чало*~~; ● *вещие уста пророка* — ***мова прарока***, *вусны прарока*; ● *взгляд на предметы* — ***спосаб глядзець на рэчы***, ~~*погляд на прадметы*~~; ● *внезапная и решительная реформа* — ***жаданьне разам пераменіць***, ~~*раптоўная і рашучая рэформа*~~; ● *время и просвещение подводит под общий уровень* — ***час і навука зьніштожвае***, ~~*час і асьвета падводзіць пад агульны ўзровень*~~; ● *двигатель человечества* — ***кіраўнік чалавецтва***, ~~*рухавік чалавецтва*~~; ● *для впечатлений благого и истинного* — ***дзеля пазнаньня добрага і праўды***, ~~*для ўражаньня добрага і ісьціннага*~~; ● *должно состоять* — ***павінна быць***, ~~*павінна заключацца*~~; ● *другой путь шире, спокойнее, легче* — ***другая дарога шырэйшая, прастарнейшая, лягчэйшая***, ~~*другі шлях больш шырокі, спакойны, лёгкі*~~; ● *его существование ни к чему не служит* — ***яго жыцьцё нічога ня вартае***, ~~*яго існаваньне нічаму ня служыць*~~; ● *единая цель* — ***агульная мэта***, *адзіная мэта*; ● *колоссальное могущество* — ***сіла і слава***, ~~*велізарнейшая магутнасьць*~~; ● *множество могуществ* — ***многа другіх сіл***, ~~*мноства магутнасьцей*~~; ● *наследие потомков от предков* — ***скарб ад дзядоў да ўнукаў***, ~~*спадчына нашчадкаў ад продкаў*~~; ● *наследовать по праву завоевания* — ***заняць як заваявацель***, ~~*насьледаваць па праву заваяваньня*~~; ● *не имеющий языка* — ***бяз мовы***, ~~*ня маючы мовы*~~; ● *не стало цели* — ***не было мэты***, *ня стала мэты*; ● *нравственная смерть* — ***духоўная сьмерць***, *маральная сьмерць*; ● *нравственное уничтожение* — ***духоўная пагібель***, ~~*маральнае зьнішчэньне*~~; ● *образ мыслей* — ***спосаб думаць***, *лад думак*; ● *обременить чело венцами* — ***аплесьці лоб вянкамі***, ~~*упрыгожыць чало вянкамі*~~; ● *он полагает в них важность* — ***маюць вагу для яго***, ~~*знаходзіць ён у іх важнасьць*~~; ● *подави эгоизм* — ***кінь любіць сябе***, ~~*падаві эгаізм*~~; ● *потому же самому* — ***а дзеля таго самага***, ~~*таму ж самаму*~~; ● *прервался ход человеческого ума* — ***затрымаўся разгон чалавечага розуму***, *прыпыніўся ход чалавечага розуму*; ● *противный: в противном случае* — ***бо іначай***, ~~*у адваротным выпадку*~~; ● *самобытная жизнь* — ***асобнае жыццё***, *самабытнае жыццё*; ● *светлый пир* — ***вясёлы баль***, ~~*сьветлы пір*~~; ● *сводить взор* — ***адрываць вока***,

*~~адводзіць зрок~~; •святыя минуты вдохновения —* ***сьветлыя мінуты прасьвяды****, сьвятыя хвіліны натхненьня; •священнейшее достояние —* ***найсьвяцейшае багацьце****, ~~найсьвяшчэньнейшы здабытак~~; •сделаться (кем) —* ***быць падбітым****, зрабіцца (кім); •сладкий голос —* ***чароўны голас****, салодкі голас; •сочувствуй природе —* ***уцякай у прыроду****, ~~спачувай прыродзе~~; •сторона жизни —* ***частка жыцьця****, бок жыцьця; •тебе не по силам —* ***не на тваe сілы****, ~~табе не па сілах~~; •угнетение и оскорбление —* ***здзек і глум****, прыгнёт і абраза; •успехи просвещения —* ***падняцьце культуры****, посьпехі ў асьвеце; •яростный хохот —* ***дзікі чартоўскі сьмех****, шалёны рогат.*

Вось, як той казаў дзьве «неабмыльныя дарогі» для перакладніка. Ніхто ня кажа, што так і толькі так слушна, як зрабіў Арол, але дакладна нельга так перакладаць, як зрабіў савецкі аўтар. І нельга сьцьвярджаць, дзей пераказ В. Бялінскага — гэта адзіны прыкры выпадак павярхоўнага стаўленьня да мовы. На той час, у 30—50-я гг., шмат расейскіх і замежных клясыкаў выдавалі па-беларуску, але пераклады-калькі былі хутчэй правілам, чым выняткам. Нават у неблагіх майстроў слова! Выняткамі, асабліва ў паваенны пэрыяд, былі якраз якасныя тэксты. (А потым скончыліся і тыя й другія.) Якія нормы, якая стылістыка маглі вырабіцца ў такім кантэксьце ня варта казаць.

У савецкія часы была напісаная процьма прац-дасьледаваньняў пра неўнармаванасьць нашаніўскае мовы, нясьпеласьць тагачаснае тэрміналёгіі, але пра нягоднасьць савецкае мовы — маўчок. Адважуся сказаць, што ў нашы дні справа на’т куды горшая. Мала гэтага, дык пайшла яшчэ адна пошасьць: зьявіліся а д в а к а т ы с а в е ц к і х д а с я г н е н ь н я ў. Калі не дабілі мовы гэныя, то гэтыя ўжо дакладна даб’юць. Адвакаты могуць чарговы раз хапіцца за свой улюбёны довад, дзей «мова разьвіваецца», дык хай паўзіраюцца куды «разьвіваецца». Больш дакладныя паняткі: д э г р а д у е, м а с к а л і з у е ц ц а.



# РАСЕЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІЧАК

**(Як трэба й як ня трэба)**

**адский** — пякельны АС; **адская пляска** — пякельны танец АС
**апостол** — апостал АС
**бедственный** — [...] А, згубны С
**безвозмездно** — без надзеі на заплату А, бясплатна С
**бескорыстно** — без надзеі на заплату А, бескарысьліва С
**беспредельный** — бязьмерны А, бязьмежны С
**бессмертие** — бясьсьмерце АС, вечнасьць А
**бич** — канчук А, біч С
**бітва** — змаганьне А, бойка С; **бітва на смерць** — змаганьне на жыцьцё і сьмерць А; бойка на сьмерць С
**благо** — дабро АС
**благодатный** — жывы А, шчасьлівы С
**благой** — добры АС; **для впечатлений благого и истинного** — дзеля пазнаньня добрага і праўды А; для ўражаньня добрага і ісьціннага С
**блаженство** — шчасьце АС
**ближний** — бліжні брат-чалавек А, родны брат А, блізкі, бліжні С; **свои ближние** — свае браты А; свае блізкія С
**Бог** — Бог АС
**богослужение** — багаслужэньне АС
**божественный** — божы А, бажэственны С
**более** — болей А, больш С
**борьба** — барацьба АС
**бросаться** — кідацца АС
**бытие** — жыцьцё А, быцьцё С
**важнейший** — найважнейшы А, важнейшы С
**важность** — вага А, важнасьць С; **он полагает в них важность** — маюць вагу для яго А, знаходзіць ён у іх важнасьць С

**важный** — важны АС
**варвар** — дзікун А, варвар С
**введенный** — уцягнены А, уведзены С
**вдохновение** — прасьвяда А, натхненьне С
**везде** — усюды АС
**великий** — вялікі АС
**венец** — вянок АС
**верования** — вера А, вераваньне С
**весела** — вясёла А, весела С
**веселиться** — цешыцца А, весяліцца С
**весь** — увесь АС
**вечный** — вечны АС
**вещий** — прарочы А, пракоцкі С; **вещие уста пророка** — мова прарока А; вусны прарока С
**взоры** — вочы А, зрок С; **сводить взор** — адрываць вока А; адводзіць зрок С
**власть** — улада АС; **неподлежащий никакой власти** — ня маючы ніякай улады над сабой А; які не падпарадкоўваецца ніякай уладзе С
**вне** *(кого)* — апроч *(каго)* А, па-за *(кім)* С
**внезапно** — разам А, раптоўна С; **внезапная и решительная реформа** — жаданьне разам перамяніць А; раптоўная і рашучая рэформа С

**вода** — вада АС
**возложить** — налажыть А, пакласьці С
**вопли** — стогны А, лямант С
**вот** — вось АС
**вреден** *(кому)* — шкодзіць *(каму)* А, шкодны *(каму)* С
**время** — час АС
**всеуслышание: во всеуслышание** — ва ўсе вушы А; на ўвесь голас С
**вследствие** — з прычыны А, у выніку С
**всякий** — кожны А, усякі С
**выгода** — карысьць А, ~~выгода~~ С; **из выгоды** — дзеля карысьці А; дзеля выгоды С
**выражать** — выяўляць АС
**выстрадать** — выпакутаваць АС
**гадина** — гадзіна АС
**гений** — геній АС
**геркулесов: геркулесовы столбы** — канец А, геркулесавыя слупы С
**гнуть** — гнуць А, згінаць С
**голод** — голод АС
**голос** — голас АС; **сладкий голос** — чароўны голас А; салодкі голас С
**гонения** — напасьці А, ганеньне С
**греческий** — грэцкі А, грэчаскі С
**гроб: за гробом** — за гробам А; на тым сьвеце С



**груз** — цяжар АС
**губить** — губіць А, зьнішчаць С
**дар** — дар АС; **божественный дар** — божы дар А; бажэственны дар С
**дать** — даць АС
**дело** — справа АС
**деятельность** — праца А, дзейнасьць С
**для** — дзеля А, для С
**добро** — дабро АС
**довность** — даўнасьць АС
**довольствоваться** — быць здаволеным А, здавальняцца С; Довольствуйся! — Будзь здаволен! А; Здавальняйся! С
**дойти** — дайсьці АС
**должен** — павінен АС
**доля** — частка АС
**домашний** — хатні АС
**дорога** — дарога АС; **идя по разным дорогам** — ідучы рознымі дарогамі А; ідучы па розных дарогах С
**дорожить** *(чем)* — трымацца *(чаго)* А, даражыць *(чым)* С
**достигнуть** *(чего)* — дайсьці *(да чаго)* А, дасягнуць *(чаго)* С
**друг друга** — адзін другога АС
**другой** — другі А, іншы С
**думать** — думаць АС
**душа** — душа АС

**дышать** — дыхаць АС
**если** — калі АС
**есть** — есьці АС
**жарко** — горача АС
**жертвовать** — ахвяраваць А, афяраваць С
**жизнь** — жыццё АС; **блестящая жизнь** — шчаснае жыццё А; бліскучае жыццё С; **самобытная жизнь** — асобнае жыцьцё А; самабытнае жыцьцё С; **сторона жизни** — частка жыцьця А; бок жыцьця С
**жить** — жыць АС
**журналист** — пісака А, журналіст С
**заблуждение** — абмылка А, заблуджэньне С
**забыть** — забыцца АС
**задумчивый** — задуманы А, задуменны С
**заём** — пазыка АС
**закон** — закон АС
**зато** — затое АС
**зверь** — зьвер АС
**земля** — зямля АС
**зло** — зло АС
**змея** — зьмяя А, гадзюка С
**знание** — знанне А, веды С
**ибо** — бо АС
**изобличать** — выяўляць А, выкрываць С
**изучать** — спазнаваць А, вывучаць С

**истина** — праўда А, ісьціна С; **апостол истины и знания** — апостал праўды і знання А; апостал ісьціны і ведаў С
**источник** — ~~прычына~~ А, крыніца С
**кадило** — кадзіла АС
**кадить** — падкурваць А, кадзіць С
**каждый** — кожны АС
**казаться** — здавацца АС
**какой-нибудь** — які-колечы А, які-небудзь С
**картина** — абраз А, карціна С
**климат** — клімат АС
**когда** — калі АС
**кои** — гэтыя АС
**колосс** — грамадзіна А, волат С; **колоссальное могущество** — сіла і слава А, велізарнейшая магутнасьць С
**кончиться** — скончыцца АС
**который** — каторы А, які С
**крепко** — крэпка А, моцна С
**крест** — крыж АС
**кроме** — акром А, апрача С
**лавровый** — лаўровы АС
**лавры** — слава А, лаўры С
**лёгкий** — лёгкі АС
**лесть** — пахлебства А, лісьлівасьць С
**лицо** — твар АС; **образ без лица** — абраз без твару АС
**лишь** — толькі АС
**ложе** — ложак А, ложа С
**любезный** — дарагі А, даражэнькі С
**любить** — любіць АС
**между** — між А, паміж С; **между собою** — адзін з другім А, паміж сабой С
**местность** — геаграфічнае палажэньне А, мясцовасьць С
**минута** — мінута А, хвіліна С
**мир** — сьвет АС; **властелин мира** — кіраўнік сьвету А, уладар сьвету С
**миродержавный** — кіруючы сьветам А, сьветаўладарны С; **миродержавные судьбы обрекли** — кіруючая светам доля вызначыла А; сьветаўладарны лёс прызначыў С
**младеченственный** — малады АС; **он младеченственнее** — ён малодшы А, ён маладзейшы С
**множество** — много А, мноства С; **множество могуществ** — многа другіх сіл А; мноства агутнасьцей С
**может** — зможа А, можа С
**муки** — пакуты АС
**мыслить** — думаць А, мысьліць С; **образ мыслей** — спосаб думаць А; лад думак С
**мягкий** — мяккі АС
**мягко** — мякка АС
**награда** — падзяка А, узнагарода С
**надобно** — трэба А, патрэбна С
**найтись** — знайсьціся АС



**налагать** — накладаць АС
**народ** — народ АС
**насильственно** — прымусам А, гвалтоўна С
**наследовать** — заняць А, насьледаваць С; **наследовать по праву завоевания** — заняць як заваявацель А, насьледаваць па праву заваяваньня С; **наследие потомков от предков** — скарб ад дзядоў да ўнукаў А, спадчына нашчадкаў ад продкаў С
**находиться** — […] А, знаходзіцца С
**начать** — пачаць АС
**небо** — неба АС
**невежество** — цемната А, невуцтва С
**невозможно** — нельга А, немагчыма С; **менее возможно** — трудней А, менш магчыма С
**неизбежный** — неабмыльны А, немінучы, непазьбежны С
**необходимо** — заўсёды А, абавязкова С
**непреложный** — вечны бесьпераменны А, неадхільны С
**ниспосылать** — пасылаць АС
**нравственный** — духоўны А, маральны С; **нравственное уничтожение** — духоўная пагібель А; маральнае зьнішчэньне С
**нужда: какая тебе нужда** — што табе да таго А; якая табе бяда С
**о** — аб АС
**облеченный** — […] А, увасоблены С
**обновление** — абнаўленьне АС
**образование** — навука А, адукацыя С
**обречь** — вызначыць А, прызначыць С
**обстоятельства** — варункі А, акалічнасьці С; **сила обстоятельств** — […] А, сіла акалічнасьцяў С
**общественный** — грамадзянскі А, грамадскі С
**общий** — адзін А, агульны С
**обычай** — абычбй А, звычай С; **резче и цветнее его обычаи** — больш дзіўны яго абычаі А; больш выразныя і маляўнічыя яго звычаі С
**овцы** — авечкі АС
**огласиться** — агласіцца АС
**ода** — ода АС
**одежда** — адзежа А, вопратка С
**один** — адзін АС
**односторонность** — аднабаковасьць АС
**одр** — пасьцель А, пасьцеля С; **болезненный одр** — сьмяротная пасьцель А; перадсьмяротная пасьцеля С
**около** — кругом А, каля С
**окружить** — абступіць А, абкружыць С

**он** — ён АС
**опора** — падпора А, апора С
**опочить** — апачыць А, спачыць С; спачыць на лаўрах С
**опять** — ізноў А, зноў С
**оргия**: беспутные оргии — шалёнае распуства А, распусныя оргіі С
**освящаться** — асьвячацца АС; **освящаться временем** — асьвячаюцца вякамі А; асьвячаюцца часам С
**особенный** — ~~асобны~~ А, асаблівы С
**отверзать** — адчыняць А, раскрываць С
**отечество** — свая старонка А, бацькаўшчына С
**откроется** — раскрыецца А, адкрыецца С
**отречься** — адрачыся АС
**ошибка** — абмылка А, памылка С; **ужасная ошибка** — вялікая абмылка А; страшэнная памылка С
**паэт** — паэт АС
**перенимать** — браць А, пераймаць С
**переходить** — пераходзіць АС
**печать** *(гения)* — пячатка А, адзнака С
**пир** — баль А, пір С; **светлый пир** — вясёлы баль А; сьветлы пір С
**плакать** — плакаць АС
**платить: будут платить щедро** — заплацяць добра А; будуць плаціць шчодра С
**пляска** — танец АС
**поверье** — забабоны А, паданьне С
**повластвовать** — пабыць верхаводам А, паўладарстваваць С
**погубленный** — загублены АС
**подвиг** — дорога А, подзьвіг С
**подражание** — ~~падражаньне~~ А, перайманьне С
**поесть** — паесьці АС
**пожить** — пажыць АС
**пойти** — пайсьці АС
**поколение** — пакаленьне АС; **от поколения к поколению** — з пакаленьня ў пакаленьне А; ад пакаленьня да пакаленьня С
**покорность** — пакора А, пакорлівасьць С
**покровитель** — абарона А, абаронца С
**покупщик** — купец А, пакупнік С
**полубог** — паўбог АС
**польза** — карысьць АС
**помнить** — помніць А, памятаць С
**понуждать** — падганяць А; прымушаць С; **понуждать к бегу** — падганяць бегчы А; прымушаюць бегчы С
**понятие** — паняцьце АС
**попереть** — растаптаць А, затаптаць С
**поприще** — дарога А, поле дзейнасьці С

**по-римски** — па-рымску АС
**порок** — зло А, парок С
**послание** — [...] А, пасланьне С
**последний** — апошні АС
**поспать** — паспаць АС
**посягательство** — прымус А, падняцьце рукі А, пасяганьне С
**потомки** — унукі А, нашчадкі С
**потомство** — патомнасьць А, нашчадкі С
**потому** — дзеля А, таму С; **потому же самому** — а дзеля таго самага А; таму ж самаму С
**похож** *(на что)* — падобны *(да чаго)* А, падобны *(на што)* С
**почему** — чаму АС
**почести** — пахвала А, пашаны С
**почитать** — лічыць АС
**прав: ты прав** — твая праўда А; на тваім баку праўда С
**правило** — навука А, правіла С
**прах: во прах** — да зямлі А; долу С
**предки** — дзяды А, продкі С
**предмет** — рэч А, прадмет С; **взгляд на предметы** — спосаб глядзець на рэчы А, погляд на прадметы С
**предсмертный** — прадсмертны А, перадсьмяротны С
**представить** — убачыць А, уявіць С
**прекрасный** — дзіўны А, прыгожы С
**преследовать** *(не давать покоя)* — трывожыць А, прасьледаваць С
**привольно** — добра А, прывольна С
**принадлежащий** — прыналежны А, уласьцівы С
**принесть** — прынясьці А, прынесьці С
**принимать** *(характер)* — мець А, набываць С
**приносить** — даваць А, прыносіць С
**принять** — прыняць АС
**природа** — прырода АС; **сочувствуй природе** — уцякай у прыроду А; спачувай прыродзе С
**причина** — прычына АС
**провидение** — вышэйшая сіла А, правідзеньне С
**провозгласить** — абвесьціць АС
**прозябать** — драмаць А, гібець С
**проистекать** — выходзіць А, выцякаць С
**пройти** — прайсці АС
**прокричать** — праенчаць А, пракрычаць С
**пророк** — прарок АС
**просвещение** — навука А, асьвета С; **успехи просвещения** — паднядцьце культуры А; посьпехі ў асьвеце С; **время и просвещение подводит под общий уровень** — час і навука зьніштожвае А, час і асьвета падводзіць пад агульны ўзровень С
**противный: в противном случае** — бо іначай А, у адваротным выпадку С

**прототип** — [...] А, прататып С
**путь** — дарога А, сьцежка А, шлях С; **другой путь шире, спокойнее, легче** — другая дарога шырэйшая, прастарнейшая, лягчэйшая А; другі шлях больш шырокі, спакойны, лёгкі С
**раздор** — спорка А, разлад С; **в беспрестанном раздоре** — бесьперастанку ў спорцы А, у бесьперапынным разладзе С
**размежевать** — пабіць межамі А, разьмежаваць С
**разный** — розны АС
**разрушить** — зьніштожыць А, разбурыць С
**рамена** — плечы А, рамены С
**раскольник** — раскольнік АС
**религия** — рэлігія АС
**решаться** — адважвацца АС
**род** — род АС
**родина** — родны край А, радзіма С
**родной** — родны АС
**рожден** — нарадзіўся А, народжаны С
**рождение** — радзіны А, нараджэньне С
**самобытность** — самабытнасьць АС
**свет I** — знаньне А, сьвятло С
**свет II** — сьвет АС; **всё на свете** — усё на сьвеце АС
**своекорыстный** — самалюбны А, ~~своекарысны~~ С
**свой** — свой АС
**свойственный** — [...] А, уласьцівы С
**связанный** — зьвязаны АС
**святой** — сьвяты АС; **святыя минуты вдохновения** — сьветлыя мінуты прасьвяды А; сьвятыя хвіліны натхненьня С
**священнейший** — найсьвяцейшы А, найсьвяшчэньнейшы С; **священнейшее достояние** — найсьвяцейшае багацьце А; найсьвяшчэньнейшы здабытак С
**сделать** — зрабіць АС
**сделаться** *(кем)* — быць падбітым А; зрабіцца С
**сей** — гэты АС
**сила** — сіла АС; **тебе не по силам** — не на твае сілы А; табе не па сілах С
**сильный** — сільны АС
**сирый** — сірата А, бедны С
**склонить** — сагнуць А, схіліць С
**скрываться** — крыцца А, хавацца С
**слабый** — слабы АС
**слава** — слава АС
**сладко** — салодка АС
**слезы** — сьлёзы АС
**слишком** — залішне А, вельмі С
**слово** — слова АС
**смерть** — сьмерць АС; **нравственная смерть** — духоўная сьмерць А; маральная сьмерць С



**смоченный** — змочаны АС
**собственный** — уласны АС
**соединен** — зьвязаны А, злучаны С
**соединение** — еднасьць А, зьяднаньне С
**сокровища** — скарбніца А, скарбы С
**сокровищница** — скарбніца АС; **общая сокровищница** — усясьветная скарбніца А; агульная скарбніца С
**сон** — сон АС
**сословие** — [...] А, саслоўе С
**составить** *(пляску)* — падняць А, распачаць *(танец)* С
**составлять** — вытвараць А, складаць С
**состоять** — быць А, заключацца С; **в чем состоит** — у чым жа ёсьць А; у чым жа заключаецца С; **состоят в образе** *(одежды)* — выяўляюцца *(у адзежы)* А; заключаюцца *(у характары)* С; **должно состоять** — павінна быць А; павінна заключацца С
**спокойный** — спакойны АС
**сравнить** *(с кем)* — прыраўнаваць *(да каго)* А, параўнаць *(з кім)* С
**старовер** — старавер АС
**стоит** — варта АС
**столп** — стоўп А, столп С; **столп и опора** — стоўп і падпора А; столп і апора С
**страдание** — мука А, пакута С
**страшить** — палохаць АС
**стремление** — [...] А, імкненьне С
**судьба** — доля А, лёс С
**существование** — жыцьцё А, існаваньне С; **его существование ни к чему не служит** — яго жыцьцё нічога ня вартае А; яго існаваньне нічаму ня служыць С
**сфера** — паветра А, сфера С
**счастие** — шчасьце АС
**сын** — сын АС
**так** — дык АС; так АС
**творить** — рабіць А, ствараць С
**тень** — цень АС
**тепло** — цёпла АС
**терпеть** — цярпець АС
**тесно** — цесна АС
**титул** — тытул А, ~~цітлы~~ С
**тление** — гной А, тленьне С
**тогда** — тады, то тады С
**толпа** — натоўп АС
**только** — толькі АС
**торгаш** — крамнік А, гандляр С
**торговать** — таргаваць А, гандляваць С
**трепетать** — дрыжаць А, дрыжэць С
**трудиться** — рабіць А, працаваць С
**трудна** — трудна АС
**труждающийся** — гаротнік А, [...], **труждающиеся и обремененны** — гаротнікі і заціснутыя А, [...] С

**тяжкий** — цяжкі АС
**тяжко** — цяжка АС
**увидеть** — угледзець А, убачыць С
**угнетать** — ціснуць А, прыгнятаць С
**угнетение** — [ціск] А, прыгнёт С; **угнетение и оскорбление** — здзек і глум А; прыгнёт і абраза С
**угнетенный** — заціснуты А, прыгнечаны С
**ужасный** — страшэнны А, жахлівы С; вялікі АС
**уже** — ужо АС
**узнать** — спазнаць А, ведаць (будзеш) С
**укрепляться** — узмацоўвацца А, умацоўвацца С
**ум** — розум АС; **прервался ход человеческого ума** — затрымаўся разгон чалавечага розуму А; прыпыніўся ход чалавечага розуму С
**уметь** — умець АС
**уничтожение** — зьніштажэньне А, пагібель А, зьнішчэньне С
**уничтожить** — зьніштожыць А, зьнішчыць С
**упокоить** — даць адпачынак А, [...] С; **упокою вы** — дам вам адпачынак А, [...] С
**условливать** — падтрымліваць А, абумоўліваць С
**услужливость** — услужность А, прыслужлівасьць С
**услужливый** — услужны А, услужлівы С
**утомленный** — змучаны А, стамлёны С
**физиономия** — аблічча АС
**форма: у форме** — у складзе А; у формах С
**хаос** — тлум А, хаос С
**хваление** — пахвалка А, выхваленьне С
**хлеб** — хлеб АС
**холод** — холад АС
**холодно** — холадна АС
**хохот** — сьмех А, рогат С; **яростный хохот** — дзікі чартоўскі сьмех А; шалёны рогат С
**хребет** — хрыбет АС
**цель** — мэта АС; **единая цель** — агульная мэта А, адзіная мэта С; **не стало цели** — не было мэты А, ня стала мэты С
**цена** — цана АС; **положить цену** — палажыць цану А; пакласьці цану С
**чело** — лоб А, галава А, чало С; **венчанное чело** — слаўная галава А; вінчанае чало С; **обременить чело венцами** — аплесьці лоб вянкамі А, упрыгожыць чало вянкамі С
**человек** — чалавек АС
**человеческий** — чалавечы АС
**человечество** — усе людзі А, чалавецтва С; **двигатель человечества** — кіраўнік чалавецтва А; рухавік чалавецтва С; **целое человечество** — усё чалавецтва А; цэлае чалавецтва С
**чрезвычайно** — вельмі А, надзвычай С
**что** — што АС
**что-нибудь** — што-колечы А, штонебудзь С
**чувство** — пачуцьцё АС
**чувствовать** — пачуваць А, адчуваць С
**чуждый** — чужы АС
**широкий** — шырокі АС
**э!** — о! А э! С
**эгоизм: подави эгоизм** — кінь любіць сябе А; падаві эгаізм С
**это** — гэта АС
**этот** — гэты АС
**язык** — мова АС; **не имеющий языка** — бяз мовы А, ня маючы мовы С
**яростный** — дзікі А, шалёны С

■

**Юр ПАЦЮПА** нарадзіўся ў 1965 годзе ў г. Полацку, скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і аспірантуру пры кафедры беларускай культуры. Аўтар арыгінальнай вершазнаўчай канцэпцыі («Страла Зэнона. Рытмалягічны трактат»). Даследуе праблемы эстэтыкі, культуры мовы, лексікаграфіі, граматыкі. Друкаваўся ў часопісах «Крыніца», «Фрагмэнты», «Arche», «Дзеяслоў», «Роднае слова», «Маладосць». Аўтар зборнікаў паэзіі «Ноч» (1991), «Сабака» (2008).

# (крытыка)

Лада АЛЕЙНІК



## МІЛАЕ ПЛЯВУЗГАННЕ НА НЕІДЭАЛЬНАЙ МОВЕ

**Раман Юліі Шаровай**
**«Don Giovanni, або Памілаваны свавольнік»**

Спачатку зраблю невялікае адступленне, каб патлумачыць, чым асабіста для мяне каштоўны тэкст твора Юліі Шаровай «DON GIOVANNI, або ПАМІЛАВАНЫ СВАВОЛЬНІК».

На філфаку БДУ я кірую семінарам «Асновы пісьменніцкага майстэрства». Семінар гэты адносна новы, дзейнічае ўсяго толькі другі год, таму перыядычна я сутыкаюся з дэфіцытам «матэрыялу».

Справа ў тым, што для практычных заняткаў мне даводзіцца падбіраць творы (альбо ўрыўкі з твораў), дзе ёсць пэўныя хібы — лексічная неадпаведнасць, моўная недастатковасць ці празмернасць, няўдалая вобразнасць, кантамінацыя фразеалагізмаў, таўталогія, канцылярызмы, абсурдызмы, алагізмы, моўныя штампы і г.д. Студэнты вышукваюць гэтыя памылкі і недакладнасці, робяць т. зв. філалагічную экспертызу, рэдагуюць тэксты...

Але, як ні дзіўна, такіх «зручных» тэкстаў трапляецца не надта шмат. Бывала, што даводзілася тыднямі праседжваць у бібліятэцы, перабіраць цэлыя стосы часопісаў... У мінулым годзе, дарэчы, мне вельмі прыдаўся для працы раман Віктара Марціновіча «Сцюдзёны вырай». (У першым раздзеле твора аўтар свядома нарабіў розных моўных памылак. Гэты прыём павінен быў падмануць чытача, прымусіць паверыць, што

апавядальнік дрэнна абазнаны ў беларускай мове).

І вось з'явіўся «DON GIOVANNI, або ПАМІЛАВАНЫ СВАВОЛЬНІК» Юліі Шаровай. Магу прызнацца, што першы раз я чытала твор са спецыфічным недаверам: думала, што гэтае бясконцае скажэнне мовы — менавіта мастацкі прыём (прыкладна, як у Віктара Марціновіча). Ну, а калі зразумела, што аўтар піша «ўсур'ёз», была ўражана, безумоўна.

Але пры ўсім тым, для мяне раман Юліі Шаровай зрабіўся сапраўднай знаходкай. Па гэтым тэксце вельмі зручна паказваць студэнтам, **як не трэба пісаць**.

...Найперш заінтрыгаваў аб'ём тэксту. Бо вядома, што класічны сюжэт, да якога адсылае назва, даволі лаканічны. Таму ўзнікла заканамерная цікаўнасць: што ж з яго можна было «выкруціць» ажно на шэсцьсот старонак? Аказваецца, усё вельмі проста...

Можна на цэлую старонку разгарнуць паралелі з казачнай Рапунцэль (с. 251)[1], можна шчодра цытаваць Караткевіча (с. 367—371), можна перанасыціць тэкст другараднымі героямі, якія не адыгрываюць у падзеях ніякай ролі, але дазваляюць аўтару ўвесці ў тэкст некалькі старонак (!) адборных мацюкоў (с. 377—380). А яшчэ можна кожнаму дробнаму дзеянню персанажа прысвячаць доўгія разгорнутыя сказы. Напрыклад, з натуральнага жадання героя памыцца стварыць цэлую праблему: «**Ён не ведаў, як цяпер выходзіць на вуліцу**, бо ўжо амаль суткі не быў пад душам, а цягам гэтых сутак ён шмат пабегаў па гарачай Маскве, выпіў літр піва, болей за паўлітра гарэлкі, каўтнуў марціні і спусціў жменьку спермы» (с. 82)[2]. Чаго ж тут «не ведаць»? Грынкевіч знаходзіцца ў гарадской кватэры, ванная — побач, пайшоў ды памыўся... Дый усе тыя падрабязнасці, якія пералічыла аўтар, ужо і так былі ўвасоблены ў тэксце — і гарачае надвор'е шмат разоў пміналася, і колькасць выпітага скрупулёзна падлічвалася, і ўсё іншае, што рабіў Грынкевіч, гэтаксама абмалёўвалася...

Несумненна, тэкст патрабуе істотнага скарачэння. Не толькі на ўзроўні выкасоўвання цэлых абзацаў пустаслоўя і цэлых старонак лаянкі, але на ўзроўні элементарнага рэдагавання сказаў. Напрыклад: «Гэта ўсё адно, што мілавацца з кабетай на шматлюдным пляжы **сярод белага дня**» (с. 6). Апошнія словы — відавочна лішнія, бо ўночы на пляжах вельмі рэдка бывае шматлюдна. Альбо яшчэ. «**Тэарэтычна** без яго тэатр **на кавалкі** не разваліцца, бо спектакляў пакуль няма» (с. 28). «Тэарэтычна» не разваліцца, а «практычна»? Па-мойму, выразна відно, што вылучаныя словы не патрэбны. І яшчэ. «...У такі час можна было нарвацца на сведку ў асобе самотнай прыбіральшчыцы **са швабрай**» (с. 25). Ясная справа, што прыбіральшчыца не будзе хадзіць па тэатры ні з касой, ні з віламі. Ці такое... Нюта мые посуд і размаўляе з Грынкевічам. «— Не ведала, што ты такі паэтычны, — адказала дзяўчына, **сціскаючы ў руцэ губку на посуд**» (с. 255). Навошта тут гэтая «губка на посуд»? Альбо «...маркота пачала раз'ядаць яго **з сярэдзіны**» (с. 443). Зразумела, што не звонку. Альбо «... Воўчык вырашыў рызыкнуць **на сваю дупу**...» (с. 64). Як на мой густ, то без дупы было б лепей. (Дый увогуле... з дупамі ў творы нешта не тое... Неяк камічна яны ўсе выглядаюць. І «**дупка-сардэчка**» (с. 22), і нават тая адмысловая «**дупка**», на якую аднойчы пашанцавала герою, — «**дзе не было ані намёку на цэлюліт**» (с. 350)).

А ў некаторых выпадках з двух (і болей) сказаў варта было б зрабіць адзін. Напрыклад, такім чынам: «Яму прынцыпова не хацелася прасіцца ў чужыя аркестры: абрыдла быць падначаленым, **ад якога нічога не залежыць.** Хацелася рабіць нешта сваё **і, найперш, нешта сваё ставіць**» (с. 18). Калі пазбавіцца ад тых частак, якія вылучаны, то і сказ атрымаецца больш лаканічным, і сэнс яго не зменіцца. Гэткім чынам варта было б істотна «пачысціць» увесь тэкст, зрабіць яго больш канцэнтраваным і змястоўным.

Калі ж гаварыць непасрэдна пра мову твора, то недакладнасці пачынаюцца ўжо ад назвы. «DON GIOVANNI, або ПАМІЛАВАНЫ СВАВОЛЬНІК». «Свавольнікам», як правіла, называюць гарэзлівага хлопчыка. У тэксце гаворка ідзе не пра **свавольніка**, а пра **распусніка**. (Дарэчы, опера, паводле якой спадарыня Шарова зрабіла рымейк, называецца «Дон Жуан, або Пакараны распуснік»).

[1] Тут і далей старонкі ўказваюцца па: *Шарова, Ю.* «DON GIOVANNI, або ПАМІЛАВАНЫ СВАВОЛЬНІК» [Электронны рэсурс] — Рэжым доступу: http://euroradio.fm/sites/all/themes/euroradio/files/dongiovanni.pdf — Дата доступу: 23.12.2012.

[2] Усе вылучэнні тлустым шрыфтам зроблены мной. — ***Л.А.***

Разглядаць у дэталях усе русізмы, думаецца, не варта. Бо нават калі іх выправіць, гэта не палепшыць тэкст. Дый пра некаторыя асобныя словы прыйшлося б даваць шмат тлумачэнняў. Бо, скажам, з пэўнымі ўзорамі ўсё больш-менш ясна («**прадкі** валасоў» (с. 15, 150, 270 і інш.), «Міша ажно **засапеў**» (с. 36) або «Міша толькі **пасапеў** у адказ» (с. 539), «птушка, што **ўзмывае**» (с. 50), «вырашыў **пазабавіцца**» (с. 54), «**зрубіць** ялінку» (с. 159) або «**разрубіць** гордзіевы вузел» (с. 301), «**плотна** аблягала фігуру» (с. 167), **язджай** на адпачынак (с. 171) або «**язджай** адсюль» (с. 186), «зняла з сябе **фартук**» (с. 256), «**пабей** мяне» (с. 265), «папрасіла **праводзіць** яе» (с. 270) або «**праводзіць** цябе?» (с. 295), «як **выразілася** Анна» (с. 302), «яго **шансы** набліжаліся» (с. 375), «**стая** птушак» (с. 576), «абрынуць на яго ўсю **жоўч**» (с. 597) і інш.). А вось слова «**паступаць**» аўтар рамана, верагодна, бачыла ў слоўніку, толькі не звярнула ўвагі, дзе яго правамерна выкарыстоўваць. І таму піша «...а ці слушна мы робім, ці правільна **паступаем**?» (с. 289). Альбо яшчэ. «Джавані хоча **ўвесці** сялянку за сабой» (с. 285). Словам «увесці» мы карыстаемся, але ў іншых выпадках. Можна ўвесці пашпартны кантроль, але, на вялікі жаль, нельга ўвесці сялянку за сабой.

Ёсць недакладнасці іншага характару — накшталт, «мужчыны **абарочваліся** на яе» (с. 23). (Так і хочацца згадаць Паўлюка нашага Багрыма: «У ваўкалака **абярнуся**, // З шчасцем на вас азірнуся»). А ў некаторых выпадках выкарыстанне слова па аналогіі з рускай мовай пазбаўляе сэнсу ўсю фразу. Напрыклад, выраз «няхай усё ідзе сваёй **чарадой**» (с. 234). Калі сказаць па-руску «всё идёт своим чередом», гэта будзе значыць «паслядоўна», «заведзеным парадкам». А пабеларуску «чарада» — гэта статак, натоўп. (А тут не магу не згадаць Кандрата нашага Крапіву: «У адным сяле (не важна дзе) // Хадзіў Баран у чарадзе...»). Адпаведна, выраз страчвае логіку.

Аўтарскія параўнанні патрабуюць асобнай гаворкі. На мой погляд, іх можна падзяліць на дзве групы: некарэктныя і недарэчныя. Да першай групы я адношу параўнанні такога кшталту: «Нават калі сына ледзь не адлічылі з універсітэта, Андрэй Аляксандравіч не сказаў яму нічога, а **маці мітусілася па кватэры, як сука, у якой адбіраюць шчаня...**» (с. 41). Вядома, параўнаць можна каго заўгодна з кім заўгодна. Толькі асабіста для мяне параўнанне маці з сукай непрыймальнае.

А да другой групы я адношу параўнанні накшталт такога: «Ды ты **белы, як засланка!** Сэрца?..» (с. 570). Засланка, наколькі мне вядома, гэта тое, чым печ закрываюць. І засланка не белая, а чорная — ад дыму, ад сажы... Ці тут аўтар мае на ўвазе вытворную ад слова «засцілаць»? Дык тое «белае», чым засцілаюць ложак, называецца прасціна.

Праўда, ёсць яшчэ параўнанні вельмі разгорнутыя і не столькі недарэчныя, колькі камічныя: «...усё адно **як бегаць у чырвоных штанах** перад статкам здаровых укормленых **быкоў, якіх даўно не пускалі да кароў**» (с. 446). Калі ўвага завастраецца менавіта на «чырвоных штанах» і на тым, што быкоў «даўно не пускалі да кароў», дык атрымліваецца, што быкі могуць... згвалціць гэткага рызыканта?

Альбо вось такое: «Ябі вашу маць, хто яе сюды пусціў?!» — **хацелася зараўці Грынкевічу, як дзіку, абвешанаму зграяй псоў**» (с. 166). Нават калі пакінуць без увагі выраз «абвешанаму зграяй» і тое, што «псы» — гэта русізм, то сітуацыя з фаўнай у творы азадачвае... Бо калі да ўсяго прыгадаць, што «скрыпкі **віскочуць, як рэзаныя гусі**» (с. 6), міжволі задумаешся пра экалогію... Гусі віскочуць, як свінні, а дзікі равуць, як каровы. І гэта далёка не ўсё. Апроч таго, «**Грынкевіч пачуваўся, як выкінутая на марскі бераг медуза.** <...> Такая павольна плавіцца пад сонечнымі промнямі і марыць толькі пра дзве рэчы: або трапіць назад у мора, або паспець **угрызці** на развітанне якую-небудзь чалавечую асобіну...» (с. 27). І ў дадатак... «Калі ж Анна пакпіць з жоўтых ружаў, яму давядзецца адсмоктваць атруту, **як пасля ўгрызу скарпіёна**» (с. 236). Дасюль я была перакананая, што ў медуз і скарпіёнаў начыста адсутнічаюць зубы. Прыкладна гэтак, як у беларускай мове назоўнік «**угрыз**».

Шмат у творы недарэчнасцяў іншага характару. Вось, напрыклад, якую інтэрпрэтацыю атрымлівае паданне пра цмокаў (пра тое, што цмокі выводзяцца з яйка пеўня, вынашанага пад пахай і г.д.): «У Маскве ён меў

уласны **аркестр** у зародкавым стане, які яшчэ **належала вынасіць пад пахай**, а потым выгадаваць і навучыць самастойна есці і лётаць» (с. 18). Аркестр... пад пахай? Нечаканая паралель. Асацыятыўна згадваецца барадаты анекдот, калі муж надоўга з'язджае ў камандзіроўку і дазваляе жонцы здрадзіць яму адзін раз. А калі вяртаецца, дык жонка шчыра прызнаецца, што не парушыла абяцання, здрадзіла толькі раз. З сімфанічным аркестрам.

Альбо яшчэ. «Можа быць, ён таксама пачуваўся выкінутай на бераг **медузай**? Ці, што яшчэ **дакладней, алігатарам...?**» (с. 28). Істотнае ўдакладненне. Ізноў, як у анекдоце: прабег заяц, а дакладней — бегемот. Розніца, вядома, невялікая, памыліцца лёгка.

«Грынкевіч падазраваў, што **тэатр зрабіўся неблагой пральняй на грошы...**» (с. 19). У тэатры пралі грошы? (Па-руску кажучы, «стирали»?). Ці адмывалі?

«Трэба сказаць, калі Ірына з'явілася ў тэатры, Грынкевіч <...> **спыніў сяброўскі сэкс з Таццянай...**» (с. 48). Гэта быў бесперапынны працэс?

«Ён падышоў і стаў выцягваць шпількі з яе валасоў. <...> Анніны валасы, бы косы Рапунцэль, **упалі долу**» (с. 290). Дол — гэта тое, што пад нагамі. Атрымліваецца, што валасы ў жанчыны адваліліся?

А вось цікавая інфармацыя пра дырэктара тэатра: «Гэта ягоная тэрыторыя, **ён выразна пазначыў куты**» (с. 31). «Пазначаюць куты» звычайна жывёлы. А дырэктар, апроч усяго, зрабіў гэта «выразна»... Ён хадзіў па тэатры і ў кожным куце дэманстратыўна «задзіраў нагу»?

«А потым прыйдзеш дадому, **возьмеш душ і ляжаш спаць**» (с. 241). Навошта спаць з душам? Гэта ж нязручна...

«...Ірына раптам падскочыла на ложку, **растаўкла** Грынкевіча» (с. 162). Растаўчы можна бульбіну. Альбо пысу. Аўтар, верагодна, мела на ўвазе, што Ірына раскатурхала Грынкевіча.

Ну, і яшчэ некалькі перлінаў без каментароў.

«Грынкевіч лічыў Маскву задужа небяспечным месцам: менавіта ў Маскве ён на кожным рагу **напорваўся** на даўняга сябра, аднакурсніка ці проста харошага чалавека...» (с. 57).

«Яна напраўду **выглядала дужа прыціснутай да зямлі**» (с. 96).

«Святло ў зале згасла, ля бар'ера ў яміне паказалася **стажорская мазгаўня**» (с. 335).



«Але з кузіны ўвесь час **ляцелі знічкі**» (с. 432).

«Але тата як быццам адчуў, што яго нашчадак зараз нешта выбрыкне, і **стрэліў па ім страшным позіркам**» (с. 445).

«Статуя старога **туебня** загаварыла!» (с. 544).

Аналізаваць стыль твора не выпадае, бо ён адсутнічае як з'ява. Поруч з дыялектнымі і састарэлымі словамі суседзяцца сленг і жаргон. Поруч з пафаснымі развагамі пра мастацтва — грубая лаянка. Процьма канцылярызмаў і штампаў з афіцыйна-дзелавога стылю. Замест выразу «усе дырыжоры тэатра» — «штатныя дырыгенцкія адзінкі» (с. 28), замест «размаўляць з дзецьмі» — «камунікаваць з дзецьмі» (с. 43), замест «Грынкевічу хацелася пагаварыць» — «Грынкевічу патрэбны быў дыялог...» (с. 46), замест «заўважыў прыгожых дзяўчат» — «зрабіў неблагую рэпрэзентатыўную выбарку» (с. 129)... Перыядычна аўтар наўпрост збіваецца на лексіку мрыеўскага Самасуя: «выконваў нейкі маральны абавязак перад сваёй жонкай...» (с. 51), «пакуль ішоў працэс скасавання першага шлюбу» (с. 99), «вырашыла свае праблемы радыкальным чынам» (с. 100), «аддзячыць канструктыўнай крытыкай» (с. 335), «Грынкевіч хацеў вывесці гэты дысананс яшчэ да ад'езду» (с. 338), «ідыятызм сітуацыі перавышаў усе санітарныя нормы» (с. 30)...

Асобныя сказы ўвогуле трэба разглядаць з розных пунктаў гледжання. Накшталт: «Перыядычна бацька трапляў у **лякарню** са стэнакардыяй, і тады маці, **пераляканая**, нібы яе пакінулі **на бязлюднай выспе**, **абрывала тэлефон** старэйшага сына» (с. 43). Апроч таго, што «лякарня» і «пераляканая» не надта прыгожа суседзяцца паводле сугучнасці, дык яшчэ і «бязлюдная выспа» з «тэлефонам» не спалучаюцца паводле сэнсу.

Адвольнае выкарыстанне фразеалагізмаў гэтаксама не ідзе на карысць тэксту. Возьмем, напрыклад, фразу: «Ён іх **на свой капыл шкадаваў**» (с. 57). Капыл — гэта кавалак дрэва ў форме ступні, які выкарыстоўваўся пры пашыве абутку. Пра нядбалага майстра казалі, што ён «робіць на свой капыл» — ці не па тым памеры, які патрэбен, ці не па тым фасоне. Безумоўна, фразеалагізм мае сэнс «па-свойму»,

але дастасоўваць яго да дзеяслова «шкадаваць» неправамерна.

А некаторыя фразеалагізмы па-свойму разбураюць логіку персанажаў. Калі, скажам, гераіня дэманструе недасведчанасць у беларускай мове — распытвае, што азначае слова «памяркоўнасць» (с. 142), то тыповы беларускі фразеалагізм «груша на вярбе» яе маўленню проста не пасуе (с. 137).

Ад «ейнічання» ды «іхнічання» ў творы проста ўваччу мільгаціць. Падабаецца аўтару гэтая форма прыналежных займеннікаў? Няхай сабе. Сёння гэта агульная тэндэнцыя... *«хто как хаціт, тот так і гаварыт»*. Але навошта пхаць іх у тэкст у гэткай шалёнай колькасці? Пачынаючы ад фраз, накшталт «**ягоныя** аркестранты будуць **яго** чакаць...» (с. 183) або «**Ейныя** гнеў і гора — **ягоныя**» (с. 227), і даводзячы «частотнасць» гэтых займеннікаў проста да абсурду. На некаторых старонках ажно сківіцы зводзіць: «пасмы **ейных** цёмных валасоў», «позірк **ейных** вачэй», «**ейная** пастава», «**ейныя** дотыкі», «**ягоная** рука», «**ейнага** голасу», «**ейны** дуэт» (усё — с. 10). І такіх старонак у творы процьма.

Выпраўлення патрабуюць выразы, кшталту: «**мачысіна** дачка» (с. 67), «**нефармалчыны** ногі» (с. 109), «**хвалявальнае** прадчуванне» (с. 186), «**зайшоўшыся** ў госці» (с. 265) і інш.

Выпраўлення патрабуюць шматлікія памылкі: «вось у гэтым ка**ў**тушку» (с. 6) — ***катушку***, «я яе выклі**каю**» (с. 278) — выклі***чу***, «ты мяне **на**чаравала тады» (с. 288) — ***за***чаравала, «бестурботнае стварэнне, **якога** ўсё задавальняе» (с. 468) — ***якое*** і інш.

Нямала ў тэксце сказаў з недарэчнымі паўторамі слоў («Так яны і **прасябравалі**, амаль па-сямейнаму, чатыры гады **прасябравалі**» (с. 59)), з відавочнай таўталогіяй («**Спёка** ў тыя дні стаяла **пякельная**» — (с. 68)), памылковых паводле будовы («**Дырэктар не пасаваў на ролю** бяскрыўднага пляжніка... — с. 27).

Рэдагавання патрабуюць выразы накшталт «Анна **міла з ім паплявузгала**» (с. 68) і «прадавачка **прыязна плявузгала**» (с. 260). Дзеяслоў «плявузгаць» мае рэзка негатыўны сэнс. Прыслоўі «міла» і «прыязна» з ім не спалучаюцца.

А вось з часціцай «не-» ў творы ўвогуле нейкія дзівосы. Замест «не хапала», аўтар паўсюль піша «бракавала»: «мне таксама **бракавала** цябе» (с. 12), «**бракавала** яшчэ, каб ты быў бландынам!» (с. 149), «Толькі гэтага **бракавала** дону Джавані!» (с. 183), «мне таксама цябе **бракавала**» (с. 189), «**бракавала** яму яшчэ адной Машы» (с. 234), «**Бракавала** яму, дырыгенту, засыпацца...» (с. 239), «**бракавала** мне яшчэ, каб уся вёска ведала...» (с. 259), «**Бракавала** толькі ўвязацца з такой у гісторыю» (с. 539) і г.д.

Затое выразаў з недарэчным вырастаннем гэтай адмоўнай часціцы колькі заўгодна: «Ірына была, як стогадовае дрэва, якое вытрымала ўсе нягоды, але гатовае было паваліцца **ў не самую лютую буру**» (с. 243), «мне вельмі **не імпануе** псеўдабарокавая безвібратная манера выканання» (с. 264), «угаварыў сябе **не быць фаталістам**» (с. 271). Альбо такое: «за ўсю гісторыю іхнага **некароткага** знаёмства» (с. 114), «праца валіцца з рук у **неперанsocным** значэнні гэтага слова» (с. 184), «надавала ейнай скуры **непрыроднае** смуглявае адценне» (с. 263), «на **неідэальнай** рускай мове» (с. 389), «**неабаяльная** маладая субрэтка» (с. 336), «**неартыстычная** манера камунікавання» (с. 280).

Каб патлумачыць агульнае ўражанне ад рамана Юліі Шаровай «DON GIOVANNI, або ПАМІЛАВАНЫ СВАВОЛЬНІК»[3]***, скарыстаюся аўтарскай лексікай. *Псеўдабарокавая безвібратная манера выканання ў спалучэнні з неартыстычнай манерай камунікавання і прыязным плявузганнем на неідэальнай мове змушае мяне пачувацца поўным фаталістам у неперанosным значэнні гэтага слова.*

[3] ***(Ад рэдакцыі)*** У 2012 годзе раман выйшаў у электронным выглядзе ў прыватнага выдаўца І. П. Логвінава і ў 2013 годзе атрымаў прэмію «Дэбют» ад Беларускага ПЭН-Цэнтра.

■

**Лада АЛЕЙНІК** (нар. у 1970 г.) — літаратуразнаўца, крытык, кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры БДУ. Аўтар тыпавой праграмы «Гісторыя літаратурнай крытыкі» для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па спецыяльнасці «Беларуская філалогія», зборніка крытычных артыкулаў, нарысаў і рэцэнзій «Пясочны гадзіннік» (2010), шэрагу публікацый у рэспубліканскім і замежным друку.

Сяргей КАВАЛЁЎ

# НЕПЕРАМОЖНЫ ШКОЛЬНЫ ДЫСКУРС: «ГАМБУРСКІ РАХУНАК БАХАРЭВІЧА»

Артыкул пра «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» хацелася б пачаць наступным чынам: «Цудоўны падарунак беларускім школьнікам зрабіла выдавецтва «Логвінаў» і «Радыё Свабодная Эўропа» — апублікавала накладам 160 000 асобнікаў новы дапаможнік па беларускай літаратуры. Напісаны вядомым айчынным празаікам, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Альгердам Бахарэвічам, дапаможнік знаёміць вучняў з найлепшымі здабыткамі айчыннага пісьменства, вучыць любіць і разумець родную літаратуру, выхоўвае эстэтычны густ і пачуццё патрыятызму, з поспехам можа быць выкарыстаны для падрыхтоўкі да выпускных і ўступных экзаменаў».

На жаль, падобная анатацыя настолькі ж неверагодная, як і апісаная Бахарэвічам «альтэрнатыўная» гісторыя ўручэння Уладзіміру Жылку Нобелеўскай прэміі ў 1965 годзе. Наклад кнігі — усяго 500 асобнікаў, аўтар жыве ў эміграцыі, на дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь не мае шанцаў, а пільныя настаўнікі не дапусцяць, каб у рукі вучняў трапіла кніга, у якой не толькі звяргаюцца са сваіх п'едэсталаў савецкія класікі, але яшчэ і на сучасную дзяржаўную ідэалогію аскепкі ляцяць. Адкрые даверлівы школьнік раздзел пра Аркадзя Куляшова і прачытае наступны фрагмент: «Куляшоў у яго школьным варыянце паўстае паэтам абсурду, доказам штучнасці літаратуры і яе неактуальнасці. Ня толькі цяперашнім, але і савецкім маладзёнам цяжка было сабе ўявіць, што можна пайсці на сьмерць за камсамольскі білет, за сьцяг брыгады, за ідэю. <...> За членскі білет БРСМ жыцьцё дакладна ніхто не аддасьць. Хіба што левую руку — мастурбаваць можна і адной, правай, ёй жа галасаваць «за», працаваць не трэба і ў войска ня возьмуць». Не, з такім «падручнікам» экзамены не здасі...

І ўсё ж у нашай «альтэрнатыўнагістарычнай» анатацыі да «Гамбурскага рахунку...» ёсць доля праўды: Альгерд Бахарэвіч — вядомы пісьменнік, яго кніга прысвечана найлепшым здабыткам айчыннай літаратуры, якую аўтар па-свойму любіць і разумее, кніга развівае / выпрабоўвае эстэтычны густ і нават — рызыкну сцвярджаць — выхоўвае / загартоўвае пачуццё патрыятызму. Не з усімі думкамі аўтара можна пагадзіцца, не ўсе раздзелы кнігі напісаныя на аднолькава высокім узроўні, аднак сам факт з'яўлення падобнага праекту ў беларускай культурнай прасторы радуе і выклікае павагу да аўтара — хаця б за смеласць і арыгінальнасць задумы.

Праўда, пра арыгінальнасць задумы можна казаць выключна ў межах беларускай традыцыі, па «гамбурскім рахунку» новая кніга Альгерда Бахарэвіча ўяўляе сабой тыповы «антыпадручнік», знаным узорам якога з'яўляецца напісаная ў 1989 г. у Нью-Йорку кніга Пятра Вайля і Аляксандра Геніса «Родная речь. Уроки изящной словесности». У прадмове да кнігі расійскія аўтарыэмігранты папярэджвалі расійскіх чытачоў: «Чытаць галоўныя кнігі рускай літаратуры — усё роўна, што пераглядаць наноў сваю біяграфію. Жыццёвы вопыт узбагачаецца разам з чытаннем і дзякуючы яму. Дата, калі ўпершыню быў раскрыты Дастаеўскі, не менш важная, чым сямейныя гадавіны. Мы расцем разам з кнігамі — яны растуць у нас. І калісьці прыходзіць час бунту супраць закладзеных у дзяцінстве адносінаў да класікі. <...> Мы задумвалі гэтую кнігу не столькі дзеля таго, каб апраергнуць школьную традыцыю, колькі дзеля таго, каб праверыць — і нават не яе, а сябе ў ёй» (пераклад мой — С.К.).

Аўтабіяграфічны момант вельмі важны і для беларускага пісьменніка, у прадмове да «Гамбурскага рахунку...» Бахарэвіч успамінае сваю школьную настаўніцу па мянушцы Жаба, якая надоўга адбіла ў яго жаданне дабраахвотна чытаць беларускую літаратуру. Чаму ж праз шмат гадоў у далёкай Нямеччыне ён раптам звярнуўся да «нялюбых» тэкстаў, вырашыў іх уважліва перачытаць, дапоўніўшы школьную праграму універсітэцкай, і падзяліцца сваімі ўражаннямі спачатку са слухачамі «Радыё Свабоды», а потым і з чытачамі? Свой учынак Бахарэвіч тлумачыць як збег жыццёвых абставінаў («ад беларускай клясыкі, як ад торбы і турмы, нікому нельга заракацца»), так і свядомым жаданнем вывесці беларускую літаратуру з родных засценкаў на шырокі еўрапейскі прастор, даць ёй бязлітасную, справядлівую ацэнку па вышэйшым, гамбурскім рахунку: «Да свайго прынята ставіцца больш паблажліва, чым да чужога — нібыта свойскасць здольная кампэнсаваць сабой хібы і пустаслоўі. «Гамбурскі рахунак» — гэта кніга-спадзеў, спадзеў на тое, што беларуская літаратура заслугоўвае больш строгага погляду. Гэта абсалютна прыватная спроба зазірнуць на яе, пазбавіўшыся прыцяжэння той школьнай дошкі, стоячы каля якой мы ўсё яшчэ намацваем у падсвядомасьці пазычаную ў кагосьці шпаргалку павагі».

Без павагі і аглядкі на аўтарытэты, але з патаемнай любоўю — вось квінтэсэнцыя бахарэвічаўскага падыходу да беларускай літаратуры. Пры чым, у некаторых эсэ любоў гэтая настолькі патаемная, што ёсць небяспека прыняць яе за нянавісць: як слушна заўважылі тыя ж Вайль з Генісам, чытачы схільныя ўспрымаюць любую крытыку ў адрас айчынных класікаў як абразу Радзімы. Папрокі ў знявазе класікаў і Бацькаўшчыны неаднаразова даводзілася чуць і Бахарэвічу, асабліва дасталося яму за эсэ «Цёмнае мінулае Каяна Лупакі» пра творчасць Янкі Купалы пасля 1930-га года ды за агульны нігілізм радыёперадач пра «стаўпоў» беларускай савецкай літаратуры: Крапіву, Броўку, Куляшова ды інш. Безумоўна, многія разделы «Гамбурскага рахунку Бахарэвіча» можна разглядаць у кантэксце шматгадовай дыскусіі пра стаўленне да савецкай спадчыны, як інтэртэкстуальны працяг артыкулаў «Ружовы туман» Сяргея Дубаўца і «Лірыка чырвонага стагоддзя» Андрэя Вераб'я. Але крытычны, з'едлівы разгляд знакавых тэкстаў беларускага соцрэалізму — п'есы «Хто смяецца апошнім» Крапівы ці паэмы «Сцяг брыгады» Куляшова — не сведчыць пра пагарду Бахарэвіча да ўсёй беларускай літаратуры савецкага перыяду, каб пераканацца ў гэтым, варта прачытаць раздзелы, прысвечаныя Міхасю Лынькову, Івану Мележу, Максіму Танку, Пімену Панчанку, а тым больш раздзелы, прысвечаныя ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў: Уладзіміру Жылку, Уладзіміру Дубоўку, Лукушу Калюгу, Паўлюку Шукайлу, Андрэю Мрыю. Безумоўна, аўтару ўласцівы здаровы антысаветызм, ён не прымае твораў, прасякнутых камуністычнай ідэалогіяй, але наіўны нацыяналізм таксама яму чужы, эстэтычны крытэрый у ацэнцы твора для яго важнейшы за ідэалагічны. «Нігіліст» і «антысаветчык» Бахарэвіч захапляецца майстэрствам ранніх апавяданняў камуніста Міхася Лынькова, а вось мастацкую каштоўнасць рамана Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі» ацэньвае досыць строга: «...Ад тыповай савецкай прозы «пра вайну і немцаў» гэтая кніга Дарог і Змаганьня адрозніваецца хіба знакам, а ня сутнасьцю. «Дарогі» — гэта твор выразна антысавецкі, а з антысаветызмам у літаратуры наядаешся гэтаксама хутка, як і ўзорамі савецкага мастацтва. Рэч у эстэтыцы — а яна ў «Змагарных дарогах» прыкладна такая самая, як і ў савецкіх аўтараў».

Не прымаючы ідэалогію ў літаратурным творы, аўтар «Гамбурскага рахунку...» імкнецца і *ўспрыманне* літаратурнага твора вызваліць ад ідэалогіі, ад навязаных школьным дыскурсам простых схемаў і стэрэатыпаў, прапануе перагледзіць усталяваную іерархію каштоўнасцяў. Мішэнямі Бахарэвіча з'яўляюцца не самі пісьменнікі, а іх «забранзавелыя помнікі», сціплы нацыянальны пантэон «багоў» і вераванняў. Пры чым Бахарэвіч не змагаецца супраць гэтых багоў і вераванняў, ён толькі хоча забраць іх з-пад улады жрацоўлітаратуразнаўцаў і аддаць простым вернікам-чытачам. Па-простаму кажучы, прапануе не *вывучаць*, а *чытаць* беларускую літаратуру. І падае прыклад, як гэта рабіць, якую «магію» ужыць, каб зашмальцаваны ў школьным і універсітэцкім ужытку твор зрабіўся жывым, блізкім і, галоўнае, цікавым.

Магічныя метады, якія выкарыстоўвае аўтар «Гамбурскага рахунку...» для «ажыўлення» белліту палягаюць на перанясенні творчасці таго ці іншага беларускага пісьменніка ў кантэкст: 1) сусветнай літаратуры, 2) постмадэрновай сучаснасці, 3) біяграфіі і эстэтычных уяўленняў А. Бахарэвіча.

Такім чынам «Авантуры майго жыцця» Саламеі Пільштыновай Русецкай чытаюцца пад уражаннем ад кнігі Архана Памука пра Стамбул, у вершы Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы» нечакана адшукваюцца паралелі з раманам «Бляшаны бубен» Гюнтэра Граса, развагі пра паэму «Тарас на Парнасе» падмацоўваюцца цытатамі з эсэ Олдаса Хакслі, «Пінская шляхта» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча супрацьстаўляецца з «Пэр Гюнтам» Генрыка Ібсэна, «Гутарка Данілы са Сцяпанам» успрымаецца як дыялог Эстрагона і Уладзімера з п'есы Самюэля Бэкета «У чаканні Гадо» і г.д.

Некалі Міхаіл Бахцін слушна заўважыў, што дзве цытаты з розных твораў пастаўленыя побач уступаюць паміж сабой у культурны дыялог і ўтвараюць новы сэнс. Парадаксальнае і не заўсёды карэктнае з навуковага пункту гледжання супастаўленне хрэстаматыйных твораў беларускай літаратуры з сусветнай класікай дазваляе, аднак, аўтару «Гамбурскага рахунку...» паказаць гэтыя творы ў нечаканым ракурсе, дапамагае заўважыць сапраўды цікавыя паралелі, адзначыць універсальныя рысы. Вось жа герой верша Паўлюка Багрыма, адпраўлены ў царскае войска, шкадуе, што ў дзяцінстве на яго не сеў кажан, «каб я большы не падрос ды ад бацькавых калёс», а ягоны равеснік, нямецкі хлопчык Оскар адмаўляецца расці, каб не быць прызваным ў фашысцкую армію. Сусвет герояў «Пінскай шляхты» аказваецца надзвычай герметычным і самадастатковым, калі параўноўваць яго з неабсяжным і трагічным сусветам вандроўніка Пэр Гюнта. Разважлівая гутарка двух беларускіх сялян пра царскую рэформу 1861 г. гучыць як філасофскі дыялог з драмы абсурду, калі вырваць яе з гістарычных рэалій і ўспрымаць з перспектывы сённяшняга часу.

З перспектывы сённяшняга часу, з улікам досведу сучаснага чалавека разглядаюцца ў «Гамбурскім рахунку...» і іншыя творы беларускай літаратуры, пра што сігналізуюць ужо назвы асобных эсэ: «Кіно 1866 году», «Бог не роўна delete», «Сумны крошынскі джаз», «Курсіў чарнакніжніка», «Нязносная зычнасць шыпячых», «Ашалелы ў пакоі сьмеху», «Канец сэрыялу» і інш. Свядомая мадэрнізацыя выбраных для чытання твораў адбываецца як на сэнсавым ўзроўні, так і на моўным. «Паэму “Тарас на Парнасе” з поўным правам можна лічыць першым псіхадэлічным творам беларускай літаратуры», — смела сцвярджае Бахарэвіч і інтэрпрэтуе аповяд Тараса пра падарожжа на Парнас як вынік доўгага знаходжання палясоўшчыка на макавым полі. Аўтар «Гамбурскага рахунку...» звяртае ўвагу на тую дзіўную акалічнасць, што ўсіх класікаў рускай літаратуры просты селянін Тарас ведае ў твар і задае аўтару «Тараса на Парнасе» слушнае пытанне: «Наўрад ці клясыкі насілі бэйджы з імёнамі. Па тэлевізары ён іх бачыў, ці што?»

Багушэвічаўскага Аліндарку Бахарэвіч называе першым беларускім тэрарыстам і прыходзіць да сумнай высновы: «Паэмаю ў прозе «Кепска будзе» Багушэвіч запачаткаваў у новай беларускай літаратуры жанр «турэмнага дзёньніка». На жаль, дагэтуль актуальны — бо «нявінных памежы нас шмат», расейскія сьледчыя ў кабінетах калышуць нагамі, выбіваючы зь беларусаў беларускі дух...» Аўтар у «Гамбурскім рахунку...» не згодны лічыць п'есу Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім?» замаскаваным памфлетам супраць сталінізму, як гэта прапануюць школьныя і універсітэцкія падручнікі, а калі гіпатэтычна прымае такі пункт гледжання — іранічна інтэрпрэтуе вобраз Гарлахвацкага як адзінага станоўчага героя п'есы, удзельніка антысавецкага падполля, змагара супраць камунізму ва Украіне і Беларусі.

Мадэрнізацыя літаратурных твораў прыводзіць да зацірання іх генатыповых рысаў і прыкметаў эпохі, у значнай ступені дэфармуе іх першапачатковы сэнс, але затое максімальна набліжае да сучаснага чытача, робіць актуальным і зразумелым у сённяшніх грамадска-палітычных і культурных рэаліях, а менавіта такую мэту ставіў сабе аўтар «Гамбурскага рахунку...», рызыкуючы пакрыўдзіць шматлікіх даследчыкаў беларускай літаратуры, якія старанна ўзнаўляюць культурна-гістарычны кантэкст узнікнення таго ці іншага шэдэўра і

аналізуюць яго ідэйна-мастацкі змест ў эстэтычнай сістэме той эпохі, калі ён быў напісаны. Зрэшты, рызыка пакрыўдзіць і абразіць была калі не свядомая, то ўсвядомленая аўтарам «Гамбурскага рахунку...», пра што сведчаць наступныя пасажы: «...пінскай местачковай шляхце хацелася выпіць і пабіцца, а менскай навуковай шляхце хочацца займець свайго шэкспіра, хай і ў такі дзіўны спосаб»; «...беларускія савецкія літаратары, збольшага вясковыя мужычкі, якія некалі паўцякалі ад абавязковых калгасных працадзён у літаратуру»; «...караткевіча сёньня надышоў час абараняць. Ад таго тупога і карыкатурнага ў сваім бясьсільлі калгаснага нацыяналізму, нібыта апазыцыйнага, але насамрэч цалкам арганічна ўпісанага ў сыстэму <...> Абараняць ад дзяржавы. Антыбеларускай дзяржавы, якой ну ніяк не пасуе гісторыя паводле Караткевіча і літаратура паводле яго не пасуе таксама. <...> Абараняць Караткевіча трэба і ад літаратуразнаўцаў».

Падобныя выказванні — часам слушныя, часам смешныя — вынік не толькі поглядаў аўтара, але і агульнага правакацыйна-іранічнага стылю кнігі. «Гамбурскі рахунак...» — гэта не дысертацыйнае даследаванне, дзе ўсё выверана, дакладна, аргументавана, напісана з аглядкай на патэнцыяльных рэцэнзентаў і ВАК, а вольныя разважанні пра беларускую літаратуру вольнага ад усіх пісьменніцкіх саюзаў літаратара, які жыве ў «вольным ганзейскім горадзе Гамбургу». Таму на старонках кнігі сустракаецца шмат трапных заўваг і бліскучых параўнанняў, але нямала і легкадумных выказванняў, неабавязковых разважанняў у стылі «Остапа понесло». Калі прадоўжыць аналогіі са стральбой па мішэнях, можна заўважыць, што ў Бахарэвіча выстралы ў «дзясятку» чаргуюцца з прыкрымі промахамі: як на ўзроўні асобных выказванняў, так і на ўзроўні цэлых эсэ.

Сімптаматычна, што найменш цікавымі і запамінальнымі атрымаліся ў «Гамбурскім рахунку...» якраз эсэ з адназначна станоўчымі героямі, якімі аўтар захапляецца: пра Міколу Гусоўскага, Максіма Багдановіча, Ларысу Геніюш, Уладзіміра Караткевіча. Варта пачытаць гэтыя раздзелы тым, хто абвінавачвае Бахарэвіча ў нелюбові і непавазе да беларускай літаратуры, паслухаць, напрыклад, як апантана абараняе ён вершы Ларысы Геніюш ад нападак ананімнага маладзёна, прыхільніка строга эстэтычнай ацэнкі літаратурных твораў. Высновы «нігіліста» Бахарэвіча дакладна паўтараюць высновы беларускіх літаратуразнаўцаў: Гусоўскі адкрыў Беларусь для Еўропы, Багдановіч адкрыў паэзію для беларусаў, Геніюш пацвердзіла сваю паэзію ўласным лёсам, Караткевіч адкрыў Беларусь беларусам. У гэтых раздзелах раз-пораз ужываецца нават слова «павага», якога так рашуча выракаўся аўтар у прадмове да кнігі. У эсэ пра Ларысу Геніюш чытаем: «Таму майма павагу і ўдзячнасць». З эсэ пра Уладзіміра Караткевіча: «Захапленне сышло, а дакладней, яго перадаеш іншым, тым, хто мае патрэбу, гэта такая адмысловая беларуская эстафета. Павага засталася».

Што ж, адмоўныя персанажы атрымліваюцца ў драматургаў больш каларытнымі, чым станоўчыя, ды і акцёрам на сцэне іх потым граць цікавей. Правакацыйна-іранічны стыль, «сцёбная» манера выкладу матэрыялу больш пасуюць фармату радыёперадач і галоўнай ідэі «Гамбурскага рахунку» — ажывіць «музейныя» тэксты, ачысціць ад хрэстаматыйнага глянцу, адабраць у моладзі «шпаргалку павагі» і навучыць чытаць родную літаратуру з цікавасцю і задавальненнем. З іншага боку, стыль — гэта працяг чалавека, як казаў Бюфон, а Бахарэвіча наўрад ці можна лічыць узнёслым рамантыкам і безаглядным аптымістам — ні ў жыцці, ні ў літаратуры. У эсэ «Шэрае на жоўтым» ён піша: «Вячаслава Адамчыка называюць ледзьве не галоўным мізантропам і пэсымістам у беларускай літаратуры. Быццам сапраўднага пісьменніка можна гэтым абразіць». Вядома, нельга. Ні Вячаслава Адамчыка, ні Альгерда Бахарэвіча.

Таму з чытачоў, каму прысутнасць аўтара на кожнай старонцы кнігі не падабаецца — лепш адразу адкласці «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча». Бо, як сведчыць ужо сама назва, яго, Бахарэвіча, у кнізе шмат, аўтабіяграфічны пачатак і суб'ектыўнасць закладзены ў канцэпцыю зборніка, з'яўляюцца свядомым прыёмам ці нават метадам.

Перад тым як расказаць чытачу пра кнігу Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», Бахарэвіч падрабязна распавядае пра тое, у якіх акалічнасцях ён набыў першае беларускае выданне кнігі з малюнкамі

Валерыя Славука (навукоўца абавязкова згадаў бы яшчэ і імя перакладчыка — Мікалая Хаўстовіча). І такая доўгая прэамбула служыць на карысць эсэ «Курсіў чарнакніжніка», аднаму з лепшых у зборніку. Адразу ўзнікае цікавасць і сімпатыя да юнака, які аддаў апошнія грошы (дадзеныя бацькамі на рэпетытара!) на беларускую кнігу. «Кніжку я прачытаў за адну ноч, і з тае пары яна паўсюль вандруе са мной — з кватэры на кватэру, з гораду ў горад, з краіны ў краіну, з аднаго чароўнага лесу ў другі», — з хваляваннем успамінае аўтар Бахарэвіч. Ні школьная Жаба, ні дзясяткі яе ўніверсітэцкіх клонаў не маглі прынесці шкоду чалавеку, які меў такую чароўную кнігу: «У ёй процьма закладак, крошак ад тытуню і печыва, плямаў ад пралітай кавы і адбіткаў пальцаў, у ёй шчыруюць чэрці і русалкі, цьвітуць лілеі, а на сьпіне гарыць кляймо: 1 р. 70 к. Адзін раз прачытаеш, семдзесят гадоў кажаном лётаць будзеш — вось што гэта значыць».

У эсэ пра Наталлю Арсенневу аўтар згадвае, як ён вучыўся ў Мінскім педуніверсітэце, у эсэ пра Ларысу Геніюш — як гуляў па замку у чэшскім Вімпэрку, дзе шэсцьдзясят пяць гадоў таму ў вязніцы сядзелі Ларыса і Янка Геніюшы, у эсэ пра Янку Брыля — запозненa просіць прабачэння ў памерлага класіка за свой даўні хуліганскі верш «Янка Брыль».

Разгляд белліту праз прызму ўласнай біяграфіі спалучаецца ў Бахарэвіча са свядомым суб'ектывізмам у ацэнцы таго ці іншага твора, спецыфіку чужой творчасці ён вымярае ўласным пісьменніцкім досведам, у яго свае эстэтычныя ўпадабанні і свая іерархія жанраў. Аўтар эсэ пра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янку Купалу, Кандрата Крапіву ў раздзеле пра Андрэя Макаёнка прызнаецца: «Некалі я пісаў ужо, што не люблю сатыру — за яе флюгернасць; сатырык заўжды вальналюб на дзяржаўнай службе. Не люблю і драматургію, з прычынаў больш асабістых: у кожнай п'есе пад касцьмі патэнцыйнага гледача гіне раман ці апавяданьне». Паводле гэтай логікі можна не любіць і паэзію, бо яна... не развілася ў прозу.

Магчыма, падобныя заявы могуць раздражняць чытача, якога цікавіць выключна Макаёнак, а не аўтар эсэ, што драматургію не любіць, аднак пра яе піша. І ўсё ж рызыкну сцвердзіць, што менавіта выразная прысутнасць у «Гамбурскім рахунку...» асобы аўтара, сучаснага празаіка Альгерда Бахарэвіча з'яўляюцца галоўнай каштоўнасцю гэтай кнігі, а не яе эўрыстычныя, папулярызатарскія ці дыдактычныя ўласцівасці. У прынцыпе, у «Гамбурскім рахунку...» няма нічога, чаго б не ведаў прафесійны даследчык творчасці Гусоўскага, Баршчэўскага, Купалы, Караткевіча ды іншых класікаў. У прынцыпе, кожнаму прафесійнаму даследчыку бачна, што канкрэтныя веды Бахарэвіча пра таго ці іншага пісьменнніка не надта глыбокія, усё трымаецца на агульнай эрудыцыі, смеласці выказванняў і бліскучым стылі (у апошнім кампаненце прафесійныя навукоўцы бясспрэчна прайграюць аўтару «Гамбурскага рахунку...»). Але ў эсэ «Усё цьвітуць і цьвітуць тыя макі...» я шукаю не новыя факты пра паэму «Тарас на Парнасе», а яе адметную інтэрпрэтацыю, дадзеную сучасным беларускім літаратарам, былым «бум-бамлітаўцам» Альгердам Бахарэвічам і міжволі параўноўваю яе з не менш арыгінальнай інтэрпрэтацый паэмы, дадзенай былым «тутэйшаўцам» Пятром Васючэнкам у эсэ «Вочы палясоўшчыка» (П. Васючэнка. Ад тэксту да хранатопа. Артыкулы, эсэ, пятрогліфы. Мінск 2009. С. 77—80). Чытаючы эсэ «Бог ня роўна delate», мне цікава суаднесці бахарэвічаўскае разуменне паэзіі Францішка Багушэвіча з думкамі Алеся Разанава, выкладзенымі ў нататках «Скрыжаванне Францішка Багушэвіча» (А. Разанаў. З апокрыфа ў канон. Гутаркі,выступленні, нататкі. Мінск, 2010. С. 7—13). А самыя цікавыя раздзелы «Гамбурскага рахунку Бахарэвіча» — тыя, дзе аўтар рамнаў «Сарока на шыбеніцы» і «Шабаны» ўважліва чытае і на дзіва далікатна каментуе прозу Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага, Лукаша Калюгі, Міхася Лынькова, Івана Мележа, Івана Чыгрынава, Вячаслава Адамчыка. Гэтыя раздзелы варта прачытаць не толькі няшчасным школьнікам і студэнтам, пакрыўджаным Жабай, але і прафесійным літаратуразнаўцам, даследчыкам нараталогіі і стылістыкі айчыннай прозы.

Калі я чую альбо чытаю негатыўныя, часам вельмі эмацыянальныя, водгукі на новую кнігу Бахарэвіча, у маёйтпамяці паўстае вобраз вечаровага Гамбурга. Я вяртаюся з Ольдэнбурга, дзе чытаў

лекцыі пра беларускую літаратуру нямецкім студэнтам, у Люблін, дзе буду расказваць пра яе студэнтам польскім, наш аўтобус няспешна паўзе доўгімі вулкамі, я гляджу на асветленыя вокны і думаю, што ў адным з іх можна пабачыць дзіўнага чалавека Альгерда Бахарэвіча, які ў XXI стагоддзі ў цэнтры Еўропы ўважліва чытае творы Багушэвіча, Лучыны, Купалы, Коласа, Бядулі, Гаруна. І яшчэ я думаю, што калі нехта з маіх цяперашніх студэнтаў напіша кнігу, падобную да «Гамбурскага рахунку...» я, як выкладчык, буду задаволены.

■

**Сяргей КАВАЛЁЎ** нарадзіўся ў 1963 г. у Магілёве. Драматург, паэт, крытык, літаратуразнаўца. Доктар філалагічных навук. Аўтар кніг «Мэва», «Як пакахаць ружу», «Партрэт шкла», а таксама зборнікаў п'ес «Хохлік», «Стомлены д'ябал», «Навука кахання» і інш. П'есы ставіліся ў Беларусі, Украіне, Расіі, Польшчы, Славакіі. Жыве ў Любліне (Польшча).



# (<<<<
# бум-
# бам-
# літ
# >>>>)

# Віктар Жыбуль

## ДЗЁНЬНІК БУМБАМЛІТАЎЦА

### УСТУПНАЕ СЛОВА

*Калісьці, на мяжы 1996—1997 гг., калі творчы рух «Бум-Бам-Літ» яшчэ актыўна грукаў у пакамечаны алюмініевы Тазік і зусім не зьбіраўся здаваць яго ў музэй, я вырашыў весьці дзёньнік. Усё ж такі карысны гэта занятак — разьвівае творчае мысьленьне, дапамагае адточваць стыль і, урэшце, спрыяе самааналізу і самакантролю. Дый была думка, што нашае насычанае мастацкае жыцьцё вартае фіксацыі, што калі-небудзь хто-небудзь гэтым зацікавіцца — недзе так гадоў празь 50—80. Але я фатальна пралічыўся. «Бум-Бам-Літам» пачалі цікавіцца значна раней: ББЛ ужо даўно згадваюць на лекцыях у ВНУ, нашыя творы патрапілі і ў праграму пазакляснага чытаньня ў школах, літаратуразнаўцы ў сваіх працах ужываюць тэрмін «пакаленьне Бум-Бам-Літу», а прафэсар Вячаслаў Рагойша нават прапанаваў лічыць «бумбамлітызм» асобным літаратурным кірункам... Часам у публікацыях пра ББЛ даводзіцца бачыць памылкі й фактычныя недакладнасьці. Дзіва што! Часам мы і самі блытаемся, у якім годзе мы ладзілі той ці іншы пэрформанс. Акрамя таго, пра ББЛ часта просяць расказаць маладзейшыя літаратары і аматары нетрадыцыйнага мастацтва — тыя, хто ў 1990-я пайшоў у першую клясу або ўвогуле толькі-толькі нарадзіўся.*

*Вось менавіта ўсё вышэй пералічанае і падштурхнула мяне падняць на паверхню свае старыя дзёньнікі, а заадно і асьвяжыць у памяці падзеі тых часоў. І ня толькі падзеі, але думкі й меркаваньні, мары й летуценьні, перакананьні й творчыя задумы. Бо, натуральна, разам са спраўджанымі праектамі ў дзёньніку зафіксаваліся і няспраўджаныя. Мне і самому было цікава пачытаць пра тое, што мы, аказваецца, зьбіраліся і наладзіць кантакт з танзанійскімі літаратарамі, і стварыць беларускі клюб аматараў паліндрому, і нават спрадукаваць міт пра абразаньне некаторых удзельнікаў ББЛ...*

*1990-я з вышыні сёньняшняга дня сапраўды выглядаюць як ужо іншая эпоха. Мабільнікамі й інтэрнэтам карысталіся толькі самыя-самыя «прасунутыя», і нават камп'ютары былі не ва ўсіх рэдакцыях. Што такое ЖЖ і сацыяльныя сеткі — тады ўвогуле яшчэ ніхто ня ведаў. Адпаведна, у літаратараў авангардысцкай скіраванасьці было і меней магчымасьцяў для абнародаваньня сваёй творчасьці. Усё ж літаратурнымі выданьнямі кіравалі пісьменнікі старэйшага і сярэдняга пакаленьня, выхаваныя яшчэ на савецкіх ідэалах — калі не палітычных (якраз тут яны маглі быць і заўзятымі «адраджэнцамі»), дык эстэтычных. Нас жа нярэдка ўспрымалі калі не нэгатыўна, дык вельмі насьцярожана. Даводзілася прасоўваць (часам «з боем») у друк калектыўныя падборкі — усё ж такі на той момант грамадой мы маглі дасягнуць большага, чым кожны паасобку. (Вось вам, дарэчы, і адзін з адказаў на пытаньне: «А навошта ўтварыўся "Бум-Бам-Літ"?») Бывалі тут і кур'ёзы — напрыклад, самацэнзурная замена «гарэлкі» на «кефір», безь якой твор мог бы і не ўбачыць сьвет.*

*Да ББЛ я далучыўся ў 17-гадовым узросьце і нейкі час зьяўляўся наймаладзейшым удзельнікам руху. На той момант я быў студэнтам філфаку БДУ і супрацоўнікам часопісу маладых літаратараў «Першацьвет».*

*Запісы свае я рабіў без прэтэнзіі на нейкую літаратурную ці літаратуразнаўчую дасканаласьць і часам фармуляваў свае думкі не ідэальным чынам — проста хацелася занатаваць тое, што лічыў патрэбным. (Хоць цяпер мне здаецца, што ў дзёньнікі патрапіла і шмат лішняга.) Недзе з маіх запісаў вытыркаецца наіўнасьць, недзе, магчыма, самаўпэўненасьць, недзе іронія і самаіронія. Пра нешта атрымаліся скупыя згадкі, пра нешта — разгорнутыя аповеды, а яшчэ нешта выглядае як чарнавік газэтнай карэспандэнцыі, якую пры выпадку можна было пусьціць і ў друк. А нейкія свае погляды й меркаваньні я сёньня выказаў бы зусім інакш. Усё ж такі прайшло даволі шмат часу.*

*Магчыма, калі-небудзь усё гэта стане асновай «паўнавартаснага» літаратурнага тэксту. Але ў такіх выпадках разам з мастацкай адточанасьцю і адбіткам аўтарскага жыцьцёвага вопыту на падобныя тэксты часта накладаецца і сьвядомае або падсьвядомае жаданьне нешта прыўкрасіць, падфарбаваць, дапоўніць і прадставіць ужо з гледзішча «дня сёньняшняга». Мне ж зараз хацелася б падаць усё ў аўтэнтычным выглядзе «дакумэнтальнай матэрыі» — так, як я ўспрымаў гэта тады. Праўда, давялося ўсё ж павыпраўляць сякія-такія граматычныя і лексычныя памылкі (галоўным чынам русізмы) і пададаваць некаторыя тлумачэньні ў квадратных дужках [ ], каб было больш зразумела, што маецца на ўвазе. Ёсьць у тэксьце і трыкутныя дужкі з шматкроп'ямі ўнутры (<...>). Як вы ўжо здагадаліся, гэта месцы, якія я вырашыў скараціць. Найчасьцей там у мяне альбо шматслоўнасьць, альбо залішнія падрабязнасьці, альбо «адхіленьне ад тэмы». Бо я запісваў у дзёньнік усё запар: уражаньні ад пабачанага навокал, сны, рамантычныя мроі, дасьледаваньні свайго радаводу, скаргі на перагружанасьць унівэрсытэцкай праграмы і развагі пра самыя розныя рэчы, але для гэтай публікацыі адфільтраваў толькі тое, што нейкім чынам адлюстроўвае дзейнасьць ББЛ, а таксама мае тагачасныя погляды на літаратуру і мастацтва. Бо ўсё ж такі «Бум-Бам-Літ» — гэта ня толькі «вонкавыя» калектыўныя акцыі, гэта яшчэ і ўнутранае творчае жыцьцё кожнага зь яго ўдзельнікаў.*



*Разам з тым на ролю нейкай вычарпальнай крыніцы гісторыі ББЛ мой дзёньнік не прэтэндуе. Па-першае, з прычыны занятасьці альбо, наадварот, ляноты я не заўсёды рабіў запісы сыстэматычна, і таму некаторыя вартыя ўвагі падзеі у дзёньніку не адбіліся. Але пры неабходнасьці гэтыя «выпаўшыя» эпізоды, як і тое, што было раней, да 1997 г., я магу ўзнавіць па памяці.*

*Па другое, дзёньнікавы жанр — вельмі суб'ектыўны і адлюстроўвае шлях толькі аднаго з удзельнікаў «Бум-Бам-Літу». А, як зазначыў Алесь Туровіч, «ББЛ і складаўся, і складаецца з абсалютна розных эстэтычных і сьветаглядных праграм і ўяўленьняў» (pARTisan. 2012. № 19. С. 55). Усе тэксты ББЛ і пра ББЛ сапраўды ўзаемадапаўняльныя, і тое, пра што няма ў мяне, можна даведацца з «Кароткай гісторыі Бум-Бам-Літа» Юрася Барысевіча (Крыніца. 2001. № 10), кніг «Я з Бум-Бам-Літа» Сержа Мінскевіча, «Трап для сусьліка» і «Тамбурны маскіт» Зьмітра Вішнёва.*

## 1997 ГОД

*4 студзеня.*

Ва ўчарашнім «ЛіМе» зьмешчана гутарка «за гарбатай у Шніпоў» — «Палёт філязофскага голуба», дзе Пятро Васючэнка назваў мяне постмадэрністам. Пагадзіцца з такім азначэньнем, ці не? Рэч у тым, што цяпер многія пісьменьнікі ўжываюць слова «постмадэрнізм» амаль як лаянкавае, а тыя, каго так называюць, — нават крыўдзяцца. *[Ну, «многія» — гэта перабольшваньне. Проста я тады ў такі асяродак патрапіў...]* Не разумею, чаму ў літаратараў старэйшага пакаленьня такое стаўленьне да постмадэрнізму? Гэта такі ж мастацкі кірунак, як і іншыя, толькі мае некаторыя свае асаблівасьці. А добрых і дрэнных мастацкіх кірункаў, як вядома, няма й быць ня можа.

Што ж датычыцца асабіста мяне, то я, як і іншыя постмадэрністы, такім сябе не лічу. *[Ну і каша была ў маёй галаве! Але, магчыма, гэта пісалася з іроніяй.]* Хоць у маіх творах і ёсьць некаторыя элемэнты постмадэрну, але вытокі маёй творчасьці сядзяць значна глыбей — у традыцыях. *[Так-так, але традыцыю я тады разумеў*

*занадта шырока, маючы на ўвазе пад ёй ужо саму ідэю выказваньня думак у пісьмовай форме.]* Тое, што я пішу цяпер, — таксама можна лічыць традыцыяй, толькі трошкі трансфармаванай.

*7 студзеня.*

Адкуль мне ведаць: постмадэрніст я ці не? Калі я пішу які-небудзь твор, я амаль не задумваюся, які ён у мяне атрымаецца: ці постмадэрнісцкі, ці традыцыйны. Гэта няхай ужо вырашаюць крытыкі й літаратуразнаўцы... Хоць, вядома ж, напісаць штосьці арыгінальнае, непаўторнае, непадобнае да іншых заўсёды хочацца. Але не заўсёды атрымліваецца...

*9 студзеня.*

Часта літаратурныя крытыкі, кажучы пра які-небудзь твор, заяўляюць: «Вось тут аўтар хацеў паказаць тое ды сёе, тут ён падразумявае вось такое...». А аўтар насамрэч і ня думаў ні падразумяваць, ні паказваць нічога. <...> Крытыкі ж часта стараюцца выдаваць сваё асабістае ўспрыманьне твораў за ісьціну.

Адзін і той самы твор адны людзі могуць хваліць, другія — лаяць. Адны знаходзяць у ім нешта новае, другія — таксама, але ўжо іншае, а трэція ўвогуле нічога не знаходзяць. Таму я дазволю сабе сьцьвярджаць, што на літаратуру і мастацтва ня можа быць поглядаў добрых і дрэнных, правільных і няправільных. Сукупнасьць поглядаў і меркаваньняў гэткая шматгранная, як і сама літаратура і мастацтва. Лічу, што аўтару ня трэба маляваць падкрэсьлена станоўчых і адмоўных пэрсанажаў. Яго задача — канстатаваць дзеяньні, думкі, пачуцьці герояў, а ўжо вылучыць зь іх станоўчых і адмоўных павінен чытач. Панятак «ацэнка герояў аўтарам» больш падыходзіць да сатырычных і крытычных твораў; для рэалістычна-бытапісальных, філязофскіх, псыхалягічных лепш — «ацэнка герояў чытачом».

Літаратура — гэта ўзаемаадносіны паміж людзьмі ў прасторы й часе, і кожны чытач мае права згаджацца ці не згаджацца з аўтарам, калі іх погляды ў нечым разыходзяцца. Аўтар для таго і вынес свой твор на суд чытачоў, каб нехта зь ім згадзіўся альбо, наадварот, паспрачаўся. Але, маючы супрацьлеглыя довады, чытач павінен і паважаць пункт гледжаньня аўтара, ведаючы, што аўтар таксама мае права на свае погляды. Галоўнае — умець іх даказаць. *[Цяпер такія развагі я лічу залішнімі, але тады яны былі для мяне актуальныя, бо аўтары многіх падручнікаў, якія я чытаў, імкнуліся навязаць чытачу-навучэнцу свае ўласныя погляды й пераканаңні. А я заўсёды адстойваў свабоду ўспрыманьня літаратурнага твора.]*

*10 студзеня.*

Расказваюць, што... (газ. «Вячэрні Мінск»)

Адзін сябар Пікасо, агледзеўшы ягоныя карціны, шчыра сказаў яму:

— Ты мяне прабач, але я не магу гэтага зразумець.

Тады Пікасо спытаў:

— А ты кітайскую мову разумееш?

— Не.

— А ўсё ж яна існуе.

Вось так трэба адказваць і нашым постмадэрністам, калі іх папракаюць у незразумеласьці іх твораў.

*20 студзеня.*

Сёньня на літаб'яднаньні Усевалад Гарачка прачытаў два вершы, якія прысьвяціў асабіста мне. Першы такі:

*Ты ня пі кампот —*
*Гэта ж ягад пот!*

А другі:

*Мора гора —*
*Горы мору!*

*23 студзеня.*

Трэба даслаць ліст І. Лучуку *[украінскаму паліндрамісту]*. Што я яму напішу? Што ў нашай краіне з паліндраміяй даволі складана. Рэч у тым, што на дадзены момант на Беларусі пішуць паліндромы толькі тры аўтары: Сяржук Мінскевіч, Алесь Туровіч і я. А. Туровіч ня лічыць свае паліндромы надта ўдалымі, таму нідзе іх не друкаваў, хоць і чытаў іх на лекцыях пра новы мастацкі *кірунак [калі дакладней — то не кірунак, а мэтад]* — транслёгізм. С. Мінскевіч паліндромы цяпер ня піша, ён больш заняты журналістыкай, а таксама песьнямі (ён бард). Упершыню ягоныя паліндрамічныя вершы былі надрукаваны ў часопісе «Крыніца», № 5 (11), 1994 г. Напісаныя ў 1990—1991 гадах. Усе вершы з гэтай падборкі ўвайшлі ў зборнік «Праз ГалеРэю», які, наколькі мне вядома,

у І. Лучука ёсьць. Што ж датычыць мяне самога, дык я працягваю займацца паліндроматворчасьцю, працую над новай паэмай «Палігон ног і лап» (на ваенную тэматыку), распачаў сэрыю артыкулаў пра паліндрамістыку (у «Настаўніцкай газеце*»). [Ну, «сэрыя» — сказана занадта гучна. Я там надрукаваў адзін артыкул, і той ня надта ўдалы, зь недакладнасьцямі...]*
<...>

*31 студзеня.*

Дык вось. Карацей, Сяржук Мінскевіч ніяк ня можа прыдумаць назву свайму рок-гурту. Ну дык я вырашыў яму дапамагчы. Ён хоча, каб было і сьмешна, і трошкі жахліва. Я яму прапаную вось якія назвы: «Жля і Карна», «Драўляныя Дзядкі», «Кабета Інсэкта», «Прусакі на марозе», «Абы-як», «Плясь у гразь», «Язык на плячо», «Ногі на плечы», «Гарэлы блін»... Цікава, што ён выбярэ?

*1 лютага.*

Мінскевічу найбольш спадабалася «Жля і Карна», але трэба пашукаць яшчэ. Не бываць жа рок-гурту бяз назвы! *[Серж хацеў прыдумаць назву з фальклёрным ці міталягічным адценьнем, а назваў гурт урэшце простым словам з трох літар — «Жах».]*

*4 лютага.*

Сёньня адбыліся ажно два выступленьні. Першае *[выступленьне аўтараў часопісу «Першацьвет»]* — у Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы. Але «Цэнтральная» — гэта толькі назва, бо паўгораду аб'ехалі перш чым трапілі туды. *[Гэта раён Паўднёвы Захад.]* Ня ведалі як ехаць — вось і зрабілі лішняе кола. Са мной выступалі Сяргей Патаранскі, Вольга Драздова, Мікола Адам, Алесь Сьпіцын, Андрэй Любы. Мікола сьпяваў пад гітару свае песьні. Потым прадалі некалькі нумароў. Адна дзяўчына купіла нумар зь вершамі Ірыны Шаўляковай (цікавіцца яе творчасьцю), сабрала нашыя аўтографы, сказала, што піша прозу і, мабыць, нешта прынясе.

Адтуль я адразу паехаў у Купалаўскую бібліятэку на вечарыну «Бум-Бам-Літу». Выступленьне адбылося таксама перад вучнямі старэйшых клясаў, пераважна дзяўчатамі. Выступілі добра, як і належыць «Бум-Бам-Літу». Было ўсё: і тазік, і сьцяг. Зьміцер Вішнёў панашпіляў на сябе з ног да галавы сваіх друкапісаў дый яшчэ пад вокам нешта сіняе намаляваў. Прачытаў творы (нешта пра страўнік) і параздаваў друкапісы слухачам, якія потым прыходзілі па аўтографы. Сяржук Мінскевіч сьпяваў песьні як старыя («Песеньку начных жахаў» і пра каўбоя), так і новыя («Трамвайны рок-н-рол»). Андрэй Хадановіч *[абвешчаны як «асацыяваны сябар "Бум-Бам-Літу"»]* сьпяваў калыханкі — для дрэнных і для добрых дзетак, чытаў свае вершы, рамантычна-іранічныя. Алесь Туровіч, які запісваў усё гэта на дыктафон, прачытаў сваю славутую «Мазюкалу», растлумачыўшы перад гэтым, што ня ўсе сучасныя аўтары здольныя зразумець свае творы, і што калі б усё было зразумела — было б нецікава. «Рэвалюцыйны псыхоляг» Міхась Башура чытаў свае найбольш вядомыя творы: «Сьнег у сьне» (ці «Сон у сьнезе»?) і «Лягізмы», апошні зь якіх прысьвяціў З. Вішнёву. Усевалад Гарачка таксама павесяліў публіку прыколамі: пра дзедаву нагу, а таксама сёе-тое зь «Ленініяны» і «Пралетарскіх песьняў» («Жанчыны-рабочыя»). Сяргей Патаранскі быў сур'ёзны: прачытаў вершы, прысьвечаныя гістарычным асобам: Людовіку XIV, Пятру І. Тэарэтык «Бум-Бам-Літу» Юрась Барысевіч падрабязна растлумачыў прысутным аб экспэрымэнтах ва ўзаемадзеяньні літаратуры зь іншымі відамі мастацтва, а таксама з кулінарыяй (вершы, выкладзеныя піражнымі) і мэдыцынай (вершы на таблетках і гарчычніках). Ільля Сін быў як заўсёды ў сваім рэпэртуары. Ён прапанаваў увазе слухачоў новы празаічны твор, які мне вельмі спадабаўся. Што ж датычыць мяне асабіста, дык я выступіў з паліндромамі, страшылкай і вершамі «Хімічная каша» *[пачатковы варыянт назвы верша «Сон Мендзялеева»]* і «Міла мыла мула».

Сярод прысутных таксама былі Ірына Падынінога (Івушка Паніна) *[яна ж Ірына Туровіч, таксама ўдзельніца ББЛ]*, Тацяна Будовіч, Ала Бальшакова *[паэткі зь літаб'яднаньня пры «Першацьвеце»]*. Пасьля выступленьня адна настаўніца, знаёмая як зь «Першацьветам», так і з «Бум-Бам-Літам», выказала мне свае сымпатыі менавіта да «Бум-Бам-Літу», сказала, што гэта падабаецца і ёй, і яе вучням. Вершы

Зьмітра Вішнёва яна ўвогуле задае дзецям на пазакляснае чытаньне. Цяпер задаецца толькі здагадвацца, чаму ж Алесь Герасімавіч *[Масарэнка, галоўны рэдактар «Першацьвету»]* так недалюблівае «Бум-Бам-Літ». Няўжо толькі за тое, што яны — «постмадэрністы, разбуральнікі традыцый»? Ці, можа, ён бачыць у бумбамлітаўцаў сваіх трывалых канкурэнтаў?

*11 лютага.*

Такое ўражаньне, што Алесь Туровіч, Зьміцер Вішнёў і Ільля Сін самі не разумеюць, што яны пішуць. *[Гл. апісаньне выступу А. Туровіча ў папярэднім запісе.]* Наўрад ці разумеюць гэта і чытачы. Але сярод аўтараў ёсьць такія, якіх чытаць цікава, таму што ўсё разумееш, а ёсьць і такія, якіх чытаць таксама цікава, але ўжо таму, што наадварот нічога не разумееш. І чым больш незразумела — тым больш цікава. Вось менавіта да апошніх і можна аднесьці згаданых аўтараў.

*12 лютага.*

Хадзіў фатаграфавацца *[У Беларускую акадэмію мастацтва]* для зборніка *[«Тазік беларускі»]*. І каго там толькі ня ўбачыш! П'яны Сыс; цьвярозы Патаранскі — малады актор; Усевалад Гарачка, зь якім мы паўгадзіны чакалі ўсіх астатніх; Ільля Сін з газэтным скруткам у зубах; Альгерд Бахарэвіч; Алесь Туровіч; фотамастак Міхась Баразна, які здымаў нас.

А тут яшчэ ў апошнім «ЗНО» *[літаратурна-філязофскім сшытку — штомесячным дадатку да газэты «Культура»]* абазвалі мяне Васілём, хоць я заўсёды быў Віктар.

*20 лютага.*

Алесь Туровіч казаў пра падборку бумбамлітаўскіх тэкстаў у нейкай новай газэце «Понедельник». Але Юрась Барысевіч казаў, што вершы трэба перакласьці на рускую мову. Асабліва просяць, каб даў «Хімічную кашу» *[= «Сон Мендзялеева»]*.

*21 лютага.*

Хадзіў да Вішнёва, аддаў тэксты *[відавочна, для «Тазіка беларускага»]*, але ён сказаў, што яны, мабыць, ня пойдуць, што хопіць аднаой паэмы, а тыя паэмы, што здаў у «Полымя» *[Так, была ў ББЛ і такая ідэя — даць калектыўную падборку ў «Полымя»]* — «слабыя, хлопцам не спадабаліся». Можа, яно й так, але ўсе навокал просяць, каб я ў іхнія выданьні нешта даў, і каб абавязкова — найлепшае! І ніхто зь іх не падумае, адкуль жа мне столькі гэтага «найлепшага» ўзяць. Ну няма, і ўсё. Вось і даводзіцца друкаваць «ня надта лепшае». А што ж мне яшчэ рабіць? Сесьці за стол і сказаць самому сабе: «Зараз я пачну пісаць найлепшае?» І пачаць, і гэтак далей... І атрымаецца што заўгодна, ды толькі не найлепшае. Я, ва ўсялякім разе, так рабіць не зьбіраюся. Хіба я графаман нейкі?

А яшчэ гэты Зьміцер выступаць мяне кліча. У той час, калі ў мяне лекцыі, а потым праца! Раіць прывесьці ўсё літаб'яднаньне. Сказаў шэфу *[А. Масарэнку]*; той сьцьвярджае, што «ў іх і так хопіць гледачоў». Але ж, як відаць, вечарына будзе на высокім узроўні: выступяць таксама музыкі, прыйдуць журналісты. Шкада, што не змагу прыйсьці! *[Прыйсьці я ўсё ж такі здолеў, але спазьніўся. Гл. ніжэй.]*

*24 лютага.*

Сёньня ў пэд[агагічным] ун[іверсытэ]це прайшла літаратурна-музычная вечарына «Бум-Бам-Літ über alles». З паэтаў былі Зьміцер Вішнёў, Ільля Сін, Міхась Башура, Сяргей Патаранскі, Алесь Туровіч, Альгерд Бахарэвіч. Выступалі таксама панк-гурты «LilipUTY» *[часовая назва гурта «Правакацыя»]*, «Flowervill», «Чокі». «Flowervill» — гэта хутчэй нейкая пародыя на рок-гурт. *[Насамрэч гэта noise-industrial — добрай арыентацыяй у музычных кірунках я тады яшчэ пахваліцца ня мог. Але крыху пазьней і сам пачаў займацца чымсьці падобным.]* Тры чалавекі, а столькі шуму робяць. У якасьці саліста там — Ільля Сін. Бегае па сцэне ў супрацьгазе, хістаецца, падае, поўзае па падлозе, сьпявае нейкую абракадабру. *[Гэта сказана абсалютна без адценьня нэгатыву.]* Робіць выгляд, што п'яны. Астатнія ня робяць — яны й так пад градусам: валасаты размаляваны гітарыст Макс і яшчэ нехта трэці, які цюкаў па жалезнай скрыні з-пад бутэлек нейкімі мэталічнымі палкамі. *[«Нехта трэці» быў вядомы пэрформэр Мітрыч; быць «пад градусам» ён ня мог, бо ўжо тады нічога ня піў,*

*аднак выдатна ўваходзіў у вобраз «абкуранага».]* Але народу сабралася шмат — спачатку заля была ўся набітая, але потым некаторыя пачалі разыходзіцца, напалоханыя цяжкімі рытмамі й брутальным аблічам «Flowervill'a». Была там і Таня К. — на літаб'яднаньне не пайшла, а пайшла паглядзець на калматых рокераў і панкаў, паслухаць прыкольна-жудасную музыку.

*27 лютага.*

Нічога асаблівага я за сёньняшні дзень не зрабіў. Вельмі шкадую. Але хіба змог бы я зрабіць, калі б нават прымусіў сябе? Я ж адчуваю сябе ня вельмі добра. Заўтра — чарговае выступленьне «Бум-Бам-Літу», але я, відаць, не прыйду <...>.

*4 сакавіка.*

Ужо некалькі бумбамлітаўцаў стварылі свае ўласныя рок-гурты: С. Мінскевіч, І. Сін, С. Патаранскі... *[Маюцца на ўвазе «Жах», «Flowervill» і «Блазны». А яшчэ ж была «Правакацыя» Альгерда Бахарэвіча — па некаторых зьвестках, першы беларускамоўны панк-гурт.]* <...>

*18 сакавіка.*

У газэце «Понедельник» надрукавалі вялікую падборку «Бум-Бам-Літу»: артыкулы В. Акудовіча, Ю. Барысевіча, А. Туровіча, творы З. Вішнёва, М. Башуры, С. Мінскевіча, Г. Шханавай *[псэўданім Ганны Ціханавай, якая тады толькі што далучылася да ББЛ; пра паходжаньне псэўданіму гл. у запісе за 28 чэрвеня]*, І. Сіна, а таксама мае... <...>

*25 сакавіка,* 79 гадоў зь дня абвяшчэньня незалежнасьці БНР.

Кожны дзень — якая-небудзь цікавая навіна, і разам з тым — новыя клопаты. Вось і сёньня патэлефанаваў Зьміцер Вішнёў, паведаміў, што акрамя паэтычных твораў, у «Тазік беларускі» кожны аўтар павінен здаць і свае малюнкі. Вось цяпер сяджу, думаю, што б такое намаляваць.

*30 сакавіка.*

Сёньня — сьвяточны дзень. Усе католікі сусьвету сьвяткуюць Уваскрасеньне Хрыстова. І некатолікі — таксама не губляюць гэтую нагоду «адзначыць». А ў Зьмітра Вішнёва зараз увогуле такі фэст наладзілі: ён жа купіў сабе кватэру на Брылеўскай вуліцы, запрасіў на наваселье шмат гасьцей. І мяне хацеў, але туды, дзе гарэлка, я свой нос не сую. А яны заадно сьвяткуюць і дні нараджэньня Сержука Мінскевіча і Алеся Туровіча. Сержуку спаўняецца 28, Алесю — 24. Вось гулянка дык гулянка атрымаецца: яны ж сабралі там многіх (у тым ліку і вядомых) беларускіх дзеячаў моладзевай культуры. Мастакі (прафэсійныя!) нават будуць спэцыяльна размалёўваць Зьмітру шпалеры. Цікава, але што ж зробіш... Заняты я: пішу курсавую, рыхтуюся да практычных, а сёньня пачаў чытаць аповесьць Максіма Гарэцкага «Дзьве душы». <...>

*4 красавіка.*

Наведаў урэшце рэдакцыю «Беларускай маладзёжнай». Яна месьціцца амаль кансьпірацыйна — за драўлянымі дзьвярыма адной з кватэр на дзявятым (самым верхнім) паверсе звычайнага дому па вул. Раманаўская Слабада. <...> Газэце сапраўды пагражае закрыцьцё: на ўласныя вочы бачыў у іх замяталінскае папярэджаньне. Наконт маіх вершаў *[я прыносіў уласную вялікую падборку]* скажуць што-небудзь канкрэтнае ў аўторак. Як высьветлілася, у іх ляжыць яшчэ цэлая падборка «Бум-Бам-Літу» з нашымі фатаздымкамі (здаецца, я атрымаўся нядрэнна). Але надрукаваць яе пакуль што ня могуць «з-за ўсіх гэтых рэвалюцый». Што ж, давядзецца чакаць. Эх, шкада будзе, калі гэтую газэту сапраўды закрыюць! *[Рэальна газэта спыніла існаваньне ў 2002 г.]*

*7 красавіка.*

Сёньня Міхась Башура сказаў, што бачыў маю кніжку *[«Рогі гор»]*, што яна добрай якасьці, а вокладка гэткая ж зялёная, як і мой швэдар. Заўтра трэба неяк сустрэцца з Алесем Пашкевічам *[рэдактарам-выдаўцом кніжкі]* ці патэлефанаваць яму. Але я яшчэ зьбіраюся наведаць заўтра рэдакцыю «Беларускай маладзёжнай».

*8 красавіка.*

А кніжка ў мяне сапраўды выйшла! У чацьвер пабачу!

*9 красавіка.*

Кніжку бачыў. У Віталя Шалемава *[адказнага сакратара «Першацьвету»]*. Падпісаў яму. Ёсьць там пару памылак, але ў цэлым якасьць выданьня добрая. 32, здаецца, старонкі. Алесь Пашкевіч і прадмову напісаў — «Гульня Апалона». А заўтра трэба забраць зь «Нёмана» частку тыражу! Вось і я нарэшце маю выдадзеную кнігу, калі, вядома ж, ня ўлічваць бумбамлітаўскага «Дывэрсанта». *[Маецца на ўвазе кніжка-«друкапіс» «Калі ў хаце дывэрсант», 1996.]* Але што той «Дывэрсант» у параўнаньні з «Рагамі гор»? Тая кніжка, хоць і аздобленая мной самім, але ўсё ж уяўляе зь сябе толькі нейкае практыкаваньне ў кнігавыдавецтве, а гэта, як-ніяк, — самая сапраўдная кніга. А гэта ўжо — дасягненьне. *[Падобна, што адчуваньне, выкліканае «пасапраўднаму» выдадзенай кнігай, на нейкі момант абудзіла ўва мне ярага кансэрватара. Зрэшты, ненадоўга.]*

*10 красавіка.*

Кніжка выйшла. Афармленьне цудоўнае *[Напэўна, я меў на ўвазе паліграфію, бо ў кніжцы ніводнага малюнка няма!]*. Але ёсьць памылкі. У паэме «Рогі гор» адсутнічаюць некалькі радкоў. Заўтра пайду да Алеся, прыму адпаведныя меры. *[Гучыць неяк пагрозьліва, але я проста хацеў абмеркаваць магчымасьць уставіць адсутныя радкі. Ёсьць тут, зрэшты, і мая асабістая віна: трэба было своечасова зьвязацца з выдаўцом і вычытаць карэктуру, чаго я, па нявопытнасьці, не зрабіў.]*

*12 красавіка.*

«Тазік беларускі» выйдзе мінімум праз тыдзень, максімум — праз паўтара месяца. *[А насамрэч ён выйшаў толькі праз год...]* З фатаздымкамі, малюнкамі й нейкімі дасье, напісанымі кампаніяй «Акудовіч — Сін — Барысевіч — Вішнёў». Цікава будзе паглядзець, што яны там пра каго панапісалі...

У аўторак трэба наладзіць кантакт з «Б[еларускай] М[аладзёжнай]»: З. Вішнёў ад’язджае ў камандзіроўку, і таму адказным за бумбамлітаўскую публікацыю буду я.

*14 красавіка.*

А тут яшчэ такі прыкол атрымаўся: вокладка так паўзьдзейнічала на Гіргеля-малодшага *[Сяргея, сына Мікалая]*, што беднага мастака «аж закалаціла». Карацей, не спадабалася. Але асабіста мне такая вокладка даспадобы, тым больш, што я не ўяўляю, як можна аздобіць кнігу з такім зьместам.

Юля Алесьніна — мне: «Хоць ты й бумбамлітавец, але ад «Першацьвету» не адрывайся! Мы цябе не адпусьцім!» *[Часопіс «Першацьвет», у якім я працаваў, на той момант стаяў на традыцыяналісцкіх пазыцыях, хоць праз яго ў свой час прайшлі і многія бумбамлітаўцы.]*

*18 красавіка.*

І што сёньня было, калі я завітаў у «Культуру» да З. Вішнёва і С. Мінскевіча! Як пачалі яны разглядаць маю кнігу, дык такога мне нагаварылі, што ў мяне прапала ўсялякае жаданьне ня тое што распаўсюджваць яе, але нават паказваць яе каму-небудзь. Спачатку ўзрадаваліся:

— Ты мне абяцаў кніжку! Давай-давай, даставай!

— Можа, ты падпісаў ужо?

Дастаў. Паказваю.

— Ого, якая вокладка! Як у сшытка!

— Як называецца? «Рогі гор»! Якраз тое, што ў нас друкавалася! Дык гэта ж зусім выдатна, калі паэму ўключылі!

— Нават прадмова ёсьць!

— Ага, Пашкевіч напісаў!

— Пачытаем, што ён тут піша!

І тут пачынаецца...

— Што ён панапісваў! «Чытаючы вершы пачаткоўца-паэта...» Ды які ты пачатковец! Ты ж ад нараджэньня паэт!

— «...самадастатковасьць... гульнёвую...» Гэта яшчэ што?

— «...шмат у яго вершах тэхнічнага...» Ну, блін! І ты не пакрыўдзіўся?

— Я ўвогуле не разумею, як можна даваць твае вершы пад такой прадмовай!

Глядзяць далей...

— І гэта тут столькі памылак!

— Жах!!! Ну, блін!

— Колькі папрапускалі!

<...>

— Ты ўсё выправіў? Калі не, дык выпраўляй!

<...>

— А вось гэты верш класны!

— І гэты. Я таксама спрабаваў некалі нешта такое...

<...>

— А тут ужо Алесь Аркуш тэлефанаваў, цікавіўся пра тваю кніжку... А калі пабачыць — такая ганьба будзе!

— А ўвогуле, тэхнарамантызм — гэта выдатна, файна!

— Ну, заснаваў сваё рэчышча і працуеш у ім! Гэта ж такое наватарства!..

Карацей кажучы, далі мне зразумець, чаго вартая мая кніжка, а чаго — я сам са сваёй творчасьцю. Так што казаць, што «я кнігу маю» пакуль яшчэ рана.

*19 красавіка.*

Нечаканасьці працягваюць спатыкаць мяне: як паведаміў Зьміцер Вішнёў, хутка пачне рыхтавацца да друку зборнік драматургіі «Бум-Бам-Літу», і мне таксама трэба туды штосьці даць. *[Заплянаваны зборнік спрабавалі выдаць двойчы: у 1998 г. пад назвай «Цыркулярны душ» (паводле загалоўку п'есы Ігара Сідарука) і ў 2001 г. пад назвай «Нетутэйшыя». Але кніга так і ня выйшла, дайшы другую з сваіх назваў драматургічнай рубрыцы ў часопісе «Тэксты».]* Але я за сваё жыцьцё напісаў толькі дзьве п'есы, і абедзьве засталіся няскончаныя. Паспрабаваць дапісаць першую — справа марная, а вось другую яшчэ можна ўратаваць. У маім распараджэньні яшчэ месяц, так што трэба не сядзець склаўшы рукі, а дапрацоўваць сваю п'есу. Называцца яна, магчыма, будзе «Штангай па назе». Жанр — спартыўна-філязофскі фарс *[урэшце назваў спартова-псыхалягічнай клаунадай у адной дзеі].*

*24 красавіка.*

Тэлефанаваў Алесь Аркуш, пытаўся наконт кніжкі. Ох, якія яны ўсе нецярплівыя! Пачулі нешта там па радыё, і ўжо звоняць, віншуюць. Кніга выйшла, кніга зарэгістравана, кнігу жадаюць набыць... Кнігу, якой па сутнасьці яшчэ няма. Але ж і адступаць няма куды <...>.

*7 траўня.*

<...> А. Г. Масарэнка гаворыць: «Наш часопіс [«*Першацьвет» узору 1992 — 1998 гг.]* прытрымліваецца традыцыяў Коласа, Купалы, Багдановіча».

Спачатку трэба разабрацца: а ці варта прытрымлівацца гэтых традыцыяў? Купала, Колас, Багдановіч зьяўляюцца непераўзыдзенымі геніямі ў маштабе сваёй традыцыі, і ніхто ўжо ня здолее ў гэтым рэчышчы напісаць лепш за іх. Такія спробы, безумоўна, былі, але істотных зьменаў у ходзе літаратурнага працэсу яны не зрабілі: так і засталіся спробамі. А імёны Купалы, Коласа, Багдановіча значаць для нас тое самае, што і 50 гадоў таму, і яны так і застаюцца клясыкамі нашай літаратуры. Прытым пераймальнікаў у гэтых аўтараў было ўжо столькі, што пералічыць усіх ня хопіць паперы: ад Петруся Броўкі да Алеся Бадака. Дык ці варта трымацца ***гэтай*** традыцыі, калі яе гісторыя й так запоўнена столькімі імёнамі? Я адкажу так, каб атрымаць ад гэтай традыцыі хоць нейкую карысьць: так, варта. Дзеля чаго? Каб стварыць фон, на якім маглі б вылучацца творы нетрадыцыйныя — тыя, што зьяўляюцца цікавымі ў кантэксьце сучаснай літаратуры. Іх каштоўнасьць адчуваецца сапраўды — і крытыкамі, і чытачамі.

*8 траўня.*

Але што ўваходзіць у панятак «традыцыйнасьць — нетрадыцыйнасьць»? У «Філязофскім слоўніку» напісана: «...у мастацтве традыцыя азначае пераемнасьць стылю, майстэрства». На мой погляд, майстэрства павінна прысутнічаць у любых творах мастацтва, незалежна ад таго, ці яны традыцыйныя, ці не. Твор, напісаны без майстэрства, зьяўляецца ўжо не мастацтвам, а плёнам графаманіі. *[Ну, не абавязкова: гэта можа быць і проста вучнёўсчва...]* Што ж датычыцца стылю, то калі ўся сутнасьць традыцыі заключаецца толькі ў ім, то такі панятак традыцыі зьяўляецца занадта вузкім і ўвогуле непрыдатным для беларускай літаратуры. Стыль Купалы, стыль Коласа, стыль Багдановіча... Выдатныя, безумоўна, стылі, але хіба няма іншых? Ёсьць, і шмат... А калі не задавальняюць, дык ці ня лепей стварыць свой уласны? І будзеш тады наватарам, таксама свайго кшталту Купалам, Багдановічам ці Коласам... Менавіта гэта і рухае літаратуру наперад.

Але што такое «традыцыя» з больш шырокага пункту гледжаньня? Гэта ў першую чаргу памяць, генэтычна

закладзеная ў кожнае пакаленьне. Наша сьвядомасьць можа передаваць толькі тое, што ёсьць у нашай памяці. Таму нічога свайго чалавек прыдумаць ня здольны, бо матэрыялу для такіх знаходак у яго мазгах проста няма. Адсюль вынікае, што ўся літаратура, якая б яна ні была, ёсьць традыцыя, і кожны стыль, стары ён ці новы, мае свае вытокі. І чаго б новага паэт ні стварыў, яно ўсё роўна будзе напісана ў гэтай самай «традыцыі Купалы, Коласа, Багдановіча», хоць называць гэтую традыцыю нечымі імёнамі сэнсу няма, бо паэзія існуе спрадвечна: напачатку ж, як вядома, было слова, і словам быў Бог.

*15 траўня.*

Падборка ў «Б[еларускай] м[аладзёжнай]» гатова. Заўтра выйдзе. Тэлефанаваў Зьміцер Вішнёў. Успомніў, што ў ягоным вершы памылка — «іглой» (русізм), дык ён хоча любым чынам выправіць яе. Нават «глой», на яго думку, было б лепей.

Ігар Сідарук напісаў п'есу *[«Цыркулярны душ»]* пра «Бум-Бам-Літ». Чаго ён там толькі не папрыдумляў пра нас! Праўда, нашыя імёны й прозьвішчы зашыфраваў (Зьмій Віш, Міх Баш, Аль Бах), але можна лёгка пазнаць, дзе хто. І з кожнага як-небудзь пазьдзекаваўся, інакш ня быў бы ён Ігарам Сідаруком. Праўда, зрабіў ён гэта па-сяброўску, так, каб мы ня надта крыўдзіліся. Словам, п'еса атрымалася сьмешная, прыкольная. Я ледзь ня падаў ад сьмеху, калі Зьміцер зачытваў мне яе па тэлефоне. Асабліва цікава было паслухаць пра сябе. Называюся я там Буль Жы, усё нешта сьмяюся, хапаю нейкія відэльцы, лаўлю дывэрсанта, размаўляю нейкімі напаўпаліндрамічнымі фразамі... Але ўсяго, што нагаварыў мне Зьміцер, я не разабраў, ня ўехаў, так бы мовіць, але зьмест п'есы мне падабаецца.

*17 траўня.*

Абышоў паўгораду ў пошуках «Беларускай маладзёжнай». Нідзе няма. Толькі час дарма згубіў. Рыхтую курсавую да абароны, думаю, што буду казаць. <...>

*21 траўня.*

Купіў у рэдакцыі «БМ» 10 экзэмпляраў. <...>




*24 траўня.*

Калі паэт піша вершы пра нешта, нават пра ўсё, дык ягоны тэматычны запас з часам вычарпаецца, і яму ўжо ня будзе пра што пісаць. Іншая справа — калі паэт піша ні пра што. Тады ён можа напісаць вершаў колькі заўгодна. Пра нешта можна пісаць шмат, пра ўсё — на працягу ўсяго жыцьця, ні пра што — бясконца...

*3 чэрвеня.*

У «Бум-Бам-Ліце» стала на двух сяброў болей. Гэта Віталь Пятроўскі й Дзяніс Хвастоўскі. *[Удзел В. Пятроўскага ў ББЛ абмежаваўся п'есай «Нараджэньне», якую ён прапанаваў для драматургічнага зборніка. Гл. «Тэксты», 2005, № 3.]* Сёньня я аднёс у «Культуру» вершы Хвастоўскага. Зьмітру Вішнёву яны вельмі спадабаліся. Ён з радасьцю паведаміў, што зьявіўся яшчэ адзін бумбамлітавец. А Алесь Герасімавіч ставіцца да вершаў Дзяніса інакш: лічыць, што яны пазбаўленыя сэнсу, напісаны невядома пра што. *[Насамрэч ён так ставіўся не да ўсіх вершаў Дз. Хвастоўскага: неўзабаве ў «Першацьвеце» (1997, № 8; 1998, № 1) выйшлі дзьве паэтычныя падборкі Дзяніса.]* Ну дык гэта ўжо ягоныя праблемы: цяпер ён будзе шкадаваць аб тым, што зарэзаў некалькі вершаў Хвастоўскага. Малады паэт выдасьць сабе друкапіс *[не, друкапіс ён так ніколі й ня выдаў...]*, выступіць у бумбамлітаўскіх падборках, будзе езьдзіць з намі па розных установах і чытаць са сцэны свае вершы. А што будзе, калі ён застанецца першацьветаўцам? Цяжка сказаць...

Невядома, калі ж усё-такі выйдзе «Тазік беларускі»? Фундатар зьехаў у Германію. Бумбамлітаўцы мараць аднавіць «ЗНО» *[апошні выпуск «ЗНО» выйшаў у лютым 1997 г.]* — зрабіць «ЗНО-2», але гэта яшчэ толькі мары... Нешта пра наш рух павінна надрукаваць «Свабода», 12 чэрвеня, магчыма, адбудзецца выступ ля помніка Янкі Купалы.

*6 чэрвеня.*

Сёньня ў чарзе па заробак Зьміцер Вішнёў пазнаёміў мяне зь Янкам Сіпаковым. Той чытаў маю паэму «Рогі гор», і яна яму вельмі спадабалася. Паэт сказаў, што праца, зробленая мною, раўназначна перакладу Дантэ. *[Ну гэта каму*

*як. Мне, напрыклад, бывае цяжка перакласьці які-небудзь маленькі просьценькі вершык, а ня тое што Дантэ! А вось паліндромы ў мяне пішуцца безь вялікіх праблем.]* Я не схаваў, што пішу новую паэму, але Іван Данілавіч выказаў, што такое рабіць было б ня варта, што дзьве такія паэмы — гэта ўжо многа, што вянок санэтаў у паэта звычайна толькі адзін *[не: я вось спрабаваў палічыць вянкі санэтаў Соф'і Шах і... зьбіўся зь ліку...]*, і падобныя паэмы таксама павінны быць непаўторныя па сваёй сутнасьці. Аднак потым ён паправіўся, сказаў, каб усё ж такі я працягваў пісаць паліндромы і пажадаў посьпехаў у гэтай нялёгкай, але цікавай справе.

*7 чэрвеня.*

Зьміцер Вішнёў кажа, што ягоная знаёмая дзяўчына праз месяц зьязджае ў Афрыку, у Танзанію, на два гады. А гэта значыць, што мы можам наладзіць сувязі з танзанійскімі літаратарамі. Ня ведаю, што з гэтага атрымаецца, але адпраўлю туды ў Афрыку абедзьве свае кніжкі, які-небудзь нумар «Першацьвету», а таксама ліст-зварот да афрыканскай творчай інтэлігенцыі з просьбай дапамагчы ў папаўненьні банку дадзеных сусьветнай паліндрамістыкі (а раптам і ў Афрыцы хто піша паліндромы!). Тэкст пасланьня напішу на ангельскай мове. Атрымаю, не атрымаю адказ — але ўсё роўна будзе добра, калі афрыканцы даведаюцца, што ёсьць такая літаратура — беларуская і што сярод яе стваральнікаў ёсьць і ўдзельнікі такога літаратурнага руху з громападобнай назвай — «Бум-Бам-Літ»! *[Ужо ня памятаю, што з гэтага ўсяго атрымалася. Здаецца, тая дзяўчына ў Афрыку так і ня зьехала.]*

*8 чэрвеня.*

Сігнальныя нумары «Тазіка беларускага», магчыма, будуць выдадзеныя ў Германіі, бо выдавец з макетам цяпер там. Сам жа тыраж выйдзе тут, на Беларусі.

*9 чэрвеня.*

Патаранскі назваў мяне «беларускім Сашам Чорным» (цікавае параўнаньне!). Алесь Герасімавіч не дазваляе запрасіць на вечарыну ў чацьвер «Бум-Бам-Літ». Я сяджу, вучу філязофію. Заўтра — іспыт.



*13 чэрвеня.*

Увесь дзень рыхтаваўся да *[наступнага]* іспыту. Па дарозе дадому сустрэў Сержа Мінскевіча зь ягоным гуртом. Ішлі рэпэтаваць у ДК МТЗ. Сяржук сказаў, што спонсар хутка вернецца і прывязе наш выдадзены зборнік. Што ж, будзем чакаць. *[А чакалі мы доооўга! Выдавецтва «Логвінаў» тады яшчэ не было. «Галіяфаў» — таксама.]*

*14 чэрвеня.*

Паэзія павінна ўражваць альбо глыбокімі думкамі, альбо поўнай іх адсутнасьцю.

*19 чэрвеня.*

Званіў у «БМ». Там сказалі, што вершы мае ляжаць мёртвым грузам і будуць ляжаць аж да восені. Ну і няхай сабе ляжаць. Затое Зьміцер Вішнёў сказаў, што 27, 28 ці 29 чэрвеня выступім перад супрацоўнікамі газэты «Переходный возраст», і яны, мабыць, надрукуюць нашыя творы. А тут яшчэ выйшла газэта «Журналіст» (дзіўная ўсё ж такі газэта *[ды ня дзіўная, а проста «малатыражка», вучэбная газэта факультэту журналістыкі БДУ]*: выходзіць раз на год тыражом 50 экзэмпляраў!) зь вялікім артыкулам пра «Бум-Бам-Літ». Словам, нягледзячы ні на што, шмат цікавага.

*21 чэрвеня.*

Вішнёў тэлефанаваў. Казаў пра нашыя будучыя выступленьні, пра артыкулы ў «Журналісьце» і ў «Чырвонай зьмене», дзе напісалі пра нас. Дасьць потым зрабіць копію.

*23 чэрвеня.*

Хвастоўскі згадзіўся на маю прапанову выступіць з «Бум-Бам-Літам». Гэта добра.

*24 чэрвеня.*

Журналістка Ірына з «Маладзёжнага радыё» брала інтэрвію з «Бум-Бам-Літам» — гэта значыць, зь Юрасём Барысевічам, Зьмітром Вішнёвым і мной. Праўда, гаварылі ў асноўным яны, а я толькі слухаў ды ад сьмеху качаўся, як яны ў зусім сур'ёзным тоне распавядалі адзін пра аднаго розныя прыкольныя небыліцы (напрыклад, пра абразаньне спачатку

Юрася, а потым Зьмітра). Пад канец пачыталі свае творы. Потым доўга яшчэ сьмяяліся з нашай размовы ды ўяўлялі сабе, якая ж з усяго гэтага атрымаецца перадача!

*27 чэрвеня.*

У сёньняшнім «ЛіМе» зьмешчаны артыкул Віталя Пятроўскага пра постмадэрнізм. І стаўленьне ў яго да гэтага эстэтычнага кірунку, скажам так, ня надта станоўчае: Віталь лічыць *[беларускі]* постмадэрнізм «усяго толькі эпігонска перанятай заходнеэўрапейскай традыцыяй». А сам жа хто? Таксама ў пэўнай ступені постмадэрніст. І артыкул назваў «Трызьненьні постмадэрніста». Віталь выступае за «прынцып наватарскага асваеньня старых формаў». А ці ня ёсьць гэта постмадэрнізм? Не, Віталь разумее пад гэтым паняткам стварэньне чагосьці новага, крушэньне старых формаў. Наватарства без адыходу ад традыцыі — гэта ўжо проста мадэрнізм (ня пост-). Але Віталь піша, што «традыцыі мадэрну ў нас адсутнічаюць». *[Ніколі не пагадзіўся б з такім выказваньнем!]* А якія ж тады прысутнічаюць? Сацрэалізму? А гэта хіба лепш?

*28 чэрвеня.* [Зьмест запісу выкарыстаны ў нарысе «Сам сабе Шатляндыя» (часопіс «Макулатура», 2012, № 2).]

Не, я ніколі не забуду сёньняшняе выступленьне! Даехаў раніцай да станцыі «Маскоўская», пачакаў Дзяніса Хвастоўскага, і мы разам пайшлі да будынка № 12 па вуліцы Макаёнка. І мы прыйшлі туды першымі. Нас сустрэла нейкая жанчына, сказала, каб пачакалі, пакуль у іх там у «Пераходным узросьце» *[дакладней, у «Школе маладога журналіста» пры газэце «Переходный возраст»]* ідзе лекцыя. Наступным зьявіўся Сяргей Патаранскі. Ён павітаўся з намі ды спытаў у Хвастоўскага:

— А вы з газэты «Пераходны ўзрост»?

— Так, — адказаў той.

— А як вас завуць?

— Аляксандар, — сказаў Хвастоўскі, ледзь ня душачыся ад сьмеху.

— А мяне — Сяргей... Дык ты тут што прадстаўляеш?

— Ён таксама «Бум-Бам-Літ» прадстаўляе, — патлумачыў я. *[Дарэмна я ўлез! Цікава, чым бы ўсё гэта скончылася?]*

— І ты з «Бум-Бам-Літу»? — зьдзівіўся Сяргей, разглядаючы Дзяніса. — А я й ня ведаў...

Усе мы засьмяяліся. Тут да нас нечакана падбегла вахцёрка ды пачала нас лаяць, асабліва Патаранскага, за тое, што без дазволу зайшлі ў гэтак званы «Летні сад» — месца сярод клюмбаў з расьлінамі.

— Нас запрасілі, — тлумачыў Патаранскі.

— Мяне не хвалюе, — казала жанчына.

— Дык мы ж не хуліганы, — апраўдваўся Хвастоўскі.

— А хто вас ведае...

Давялося выйсьці й пачакаць іншых выступоўцаў — Зьмітра Вішнёва і Ганку Шханаву (яна ж Ціханава). Не пасьпеўшы пазнаёміцца зь Дзянісам, Зьміцер адразу ж спытаў, чаму той ня ўзяў пыласос. *[За дзень да гэтага Зьміцер папрасіў мяне, каб я пераканаў Дзяніса прыцягнуць на выступ пыласос.]* Потым пачакалі яшчэ трошкі — пакуль адрамантавалі электрычнасьць у актавай залі. Спрачаліся, хто пойдзе першым выступаць, і выбар спыніўся на Хвастоўскім. Калі надышоў адказны момант, Зьміцер прадставіў Дзяніса публіцы. Той пачаў чытаць верш на памяць, але потым забыўся, аб'явіў «невялічкую творчую паўзу», пакорпаўся ў блякноце і далей чытаў адтуль.

Наступным выйшаў Патаранскі, як заўсёды, горды й велічны. Патэатральнаму зьняўшы пінжак, пачаў чытаць свае «Старые песни о новом», потым яшчэ тое-сёе «для роздуму». Публіцы ён спадабаўся, яго сустрэлі гучнымі воплескамі.

Ганна Ціханава чытала вершы без усялякіх *[артыстычных]* выкрунтасаў, але гэтак яно было й добра. Тым больш, самі творы па зьмесьце былі досыць экзатычнымі, нават больш маляўнічымі, чым яна пісала раней. Так, Ганна была ў гэты дзень непаўторная.

Перад маім выступленьнем Зьміцер не забыў узгадаць пра маю знакамітую паэму *[«Рогі гор»]*, і мне давялося адвесьці размову ўбок, бо паліндромы чытаць там я не зьбіраўся. Спачатку я хацеў чытаць выключна жахлівыя творы, але потым зірнуў на твары слухачоў і вырашыў пашкадаваць іх. Таму чытаў усё, што першае траплялася. Асабліва спадабалася моладзі «Хімічная каша» *[= «Сон Мендзялеева»].*

Сам Зьміцер Вішнёў прачытаў толькі тры свае тэксты: пра галаву,

пра афрыканскіх мух і пра тое, што ён «няшчасны, гаротны, такі пасінелы».

Ня дзіўна, што першае пытаньне слухачоў было: «Чаму ў вас так шмат чорнага гумару?» «Дык жыцьцё такое», — атрымалі яны кароткі адказ. А потым — увогуле: «А вы пішаце толькі на беларускай мове? А чаму на беларускай?» Усе выступоўцы адзінагалосна прызналі гэтае пытаньне некарэктным. Далей пасыпаліся пытаньні, зусім традыцыйныя для размоваў з «творчымі асобамі»: «Як прыходзяць да вас вершы?» «А чым вы займаецеся, акрамя творчасьці?» «Ці лёгка цяпер жывецца мастаку?» І гэтак далей. Адказваў пераважна Патаранскі. Сьмела адказваў, рашуча, перакананa і надзвычай сур'ёзна. Ня ведаю, ці была гэтая сур'ёзнасьць сапраўдная, ці гэта проста звычайная поза. Прытым Сяргей адкрыта прызнаўся, што напісаньне вершаў каштуе яму «парваных нэрваў і псыхічных зрываў». Мне такое чуць было даволі дзіка. Але яшчэ большае ўражаньне выказваньні Патаранскага зрабілі на Хвастоўскага: той ажно качаўся па стале, захлынаючыся ад сьмеху. І так ён паводзіў сябе амаль да самага сканчэньня выступу.

— Дзяніс, — кажу я яму, — на цябе ж людзі глядзяць!

А ён:

— Дык... гэта... у мяне... пэрформанс!.. — і працягвае ржаць далей. Зьміцер паспрабаваў апраўдацца:

— Дзяніс з намі толькі першы раз. Я, напрыклад, яго ўпершыню бачу.

На што Дзяніс заўважыў:

— Я яго таксама ўпершыню бачу! — і зноў сьмяецца *[уткнуўшыся галавою ў стол]*.

У мяне адна дзяўчына ўсё ж такі спытала: «А як вы напісалі сваю паліндрамічную паэму?» Значыць, ведае, што такое паліндромы. Гэта добра.

Пад канец да нас прыходзілі па аўтографы. Мы ўсе расьпісваліся, а Патаранскі яшчэ й складаў экспромтам нейкія вершыкі. Потым ён зьнік. Раптоўна, не разьвітаўшыся. Пайшоў і Хвастоўскі.

Мы з Ганнай і Зьмітром выйшлі з будынка, паклалі на лаўку сумкі ды пачалі фатаграфавацца. З тазікам, зь белым парасонам. Асабліва добра пазіравала Ганна: на здымках яна, мабыць, атрымаецца ня горш за фотамадэль. *[Магчыма... Але стужка ляжыць у Зьмітра ненадрукаваная! Дасюль!!!]*

Надвор'е было проста выдатнае, і мы адтуль, з Макаёнка, дайшлі ажно да Камароўкі. Па дарозе дзяліліся ўражаньнямі аб прайшоўшым выступе, сьмяяліся, жартавалі. Напрыклад, наконт псэўданіму «Ганка Шханава». Рэч у тым, што спачатку гэта была звычайная абдрукоўка. Зьміцер Вішнёў, калі рыхтаваў падборку ў «Понедельник», напісаў прозьвішчы незразумелым почыркам, а Алесь Туровіч так і набраў на камп'ютары, нават не зьвярнуўшы ўвагу на тое, што Зьміцер назваў яму прозьвішча Ганны ўголас. Сама ж Ганна спачатку жахнулася, убачыўшы, як скуламесілі яе прозьвішча, але потым вырашыла, што няхай гэта будзе псэўданім.

Разьвіталіся мы з Ганнай на плошчы Якуба Коласа. Яна пайшла дахаты, а мы са Зьмітром — на кірмаш, купіць трускалак (так ён называе клубніцы). Купілі, аднак, вішняў. Зьміцер хацеў кілаграм, але чорны смуглявы каўказец, убачыўшы, што паклаў трошкі больш, сказаў: «А мы здэлаем палтара» — і ўгаварыў Зьмітра. Адразу бачна — умее чалавек гандляваць.

Потым разьехаліся па хатах. Я прывёз знакаміты бумбамлітаўскі Тазік — Зьміцер перадаў мне яго на часовае захаваньне, — і цяпер наш славуты талісман стаіць у мяне за шафаю, схаваны ў поліэтыленавы пакет. Але ж брудны ён нейкі. Трэба памыць — каб ажно блішчаў! Каб не казалі потым людзі, што «Бум-Бам-Літ» выступае з брудным тазікам!

*30 чэрвеня.*

Патаранскі ўсё кпіць з маіх паэтычных экспэрымэнтаў, пытаецца: «Навошта ты пісаў гэтую паэму?» А мне што адказаць? Захацеў — і напісаў. І не ягоная гэта справа, што мне пісаць, а што не.

<...>

Сёньня я спрабаваў мыць Тазік. Наліў у яго гарачай вады, потым цёр анучай. Трошкі нешта адмылася. Але звонку асабліва драяць ня стаў, каб ня сьцерці што лішняе. Раней на Тазіку было напісана «Бум-Бам», але з часам гэтыя літары напалову сьцерліся, і засталося нешта падобнае на таямнічыя іерогліфы старажытных сакральных надпісаў. Я вырашыў не парушаць гэтую таямнічасьць.

*1 ліпеня.*

Увечары патэлефанаваў Зьміцер Вішнёў. Сказаў, што заўтра да другой гадзіны трэба тэрмінова здаць вершы

ў «Культуру». Здаць у «Культуру», каб надрукаваць у «Крыніцы», у рубрыцы «У нас». Як я чакаў гэтага моманту! Ура! Патэлефанаваў Хвастоўскаму. Заўтра мы сустрэнемся і аднясём свае творы Акудовічу. Так што — жыве Беларусь! І жыве «Бум-Бам-Літ»!

*2 ліпеня.*

Вершы мы здалі. Міхась Башура прапаноўваў мне працу ў «Культуры» — на 0,25 стаўкі. Працаваць — усяго раз на тыдзень. Трэба падумаць. З аднаго боку, дадатковы заробак ніколі не зашкодзіць, а з другога — што, калі часу ня будзе хапаць?

*3 ліпеня.*

Сёньня ўрэшце перапісаў п'есу. А мог бы й раней, калі б ня так ленаваўся. Магу ж я рабіць штонебудзь, калі захачу! Але ці буду я рабіць што-небудзь заўтра, я ня ведаю: буду сьвяткаваць 930-годзьдзе Менска, пайду на канцэрт. Напэўна, весела будзе.

*7 ліпеня.*

Сёньня я дастаў з рэдакцыйнай шуфляды папкі Пятроўскага *[рэдактара аддзелу паэзіі часопіса «Першацьвет», Віталя Пятроўскага, які незадоўга да гэтага звольніўся]* і трошкі іх прагледзеў. Знайшоў адну цікавую рэч: верш Андрэя Мазалеўскага, напісаны на двайным аркушы, вырваным са сшытка. Але мяне ўразіў ня так сам верш (ён самы звычайны), як тое, што на адваротным яго баку. Гэта дыктоўка, якую Андрэй некалі пісаў у школе. Таксама, здавалася б, звычайная: праз коску ў даволі хаатычным парадку напісаныя прыслоўі. Але мне ў галаву прыйшла наступная думка: прадставіць гэта як авангардны твор і выразна прачытаць перад прысутнымі *[на пасяджэньні літаб'яднаньня пры «Першацьвеце»]*. Я так і зрабіў. І ўсе, хто слухаў, вельмі зьдзівіліся, што такі традыцыйны паэт, як Мазалеўскі, і такі верш напісаў. А потым, як я паказаў, што гэта на самай справе, то ўсе мы ад душы пасьмяяліся. Вось як бывае!



*10 ліпеня.*

Эх, ну й выступленьне адбылося сёньня! Пісаць пра яго тут ці не? Усё роўна мяне папрасілі зрабіць рэпартаж пра сёньняшнюю вечарыну. Але сёньня ўжо позна <...>

*13 ліпеня.*

<...>

Але, тым ня менш, я пачну. *[Мяркуючы па тым, што я пісаў газэтным стылем і згадваў сябе ў трэцяй асобе, я сапраўды рыхтаваў кудысьці рэпартаж, але нешта ня памятаю, каб гэтая мая нататка была дзесьці зьмешчана.]*

У чацьвер, 10 ліпеня, ля помніка Янкі Купалы адбыліся паэтычныя чытаньні, асноўную частку якіх склала выступленьне «Бум-Бам-Літу», перад якім быў вынесены і пакладзены на сцэну легендарны Тазік. У якасьці вядучага выступаў Зьміцер Вішнёў, на руках якога былі намаляваныя вены, што сымбалізуе сувязь літаратуры з наркотыкам. Па словах Зьмітра, літаратура — найлепшы і, магчыма, ня самы шкодны наркотык. Віктар Жыбуль прачытаў вершы пра тое, што адбываецца ў хаце, калі ў яе залазіць дывэрсант. Алесь Туровіч агучыў тэксты сваіх новых эсэ-раманаў «Вып'ем фанты пад «тэхна»» і «Паводле слоў найпадобнага Бякі-Букі». Усевалад Гарачка паказаў, што ён ня толькі самы пралетарскі паэт у «Бум-Бам-Ліце», але і добры лірык. Юрась Барысевіч пазнаёміў слухачоў са сваёй сэнсацыйнай знаходкай — невядомым францускамоўным вершам Янкі Купалы «Новыя лапці». *[Насамрэч Юрась прачытаў байку «Страказа і мураш» у французскім перакладзе, але мала хто з прысутных разумеў французскую мову. Адна супрацоўніца музэя Янкі Купалы шчыра паверыла, што гэта сапраўды купалаўскі верш і пацікавілася, дзе ж захоўваецца аўтограф арыгіналу. Атрымаўшы адказ «У архіве Бум-Бам-Літу», тая кабета настойліва дапытвала Юрася, «дзе знаходзіцца гэты архіў».]* Бард Сяржук Мінскевіч выканаў песьню «Трамвайны рок-н-рол». А Альгерд Бахарэвіч разам з гуртом «Правакацыя» трошкі папалохаў слухачоў сваімі жахлівымі, сапраўды правакацыйнымі песенькамі, а таксама паэтычным творам пра аднаго вядомага пісьменьніка. Самы змрочны паэт «Бум-Бам-Літу» Ільля Сін чытаў свае вершы ў самых раз-

настайных позах: стоячы, седзячы, і нават лежачы на сцэне. У разгар выступленьня бумбамлітаўцаў на сцэну выйшаў паэт, які назваўся Донам Хуанам Мікалаўскім *[гэта быў Мікола Адам]*, і прачытаў караценькі верш, зь якога было відаць, што яго аўтар знаходзіўся ў не зусім цьвярозым стане. *[Там сапраўды былі словы «Я п'яны...»]*

Але найвялікшай падзеяй тае вечарыны стаў заключны пэрформанс, названы яго аўтарамі «Вегетарыянскае людажэрства, альбо Зьяданьне Дона Хуана Мікалаўскага». Але не палохайцеся: сам Дон Хуан застаўся цэлым, а замест яго на сцэну вынесьлі на насілках чучала, вантробы якога былі складзеныя з батонаў, буракоў і салаты. Па камандзе Ільлі Сіна чучала было абезгалоўлена, растрыбушана, а затым зьедзена ўдзельнікамі пэрформансу *[а сярод іх былі, напрыклад, будучы рэдактар газэты «Навінкі» Паўлюк Канавальчык і акторы будучага «Тэатру псыхічнае нейраўнаважанасьці» Мітрыч і Міця Корсак, а таксама музыкі гурта «Правакацыя»]* і астатнімі бумбамлітаўцамі. Пачаставалі і гледачоў, дасталося нават самому Дону Хуану Мікалаўскаму. Словам, было што паслухаць і паглядзець, было з чаго пасьмяяцца, было над чым задумацца, а часам нават і абурыцца.

*14 ліпеня.*

Тэлефанаваў у «Переходный возраст»... Там сказалі, што ўся публікацыя «Бум-Бам-Літу» будзе зьмешчана на адной старонцы, таму трэба напісаць *[у якасьці прадмовы]* усяго толькі кароткую нататку, інакш не памесьцяцца самі творы...

<...> *[Даведаўшыся, што са мною зьбіраецца зрабіць вялікае інтэрвію радыёжурналістка, я вырашыў напачатку сам для сябе праясьніць, «утрэсьці ў галаве» некаторыя пытаньні свайго творчага сьветапогляду, занатаваць свае разважаньні на літаратурныя тэмы. І вось што атрымалася...]*

...Асноўны кірунак маёй творчасьці — тэхнарамантызм. Тэхнарамантызм адрозьніваецца ад іншых кірункаў у паэзіі і сваёй лексікай, і вобразнымі сродкамі. У тэхнарамантычных вершах могуць свабодна выкарыстоўвацца навуковыя тэрміны: тэхнічныя, матэматычныя, фізычныя, хімічныя, біялягічныя, мэдычныя і гэтак далей. Мэтафары, вобразныя сродкі таксама бяруцца з навукова-тэхнічнай сфэры. Лірычным героем у тэхнарамантычных творах можа быць ня толькі чалавек, але й машына, робат, які-небудзь мэханізм альбо яго асобная дэталь, ці нават хімічнае рэчыва. Вось асноўныя рысы тэхнарамантызму.

Пісаць менавіта такія вершы я вырашыў яшчэ ў школе. Наша школьная праграма прымушае вывучаць усё: і што спатрэбіцца ў жыцьці, і што не спатрэбіцца. Я ня меў ніякіх здольнасьцяў ні да матэматыкі, ні да фізыкі і таму не зьбіраўся зьвязваць свой лёс з гэтымі навукамі. Але паколькі мне даводзілася іх вучыць, дык каб гэтае забіваньне галавы ведамі было недарэмным, я вырашыў іх хоць недзе выкарыстаць. І выкарыстоўваю ў паэзіі. Акрамя таго, мне падабаецца сама мэлёдыка гучаньня ўсіх гэтых навуковых тэрмінаў, і таму яны — выдатны матэрыял для вершаў. Яшчэ ў дзявятай клясе я напісаў твор пад назвай «Хімічная каша» *[пазьней перайменаваны ў «Сон Мендзялеева»]*, у якім выклаў вершамі ўсю табліцу Мендзялеева.

А калі глядзець з філязофскага боку, то наш сусьвет увесь час мяняецца, чалавецтва ўсё рухаецца, некуды імкнецца, у яго побыце зьяўляюцца ўсё новыя гмахі, заводы, мэханізмы, робаты, камп'ютары. Чалавек, па сутнасьці, стварае новую прыроду. Гэтыя зьявы адбіваюцца і на паэзіі, у прыватнасьці — маёй. Калі на пачатку стагодзьдзя паэт у творчым палёце адчуваў сябе птушкай, то цяпер, напрыканцы, — альбо ракетай, альбо самалётам ці верталётам, альбо проста бумэрангам. Калі раней паэт чэрпаў вобразы й мэтафары зь першаснай прыроды, дык цяпер бярэ іх і з другаснай, якая пакуль што менш патаптана Пэгасавымі капытамі. Вось адсюль бярэ пачатак і тэхнарамантызм.

...Тэрмін «тэхнарамантызм» прыдумаў я сам. Дакладней, я яго й не прыдумляў: хіба складана да слова «рамантызм» дадаць прэфіксоід «тэхна-»? Можа нават і да мяне нехта ўжываў такое слова, але я гэтага ня ведаю.

Ну а наконт уплыву я скажу, што ў сваёй творчасьці я стараюся быць ні да каго не падобным, але рэальна цалкам іх (уплываў) пазьбегнуць, мабыць, немагчыма. Сьвядома ж я ніколі не стараюся спадкаваць стыль якога-небудзь паэта. *[Не, пазьней*

*усё ж такі паспрабавай дзеля экспэрымэнту, але пра гэта асобная гаворка.]* Вось часта бывае так, калі, напрыклад, малады паэт скажа: «Вось так пісаў Купала, значыць, так напішу і я, і гэта будзе добра». Але лепей за Купалу ён усё роўна не напіша, бо Купала быў геніем у сваім творчым кірунку і пераўзысьці яго надзвычай складана. Таму трэба шукаць нешта сваё. Але не забываць і пра творчасьць нашых клясыкаў.

...Мяне неяк не хвалюе, постмадэрніст я ці хто. Я проста пішу як мне падабаецца, а вызначаць, хто я такі — гэта ўжо справа крытыкаў. Ды мушу сказаць, што самі паняцьці «традыцыя» і «постмадэрнізм» часта тлумачацца не зусім правільна. Мне здаецца, што ўся літаратура сама па сабе ёсьць традыцыя, але якая ўвесь час аднаўляецца, мадэрнізуецца. Гэта аснова літаратурнага працэсу, які ці хутка, ці марудна, але ўсё роўна рухаецца наперад. Само па сабе выкладаньне думак і пачуцьцяў на паперы (і ня толькі на паперы) — ну хіба гэта ня ёсьць традыцыя? Бо і клясічныя творы, і тыя, якія прынята лічыць постмадэрнісцкімі, маюць паміж сабой шмат агульнага, якое заключаецца хоць бы ў тым, што і тыя, і тыя творы складаюцца са сказаў, словаў, літараў, гукаў — карацей, маюць графічнае і фанэтычнае выяўленьне. Вядома ж, бываюць і выключэньні: напрыклад, паэт Алесь Туровіч прапаноўвае ў якасьці твораў чорны, белы й празрысты аркушы, і тут ёсьць свая філязофія. Але ўвогуле літаратура — гэта традыцыя. Але каб яна цікава чыталася, яе трэба ўвесь час аднаўляць. Літаратуру я ўяўляю сабе калейдаскопам, у якім малюнак пастаянна мяняецца, але ён застаецца складзеным з тых самых кавалачкаў шкла. І ня трэба яго спыняць, бо калі перад вачыма адзін і той жа малюнак, хай нават вельмі прыгожы, ён рана ці позна можа надакучыць. Вось так... Але літаратура — рэч больш складаная, чым калейдаскоп, бо калейдаскапічныя малюнкі зьнікаюць адзін за адным, а напісанае, як вядома, застаецца. І кожны чытач можа цяпер узяць у бібліятэцы такую кнігу, якую ён захоча. Некаторыя пісьменьнікі чамусьці страшэнна баяцца так званага «разбурэньня» традыцыі. А калі баяцца, то самі, мабыць, няўпэўненыя ў трываласьці такой традыцыі. Але, на маю думку, сапраўдную літаратурную традыцыю разбурыць нельга — яна ўсё роўна застанецца ў памяці людзей.

Іншая справа — архітэктура, дзе часам ідзе разбурэньне самае сапраўднае, у літаральным сэнсе гэтага слова. Колькі ў Беларусі было зьнішчана гістарычных помнікаў: і ў ваенны час, і пасьля вайны. <...>

...Каханьне — гэта такая тэма, на якую пісалі й пішуць амаль усе паэты, і таму я часта думаю, а ці варта ўстаўляць і мне сюды сваё слова. У мяне ёсьць некалькі вершаў пра каханьне, але я іх ніколі не афішую, а тым больш нідзе не друкаваў. Я не лічу іх надта ўдалымі. Вось калі напішу што-небудзь больш сваё, тады — надрукую. *[Ну, нешта напісаў... Нават у анталёгію «Яна і я» патрапіў!]* А так, калі вам падабаюцца вершы пра каханьне — чытайце Купалу й Багдановіча. У іх вы знойдзеце шмат таленавітых лірычных радкоў. <...>

*15 ліпеня.*

<...> У пакой увайшла радыёжурналістка. Маладая. Студэнтка-практыкантка. І пачала... Няма ахвоты нават пісаць, пра што яна там пыталася. Ну, гэта яшчэ нічога: «Што для цябе паэзія?» «Кім зьяўляецца паэт у сучасным грамадзтве?» «Хто твой любімы паэт?» Але: «Што для цябе шчасьце?» «У чым сэнс жыцьця?» «Якое тваё крэда?» Гэта ўжо занадта! Ну хіба задумваўся я калі-небудзь над гэтым? Ну адказаў я там неяк, ну выкруціўся, ну й добра! Але як пачала пытаць пра нейкі там горад, які б я хацеў пабудаваць, каб гэты горад адпавядаў майму сьветаўспрыманьню. Які-такі горад чакала яна ад мяне? «Зь зялёнымі дахамі й крывымі вокнамі!» Ну не, я сказаў як ёсьць: мой ідэал горада — Менск пачатку XX стагодзьдзя! А яна: «Сапраўдны паэт ня можа без паэзіі. А ты можаш?» «Магу! — адказаў я, — магу цэлы месяц вершы не пісаць, а магу за дзень цэлых чатыры!» Ну сапраўды, стварылі тут нейкі стэрэатып паэта, апантанага паэзіяй, які бяз гэтай самай паэзіі й дня пражыць ня можа, і мяне хочуць у такія паэты залічыць. Ня выйдзе, спадарства!

*16 ліпеня.*

<...> ...Думаю: а што, калі мне стварыць клюб аматараў паліндрому? І даць аб'яву ў якую-небудзь газэту — у той самы «Переходный возраст»? Толькі спачатку трэба сфармуляваць

канцэпцыю свайго клюбу, інакш нічога не атрымаецца.

*17 ліпеня.*

<...>

Але ж гэта жах нейкі! Напісаў сёньня верш, і пра што? Як хлопчык смажыў над плітой гліста, а пасьля ў яго забалеў жывот! Карацей, атрымаўся нейкі чорны гумар, такі пачварны й агідны. *[І тым ня менш, верш атрымаўся хітовы: ніводзін твор мяне потым не прасілі чытаць на «біс» гэтак часта, як «Гліста»!]* І мог бы спыніцца, дык не — нарадзіліся шчэ й такія радкі:

*З вакна разьліваецца сьпеў*
*канарэек,*
*а я тут ляжу, прывязаны да рэек.*
*А сябар ляжыць, прыкаваны да*
*шпалаў —*
*яму, чурбану, увесь час шанцавала.*
*Разносіцца грукат па стомленых*
*нэрвах.*
*Мы знаем, што хутка з нас зробяць*
*кансэрвы.*
*Вакол — толькі промняў ружовыя*
*джалы*
*ды сьпеў канарэек пра рэйкі ды*
*шпалы.*

Але ж нельга ўвесь час пісаць гэткае страхоцьце. Трэба павытрасаць яго ўсё вонкі, каб запоўніць душу нечым сьветлым, вечным, прыгожым.

*19 ліпеня, в. Міжылішча. [Гэта вёска, у якой жыла мая бабуля. Пухавіцкі раён, 100 км ад Менску.]*

Нягледзячы на моцны шум радыёпрыёмніка, мне ўсё ж такі ўдалося паслухаць інтэрвію. Не скажу, каб яно атрымалася занадта жахлівым, але не маглі ня кінуцца ў вушы памылкі, якія нарабіла студэнтка-практыкантка Віка К. Па-першае, яна назвала паліндром «штучнай паэтычнай формай», хоць гэта ня форма, а хутчэй проста від паэзіі, а нават калі й форма — то штучнасьці ў ёй можа нават ня больш, чым ва ўсіх астатніх. Па-другое, Віка паведаміла, што я «ня толькі вывучаю паліндромы па падручніках, але й пішу сам». Што сам пішу — гэта праўда, а вось дасьледаваць, г. зн. пісаць навуковыя працы самому і «вывучаць па падручніках» — рэчы зусім супрацьлеглыя. Да таго ж, я згадзіўся б нават даць сто тысячаў таму, хто прапанаваў бы мне хоць нейкі падручнік па паліндромах, а дакладней — ня даў бы нічога, бо калі такія падручнікі й ёсьць, то беларускаму чытачу яны амаль зусім недаступныя.

<...>

*22 ліпеня.*

О, колькі валтузьні тут з гэтай «Стаматалягічнай старонкай» *[падборкай ББЛ у газэце «Переходный возраст»]*! То цягнэць туды здымак Патаранскага, то высьвятляецца, што ён туды здаў дрэнныя тэксты, то раптам спахапіліся, што няма прадмовы. А тут яшчэ заўтра перціся ў гэты «Переходный возраст», кантраляваць іхнюю працу. Ну добра, я папруся раніцай, а ўвечары хай едзе Вішнёў!

<...>

Сёньня Зьміцер выказаў даволі разумную думку — афіцыйна зарэгістраваць «Бум-Бам-Літ», каб у яго быў свой рахунак. Калі гэта атрымаецца, будзе вельмі добра. *[Так, адзін час мы вельмі хацелі стварыць свой рахунак, каб мець магчымасьць атрымліваць гранты на выданьне кніг і правядзеньне творчых вечарынаў. Але і з-за шматлікіх бюракратычных пастак, і з-за нашай уласнай неарганізаванасьці зарэгістраваць ББЛ не атрымалася, а потым мы ўвогуле адмовіліся ад гэтай ідэі.]*

І яшчэ адна прыемная навіна: наша калектыўная падборка будзе зьмешчана ў «Народнай волі»! *[А вось гэтага ня памятаю. Не друкавалі мы там ніякай падборкі.]*

*24 ліпеня.*

Вярнуўшыся з паэтычных чытаньняў, патэлефанаваў шэфу, каб папрасіць здымак Хвастоўскага. Той у сваю чаргу зрабіў мне вымову за тое, што я быццам бы здаў яму ў дзясяты нумар «антыэстэтычныя, натуралістычныя» творы Э. Прасмыцкага і С. Петрыкевіча. У чым жа іх «антыэстэтычнасьць»? Усяго толькі ў тым, што ў першага зь іх у вершаваным апавяданьні ў адным месцы згадваецца здача аналізаў мачы й калу, а ў другога (дакладней, у ягонага героя) — ня надта прыемныя выказваньні ў адрас Льва Талстога *[«...Каб пагарджаючы гадамі, / Што разьдзяляюць нас з Талстым, / Усімі чатырма тамамі / Ўляпіць па чэрапе пустым». Гэта ад імя школьніка, якому задалі чытаць «Вайну і мір»]*. Калі й

далей творы ня будуць прапускацца ў друк з-за такіх дробязяў, то мая «Жароўня» *[раздзел сатыры й гумару часопісу «Першацьвет» 1992—1998 гг.]* доўга не праіснуе. Яна альбо згарыць, альбо ператворыцца ў штосьці іншае.

І ўвогуле, я не зусім разумею, чаму гэта пра такі фізыялягічны працэс, як паглынаньне ежы, можна свабодна гаварыць і пісаць, нават з усімі падрабязнасьцямі, а вось пра некаторыя адваротныя працэсы — нельга нават хаця б намёкамі? Бо і тое, і тое зьяўляецца фактамі чалавечага жыцьця, і без таго і бяз гэтага чалавек не ўяўляе свайго існаваньня, і адно, і другое аднолькава неабходна чалавеку. Чаму ж тады стаўленьне да гэтых рэчаў такое супрацьлеглае? Баюся, што лягічна гэта не патлумачыш. Справа тут, хутчэй за ўсё, ў свайго кшталту дагматызме, які сфармаваўся ў народнай сьвядомасьці за доўгія часы існаваньня чалавечай цывілізацыі... А калі падумаць, то кал (асабліва калі праляжыць непрыбраным некалькі дзён) сьмярдзіць, а гэта ня надта прыемна для нашых насоў. Але гэтак у жыцьці, якое пабудавана па нейкіх сваіх прынцыпах, канонах, якія мяняць ня нам. Літаратура ж — зусім іншая рэч. У ёй можна даць волю думкам, пачуцьцям, фантазіі, філязофіі, сьветаўспрыманьню — усяму таму, што скоўвае, сьціскае нас у жыцьці, з-за чаго мы набываем розныя комплексы. І калі ў жыцьці дазволена ня ўсё, мы дазволім сабе гэта ў літаратуры! І было б вельмі добра, калі б усё самае прыгожае перанеслася зь літаратуры ў жыцьцё, а самае брыдкае — з жыцьця ў літаратуру! Дык давайце возьмемся разам за свае справы і пачнем зьдзяйсьняць нашыя жаданьні! І тады наш сьвет зробіцца хоць трошкі прыгажэйшым, а літаратура... А літаратура стане пудзілам для нячысьцікаў!

*25 ліпеня.*

<...>

Прачнуўся я ад тэлефанаваньня. Гэта былі з «Переходного возраста». Пачалі мне ветліва тлумачыць, што тэкст Юрася Барысевіча *[«Каралеўства прывідаў»]* надрукаваць ня могуць — быццам бы з-за нейкай жорсткасьці ды адсутнасьці глыбокіх думак. Але я нешта ня памятаю, каб там было нешта асабліва жорсткае, «што можа мець дрэнны ўплыў на дзяцей» (а дзецям гэтым 14—16 і нават больш гадоў). Хутчэй за ўсё, прычына такога стаўленьня ў іншым: рэдакцыя ўгледзела там нейкі палітычны падтэкст і таму непакоіцца, як бы гэта ўсё ня трапіла ў іхнюю «прэзыдэнцкую» газэту. Тым больш, што яшчэ пазаўчора так проста і пыталіся: «А ці не пра Л-ку гэта?» Але яны разумеюць, наколькі абсурдна будзе гучаць такі аргумэнт і таму схавалі яго за іншым, таксама не зусім удалым. Але справа ня толькі ў гэтым.

У рэшце рэшт, яны маглі б выказаць сваё меркаваньне і раней, яшчэ перад вёрсткай. Але чамусьці маўчалі, а саму вёрстку адкладалі то на адзін дзень, то на другі. Такое ўражаньне, што яны несур'ёзна ставяцца або да сваёй працы, або да «Бум-Бам-Літу». Але ж яны самі запрасілі нас! І самі прапанавалі надрукаваць нашыя тэксты! Дык навошта цяпер прад'яўляць прэтэнзіі!

Зьміцер Вішнёў зь імі моцна палаяўся, ледзь не абвясьціў ультыматум. Магчыма, гэта і прынясе пэўныя вынікі. У рэдакцыі паабяцалі абмеркаваць гэтую справу з самім Барысевічам (Вішнёў даў ім ягоныя тэлефоны), але яны так і не зьвязаліся зь Юрасём. Тады я перадаў яму, каб ён затэлефанаваў ім сам (калі зможа). Што з гэтага атрымаецца, я пакуль што ня ведаю.

*26 ліпеня.*

Ура! Мы сваю падборку адстаялі! Мы перамаглі! Рэдакцыя «ПВ» параілася зь Юрасём Барысевічам і зрабіла адпаведныя праўкі, прычым даволі анэкдатычныя: «гарэлку», напрыклад, замянілі на «кефір», «кіраўніка дзяржавы» на «манарха», неяк зьмянілі і фразу пра антыкрызісную праграму... Карацей, усё стала зразумелым... Палітычныя матывы. Дзеці ж — усяго толькі прыкрыцьцё...

*28 ліпеня.*

«Першацьвет» з ахвотай друкуе крытычныя матэрыялы, дзе ўсяляк падтрымліваецца традыцыя і ганьбіцца постмадэрнізм (хаця я тут не аддзяляю адно ад другога). Напрыклад, Алесь Пашкевіч у артыкуле «На паўстанку тысячагодзьдзяў» *[«Першацвет», 1996, № 10]* заначае, што постмадэрністы пачалі з размоў пра «сьмерць Бога» і

заканчваюць сьцьверджаньнямі пра «сьмерць літаратуры». «І ня толькі сьцьверджаньнямі, але і стварэньнем «перадсьмяротных» узораў». Далей чамусьці адразу гаворыцца пра «Бум-Бам-Літ» (вядома ж, знайшлі крайніх!). Але, прачытаўшы сёмы нумар «Першацьвету», я ўпэўніўся, што тое, што цяпер называецца традыцыяй, таксама нагадвае нейкі перадсьмяротны енк, лебядзіную песьню. Якога аўтара ні вазьмі — ва ўсіх адбываецца нешта альбо сумнае, альбо жахлівае, альбо ўвогуле нічога не адбываецца, адны скаргі на «пустату і шэрасьць жыцьця»:

у апавяданьні І. Ж. гераіня хоча скончыць жыцьцё самагубствам;

у аповедзе-замалёўцы Я. Л. герой увогуле «праваліўся з галавой у нешта мяккае і цёплае, ажно гарачае», якое потым загусьцела, быццам цэмэнт;

апавяданьне Л. Д. пачынаецца словамі: «Дождж. Ён бязьлітасна сячэ буйнымі, цяжкімі кроплямі спакутаваную зямлю. Холадна. Страшна...»;

у фантастычным апавяданьні А. П. у выніку крушэньня касьмічнага карабля ў жывых застаўся толькі галоўны герой;

у апавяданьні В. Д. адзін з пэрсанажаў «памёр незадоўга да перамогі ад пароку сэрца»;

у З. К. герой таксама безнадзейна хворы, «дні ягоныя ўжо зьлічаны»;

апавяданьне А. С. суправаджаецца выклікамі тыпу «...Як пуста вакол!», «Я ніколі не зразумею людзей» і г. д.

Гэта пра прозу. Паэзія ў гэтым сэнсе выглядае крыху аптымістычней, але тут таксама пераважае мінорны лад. І «Жароўня» на ўсім гэтым фоне выглядае своеасаблівай рэзэрвацыяй, куды акупанты-суманаганяльнікі загналі ўсе рэшткі сьмеху, жартаў ды весялосьці. Гэта тычыцца тых, каму пашанцавала, бо астатніх увогуле зьнішчылі (ну сапраўды, «туалетнай паэзіі ў часопісе — ня месца!..»). Таму трэба змагацца з акупацыйнымі ўладамі смутку і жальбы <...>.

*30 ліпеня.*

Звычайна мяне ніхто ня просіць, каб я пісаў у сваім дзёньніку пра гэта ці пра тое, а пішу сам, што лічу патрэбным. А сёньня Сяржук Мінскевіч мне проста так і сказаў: «Напішы ў сваім дзёньніку пра тое, як я еў рыбу». З задавальненьнем выконваю просьбу Сержука і пішу пра тое, як ён еў рыбу. А еў ён яе з такім задавальненьнем, з такой асалодай, запіваючы півам, што любы гурман пазайздросьціў бы. Зьміцер Вішнёў, праўда, гэтую рыбу есьці баяўся, казаў, што сырая, што кепска для страўніка, але Сяржук усё пераконваў яго, што ён яе засаліў, а таму есьці яе можна. Каб давесьці гэта, ён прапанаваў кавалачак рыбіны мне, і я яго зьеў, таксама запіўшы півам. Нічога рыба. Можа нават смачнейшая, чым здалася мне, — проста я не галодны быў.

Што далей сустрэўся з Ману *[Mano, францускім фатографам]*, паразмаўлялі сяк-так пра паліндромы. Ён паведаміў мне, што ў Францыі ёсьць такая пісьменьніцкая групоўка «Oulipo», і ў іх маюцца паліндрамічныя тэксты, якія можна знайсьці нават у нас, у Бібліятэцы імя Пушкіна. Паказаў яму паэму Дз. Аваліяні, дык ён сказаў, што той, мабыць, «is crazy of palindromes» *[«звар'яцелы на паліндромах», анг.]*. Потым доўга тлумачылі, што такое «карак», «ахаха» і «радар». Разглядаючы друкапіс Зм. Вішнёва, Ману паказаў на адзін з малюнкаў і спытаў: «Is it a fish?» *[«Гэта рыба?», анг.]* Але Зьміцер адказаў, што гэта ня рыба і што сэнс ягонага малюнка вельмі доўга тлумачыць... Напрыканцы я падараваў французу сваю кніжку «Рогі гор», назву якой ён паспрабаваў прачытаць як «Поці топ», «Б[еларускую] М[аладзёжную]» з публікацыяй «Бум-Бам-Літу» і адзін з нумароў «Першацьвету». «Дзякуй», — сказаў ён. «Калі ласка», — адказаў я. Ён зь непаразуменьнем паглядзеў на мяне, потым перавёў позірк на аднаго з супрацоўнікаў часопісу «Мастацтва» і спытаў: «What means «Kali laska»?» *[«Што значыць «Калі ласка»?»]* Той яму нешта растлумачыў, француз кіўнуў галавою, і мы разьвіталіся.

*4 жніўня.*

<...>

Сказаў Патаранскаму пра падборку ў «Пераходным узросьце». Ён спачатку абурыўся, што там надрукавалі ня тое, што ён хацеў, нават паслаў Вішнёва на тры літары, а потым — трошкі прымірыўся.

*7 жніўня.*

Эх, што ж гэта робіцца?.. Усё, што заплянаваў у 11-ты нумар «Першацьвету», шэф забракаваў. Кажа, што ўсё гэта лухта. А што ж рабіць, калі акрамя лухты больш

нічога мне не здаюць? Хіба што самому напісаць. А калі ня пішацца? Дакладней, пішацца, але — як сказаў бы шэф, — «туалетная паэзія». А мне, шчыра кажучы, невялікая бяда, калі не надрукуюць: ня хочуць, не падабаецца — гэта іхнія праблемы, а я пішу ў першую чаргу для сябе, бо гэта падабаецца мне.

З «Тазікам беларускім» таксама ня ўсё добра. Наш фундатар <...> вымушаны зьехаць у эміграцыю ў Германію. Давядзецца нам самім скідвацца на гэты зборнік і выдаваць яго за свой кошт. Гэта будзе афіцыйна зарэгістраванае выданьне.

*8 жніўня.*

Чаго толькі не было ўчора! Паэтычныя чытаньні сарваў дождж. Хаця не зусім сарваў: усе схаваліся ў музэі Янкі Купалы, і імпрэза адбывалася там. Выступалі Сяргей Грахоўскі, Кастусь Герашчанка, п'яны Анатоль Сыс, які цалаваў падлогу і называў сябе сынам Янкі Купалы і братам Максіма Багдановіча, яшчэ нехта і, як заўсёды, Антаніна Хатэнка і Генадзь Бураўкін... Нейкі дзядзька паказаў мне народны верш пра Л-ку, дзе ледзьве ня ў кожным радку мацюкі (у сувязі з гэтым ён прыгадаў і нашага Альгерда Бахарэвіча).

Потым мы зь Міколам Адамам пайшлі ў рэдакцыю «Культуры» сьвяткаваць дзень народзінаў Зьмітра Вішнёва. Ну, карацей, адсьвяткавалі. Праўда, не абышлося і бяз сварак, якія часта здараюцца пад градусам: імяніньнік доўга спрачаўся зь Сержуком Мінскевічам з-за нейкай дробязі. Акудовіч сказаў, што мая п'еса спадабалася яму больш за ўсе астатнія. Добра, калі так. Яшчэ зайшла размова пра нейкія наступы на «Бум-Бам-Літ». Невядома, што менавіта яны мелі на ўвазе, але... усякае можа быць!

*13 жніўня.*

<...>

...Друк — гэта своеасаблівыя мыліцы, безь якіх шэры пасрэдны твор нічога ня варты, бо адразу паваліцца і «кане ў Лету». Сапраўднае ж мастацтва здольнае існаваць па-за межамі друку і ўсялякай афіцыйшчыны.

<...>

Алесь Туровіч здаў нашу падборку прозы ў «ЛіМ», кажа, што пастараюцца «апэратыўна» надрукаваць.



Паглядзім, на колькі расьцягнецца гэтае «апэратыўна»: можа, на год, а мо' і на два... А можа, сапраўды скора надрукуюць. Хто іх там ведае.

*19 жніўня.*

<...>

Ільля Сін мяне сёньня зьдзівіў, кажучы, што «Бум-Бам-Літу» трэба расфармавацца ды ў корані зьмяніць свае аблічча, маўляў, засьведчылі неяк сябе — і хопіць. Вось зробім імпрэзу пад назвай «Урачыстае пахаваньне «Бум-Бам-Літу»» — і ўсё пасьля гэтага. Пачуўшы такое, мне стала чамусьці шкада «Бум-Бам-Літ», хоць ён пакуль яшчэ жыве й квітнее, можна сказаць, набірае абарот. Але хто навёў Ільлю на такія думкі? Няўжо Міхась Баярын?

Але ж мне здаецца, што распад «Бум-Бам-Літу» пакуль не пагражае, бо ад Сіна, думаю, ён ніяк не залежыць. Ну, пакіне ББЛ ён, пакіне Патаранскі (хоць асаблівых прычын для гэтага я ня бачу), затое асноўнае ядро «Бум-Бам-Літу» ўсё роўна застанецца, а значыць, застанецца і сам рух.

А вось Ганна Ціханава, па ўсім відаць, добра глядзіцца сярод нас. Нездарма казала Людка Сільнова, што «Бум-Бам-Літу» не хапае дзяўчыны. А цяпер — парадак!.. Дарэчы, Л. Сільнова спытала ў мяне і пра мае паліндромы, і я зноў успомніў, што мая паэма «Палігон ног і лап» так і ляжыць недапісаная...

<...>

*26 жніўня.*

Ох, здавалася б, яшчэ канікулы, а спраў — о-го-го як шмат! Спачатку вычытваў карэктуру 10-га нумару (я — дзяжурны рэдактар), потым яшчэ сядзеў у рэдакцыі, затым зайшоў у «Нашу Ніву» да Паўлюка Канавальчыка — рэдактара анархісцкага часопісу «La goche'ыш» *[часопіс пад назвай «La goche'ыш» (альбо «Ля ГашЫш») рыхтаваўся, але так і ня выйшаў, а яго ідэя трансфармавалася пазьней у выданьне газэты «Навінкі» (1998 — 2003)]*, паказаў яму свае творы, пагутарылі на літаратурныя тэмы. <...>

*30 жніўня.*

У «ЛіМе» надрукавалі вершы Тацяны Будовіч. Што ж, рады за яе! А вось мая падборка як ляжала,

так, напэўна, і будзе ляжаць аж да канца году. Буду ведаць, як здаваць вершы аднаму, без «Бум-Бам-Літу»! Наша калектыўная падборка будзе надрукавана хутка — у верасьні. Яшчэ ляжыць там артыкул Анатоля Кірвеля пра мяне (цікава, што ён там напісаў?). <...>

*2 верасьня.*

<...> Усевалад Гарачка <...> вянчацца зьбіраецца. Зьміцер Вішнёў будзе сьведкам.

<...> А мне жаніцца яшчэ рана. <...>

*9 верасьня.*

<...> Зараз аўторак, і я сяджу за сваім пісьмовым сталом і рыхтуюся да заўтрашніх заняткаў. А потым напішу новае эсэ. Пра лужыну. А заўтра — яшчэ пра што-небудзь.

Побач, за шафай, ляжыць наш пагнуты алюмініевы Тазік. Бяз справы ляжыць, адпачывае. Калі ўжо давядзецца пачуць ягоны грукат? Ня ведаю. Дый не аб гэтым у мяне зараз думкі.

*15 верасьня.*

Учора я заўважыў, што ў маёй паштовай скрынцы нешта ляжыць. Адкрываю: пісьмо! Нейкі незнаёмы адрас. Подпіс: «От Ольги Мартыновой». Упершыню бачу гэтае імя і прозьвішча. Але ліст, безумоўна, мне, бо напісана «Виктору Вячеславовичу». Нават імя па бацьку, але прозьвішча чамусьці няма. Расьпячатваю канвэрт. Ага! Я так і думаў! Вольга пазнаёмілася з нашай падборкай у «Переходном возрасте» і... захацела ўступіць у «Бум-Бам-Літ»! Бо таксама піша вершы «в таком же стиле». Ёй 16 гадоў. Дала нават тэлефон.

Званю. Даволі прыемны дзявочы голас. Пагаварылі крышку. Пра «Бум-Бам-Літ» і ўвогуле пра сябе. Воля вучыцца ў лінгвістычным каледжы № 24 па вул. Інтэрнацыянальнай. Таксама ўдзельнічала ў конкурсе «Родны горад», выступала ў Доме літаратара, але мяне ня памятае. Як і я яе. Было ж гэта аж тры гады таму. Я сказаў, каб Воля сустрэлася са мной і паказала мне свае творы. Яна згадзілася. У другой палове тыдня.

<...>



*17 верасьня.*

Калі ж мне патэлефануе Воля? Напэўна, заўтра. А калі не — дык я сам пазваню ёй і мы вырашым, дзе й калі сустрэцца. Зноў бяру ў рукі той нумар «Переходного возраста», перачытваю (які ўжо раз!) нашыя творы, стараючыся паглядзець на іх як-небудзь па-іншаму — так, як Воля. Нечым жа нашыя вершы ёй спадабаліся, нешта яна ў іх знайшла: нездарма ж даведалася ў рэдакцыі пра мой адрас, напісала ліст, хоча «ўступіць» у «Бум-Бам-Літ»... Цікава будзе сустрэцца!

*18 верасьня.*

Званіла Воля. Мы дамовіліся сустрэцца ў суботу, у 16.00, ля помніка Янкі Купалы. Толькі як мы пазнаем адно аднаго? Яна яшчэ можа — па фатаздымку. А вось я яе... Я нават не ўяўляю сабе, як яна выглядае. Ну нічога, пазнаёмімся.

*20 верасьня.*

Вось і адбылося маё знаёмства з Волечкай Мартынавай. *[Як яна тады ў лісьце падпісалася — так у дзёньніку я спачатку яе і называў. Цяпер жа гэта сусьветна вядомая паэтка Вальжына Морт. Вальжына яна, дарэчы, і паводле пашпарту.]* І я рады! Сапраўды, прыемна было сустрэцца зь ёй. Сама яна сымпатычная, а вось вершы... Вершы — таксама, але, мабыць, толькі для «Бум-Бам-Літу»! Правільна зрабіла, што дала іх мне. А тое, напрыклад, Алесь Герасімавіч ня ведаю як бы **адрэДагаваў на такое мастацтва**. *[Шыкоўная апіска! Нават шкада выпраўляць!]* Не, не, не для «Першацьвету» гэтыя сюррэалістычныя, даволі пачварныя, але разам з тым цікавыя, своеасаблівыя вершы!

*22 верасня.*

На нейкі момант я нават забыўся, што ў мяне ёсць гэты блякнот. Бо мне ў рукі трапіў іншы — блякнот Волечкі Мартынавай. У ім усяго дзевяць вершаў, але ў гэтых вершах — цэлы сусьвет. Яе сусьвет, своеасаблівы, непаўторны, сусьвет таямнічых, часам жахлівых нечаканасьцяў, дзівосных гукаў і фарбаў. І я вельмі рады, што яна дала мне магчымасьць зазірнуць у гэты сусьвет! Не, мне яшчэ ніколі не выпадала пазнаёміцца зь дзяўчынай, якая піша вершы падобнага кшталту!

Назвы, здаецца, самыя звычайныя: «Лятучыя мышы» (лепей ужо «Кажаны»), «Апошняя яблыня», «Кеан», «Пагоня», «Галаўны боль», «Дарэмнасьць», «Сон дрывасека», «Вогнішча з вачэй лашадзіных» *[«лашадзіныя», натуральна, былі перапраўлены на «конскія»]*, «Краты». Але зьмест... Сустракаюцца там такія вобразныя «звароты», яшчэ больш крутыя, чым у Сіна з Бахарэвічам. Такое Алесь Герасімавіч, напэўна, не прапусьціў бы. <...>

*23 верасьня.*

<...> Звычайна дзяўчаты не разумеюць маіх вершаў, ажно спалохана шарахаюцца ад іх... А вось яна разумее. Бо і ў яе лірычная гераіня — амаль такая самая, як і мой герой. Словам, яны адно аднаму падыходзяць. <...>

*24 верасьня.*

<...> Сёньня я друкаваў на машынцы *[камп'ютара ў рэдакцыі «Першацьвету» яшчэ не было]* яе вершы. Ніколі яшчэ я не друкаваў з такім запалам і задавальненьнем, як цяпер! Нават свае творы я друкаваў марудна, падоўгу шукаючы патрэбную клявішу пальцам. А тут...

Перабіў тэлефонны званок Зьмітра. Ён зноў прычапіўся, пытаецца: «Ты і далей будзеш «хаваць» яе ад «Бум-Бам-Літу»?» А хіба я зьбіраўся хаваць яе? Ён, мабыць, думае, што мы зь ёй знаёмыя ўжо даўно. І ўвогуле, апошнім часам ён стаў паводзіць сябе неяк... ня так, учыняе мне нейкія сапраўдныя допыты наконт таго, хто яна, адкуль... Ну дык я і так скора пазнаёмлю яе з бумбамлітаўцамі! Ёй жа самой цікава, усё ж такі!

*25 верасьня.*

Раніцай дадрукаваў вершы Волечкі. І сам дзіўлюся, як хутка і амаль без памылак атрымалася ў мяне! Мабыць, і ёй будзе цікава пабачыць свае творы ў перадрукаваным выглядзе.

Другі раз я зайшоў у рэдакцыю ў чатыры гадзіны, падчас «фортгкі». І што ж? Адразу наткнуўся на шэфа, які пачаў настойваць, каб я зрабіў да сваёй казкі *[«Грыбнік без галавы»]* ягоную зноску ад свайго імя, і каб у гэтай зносцы я напісаў наступнае: «Гэтую казку я напісаў у мастацкім рэчышчы безгалавізму, якім зараз карыстаюцца многія вольныя ад сябе літаратары. Лічу, што твор мне ўдаўся». Я ж, натуральна, адмовіўся, бо гэта супярэчыць маім перакананьням і творчым прынцыпам. А ён: «Трэба, каб досьціп быў. Па аналёгіі з трансьлягізмам хай будзе й безгалавізм. Трэба падкалоць гэтых Мінскевічаў, Туровічаў, усякіх вольных...» І пачаў ліць бруд на ўсіх літаратараў, што маюць не такія погляды, як ён. <...> І няўжо ў жыцьці нельга абысьціся бяз гэтых спрэчак, лаянак, сварак, усялякіх узаемных канфліктаў, розных «падколак»? <...>

*26 верасьня.*

Раніцай забраў з базы зварот шосты нумар і прывёз у рэдакцыю. Званок шэфа. І адразу ж:

— Ты напісаў тое, што я прасіў?

— Не напісаў і пісаць ня буду!

І растлумачыў, чаму: я свае тэксты не камэнтую, лічу тлумачэньні лішнімі, яны не адпавядаюць маім поглядам і г. д. А ён:

— Тады будзеш пісаць заяву!

— Якую? — не зусім зразумеў я.

— На звальненьне!

— За што?!

— За тое, што ня слухаешся галоўнага рэдактара!

Здавалася б, тут справа дасягнула поўнай абсурднасьці... <...> *[Урэшце галоўны рэдактар зразумеў, што ня мае рацыі, і ў 12-м нумары «Першацьвету» мая казка выйшла без усялякіх зносак.]*

*27 верасьня.*

<...> Задума пэрформансу ў мяне ўжо ёсьць: выйсьці на сцэну, выцягнуць з кішэні, нібыта аналіз, запалкавы пачак, загорнуты ў паперкі, на якіх напісаныя вершы, а потым пачытаць іх уголас. <...>

*28 верасьня.*

Сустрэўся з Волечкай. На тым самым месцы, што й тады. Селі на лаўку, каб яна паглядзела свае перадрукаваныя вершы. Я думаў, што ёй будзе халодна, але яна сказала, што любіць халоднае надвор'е і асабліва мокры сьнег. А што датычыцца літаратуры, то зь беларускіх паэтаў ёй падабаецца «ці то Панчанка, ці то Танк, які напісаў такі клясны верш пра хіпі». Сам я, шчыра кажучы, ня ведаю, хто зь іх напісаў такі твор. З расейскіх паэтаў Волечка любіць Пастарнака, Цьвятаеву, Ахматаву,

з замежных — Джыма Морысана. Вось такое кола любімых аўтараў. Я паказаў ёй два нумары «Першацьвету», і яна вельмі зацікавілася часопісам, казала нават, што хоча прыйсьці на літаб'яднаньне... Але я пастараўся запэўніць яе, што спачатку лепш завітаць да бумбамлітаўцаў, а ў «Першацьвет» — ужо калі-небудзь потым. Бо нават сам я ня ведаю, як складуцца ў мяне далейшыя адносіны з начальствам.

<...>

*30 верасьня.*

<...>

Зьміцер Вішнёў сказаў, што ў «Маладосьці», 1998, № 2 будзе надрукавана падборка нашых вершаў: ягоных, Ганкі Шханавай, Усевалада Гарачкі і Сяргея Патаранскага. Гэта радуе. Тым больш, што нашы вершы будуць у наступным нумары «Крыніцы», на старонках «ЛіМа», праз два месяцы, магчыма, выйдзе «Тазік беларускі», а яшчэ Зьміцер кажа, што ўсім, хто яшчэ не пісаў творчыя маніфэсты, трэба зрабіць гэта. Значыць, «Бум-Бам-Літ» жыве! ББЛ цікавяцца, у ББЛ ёсьць прыхільнікі, ББЛ патрэбен! Нават у Польшчу на міжнародную канфэрэнцыю запрасілі! Праўда, паехалі толькі Валянцін Акудовіч, Міхась Башура і Алесь Туровіч, бо ў астатніх альбо няма замежных пашпартоў, альбо старыя пратэрмінаваныя. Так што я нават ня ведаю, каму цяпер перадаваць (і куды) вершы Вальжыны Мартынавай? Паабяцаў жа ёй, што надрукуем, а дзе цяпер — невядома.

*3 кастрычніка.*

<...>

А вось і «ЛіМ» нас надрукаваў! Ура! Зноў на старонках гэтай газэты — «Бум-Бам-Літ». Для мяне гэта — першая мастацкая публікацыя ў «ЛіМе». Ох, і глядзімся мы тут усе: Івушка Паніна, Віктар Жыбуль, Зьміцер Вішнёў, Серж Мінскевіч, Алесь Туровіч! Файна!

*8 кастрычніка.*

<...>

У г. Познань (Польшча) зараз праходзіць міжнародны літаратурны фэстываль. Паехалі туды і нашыя: Валянцін Акудовіч, Ганна Кісьліцына, Алесь Аркуш, Людка Сільнова, ад «Бум-Бам-Літу» — Алесь Туровіч. Я ж адправіў туды некалькі экзэмпляраў сваёй кніжкі. Можа, і ня варта было б так рабіць, але прапанова трапіць у «Анталёгію найноўшай беларускай паэзіі» (у перакладзе на польскую мову) прываблівае.

*9 кастрычніка.*

Набыў «Крыніцу» з нашымі творамі. Клясна! Амаль увесь асноўны склад «Бум-Бум-Літу»! Вось падборка дык падборка! А яшчэ вядома, што хутка выйдзе «Тазік беларускі». А вось «Ля ГашЫш» сапраўды накрыўся медным тазікам. Мы запрапанавалі Вальжыне выдаць друкапіс «Мартаўскія каты» *[але выйшаў ён пад назовам «Конскія вочы»]*, і як мага хутчэй, бо калі зарэгіструемся — выдаваць такія рэчы будзе нельга (усюды трэба ліцэнзіі). А так вершы яе пайшлі ў «Маладосьць» замест маіх. Зьміцер нават казаў, што вершы Вальжыны лепшыя за мае (якія я яму здаў). Ну што ж, калі так, то я толькі рады за яе! Гэта, безумоўна, першы посьпех для маладой паэткі!

Сёньня я напісаў вельмі гадкі і брыдкі верш.

*19 кастрычніка.*

О, Вальжына! <...> Ты цяпер занятая, пішаш п'есу, рыхтуеш друкапіс. Але ты ўсё ж такі дала мне чатыры новыя вершы: «Чорныя пінгвінавыя дрэвы», «Драпежнікі», «Дрэва Пазнаньня», «Жнівень».

І я зараз чытаю гэтыя творы. Але ці надрукуе іх «ЛіМ»? Тым болей, што там ёсьць радкі такога кшталту: «Два разы адну каналізацыю вуснамі не кранеш», альбо: «Белыя коні закапаны ў павуцінавым тумане. Іх гарлавы кашаль ванітуе смаркатымі птушкамі».

Аднак мне такія рэчы падабаюцца, і я зноў адчуваю ў душы таемную радасьць. З-за гэтага, мабыць, я заўтра зноў прыеду на заняткі непадрыхтаваным. Але гэтым мяне не спалохаць! <...>

*23 кастрычніка.*

<...> заехаў у рэдакцыю, сеў друкаваць вершы Вальжыны Морт <...>

*17 лістапада.*

Здарылася жахлівае.

Зьміцер Вішнёў вяртаўся дадому з начной дыскатэкі, быў трошкі

нападпітку, яго захапіла міліцыя, затаўкла ў машыну, а патрфэль застаўся на лаўцы. А ў тым партфэлі — Зьмітравы дакумэнты, паперы, дзёньнікі, вершы, дыктафон, ключы ад кватэры, мая п’еса, п’еса і друкапіс Вальжыны... Карацей, шмат каштоўных рэчаў.

Зьмітра ж пратрымалі ў каталажцы ажно двое сутак, прыпісаўшы яму дробнае хуліганства. Спаць яму даводзілася на каменных, а потым на драўляных нарах, есьці — ня лыжкай, а толькі адпіленай ад яе ручкай, моцна пакалацілі і толькі сёньня выпусьцілі, узяўшы штраф дзьвесьце тысяч рублёў... Зьміцер тэрмінова патэлефанаваў бацькам, тыя прыехалі, замянілі ў кватэры замок... Карацей, зараз Зьміцер зоймецца пошукам свайго партфэля, будзе даваць аб’явы ў розныя газэты, расклейваць на слупах... <...>

*20 лістапада.*

Партфэль знайшоўся. Яго вярнуў Зьмітру нейкі школьнік (якую ён атрымаў узнагароду — ня ведаю). Праўда, дыктафон нейкі алкаш усё ж такі пасьпеў сьперці. Але галоўнае — рукапісы цэлыя! І Зьмітравы дзёньнікі, і вершы, і нашыя з Вальжынай п’есы. Ну што можа быць лепей за такі шчасьлівы канец?! Ура!!!

*21 лістапада.*

<...>

У «ЛіМе» надрукавалі водгук Анатоля Кірвеля *[«Шлях да раўнавагі»]* на маю кніжку «Рогі гор», якая нібыта выйшла, а нібыта не, нібыта ёсьць, а нібыта не існуе, але тым ня менш яе назва на старонках друку зьяўляецца. Ну дык хай хутчэй бы ўжо выйшла па-сапраўднаму, каб чытачы ня ўводзіліся ў зман! Толькі я, калі зьбяруся рабіць што-небудзь, дык столькі часу пройдзе.

*22 лістапада.*

<...>

Званю Вальжыне:

— Прывітаньне! Ну як справы?

— Як справы?! — сьмяецца. — Я тут толькі што галавой жырандолю разьбіла!

— Гэта што, у вас жырандоля так нізка вісіць?

— Не, гэта я так высока падскокваю!



*27 лістапада.*

«Дайнова» *[фірма]* згадзілася фінансаваць «Першацьвет». Выдатна!

Зьм. Вішнёву вярнулі і дыктафон. Таксама добра. <...>

*6 сьнежня.*

Міхась Баярын і Ільля Сін (дарэчы, як высьветлілася, прозьвішча апошняга ў перакладзе з кітайскае азначае «сэкс») зьбіраюцца выдаваць нейкі новы часопіс пад назвай «Галерэя Б», папрасілі што-небудзь даць і мяне. *[Назву «Галерэя Б» урэшце атрымаў не часопіс, а кніжная сэрыя, якая выходзіць з 1998 г. пад куратарствам Ігара Бабкова. А Міхась Баярын у 1999—2002 гг. быў рэдактарам часопісу Новага фронту мастацтва «Nihil».]* Я даў Міхасю вершы Вальжыны, паабяцаў прынесьці й свае. Ды, вось бяда, часу няма перапісваць.

*Працяг будзе.*

■

**Віктар ЖЫБУЛЬ** (нар. у 1978 г.) — паэт, літаратуразнаўца, удзельнік шэрагу літаратурна-музычных і тэатральных праектаў. Аўтар друкапісу «Калі ў хаце дыверсант» (1996), кніг паэзіі «Рогі гор» (1997), «Прыкры крык» (2001), «Дыяфрагма» (2003), «Забі ў сабе Сакрата!» (2008, у суаўтарстве з Верай Бурлак), «Стапеліі» (2012). Пераможца Першага беларускага паэтычнага слэму (2008), Першага Купалаўскага слэму (2009), Слэму Святога Валянціна (2013), лаўрэат прэміі «Залаты апостраф — 2011», Міжнароднай адмецiны імя Давіда Бурлюка (2013).

# (акцыя)

■





## ALTER IPSE: «НА МЯЖЫ НЯПЭЎНАЙ СНОЎ І СЛОЎ»[1]

**[Ігар + Арцём]**

### I

Яны б дакладна пасябравалі. Ці, прынамсі, былі б радыя знаёмству. Дакладна б паразумеліся. Але нават сустрэцца ім перашкаджаюць 92 гады. Гэтая невыносная адлегласць раскідала іх па розных месцах, звяла з іншымі людзьмі, прымусіла абраць розныя, але родныя мовы. Адзін ведае другога. Толькі вось той другі, напэўна, ніколі не дазнаецца пра гэта.

Насуперак тэндэнцыі сучасных пісьменнікаў не чытаць адзін аднаго, ён ведае творчасць старэйшага калегі і час ад часу з прыхаваным болем канстатуе немагчымасць паўтарыць яго радкі ва ўласных вершах. Чарговы раз пацвярджае адлегласць у 92 гады.

Маладыя, дзёрзкія, але яны не імкнуцца даказваць свету сваю таленавітасць. Бо навошта даводзіць тое, што цалкам зразумела і відавочна? Хто не бачыць, не чуе, не разумее — яго бяда, яго чэрствасць. Адчуецца, паразумеецца, убачыцца праз адлегласць, час, прастору.

---

[1] Кавалеўскі, А. Аддаленасць і Адданасць : паэзія і лірычная проза / А. Кавалеўскі. — Мінск: Галіяфы, 2008. — 132 с. — (Другі фронт мастацтваў).

*«У доўгую дарогу збіраюцца людзі / Ад складанасцей розных, / Ад спрэчак дробных. / Мяне не бяруць / З сабою. / Дарма».*

*А. Кавалеўскі (Трохвугольныя нерэальнасці III)*

*«Вы поймете тогда, как я мал и велик, / Вдохновенье мое вы поймёте тогда... / Кто не слышал меня, тот меня не постиг, / Никогда-никогда, никогда-никогда!»*

*І. Севяранін («Позовите меня, — я прочту вам себя...»)*

Іх нявыказаная мэта — імкненне паразумецца з сабой, светам, тымі, хто побач. Пераступіць, пераскочыць, пераляцець тую адхлань, што аддзяляе іх ад магчымага душэўнага яднання нават з самымі дарагімі. Тымі, хто так і не здолеў і ніколі не здолее зразумець, адчуць напоўніцу неверагодную самоту, ныючы, цягнучы недзе ўнутры невыносны боль. Гідкі і прыемны адначасова. Ён не пройдзе, толькі сцішыцца часова паміж першым і другім, трэцім і чацвёртым, пятым і шостым вершамі... Крыху запаволіцца, дазволіць забыцца на сябе, на хвіліну ўздыхнуць з палёгкай, каб потым вярнуцца з мацнейшай тугой. Каб дазваляць дыхаць праз раз, глынаючы паветра, нібы рыба, якую выхапілі з роднага вадкага покрыва.

Я ведаю абодвух. Праўда, «ведаю» — занадта гучна. Хутчэй, знаёмая з абодвума. Камунікую, стасуюся, імкнуся разумець. Многія хвіліны ўражанняў пакрысе сцёрліся, змянілі фарбы, прараслі нечаканымі асацыяцыямі.

Памятаю амаль да дрыжыкаў пальцаў, замёрзлых калісьці ў наскрозь прадзьмутым ФАЗе. Журфак БДУ. Будынак, які мог ужо толькі трываць старыя ўспаміны, але не назапашваць новыя. Вось і мы, нядаўнія старшакласнікі, пачуваліся іншароднымі прадметамі, закінутымі выпадковым турыстам у нязведанае наступнае стагоддзе. Нас не павінна было быць там. Першакурснікі заспелі пахаванне легендарнага будынка факультэта і не здолелі ўсвядоміць пампезнасць і ўрачыстасць моманту.

*Знаёмства. Шкельца № 1*

Тады было толькі неверагодна халодна і прадчувальна. Мы азіраліся ад любых гукаў, у чаканні кагосьці. Шэрыя велізарныя сцены заканчваліся дзіравымі вокнамі, парты захавалі зычэнні, ліставанні нашых папярэднікаў, побач з якімі імгненна з'явіліся і нашы пісьмёны. Часткова складзеныя з кароткіх дэфініцый філалагічных і літаратуразнаўчых тэрмінаў, у якія ўпляталіся традыцыйныя напаўматэматычныя формулы маладых закаханых.

Мы падзяліліся на гурткі па цікавасцях, хаатычна і бессістэмна спрабуючы дазнацца адзін пра аднаго як мага больш. Былі і тыя, хто старанна, па-вучнёўску гартаў яшчэ не запоўненыя канспекты і спрабаваў здагадацца па раскладзе, наколькі цяжкімі акажуцца дысцыпліны. У гэты час увайшоў ён. Карычневы штроксавы ўтульны пінжак, з белчырвона-белым значкам на лацкане, акуратная барада, упэўненыя лунаючыя крокі і, як пасля высветлілася, традыцыйнае: «Вітаю, спадарства!». У адказ мы засмяяліся. Надта нязвыклай падалася манера, танальнасць, шырокія жэсты, што няспынна рабілі рукі-крылы. «Мяне завуць Арцём Мікалаевіч Кавалеўскі. Я буду ў вас весці семінары па курсе «Асновы тэорыі літаратуры». «Жах», — падумалася тады. Суровы (на той момант сінонім слова барадаты) выкладчык, з апантаным поглядам на харэі, ямбы, амфібрахіі. «Нават імя ў яго ямбічнае», — канстатавалі ўсе. «Не веру», — сказала тады я. Заклішаваная фраза Станіслаўскага сталася прысудам для Арцёма Кавалеўскага як выкладчыка. «Хто ён?» — цікавілася я ў старэйшых курсаў. «Ну, ён піша вершы», — адказвалі тады. — «Яго бачылі з прыгожай бялявай дзяўчынай, ён тусаваўся з барадатым хлопцам». Усё сталася неістотным. У вушшу гучалі словы: «піша вершы».

Адзін з дзесяці самых вырадлівых будынкаў свету стаў нечым кшталту псіхічнай лякарні: не магчыма трываць, не магчыма збегчы, не магчыма пазбыцца... Лекамі ад хранічнага вар'яцтва былі «Адмысловыя гульні». У радок «пошук» уводзіш: Арцём Кавалеўскі. Вынік: кніга — 2 экзэмпляры, часопіс «Першацвет» — публікацыі, паштоўкі «Горад. Шпацыр. Словы» — 1 камплект, навуковыя артыкулы ў БДУшных зборніках. Усё па розных залах, усё трэба знайсці і адолець за адзін вечар, за некалькі гадзін да закрыцця.

Паэт не можа быць выкладчыкам. Выкладаць веды, накладваць

дэфініцыі на нежаданне абрастаць навуковым смеццем, перакладаць тым, хто не адчувае літаратурнай мовы, на мову прызямлёных жэстаў і рухаў.

Было адчуванне абсалютнага паразумення з чалавекам, якога яшчэ не давялося пазнаць. Словы вершаваных радкоў клаліся на ўласныя думкі, перагукаліся, станавіліся маёй уласнасцю. Я не магла пісаць, як ён, адчуваць, як паэт, але, здавалася, успрымала і разумела кожны ўздых паэтычных старонак. Ён ехаў летнім цягніком праз люты, спрэчкі, непаразуменні па спектральных плямах з расцярушанай галінкай бэзу. Я заскочыла ў апошні вагон.

*Знаёмства. Шкельца № 2*

«Складаныя метафары і празмерная сімволіка шкодзяць унутранаму пражыванню чытача», — думала я і абірала Асадава. Томік пісьменніка прытуліўся побач з Клайвам Льюісам, Рэксам Стаўтам, Рыгорам Осцерам і дадаваў у жудасны вінігрэт зусім вар'яцкую ноту. Я ведала на памяць: «Друзьям», «Не бейте детей» і збіралася каштаваць нешта іншае.

У 11 класе мы досыць выпадкова сустрэліся. Навукова-даследчая работа «Паэт — люстра эпохі. Традыцыі футурыстычнай паэзіі ў тэкстах сучасных рок-кампазіцый» сутыкнула з вершамі Ігара Севяраніна. На той момант мяне не цікавілі ні рок-выканаўцы, ні рознага кшталту футурысты. Давялося вывучаць і тых, і гэтых з іншага боку. Паглыбляцца ў сутнасць тэкстаў, вышукваць падабенства і праводзіць паралелі. Тады і запомнілася:

*Мои стихи — туманный сон.*
*Он оставляет впечатление...*
*Пусть даже мне неясен он, —*
*Он пробуждает вдохновение...*

*О люди, дети мелких смут,*
*Ваш Бог — действительность угрюмая.*
*Пусть сна поэта не поймут, —*
*Его почувствуют, не думая...*
*І. Севяранін (PRELUDE II, 1909)*

Вобраз, яшчэ дакладна не сфарміраваўшыся, прытуліўся бясформеным воблакам недзе ў куце свядомасці. Застаўся чакаць лепшага. Ігар Севяранін падаваўся персанажам упершыню ўбачанага фэнтэзі — далёкім, незразумелым, правакацыйным, пафасным. Гэта была толькі прадмова. Менш чым праз год яна падвяла мяне да больш блізкага знаёмства з паэтам і «Громокипящим кубком».

Дзень сустрэчы прыпаў на маю надзвычайную рамантычнасць і жаданне мець маўклівага, разумеючага суразмоўцу. Хто шукае, той знойдзе. Праўда, не абавязкова тое, на што разлічвае. Мы ўбачыліся дома ў маіх сяброў. Тады за знаёмства ён прапанаваў шампанскае ў лілеі. Я засаромелася, але пакаштавала. «Громокипящий кубок» — кактэйль, які гатаваў выключна Ігар Севяранін. Маё імя ён не спытаў. Мне было дастаткова ведаць яго. Зрэшты, мы ніколі не вялі дыялогаў. Зносіны ўяўлялі выключны маналог. Яго. У якім я вышуквала адказы на любыя пытанні. З паэтам можна было бясконца разважаць пра адноснасць часу, ператвараць марныя і жахлівыя гумовыя пары ў грозафарс, кахаць пакутуючы, пакутваць кахаючы і не зважаць на ўяўную ўзроставую ды ментальную розніцу. Ён абураўся бяссіллю людзей і без боязі, хвостка адчаканіваў уладу, не маючы патрэбы ісці з крывава-вольным сцягам наперадзе калоны.

Нават праз 120 гадоў многія злёгку выносілі прысуд: пазёр, выхваляка, ганарлівец. А радок: «Я, гений Игорь Северянин» успрымалі літаральна і ўпікалі паэта ў амбітнасці, залішняй гульні, любві да цукеркавасці ў словах, ненатуральным упрыгажэнні жыцця. Зараз пісьменніка мог чакаць такі ж лёс: перапоўненыя залі, натоўпы прыхільнікаў, вадаспады кампліментаў з пякучымі рэцэнзіямі з'едлівых крытыкаў. Толькі эпоха не тая...

Я дастала з-пад свядомасці не сфарміраванае блякла-шэрае воблака. Стала ляпіць асцярожна, паступова, каб безнадзейна не сапсаваць яшчэ не ўпарадкаваныя адчуванні. Расцярушаная галінка бэзу, што ўбачыла я ў Арцёмавым цягніку, па волі Ігара Севяраніна ператварылася ў меч, з якім творца калісьці крочыў на бітву заваявання. А лілова-блакітныя кветкі хавалі каханне, адвагу і светлую журбу.

Лірык, пакутнік, змагар без права на надзею — такім адчуваўся Ігар Севяранін.

*Эцюд у бірузовых тонах.*
*Шкельца № 3*

У яго немагчыма блакітныя пранізлівыя вочы, якімі Арцём фіксуе кожную дробязь. І хваліцца тым, што нават праз гады можа ўзгадаць адзенне, позу, рухі, словы свайго суразмоўцы. Ён кансервуе найбольш дарагія, моцныя, кранальныя, забаўныя ўспаміны, каб пасля з мэтай ці без здзівіць vis-a-vis аповедамі пра здавалася б даўно страчаныя імгненні. Паэтычная адметнасць, адмысловасць, уласцівасць.

Ён жыве ў горадзе званоў. «Званы каталіцкай Катэдры заўсёды ахутвалі мяне роўнай, усцішнай лагоднасцю, трохі халаднаватым, строгім і велічным роздумам пра час, ягоную адвечнасць і спагадлівую (але сур'ёзную) несупыннасць... Гукі катэдральных вежаў, нібы бомы старых драўляных курантаў, вартаўнікоў нашага пажыццёвага арышту тут і цяпер... Уявіць толькі, што калісь не было ані вежаў, ані званоў, ані іх строгіх гукаў... але Катэдра перачакала. І раптам я чую, як да мерных гукаў дадаюцца ўрачыстаўзнёслыя, пярэстыя, такія родныя, дабравесныя гукі. То ж звоняць на вежах Кафедральнага праваслаўнага сабору! Тут жа, зусім побач! Гукі растуць, страката ймкнуцца ў асмужанае вячэрняе неба, мяшаюцца з натоўпам вернікаў, што паспешліваю грамадкаю рушаць да Менскай Маці Божай. Памагай ім Бог! Заступіся, Прачыстая... А здалёк да гэтага суладнага покліча ўжо далучаюцца галасы блізкай Петрапаўлаўкі, Марыі Магдаліны... Ледзь чутна звоніць Чырвоны касцёл...»

Ён мае дамову з горадам. Вулкі-вужакі гасцінна запрашаюць на штодзённы шпацыр. «Я выключна гарадскі жыхар, бо нарадзіўся, вырас і пасталеў у Мінску. Мне падабаюцца вялікія гарады, я люблю гадзінамі шпацыраваць па праспектах і вулках, даследуючы цела горада. Наогул, я, так бы мовіць, «прафесійны» фланёр».

Гэты горад даўно стаўся ягоным, бо мае безліч метак — мясцін-знакаў, расчытаць якія можа толькі іх ствральнік.

Першае інтэрв'ю надарылася досыць хутка. Кожны першы курс пачуваецца першаадкрывальнікамі журналісцкіх метадаў, пытанняў, спосабаў весці гутарку. Безумоўна, я таксама прыхавала надзвычай «арыгінальныя» фразы і просьбы распавесці пра пачатак творчасці, першы ў жыцці тэкст, наяўнасць музы, літаратурных настаўнікаў. Яго адказы яшчэ больш замацавалі сувязь двух паэтаў з адлегласцю ў 92 гады.

Маленькім хлопчыкам Арцём прапанаваў бабулі напісаць казку. Яна пагадзілася. Тэкст яшчэ доўга захоўвалі, але ён недзе знік. Задоўга да гэтай першай казкі васьмігадовы Ігар Латароў пачаў пісаць вершы. І больш ужо не мог уявіць сябе па-за літаратурай.

А праз вялікую часавую адлегласць дзесяцікласнік Арцём Кавалеўскі выпадкова ўбачыў у кіёску тоўсты сшытак у цвёрдай чырвонай вокладцы, вельмі падобны да кнігі. Вырашыў набыць яго і з гэтага дня ўсё створанае заносіць туды.

«Я раптам усвядоміў, што сам хачу ствараць літаратуру, быць у ёй. Я зразумеў, што хачу стаць пісьменнікам. І гэта было сур'ёзнае рашэнне. У мяне заўсёды выклікаў зацікаўленне працэс напісання твораў, прысутнічала нават рытуалізацыя гэтага працэсу. Упершыню мае вершы надрукавалі ў Весніку Ліцэя БДУ (Цыкл «Мой горад» і верш «Тралейбус»). Крыху пазней у дзяржаўнай перыёдыцы з'явіліся мае навэлы і імпрэсіі».

А першая публікацыя Ігара Латарова была ў другім лютаўскім нумары часопіса «Досуг и дело» за 1905 год — верш «Гібель Рурыка». Далей — маленькія брашуры вершаў (ад 2 да 16 твораў), які дасылаліся ў рэдакцыі для водгукаў.

Параўнаць жыццёвы шлях паэтаў атрымалася значна пазней. У той момант было толькі няяснае адчуванне роднасці лірыкі творцаў, сям-там мільгалі блізкія вобразы, сюжэты, прыхільнасці.

А на кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, дзе адбывалася першае ў маім жыцці інтэрв'ю, палала сонца, гарэў ад хвалявання мой твар і было страшна зазірнуць у марскія вочы суразмоўцы. Яны выпраменьвалі лагоднасць, падбадзёрвалі і нязмушана рэагавалі на чарговае «звышарыгінальнае» пытанне.

«Хто для мяне з'яўляецца настаўнікам? Паэт перш за ўсё вучыцца ў сваіх папярэднікаў. Свае раннія творы я свядома пісаў пад кагосьці. Я лічу гэта нармалёвым, бо такая практыка пераймання садзейнічае выпрацоўцы індывідуальнага стылю. Пачаткоўцу трэба спрабаваць сябе

не толькі ў розных жанрах, але імкнуцца выкарыстоўваць розныя творчыя метады, каб набыць уласную манеру пісьма. Любімымі для мяне былі рускія паэты сярэбранага стагоддзя», — апошняя фраза ўпэўненай лініяй завяршыла трохвугольнік выпадковасцей, кутамі якога зрабіліся два паэта з адлегласцю ў 92 гады і адданы чытач, які зруйнаваў гэтую адлегласць сваёй дзёрзкасцю.

«Падабаўся Маякоўскі з ягоным вельмі моцным канструктыўным пачаткам — гэта важна для мяне. Увогуле, эстэтыка футурызму была мне вельмі блізкай у юнацтве. Ды і цяпер я люблю і цаню творчы ўнёсак футурыстаў у паэзію XX стагоддзя. Шмат чытаў Хлебнікава, ранняга Забалоцкага. Пастэрнак падабаўся сваёй тонкай метафарычнасцю і глыбокай філасафічнасцю. Ён простымі, але выкшталцонымі словамі пранікаў у сутнасць чалавека, з'яў, нават рэчаў. У больш сучаснай літаратуры ўражвала архітэктоніка радка Вазнясенскага, вертыкальны кантэкст ягонай паэзіі. Калі браць беларускую літаратуру, то, на мой погляд, Алесь Разанаў — найбольш актуальны з сучасных паэтаў. Ім нельга не захапляцца. У яго вершах ёсць і цікавая арыгінальная форма, і філасофскі змест. Гэта паэт сусветнага маштабу. Але перш-наперш ён значны для нас — беларусаў».

Наўрад ці малады паэт задумваўся, што літаральна праз некалькі гадоў, сам увойдзе ў кола літаратурных настаўнікаў для крылатых, пакуль не ўпэўненых, пачаткоўцаў. Ды і зараз на заўвагі адносна пераймання ягонай лірыкі рэагуе здзіўленнем і яўнай быякавасцю.

Але сцвярджае: «Мяне не страшаць у творах маладых аўтараў пэўныя стылістычныя перайманні з маёй паэзіі, часам нават гэта прыемна, бо сведчыць пра тое, што малады паэт ведае маю творчасць, яна яму блізкая, ён цэніць яе. Калі аўтару наканавана стаць Паэтам, то з цягам часу перайманні знікнуць, саступіўшы месца арыгінальнай творчасці. Зрэшты, натхняцца паэзіяй іншых — гэта таксама вялікая асалода для паэта. Закаханымі выключна ва ўласную паэзію могуць быць толькі графаманы».

Некаторыя яго выказванні, што аднойчы прагучалі з кафедры, бранзавелі і заставаліся ў аналах студэнцкіх цытатнікаў: «Графаманы — істоты з павышанай плоднасцю. Адзінота — гігіена душы».



Наяўнасць асабістага космасу, уласнай планеты, дзе існуе творца, скіроўвае да яго метэарыты плётак, нібыта праўдзівых аповедаў, якія зрэдку трапляюць у мэту. Паступова асоба набывае барочную раму з разнастайных чутак, па якой і мяркуюць пра чалавека.

«Меркаванні бываюць рознымі. Часам, несправядлівымі. Але калі я буду крыўдзіцца на кожнае з іх, мае сілы скончацца і я змарнею, як восеньская хрызантэма. Няхай пра мяне думаюць тое, што думаюць, і няхай я застануся тым, кім ёсць».

Арцём Кавалеўскі загадкавай постаццю ўзнікаў то ў сценах факультэта журналістыкі, то сярод «літаратурных калег. Студэнтак традыцыйна цікавіла асабістае. Зрэдку праз філасофскія гушчары цьмяных слоў артымлівалася вычапіць штосьці кшталту: «Любоў. Толькі чалавеку ўласціва гэта пачуццё і толькі дзякуючы яму мы не выжываем, а жывём. Калі ў чалавека не застанецца хоць бы нават каліва любові, ён памрэ, не фізічна, а маральна. Мы стаміліся? Значыцца, нам бракуе любові».

Я ж адважылася толькі запытацца пра музу.

«Мая муза — гэта жанчына, з якой я сустракаўся ўсяго толькі два разы ў жыцці, бо яна жыве вельмі далёка ад Беларусі. Але ў нас усталяваліся адносіны. Мы рэгулярна ліставаліся, часта стэлефаноўваліся. Гэта цягнулася некалькі гадоў. Потым лісты сталі радзейшыя. Безумоўна, у мяне было асаблівае пачуццё да гэтага чалавека. Цяпер мы лістуемся вельмі рэдка і амаль не стэлефаноўваемся, але я часта ўзгадваю яе вобраз, ён трывала прысутнічае ў маім жыцці і застаецца вельмі блізкім. Я прысвячаў і працягваю прысвячаць ёй некаторыя вершы».

Адказ на хвалюючае тады пытанне давялося пачуць значна пазней: «Жанчыны — самыя розныя — заўсёды прысутнічалі ў маім жыцці і займалі ў ім адмысловае месца. Гэта ж так натуральна. Але да жаніцьбы справа пакуль не дайшла... На ўсё свой час, думаю».

*Паўночны вецер. Шкельца № 4*

Паэта вывучаеш, ведаеш па яго вершах. Будуеш здагадкі пра адметныя рысы характару, погляд на адвечныя каштоўнасці на падставе дзеяння лірычнага героя. Які ж сам творца, можаш так і не дазнацца цягам усяго знаёмства, цягам жыцця.

Праўда, не здарма інтымныя дзённікі пісьменнікаў — чытво для вельмі вузкага кола людзей. Ці варта ведаць усім, так ці іншакш знаёмым з творчасцю літаратара, што ніводны вершаваны заклік не спрацаваў для самога сябе. Што закаханы ў незнаёмку паэт дазваляў сабе забывацца на ўласную жонку, ігнараваць яе, не зважаць на маральныя прынцыпы і пры гэтым заставацца ўлюбёным пісьменнікам для многіх.

Насамрэч, калі любіш творчасць пэўнага аўтара, здолееш адасабляць асобу ад лірычнага героя. Можаш захапляцца вершамі і пры гэтым не прымаць паводзін паэта.

Заўважана, чым глыбей, геніяльней лірыка, тым больш самотны, няшчасны яе аўтар. Штосьці адкрываецца невядомае звычайным вачам, што не дазваляе быць ранейшым, а паступова падштурхоўвае да прорвы, маўляў, зазірні, што там, спазнай тое, што яшчэ не дасяжнае розуму.

Ігар-Севяранін пісаў псеўданім праз злучок: як другое імя, а не прозвішча. Ад яго патыхала веліччу, адмысловай любоўю... Імя, смелае, як віно, абавязала да пакутлівых, моцных вершаў, якім было наканавана прабіць любую сцяну народнай чэрствасці.

Болем безвыходнасці прасякнуты амаль усе радкі.

*«Мысль, даже мысль продажна. Даже любовь корыстна. / Нет воплотимой грезы. Все мишура, все прах. / В жизни не вижу счастья, в жизни не вижу смысла. / Я ощущаю ужас. Я постигаю страх».*
*(Поэза отчаянья, 1920)*

Пазбавіцца гэтага пачуцця не дапамаглі нават каханыя жанчыны. Жэня Гуцан — першае яскравае пачуццё паэта, прынесла не менш за 30 вершаў.

Прыгожую, з шыкоўнымі залатымі валасамі дзяўчыну змяніў шлюб з Фелісай Круут. Той выпадак, калі чалавек адыходзіць ад свайго ідэалу. Жонка не была падобная да папярэдніх надзвычай вытанчаных, арыстакратычна гуллівых жанчын. Магчыма, яна стала апошняй спробай выратаваць сябе з глыбокага неабсяжнага болю, з уласнага свету, дзе не было месца асабістаму шчасцю. Фелiса сталася сцяной, за якую не дапускаліся праблемы, клопаты. Яна нават здолела адваяваць Ігара ў алкаголя. Але наканаванне быць самотным, незразумелым, непачутым перамагло. І толькі бліжэй да мяжы, што аддзяляе гэты свет ад чагосьці іншага, паэт здолеў прызнацца: расстанне з Фелісай — самая вялікая памылка і катастрофа.

Падавалася б, як настолькі прадбачлівы, адчувальны паэт не змог прадухіліць, прадбачыць падзеі, што прывядуць да несуцяшальнага выніку.

Маё знаёмства з Ігарам Севяраніным нельга лічыць дасканалым і ўсебаковым. Тут даводзіцца давяраць яго сучаснікам.

Васілій Шульгін узгадваў: «Ён быў сціплы, ціхі, маўклівы. Але не пануры. Ён маўчаў, але слухаў уважліва і з цікавасцю; на яго вуснах была добрая ўсмешка. У гэтай усмешцы значылася адначасова і нешта дзіцячае, і нешта мудрае».

Спалучэнне дзіцячасці з унутраным заўчасным сталеннем характэрныя для абодвух паэтаў. «Паэт глядзіць на свет шырока расплюшчанымі вачыма дзіцёнка. Як і дзіцёнак, паэт не страчвае здольнасці здзіўляцца «шэрай» паўсядзённасці. Убычыўшы адбітак неба ў лужыне, паэт можа натхніцца і нарадзіць геніяльны радок тады, калі іншыя проста абыдуць гэтую мокрую пляму на асфальце. Паэты, як і дзеці, вельмі востра рэагуюць на хлусню, несправядлівасць і няшчырасць. Пакрыўдзіць дзіцёнка вельмі лёгка, але гэтак жа лёгка зрабіць яго шчаслівым, прапанаваўшы, напрыклад, займальную гульню. Паэт не губляе здольнасці гуляць і забаўляцца напрацягу ўсяго жыцця» — тлумачыць Арцём Кавалеўскі.

Дзіцё-паэт шчыра і ўспрымальна глядзіць на свет, востра адчувае яго любое хваляванне, здзіўляецца, радуецца, але не можа не смуткаваць. Бо мае разуменне чалавечых слабасцей, заганаў, лёгка адсочвае іх і не можа змяніць, паўплываць, абараніць ні сябе, ні іншых.

*Калейдаскоп. Шкельца № 5*
*(Гарады. Шпацыр. Словы)*

Каляровыя маленькія шкельцы з дапамогай люстра яднаюцца, судакранаюцца, вымалёўваюць экзатычную карціну. Страсянеш калейдаскоп — і вось ужо далёкія раней каляровыя кавалачкі наблізіліся, утвараючы нечаканыя спалучэнні.

Перакуліў дзіцячую забаўку — і няма 92 гадоў, няма часавай, прасторавай адлегласці. Ёсць толькі

планеты: Марс і Плутон. Адзін — з Нагасакі на Марс, другі — з Мінска ў неабсяжны акіян Плутона. Але раптам і гэтыя паралельныя шляхі перакрыжуюцца. І адбудзецца сустрэча пад знаёмыя пераможныя гукі знакамітых паланезаў. І адзін прамовіць: «Пойдём на улицу Шопена, о ней я грезил по годам» («Пойдём на улицу Шопена», 1924). «Маўклівасць / Спыніць час, / А музыка — / Адродзіць» (Шапэну) станецца паролем да сумеснага шпацыру. Яны пойдуць туды, дзе «нет Шопена, как нет его квартиры стен», але гэта будзе вызначальным для чарговага няспешнага вандравання.

У ім прагучаць вершы ўлюбёных паэтаў Ігара (Міра Лахвіцкая, Фофанаў, Бадлер). Арцём працытуе штосьці з Хадасевіча, Забалоцкага, Маякоўскага. Верагодна нават, адбудзецца спрэчка. І беларускі паэт імпэтным рухам сарве некалькі празмерна пафасных «медальёнаў» з шыі расійскага калегі.

Але ж сябры...Тут не месца крыўдам у адказ на шчырыя эмацыйныя словы. Тут Урубель суседнічае з Брэйгелем, а Пучыні, Чайкоўскі, Рымскі-Корсакаў зліваюцца вадаспадам мелодый, сцішваюцца, выплёскваючы светлыя вальсавыя пырскі.

«Быць шчаслівым — гэта быць унутрана свабодным, вольным, мець мажлівасць займацца любімай справай, не баяцца заўтрашняга дня і наогул не страціць ахвоты да жыцця», — скажа Арцём, хаваючы ноту-кроплю ў далонях. «В жизни не вижу счастья, в жизни не вижу смысла», «Я трагедию жизни претворю в грёзофарс...» — з балючай тугой адрэагуе Ігар. І, спахапіўшыся, раптоўна ўскочыць на лаву, адкуль ненатуральна гучна і рэзка прадэкламуе: «Я покорил литературу, взорлил гремящий на престол». Малады калега з прыхаваным здзіўленнем і спачувальным поглядам тады прамовіць: «Аднойчы літаратура абрала мяне, а я яе. Мы моцна закахаліся. З цягам часу гэтае каханне не толькі не знікла, але ўзмацнілася».

Ігар згадае сябе ранейшага — амбітнага і шчырага — параіць: «Целуйте искренней уста — / Для вас раскрытые бутоны, / Чтоб их не иссушили стоны, / Чтоб не поблекла красота». Толькі праз страту часам адчуваеш каштоўнасць чагосьці ці кагосьці. Рана растання так і не зацягнулася. Шнары нагадвалі мінулы прыхаваны цяпер боль. «Ты ко мне не вернешься» — фраза міжволі кране вусны і адлюструе ў вачах суразмоўцы паразуменне. «Шмат пра што даводзіцца шкадаваць, — скажа Арцём. — Ні пра што не шкадуюць толькі баклажаны ў цяпліцы. Вельмі шкада, што былі выпадкі, калі і я моцна крыўдзіў іншых і не прасіў своечасова прабачэння, што часам мае неабдуманыя ўчынкі абарочваліся для мяне, мякка кажучы, не найлепшым чынам».

Ён прапануе сябру кілішак улюбёнага напою ў старой, адкуль шпацыр прадоўжыцца па культавых месцах мінскага паэта. Яны наведаюць «малюсенькі дамочак на Слаўным завулку, дзе жыве непаўторная паэтка Д.-А. Церахава, менскі фрык з пачатку 80-х, якога можна было пабачыць у цэнтры з дзвюма торбамі, дзвюма касічкамі й неад'емным элементам гардэробу — шапкай (і зімой, і летам)».

Наступным прыпынкам азнаямляльнай вандроўкі стане лава-пад-рампай — «шыкоўная брутальна-рамантычная лава на маляўнічым узгорку паміж Траецкім і «Панарамай» (валодае здольнасцю перамяшчэння ў прасторы ў межах узгорку, але пасля «вандровак» зноў і зноў вяртаецца ў зацішны запляваны куток пад рампаю, што патанае ў галінастым гушчары дрэваў)», — скажа Арцём.

Правінцыйная беларуская сталіца не надта вабіць замежнага госця. Фарэлевая рэчка, а лепш пяшчотна-супакоены пляскат мора, ды невымушаная самота: «И снова в хвойную обитель я возвращаюсь из Москвы...» Арцём пагодзіцца, бо сам марыць пра аскетычны дом на Балтыйскім узбярэжжы ці ў сасновым бары.

«Я заўжды буду бараніць права кожнага чалавека на свабоду выказвання. Я буду бараніць права кожнага чалавека быць слабым, безабаронным і незразумелым праз іншых. Я буду бараніць права на веру, надзею і любоў... а яшчэ права на памылку», — гэта будуць апошнія словы, што пачуе Ігар Севяранін ад Арцёма Кавалеўскага.

Калейдаскопныя шкельцы раптоўна чарговы раз зменяць малюнак і ўзновяць непераадольную адлегласць...

Яны дакладна пасябравалі б. Ці, прынамсі, былі б радыя знаёмству. Але нават сустрэцца ім замінаюць 92 гады. Заміналі.

На маёй кніжнай паліцы «Громокипящий кубок» прыняў «Адмысловыя гульні». Пазнаў...

## II

*«Дитя, послушай, — успокой / Свою печаль; пойми, все вздорно / Здесь, на земле…. Своей тоской / Ты ничего тут не изменишь…»*

*І. Севяранін*
*(Июневый набросок, 1910)*

*«Жыццё на Зямлі / Нічым не адрозніваецца ад жыцця / На іншай планеце: / Тут таксама трэба вучыцца / Дыхаць».*

*А. Кавалеўскі*
*(Аўтапартрэт з працягам, 2006)*

Можна параўнаць світанак з заходам, поўню з сонцам? Напэўна, можна… Па колеры, адценням пачуццяў, успрыманню, форме…

Здаецца, усё. І гэта даволі ўмоўна. Як параўнаць двух непаўторных, унікальных паэтаў? Толькі па вершаваных памерах і выкарыстаных рыфмах? А наколькі гэта цяжэй зрабіць, калі абодва паэта адпавядаюць вашаму ўласнаму лірычнаму ўспрыманню свету, аднолькава востра прымушаюць адчуваць, суперажываць! Казаць пра ўлюбёных аўтараў неверагодна цяжка. Не толькі таму, што ўсё адно на што-небудзь забудзешся, не ўзгадаеш, але і таму, што кожны паэт — таямнічы космас, апраўлены вытанчанай душэўнай арганізацыяй, новым поглядам на ўяўную будзёнасць жыцця.

Падабенства Ігара Севяраніна і Арцёма Кавалеўскага як лірыкаў не відавочная. І чалавек, ледзь знаёмы з творчасцю абодвух, наўрад ці зможа прыкмеціць агульныя рысы. Але калі адкрыць для сябе іх паэзію, расчытаць яе, не зразумець, а адчуць, дакрануцца да яе, то падасца, што І. Севяранін і А. Кавалеўскі гучаць у адной танальнасці. Іх лірыка надзвычай музычная. Здараецца, калі праслухоўваеш творы аднаго кампазітара (нават калі пра гэта і не ведаеш) прыкмячаеш падабенства. Штосьці адпаведнае адбываецца і пры чытанні твораў гэтых аўтараў.

Але лірыка паэтаў не ідэнтычная. І паказаць яе сугучча магчыма толькі ў выпадку раскрыцця індывідуальнасці кожнага. Паспрабуем…

Ігар Севяранін, «чье имя смело, как вино». Запомніўся многім як заснавальнік эгафутурызму. Колькі крытыкаў успрымаюць яго аднабакова, неабачліва давяраюць фразам лірычнага героя і абураюцца яго самамеркаванню.

*«Мой стих серебряно-брильянтовый / Живителен, как кислород. / О, гениальный! О, талантливый! — / Мне возгремит хвалу народ. / И станет пить ликер гранатовый / За мой ликующий восход».*

*І. Севяранін*
*(Самогимн, 1912)*

Але няўжо праз завесу новага напрамку можна было не ўбачыць глыбокага лірыка, паэта, які тонка адчувае свет? Паэзіі І. Севяраніна падуладныя ўсе тэмы: ад любоўнага трымцення да філасофскіх разважанняў. Узгадаем, чым так быў замілаваны і ўсцешаны лірычны герой паэта ў вершы «В парке плакала девочка» (1910). У ластаўкі было зламанае крыльца, а зусім маленькае дзіця пашкадавала птушку, заплакала. І ў гэтым бачна адчайная надзея самога аўтара, што свет, «Где блеск и звон карьеры — рубль, / А паспорт разума — диплом; / Где декадентом назван Врубель / За то, что гений не в былом…» (Поэза вне абонемента, 1912) зменіцца.

Тэма смерці таксама прысутнічае ў І. Севяраніна, і знаходзіць адлюстраванне ў многіх вершах. Напрыклад, «Секстина» (1910): «Я вижу смерть, грядущую в звезде…» Адчуванне блізкасці смерці так ці інакш перадаецца ў вершах аўтарам, але не выклікае непрыняцця ці жаху. Смерць, хутчэй, — збаўленне, пераход у новы стан, доўгачаканы адпачынак і ўзнагарода. «И она умерла молодой, / Как хотела всегда умереть!» (И она умерла молодой, 1909). Відавочна паэтызацыя смерці: «Всем будет весело и солнечно. / Осветит лица милосердье… / И светозарно-ореолочно / Согреет всех мое бессмертье!» (Мои похороны, 1910). Часта адбываецца яе адухаўленне, і Смерць становіцца не проста дзяўчынай, каханай, а распуснай жонкай: «Люблю октябрь, предснежный месяц, / И Смерть, развратную жену!..» (Октябрь, 1910).

Арцём Кавалеўскі сучасны беларускі паэт, чый лірызм, на мой погляд, быў відавочны яшчэ пасля прачытання першай кнігі «Адмысловыя гульні». Нягледзячы на тое, што там, у асноўным, былі прыклады эксперыментальнай паэзіі, у аўтара не атрымалася прыхаваць

за «выкшталцонымі метафарамі», фантасмагарычнымі вобразамі, ірэальнасцю, эксперыментам з вершаванымі памерамі глыбокага перажывання, неабходнасці «шукаць адказ у свеце» «праз мройнасць сноў».

Другі зборнік «Аддаленасць і адданасць» даў магчымасць пражыць напружанне, у некаторай ступені, гістэрычнасць, і надзвычайную завостранасць інтымных перажыванняў. Дамінуючая, безумоўна, інтымная лірыка, але аўтар не абышоў і філасофскіх тэм. Лірычны герой імкнецца знайсці ў гэтым шумным, аднастайным свеце сярод «бляклых дзён» і «аднастайных пачуццяў» месца для сябе, зразумець, хто ж ён і дзеля чаго прыйшоў сюды. «Ён мужчына / І мае сяброуку-жанчыну — / Гэта так проста. / А я? / Я — вакзал, / Я — цягнік, /Я — гадзіннік / (ці цынік?)» (Вакзал, 2005). «Дзе прычыны знайсці / Доўгай, амаль што бясконцай, / Вандроўкі?» (Дыпціх, 2004), — запытваецца герой. І ўсё ж верыць, «Што будзе бяскрыўдным мой шлях / Да дзіцячага дзікага шчасця» (Дадому, 2004). Лірычны герой А. Кавалеўскага жыве думкамі пра шчасце дзяцінства, калі чалавек не адчувае неабходнасці няспынна шукаць сябе, камусьці штосьці даказваць, вызначацца ў жыцці. Ён можа атрымліваць асалоду ад лёгкасці, навізны; кожны дзень — неверагоднае адкрыццё; ты заўжды ведаеш, што добра, а што не, таму што ёсць выключна чорны і белы колеры. Вось чаму часам так балюча герой ўспрымае час сталення: «Стан забыдленага прывілею — / Бачыць тое, як я сталею, / Як губляю свае пачаткі, / Быццам зношаныя пальчаткі...» («Стан забыдленага прывілею...», 2008).

Асаблівасці паэзіі І. Севяраніна і А. Кавалеўскага — «дваістасць свету», існаванне ў рэальным недасканалым «зараз» і ідэальным і створаным «раней» альбо «потым». Лірычны герой І. Севяраніна жыве ў прыдуманай краіне сярод ідэальных прыхільнікаў яго таленту, сярод тых, хто напоўніцу ацэніць яго і Міру Лахвіцкую, хто чытае Блока, хто любіць пакутуючы, хто верыць у шчырасць пачуццяў. «Я — царь страны несуществующей, / Страны, где имени мне нет...», «В моей стране есть терем грезовый / Для намагниченных принцесс» (Грезовое царство, 1910).

У гэтым свеце можна есці марожанае з бэзу, піць лікёр з вярбэны, закахацца ў «мелькнувшую тотчас», памяняць увесь свой улоў на марку для ліста дарагому чалавеку, сядзець разам на беразе фарэлевай рэчкі... Толькі там каралева можа пакахаць пажа, і, захінуўшыся пачуццямі, стаць рабыняй, а можна пайсці на вуліцу Шапэна і ўбачыць дом, дзе кожны прадмет захаваў у памяці яго музыку... Але заслона мрой рассейваецца: «Обман мечты! здесь нет Шопена, / Как нет его квартиры стен, / В которых, — там, у гобелена, — / Почудился бы нам Шопен!..» (Пойдем на улицу Шопена..., 1924).

Герой прыкмячае: «Я мечтаю о том, чего нет / И чего я, быть может, не знаю... / Я мечтаю, как истый поэт, — / Да, как истый поэт, я мечтаю» (Я мечтаю..., 1922). У гэтым сапраўдным свеце «прах Мирры Лохвицкой осклепен», «вокруг талантливые трусы и обнаглевшая бездарь», «четверть века центрит Надсон», «вкус так жалок и измельчен», «не знают, как двусложьем: Мельшин скомпрометирован Бодлер». Дзе ў творчасці лірычнага героя вышукваюць пошасць, «из виду упустив одно: ведь кто живописует площадь, тот пишет кистью площадной», упікаюць у сумяшэнні стыляў. Герой не спрабуе перакрычаць свіст, улюлюканне натоўпу, бурчэнне крытыкаў. Ён кажа: «Ведь я лирический ироник: ирония — вот мой канон».

«Корректен и высокомерен, всегда в Неясную влюблен» — асноўная характарыстыка героя. І. Севяранін адлюстроўвае і два душэўныя светы: мужчыны і жанчыны. Адметнасць яго лірычнага героя — трапяткое, узнёслае стаўленне да жанчыны, якая мае шмат увасабленняў: незнаёмка, каханая, жонка, маці, дзіця, але нязменна тая, якой хочацца захапляцца, дзеля яе радасці можна дараваць здраду, для адзінай сустрэчы з якой варта было нарадзіцца герою. «Очам твоей души -молитвы и печали, / Моя болезнь, мой страх, плач совести моей; / И все, что здесь в конце, и все, что здесь в начале, / Очам души твоей...» (Очам твоей души, 1909).

Так бачыць герой жанчыну. Менавіта яна, успаміны аб ёй, перажыванні, звязаныя з ёй, складаюць цэнтр, аснову вершаў.

Немагчыма зразумець напоўніцу тое, якім чынам атрымалася Ігару Севяраніну перадаць унутраны стан жанчыны. Нельга вызначыць, што

«Ее монолог» пісаў мужчына, не ўзнікае ніякага адчування ненатуральнасці ці гульні. «Не может быть, вы лжете мне, мечты! / Ты не сумел забыть меня в разлуке... / Я вспомнила, когда в приливе муки, / Ты письма сжечь хотел мои... сжечь! Ты!..» (Ее монолог, 1909). Аўтар чытае думкі жанчыны ў розных абставінах і дакладна адгадвае, прыкмячае, адлюстроўвае.

У паэзіі А. Кавалеўскага адбываецца адмысловае пашырэнне межаў. Дваістасць свету І. Севяраніна пераўтвараецца ў тры розныя вымярэнні: мінулае, сучаснасць і будучыня. Яны не ідуць адно за адным, а існуюць побач, пераплятаюцца, парушаюць межы. Мінулае ілюзорнае, шчаслівае, нагаданае ўспамінамі пра дзяцінства. «Водар дзяцінства / Такім быў салодкім / І страчаным!..» (Дзяцінства, 2004).

Сучаснасць знаходзіцца ў няспынным узаемадзеянні з мінулым і будучым. Яно прымушае параўноўваць з тым, што было раней, калі

«Мы ехалі разам калісьці. / Мы ведалі шчасце, / Бо былі мы такія ж, як дзеці» (Жоўтая кветка, 2005). Лірычны герой узгадвае «апошні абдымак, у якім мы сталіся маўклівымі ахвярамі першага у жыцці банкруцтва». Таму што сучаснасць — халодная, злосная, няветлівая, елкая. У ёй даводзіцца глядзець у вочы адчаю, адчуваць сябе самотным, «беспрытульным», дзе нават у сваёй кватэры немагчыма загаіць старыя раны, дзе вымушаны «апантанасцю суцешыць тваё няўсцішнае «бывай»...», дзе «галасна сабакі брэшуць, калі ідзеш за небакрай...». Растанне — непазбежнае. «Трэба сыходзь, / Бо разам зацесна, / Разам няможна, / Бо робіцца прэсна» (Трэба!, 2005).

Ёсць і іншая сучаснасць — ідэальная, ахутаная надзеяй на магчымасць знайсці дзікае шчасце дзяцінства, хаця б праз акрыленых дзяцей, з якімі можна склейваць мадэлі пасажырскіх самалётаў, якім хочацца аддаць уласны вопыт радасці, песні і спакою. Лірычны герой ускліквае: «хачу ў Закаханэ!».

У гэтай сучаснасці ён знаходзіцца на мяжы пачуцця, якое толькі пачынаецца. І яму так хочацца адкрыць яго, спазнаць, мець надзею на працяг, спадзявацца на «потым». «Кахаю? / Напэўна... / Але не зусім... / І зноў паўтараю: / «Адкрыйся, «Сім-Сім»...» (Сім-Сім, 2006). Менавіта такая сучаснасць адкрывае дзверы ў будучыню, тое самае «потым», якое сваёй нябачнай прысутнасцю стварае мару «Пра аддалены дом / І пра шлях, / І пра шлюб, / І пра шыбы, / Скрозь якія / Толькі мы нараджаем сланечнасць» (Я хачу, 2005).

У адрозненне ад І. Севяраніна лірычны герой А. Кавалеўскага засяроджаны на ўласных перажываннях, у яго адсутнічае вобраз цудоўнай дамы, цалкам не вымалёўваецца жаночы вобраз, таму што герою неабходна разабрацца ва ўласных эмоцыях, адказаць, у першую чаргу, самому сябе на пытанні. Адбываецца засяроджанасць на ўласным эга.

Акрамя часавага падзелу ў лірыцы А. Кавалеўскага існуе яшчэ прасторавы. Ёсць свет, які дзеліцца напалам праз немагчымасць дваіх існаваць побач, праз неабходнасць «аддаляцца і аддаваць». Прастора распадаецца на «два сусветы: / Ты — у адным, / А ў іншым сагрэты / Памяццю кволай / Апошні прыпынак...» (Трэба!, 2005). Герой не можа зберагчы «крохкасці сквапна-патрэбнага «Трэба!», нашага неба два берагі».

Як прыкмячаюць крытыкі, паэзія І. Севяраніна і А. Кавалеўскага музыкальная. Паэт Серж Мінскевіч называе А. Кавалеўскага «кампазітарам вершаў». Сапраўды, творы аўтараў успрымаюцца, у першую чаргу, на слых, запамінаецца рытм. Бывае не паспяваеш зразумець сэнс, усвядоміць яго, а матыў праігрываецца ў галаве. Таму часам складана расставіць сэнсавыя паўзы, вылучыць інтанацыйна тое ці іншае слова, таму што вершы не дзеляцца на сказы, фразы. Словамі, нібыта нотамі, напісана музыка, а форма вызначае яе тэмп.

Стварыць мелодыю дапамагаюць і фанетычныя прыёмы, якія выкарыстоўваюць абодва паэты. У І. Севяраніна ёсць верш «Nocturne» (1908).

*Месяц гладит камыши*
*Сквозь сирени шалаши...*
*Все — душа, и не души.*
*Все — мечта, все — божество.*
*Вечной тайны волшебство,*
*Вечной жизни торжество.*
*Лес — как сказочный камыш,*
*А камыш, — как лес-малыш.*
*Тишь — как жизнь, и жизнь — как тишь.*

З дапамогай паўтора гука «ш» ствараецца адчуванне таямнічасці, цішыні, але не абсалютнай, а напоўненай

перашэптваннем, шапаценнем, шаргатаннем: «ш-ш-ш-ш-ш-ш». Мяккая, пухнатая, вялікая, жывая цішыня. І калі вы раптам паспрабуеце яе парушыць, нехта ненавязліва, але настойліва і цвёрда, у той жа час добразычліва скажа вам: «ш-ш-ш-ш-ш». І вы зразумееце — шумець нельга, інакш спужаеш Цішыню.

У А. Кавалеўскага дастаткова часта выкарыстоўваецца прыём алітэрацыі. Дастаткова некалькіх слоў для стварэння неабходнага настрою.

*Лета*
*Ляцела*
*Ля цела*
*Цяля-*
*ці.*
*(Вясковае, летняе…).*

Мяккі санорны дапамагае намаляваць летнюю ідылію: сонца, цёплы ветрык, поле з зялёнай травой і валошкамі, цяля няспешна атрымлівае асалоду ад сняданку. Дапаўняць карціну можна бясконца, у ёй абавязкова будзе прысутнічаць нешта вясковае, мілае, роднае, вельмі-вельмі блізкае.

Такі ж прыём у вершы «На хвасце восені» (2003).

*«Матылёк / Лёг / Лёгка / У павуцінне… / Так лета / Ляцела / У восень…»*

Тут дадаецца яшчэ і лёгкасць палёту, яго бязважкасць, якую можна параўнаць з пяшчотным, амаль няўлоўным пераходам лета ў восень.

Наступны прыклад паказвае, як з дапамогай шыпячых можна дасягнуць эфекта супрацьлеглага северанінскаму «Nocturne».

*«Разварушыць / Вушамі / Шум / І / На шашу / Пакласці / Цела…» («Разварушыць», 2003).*

Замест соннай цішыні з'яўляецца і ўзрастае шумнае, дзесьці пагрозлівае, але ў любым выпадку неспакойнае штосьці. Яно насцярожвае, нярвуе, даводзіць да мяжы абвостранасць пачуццяў.

Але не толькі гукі здольныя ажывіць паэзію, зрабіць яе адчувальнай. Для І. Севяраніна, як і для А. Кавалеўскага, прырода вельмі блізкая. Паэты адчуваюць яе, жывуць ёю. Яна дапамагае спраўляцца лірычным героям з перажываннямі, адзіная здольная



цалкам зразумець чалавека… Аўтары адухаўляюць прыроду, звяртаюцца да яе, апранаюць яе ў характэрныя прадметы гардэроба. «Подходят ночи в сомбреро синих», «День ало-сиз. Лимоннолистный лес / Драпит стволы в туманную тунику…» (Berceuse осенний, 1912) — сустракаецца ў І. Севяраніна. «Пальцы цемры / Без мяккіх пальчатак / Прыціскалі нас да / Дэкарацый / Дэкадэнцкай зімы / Варыяцый…» (Наадвечна, 2003) — чытаем у А. Кавалеўскага.

Антрапалагічныя вобразы месяцаў, раслін, часоў года даюць зразумець, што чалавек не ўладар свету, а хутчэй госць, які часова затрымаўся ў добразычлівых гаспадароў. «Где спит палач-вулкан на страже зова», «Январь, старик в державном сане, садится в ветровые сани», «горбатой девушкой прекрасной, но немой трепещет дерево, туманя гений мой», «когда хромает ветхий месяц», «есть что-то хитрое в усмешке седой улыбки октября» — піша І. Севяранін.

«Снег / Збег / У падваротню. / З'еў / След / Крокаў мёртвых», «Дзень / Мой / Паслізнуўся», «Ноч даверліва, ціха раскажа», «Месяц спіць / У бурштыне / Піва», «Расцяклося жэле кастрычніка — / Зімы маладога апрычніка…», «калі раптам дзень пачынае плакаць», «гартае восень старадрукі» — знаходзім у А. Кавалеўскага. І кожны вобраз можна падрабязна разбіраць, выпісваць па дэталях, па дробязях, у выніку атрымаецца цудоўны партрэт любой пары года, з'явы прыроды ці проста прадмета.

Але ёсць, на мой погляд, асноўная адметнасць паэтаў…

Творца надае ўсім вядомым словам новыя значэнні, нараджае неалагізмы, эксперыментуе, часам даводзіць да мінімалізму колькасць слоў у вершы толькі, каб яшчэ больш сцісла, зразумела адкрыць для кагосьці вядомыя, але пакуль не зразумелыя, неадчутыя ісціны. І калі ты чытаеш вершы і адчуваеш катарсіс ад узаемаразумення з абсалютна невядомым чалавекам, тады аўтар становіцца тваім… улюбёным, найлепшым, проста тваім. Калі паэт вывучае свет з розных бакоў, а кожнае слова для яго — адкрыццё, ён імкнецца загарнуць вобразы ў адчувальную, бачную абалонку, тады ў чытача значна больш шанцаў знайсці агульныя кропкі ўзаемаразумення з аўтарам.

І. Севяранін і А. Кавалеўскі сваёй паэзіяй перадаюць свет значна больш

поўна, ярка, востра, чым успрымаем яго мы. Мы не здольныя адначасова кантраляваць усе нашы органы пачуццяў: калі на штосьці глядзім, то звычайна не зусім услухоўваемся у тое, што адбываецца, перастаем заўважаць пахі, не кажучы пра тактыльныя адчуванні. Паэты даюць нам тое, чаго мы не ўмеем у жыцці: магчымасць адчуць тое, што акаляе нас, з дапамогай зроку, смаку, слыху. Зрокавае ўспрыманне стварае бясконцыя метафары, эпітэты, параўнанні: белых яблонь пороша, слегка желтел зеленый летний сад, в осенней было небо синеве, и платье бежевое с синеньким на ней сидит очаровательно (акрамя таго, чытачу даводзіцца рэканструяваць свой вопыт, каб узнавіць для сябе карціны, напісаныя паэтамі, ён вымушаны знаходзіцца ў строгіх межах нават простых эпітэтаў, бо фантазія аўтара настойліва прапануе той самы вобраз, які стварыў паэт. Няма месца памылцы, чытацкаму варыянту, спалучэнні апісанняў ідэальна падабраныя), поблекший, чуть голубенький цикорий, золотистые каштаны твоих взволнованных волос, прозрачна ты, как девушка влюблённая; крывавыя белыя ночы, шэра-шалёны абдымак, ранішняе срэбра, змрок у маскіровачным адзенні, злы рой белых мухаў...

Але мы ўспрымаем не толькі зрокава! Адценні водараў настройваюць нас на пэўную хвалю: вусны пахлі каляндрай, рукі — календулай, пах чароту ўсюды, водар дзяцінства такім быў салодкім і страчаным, водар пылу і дажджу (А. Кавалеўскі); мы вдыхаем струи ветерка, обнявшего сирень, в чьем свежем запахе восторг и боль, пахло солнцем, оконною краской и лимоном от женского тела, повеет от волны вервэной, твоею блузкой и косой (І. Севяранін).

З дапамогай гастранамічных намінацый і апісання смаку пашыраецца прастора нашага ўспрымання. У І. Севяраніна: смотри сосет оно (солнце) признательно развернутую карамель, вдоль рябины, нагроздившей горьковатый коралл. А знакамітыя ананасы ў шампанскім, марожанае з бэзу — самае смелае спалучэнне вытанчаных прадуктаў пераносяць чытача на свецкі прыём. У А. Кавалеўскага: салёны абдымак, водар гаркавы, чайныя ночы, вусны салёныя, кропелькі сочыва-лета, месяц спіць у бурштыне піва, прэсныя дні, жэле кастрычніка, сакавічна-сочны дом.

Гукавыя вобразы паэтаў дапаўняюць, пашыраюць успрыманне, робяць аб'ёмным малюнак, ажыўляюць яго: прошелестел февраль, смущенье в голосе и притушенный вздох, он лепетал в прощающем укоре, под ливня звон, под хлюпанье играющей лещихи; расстанні-расстрэлы, заскуголіў працягла, словы між вуснамі не вандравалі, вецер запаволіў спеў, на мяжы майго крыку і здзеку, гукі-пацеркі цярпліва дражняць мой слых, безгалосая й дзікая вясна.

Калі заплюшчым вочы і дакранемся да якога-небудзь прадмета, зможам дастаткова поўна апісаць яго, распавесці ўласныя адчуванні ад яго. Толькі дзякуючы дакрананням малечы ўпершыню вывучаюць свет: смела, але асцярожна, даведваюцца пра віды матэрыі, паверхняў. А мы, чытачы, адкрываем для сябе краіну паэзіі: месяц гладит камыши, и если иногда не радостны объятья, прикосновений ожидающий, какой в душе остался жгучий след, покорливое трогательное тело, певучая теплынь, прикоснуться к любимым устам; у напоі тапіць дакрананне, топіш вуснамі снег, парог, сагрэты спадзевам, гарачае слова, халодная смуга пацалунку, лёдам здалася далонь твая, сціплыя абдымкі, цела чакае цяпла...

Вось яно, напоўненае гукамі, смакамі, адчуваннямі, пахамі жыццё! І няхай нехта ўспрыме яго інакш, дасць яму іншыя апісанні, надасць іншыя ўласцівасці, але яно такое, народжанае талентам двух абсалютна розных і непаўторных, але адначасова няўлоўна блізкіх аўтараў, Ігара Севяраніна і Арцёма Кавалеўскага...

*«И страстно хочется мне перемены, / Столь неосознанной и смутной столь, / Как увлекающие цикламены, / В чьем свежем запахе восторг и боль».*

*І. Севяранін (Цикламены, 1933)*

*«Паўз паўзу / вечар спаўзе / І на плечы / Празрыстаму Млечнаму Шляху / Нямое святло пакладзе... / ...і вырастуць крылы. / О, восень!»*

*А. Кавалеўскі*
*(На хвасце восені, 2003)*

■

**Марыя ДУБРОЎСКАЯ**, журналіст. Нарадзілася ў 1989 годзе ў Баранавічах. Скончыла Інстытут журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта ў 2012 годзе. Працуе на канале «Культура» Беларускага радыё. Вядзе аўтарскую літаратурную праграму «Кухня». Друкавалася ў часопісах «Бярозка», «Маладосць», газетах «ЛіМ», «Наш край» і інш.



# (не-
# тутэй-
# шыя)

■

# ЗДАРЭННЕ З НЕСТАРАМ, АБО НЕХТА

**(Аднадзейная песка)**

**Дзейныя асобы**

*Нестар* — манах-летапісец, белы дзед.
*Нехта* — асоба з нявызначанымі характарыстыкамі.

Дзеянне адбываецца ў келлі Нестара і побач з ёю. Ніякіх збудаванняў, апроч яе, на сцэне няма.

*Нехта*
*(зазіраючы ў шчыліну адчыненых дзвярэй)*
Усё ён піша, Нестар-летапісец.
Руку яму да крэсла прыварыць,
Каб ведаў, як пісаць свае даносы...

Каму ён піша, графаман стары?
Сучаснікам? Нашчадкам? Можа, продкам —
На вёску дзеду?.. Разбяры яго
Ды паглядзі, што думае ўнутры
Пісака гэты...
Нестар-летапісец
Заўсёды мала падабаўся мне,
А зараз асабліва падазрона
Ён выглядае: на ягоным твары
Такая ўсмешка, быццам нешта скраў
Ён ці падклаў камусь брыду якуюсь
І вынікаў чакае. Гэты дзед
Мяне з сябе выводзіць... Гэты Нестар...
Выводзіць? Што? Адкуль? Мяне — з сябе?
А раптам я таксама толькі кропка
У кніжыне яго. А раптам я
Наогул там не згадваюся? Раптам
Мяне зусім няма таму, што там
Няма мяне, у фаліянце гэтым?
Гэй, Нестар! Чуеш, пісарчук глухі!
А на мяне ты раптам не забыўся?
Мяне ўпішы хутчэй у свой талмуд,
Каб ён хаця зрабіўся прыгажэйшым!
Ты чуеш ці зусім аглух?

*Нестар*
Я чую.
Тут сёння больш за трыста чалавек
Прыходзілі з падобным запытаннем.
Цяпер я іх упісваю сюды.
Мне не шкада, але ж у гэтай кнізе
Павінна ўсё быць правільным і гожым,
Як райскі сад, таму, хутчэй за ўсё,
Вам давядзецца пачакаць з гадзіну
Або накрэсліць тут сваё імя
І для мяне пакінуць на паперцы,
Як тыя, што прыходзілі раней.

*Нехта*

Пякельны попел ім на брэкфаст коффі!
Навошта мне чакаць, калі няма
Тут, акрамя мяне, зусім нікога?
Яны сышлі — ім гэта не свярбіць.
А мне свярбіць, я стаўлю толькі крыжык
Замест імя. Але хіба я крыжык?

*Нестар*

Напэўна, не. Але такі парадак.
Вам давядзецца пачакаць крыху,
Гадзіны тры.

*Нехта*

І тры гадзіны цалкам
Глядзець, як ты тут корпаешся, злыдзень,
З паперкамі сваімі? Гэта смешна!
Я выбухну ад смеху, і табе
(Табе, табе, плюгаўцу!) давядзецца
З наступствамі змагацца аднаму,
За ўласны кошт і ўласнымі рукамі,
А не выводзіць тут свае кручкі
І не псаваць казённую паперу!
Ат, шыш стары! Ну, што ты ўсё маўчыш
І пішаш, пішаш і маўчыш, пачвара?!
Я не магу. Я зараз не ўтрываю.
Схаплю што трапіць пад маю руку
І па ссівелай макаўцы загрэю
Так, што мазгі па сценах пацякуць!
І літары крывавыя ўпішу
Сюды, туды — паўсюль! — тваёй крывёю
Ўпішу сваё імя!..

*Нестар*

Навошта ж так?
Нервовы стан Вашэцяў незайздросны,
Я бачу. Гэта выпадак становіць
Выключным; нам ніштo не замінае
Заняцца ім цяпер, пазачаргова.
Я слухаю. Імя, імя па бацьку
І прозвішча.

*Нехта*

Аа... яа... А я, прабачце,
Не ведаю... Вы нештачка такое
Там напішыце, быццам гэта я...

*Нестар*

Не ведаеце? Як жа? А ў размове
Як клічуць Вас?

*Нехта*

Ніяк. Бо я ні з кім
Не размаўляю.

*Нестар*

Добра. А ў бацькоў
Як прозвішча было? Як бацьку звалі?

*Нехта*

Не памятаю. Я маіх бацькоў
Не ведаю... Не ведаю наогул!

*Нестар*

Што ж нам рабіць?

*Нехта*

Што хочаце. Каб толькі
Ўсё атрымалася. Я быць хачу!

*Нестар*

Ды бачу.
І як тут быць?

*Нехта*

Як быць... *ЯК* быць? Быць як бы?
Не ведаю. Як-небудзь. Мілы Нестар!
Каб мне не згінуць у прадонні дзён,
Хоць літарку якую, хоць... хоць «Нехта»!
Вядома ж! Нехта — гэта не ніхто!
Шаноўны Нестар! Напішы, што «Нехта»;
Той, хто павінен гэта зразумець,
Напэўна, зразумее, а астатнім
І не патрэбна.

*Нестар*

Так і напішу.
Выдатна. Добры шлях. Прыемных сноў.

*Нехта выходзіць і зачыняе за сабою дзверы.*

*Нехта*

Не, нешта ён утойвае, няйначай.
Я пачакаю. Пакладзецца спаць —
І я ўвайду, пакорпаюся ў кнізе,
Якую піша ён, калі не спіць.
Я пачакаю. О! Я ўсё пабачу.

*Некаторы час Нехта сядзіць нерухома, а Нестар піша. Потым Нестар зачыняе за сабой дзверы. Праз хвіліну выскоквае з-за дзвярэй з кнігай у руцэ і з шалёнымі вачыма на твары.*

О жах які! О гора мне! О пекла!
Усе — сюды! Глядзіце, тут падман,
Падман суцэльны! Тут на ўсіх старонках
Адно і тое ж слова: нехта, нехта,
І тысячу, і тысячы разоў
Каліграфічна пацеркі-казюркі
Паўзуць, нібы сіямскія блізняты,
Паўзуць і душаць, душаць і мяне,
І тых, хто да мяне пабыў тут сёння,
І пазаўчора, і сто год таму!
Ніхто! З іх кожны, кожны з іх — ніхто!
А Нестар той... А што, між іншым, Нестар?
Хіба ён вінаваты? Не? А хто?
Ніхто? Напэўна ж, *нехта* — вінаваты.
Але які з усіх? І я, і ты,
І трыста чалавек перада мною,
І трыста тысяч, і яшчэ мільён, —
І толькі Нестар, несумненна, Нестар.
Або таксама — *нехта*? Спіць, стары.
І ведае. Прачнецца — і не скажа.
А што як больш нікога ён сюды
Не ўпіша? Знікне свет? Пагінуць людзі?
Ці нават на асіне круглы ліст
Не зварухнецца з месца? Што, як Нестар,
Стары і несумленны бюракрат,
Стары вар'ят, нікога больш ніколі
Не ўпіша ў кнігу? Я яго заб'ю.
Чаму? Хачу я есці, а ў яго

Каўбасы ёсць. Таму, што я на-на-на...
Напалеон! Таму... Таму што мне
Бясконца надакучыў гэты Нестар,
Падманшчык д’яблаў, летапісец ё...

*Нехта падыходзіць да дзвярэй. Штурхае іх. Здзіўлена.*

Зачынена. Зачынена знутры.
Ён спіць. Але ён неяк зачыніўся.
Прачнуўся? Але неяк надта ціха
Ён гэта прарабіў. Вы чулі? Не?
І я таксама.
Нестар, Не-стар, Н-е-с-т-а-р...
Не! Ён стары. Стары, як стар
Над дахам. Старажытны маразматык.
Фальсіфікатар. Нестар, Неслух, Каспер...
Магільным пахам вее на мяне.
Я засынаю. Страчваю прытомнасць.
Няўжо старонкі кнігі патруціў
Махлюк стары, банальны, як сурвэтка,
Або ён проста сапсаваў паветра
Сваім атрутным страўнікавым духам,
Або.. наўрад ці... блытаюцца думкі...
Я засынаю... не... я паміраю...
Я пакідаю... Нехта... Я... Ніхто...

*Развіднела. Нестар выходзіць, пацягваючыся, з будкі. Спатыкаецца аб таго, хто ляжыць.*



*Нестар*
Што за халера? Незнаёмы нехта.
Надраўся зранку. Ці яшчэ з учора?
Співаецца народ.
Гарэлка — гора.

*Нестар сыходзіць. Святло патроху згасае.*

*Заслона.*

■

**ДЖЭЦІ** (Вера Бурлак) — паэтка, літаратуразнаўца, перакладчыца. Аўтарка кніг паэзіі «За здаровы лад жыцьця!» (2003), «Забі ў сабе Сакрата!» (2008, у суаўтарстве з Віктарам Жыбулем), «Дзеці і здані» (2012; вершы, п’ескі), кнігі прозы «Творы соннага жанру» (2011), манаграфіі «Детская поэзия Серебряного века. Модернизм» (2004). Выступае як аўтарка і выканаўца ўласных песняў.

# (аква-рыум)

■

## У «ПЯСОЧНІЦЫ»

**(Інтэрв'ю з Юрыем Станкевічам)**

Араміс у фільме пра трох мушкецёраў спяваў, што стагоддзі сыходзяць незваротна, дуэль знікне цалкам і, магчыма, гэта нават да лепшага. Але «как будет сложно призвать к ответу наглеца».

Дуэль як форма высвятлення адносін з'явілася каля XIV ст. у Італіі. Нагодай для яе магло стаць любое здарэнне, уяўная крыўда ці жаданне прадэманстраваць уласнае майстэрства ў валоданні зброяй. Хоць уладамі дуэлі не ўхваляліся, яны доўгі час былі прыгожым і высакародным сродкам расставіць усе кропкі над і. Гонар і годнасць лічыліся выратаванымі пры любым варыянце заканчэння дуэлі. І ўдзельнікі, хто самастойна, хто з дапамогай сяброў, свядома ці не, пакідалі месца вырашэння канфліктнай сітуацыі.

Хочацца часам далучыцца да слоў Араміса і настальгічна ўздыхнуць з нагоды даўно мінулых дзён. Зараз дуэль забаронена заканадаўствам большасці краін свету з-за манаполіі дзяржавы на гвалт.

Што вымагае пакрыўджаных шукаць іншыя сродкі, як паказаць нахабніку яго месца. І добра, калі асабліва помслівыя звяртаюцца ў суд. У адносінах да літаратурных колаў гэта не агульна прынятая практыка.

Па-першае, рэч гэта марудная і афіцыйная. Ну, задаволіць суд тваю скаргу, ну, атрымаеш ты кампенсацыю, ну, раскажаш пра гэта ўсім сябрам / знаёмым і?.. Чуткі з-за вырашанага канфлікту хутка спыняцца і літаратурным / калялітаратурным аматарам гарачанькага не будзе з-за чаго зноў і зноў узбуджаць інтэрнэт-прастору.

Па-другое, пісьменнікі маюць выдатны слоўнікавы запас, у тым ліку жарганізмаў, аргатызмаў, ненарматыўнай лексікі. А ва ўласных творах добра калі скарыстоўваюць яго напалову. Трэба ж шукаць месцы, дзе можна разгарнуць талент напоўніцу.

Па-трэццяе, відавочна несупыннае жаданне даказаць у першую чаргу сабе, а таксама ўсёй планеце асабістую слушнасць. Усім таленавітым пісьменнікам уласцівыя сумненні ва ўласнай здольнасці зрабіць нешта вартае. Я як узвысіць самаацэнку? Самы просты спосаб — за кошт паніжанай самаацэнкі калегі. А суд — установа канцэлярская. Ёй уласцівы халодны, нейтральны стыль вырашэння спраў. Ніякага табе маральнага задавальнення.

Таму літаратурныя баталіі пераносяцца ў сферу спрыяльную для доўгіх і разнабаковых спрэчак.

Напрыклад, не падабаецца пісьменніку творы калегі па пэўных прычынах. Гэта нагода для гнеўлівай «рэцэнзіі», пажадана з абвінавачваннямі ва ўсіх смяротных грахах. У адказ на выпад літаратар з крыўдай, уласцівай пяцігадоваму дзіцяці, пачынае пагражаць мамай, татам, дзядзькам (чытай: разборкамі сярод калег, судом, магчыма нават вышэйшым). Вядома ж, інфармацыю падхопліваюць ахвочыя да плётак. Яна набывае непаўторныя эпітэты, метафары, і ніхто ўжо не ў стане ўзгадаць, ці мела падзея менавіта такі колер.

На дуэлях дваране Заходняй Еўропы XIV—XVII ст. часцей за ўсё карысталіся лёгкай шпагай ці рапірай. Супернікі простага звання змагаліся на палках, сякерах ці дубцах. Пры чым лічылася, што абразіць чалавека мог выключна роўны яму па статусе. Іншыя выпадкі вырашаліся праз суд.

Але ў моду ўвайшло не толькі крыўдзіцца на «няроўных» апанентаў, а і біцца пластыкавай рыдлёўкай у пясочніцы. Пры гэтым не дай божа апынуцца паміж ворагамі. У лепшым выпадку пяском закідаюць.

І часам хочацца ўзяць абодвух літаратараў, спалучыць іх рукі і, як у старой дзіцячай лічылцы, «мирись, мирись и больше не дерись». А яшчэ прэмію абодвум выдаць, пажадана літаратурную, каб самаацэнку ўзняць.

Добра, што мы пазбаўленыя магчымасці страціць на дуэлі спадчыннікаў Луі дэ Клермона, Пушкіна, Лермантава, Булгакава. Засталося толькі навучыць пісьменнікаў парыраваць выпады адно аднога, а лепей, не зважаць на іх увогуле.

Гэта інтэрв'ю — не слоўная дуэль. Хутчэй спроба аналізу празаікам Юрыем Станкевічам наяўнай літаратурнай сітуацыі, вынікаў прэміі Ежы Гедройца і пісьменніцкіх адносін.

Спадзяюся, полем бітвы не стане...

**Юрый Станкевіч (сапраўднае імя — Георгі Васільевіч Харытановіч, нарадзіўся ў 1949 годзе ў Барысаве) — беларускі празаік, драматург, сцэнарыст. З 1990 году — сябра Саюзу беларускіх пісьменнікаў. У літаратуры з 1988 года. Напісаў некалькі раманаў, шмат аповесцяў і апавяданняў, а таксама каля дзясятка п'ес і кінасцэнарыяў.**

**— Ці былі вынікі прэміі Ежы Гедройца непрадказальнымі? Чаму?**

— Не былі. Наадварот, паводле сваіх сціплых сэнсітыўных здольнасцей, я нашмат раней, расставіў імёны з лонг-ліста ў такім парадку, у якім яны і былі агучаны на цырымоніі. І выкінуў усё гэта з галавы.

**— Ці магло б штосьці змяніцца, калі журы даўжэй знаёміліся з намінантамі?**

— Нічога б не змянілася. Спачатку варта было б змяніць само журы. Яно павінна быць нейтральным. У нашым жа выпадку вызначыўся своеасаблівы кланчык, аброс чарговымі «сваячкамі», «казачкамі», як клетка пры мітозе. Далейшы лёс прэміі, калі не будзе радыкальных змен, прадвызначаны да Суднага дня.

**— Малгажата Бухалік (адзін з членаў журы прэміі) напісала артыкул, дзе пералічыла недахопы ўзнагароды. На ваш погляд, ці неабходна даць палякам магчымасць галасаваць на ўсіх этапах? Ці можа гэта паўплываць на вынікі?**

— Спадарыня Бухалік мае рацыю. Яе варта паважаць за разумныя прапановы. Польскія сябры выступілі фундатарамі, дык няхай яны, а магчыма, і ўдзельнікі апытанкі з Сеціва і вызначалі б пераможцаў. І падзялілі б прыз на тры часткі па алімпійскай сістэме. Калі яны ўлічаць гэта на будучыню, прэмія стане сумленнай і прэстыжнай. А паездку на семінар на Готланд, ці ва Ўроцлаў варта было б прапанаваць маладым, таленавітым літаратарам. І сумняваюся, што яе тады будуць прысуджаць, як трапна выказаўся крытык Зміцер Серабракоў з Бабруйска, «за некалькі гумарэсак у стылі расейскага блазна Петрасяна».

**— Якія плюсы і мінусы вы самі бачыце ў прэміі?**

— «Плюс» — гэта выкліканая ў грамадстве цікавасць да беларускамоўнай літаратуры. «Мінус» — у заангажаванасці беларускага, колькасна большага крыла журы.

**— Калі скласці ваш асабісты спіс пераможцаў, які ён будзе? Каму з кароткага спісу вы б уручылі прэмію?**

— Сяргею Балахонаву з Гомеля. А кланчык, між тым безсаромна адправіў яго да дому з драўлянай рамачкай. Калі б, напрыклад, Быкаў кіраваў ПЭН-цэнтрам, а Караткевіч — СБП, такога б ніколі не адбылося.

**— Вам была патрэбная перамога ў гэтым конкурсе? Патлумачце, калі ласка адказ...**

— Сама перамога важная для пісьменніка ў любым выпадку. У нашым свеце раскрутка персоны, часам, вызначае ўсё. Па апытаннях у Сеціве я быў другім, што сведчыць пра прыхільнасці чытачоў. І гэта галоўнае. Але я ўжо перайшоў той узрост і ўзровень, калі такім падзеям, як прэмія, аддаеш шмат ўвагі. З 15 гадоў я ў «людзях», сам зарабляў сабе на жыццё і здзівіць мяне ці пакрыўдзіць цяжка, бо саромецца мне няма чаго, а што такое чалавек, я і так даўно ведаю.

Тым не менш, варта выказацца пра некаторыя дзікія і хлуслівыя абвінавачванні ў мой адрас, мэтай якіх было справакаваць негатыўную рэакцыю ў чытачоў і журы. Рупарам выступіла вядомая блогерша ад літаратуры М. Мартысевіч.

**— Што ж ёй так не спадабаецца ў вашых кнігах?**

— Асабліва ёй «не ў масць» гераічны пачатак у прозе. Не толькі проста не падабаецца, а выклікае сапраўдную істэрыю. Можа, яна ніколі не чула, урэшце, не знаёмілася з міфамі старажытнай Грэцыі, Рыма, не чытала Стары Запавет, у якіх бушуюць жарсці і героі высвятляюць адносіны не ў гей-клубах, а на палях бітваў? Але ёй ненавісна гераічнае па духу.

Тое, што нам пагражае пераўвасабленне ў цывілізацыю гермафрадытаў — цалкам рэальна. Знішчэнне ў свядомасці гераічнага пачатку прыводзіць да ўздзеяння гомасексуальнай культуры, мыслення і форм паводзін на соцыум: дамы моды, шоу-бізнес, нацыянальную і міжнародную палітыку. Легітымізацыя гомасэксуалізму — толькі пачатак. Гэта разбурае гераічнае і становіцца трагічнай экзістэнцыяй мужчынскага і жаночага адзіноцтва.

Выкрыкі пачаліся яшчэ летась на асабістым блогу М. Мартысевіч. Яе чамусьці вельмі ўсхваляваў мой раман-антыўтопія «П'яўка». «Прачытала 75 старонак, не болей!» — аж заходзілася яна, часам збіваючыся на вульгарызмы.

Апанентка ўпарта імкнецца суаднесці мяне з сумна вядомым Брэйвікам. У мяне двойчы ў інтэрв'ю пыталіся пра яго. Ніколі, заўважу, не ўхваляў, наадварот — асуджаў яго ўчынак. Але, у так званай крымінальнай віктымалогіі ёсць вызначэнне негатыўных фактараў, за якія нясе адказнасць ахвяра, бо сама правакуе асобу на злачынства. У выпадку Брэйвіка ахвяра — гэта еўрапейскі ліберальны мультыкультуралізм. Ён і справакаваў. Калі праблему мігрантаў не вырашае дзяржава, то яе па-вар'яцку паспрабаваў вырашыць Брэйвік.

Няма сэнсу і часу прыводзіць усе абвінавачванні М. Мартысевіч. У іх яна (па-словах супрацоўнікаў газеты «Новы час») схавалася пад псеўданімам Гінзбург. Дарэмна асоба пляміць імя пісьменніцы Яўгеніі Гінзбург — маці Васіля Аксёнава, якая шмат пакутвала ў сталінскіх лагерах. Ёй больш падышоў бы псеўданім — Залкінд. Разалія Залкінд (Зямлячка) — буйная бальшавіцкая рэвалюцыянерка. Калі існуе такая з'ява, як рэінкарнацыя, то міжволі ўзнікаюць думкі, што душа Разаліі перасялілася ў «крытыкесу». Але ж час не той. Даводзіцца крэмзаць паперу, злоснічаць у блогах, зрэдку выдзіраць каму-небудзь валасы і г.д.

**— Мне падаецца, любая літаратурная прэмія суб'ектыўная. Хтосьці абірае пераможцаў па палітычных умовах, нехта па асабістых прыхільнасцях, нехта пад націскам іншых. Ці ведаеце вы замежныя літаратурныя прэміі, якія можна назваць справядлівымі і незалежнымі, якія адлюстроўваюць рэальную літаратурную сітуацыю?**

— У асноўным, справядлівая самая вядомая Нобелеўская прэмія па літаратуры. Абсалютна дакладна яна была прысуджана Кнуту Гамсуну, якога па таленту можна параўнаць з Дастаеўскім, Кіплінгу, Андрычу, Фолкнеру, Буніну, Камю, Салжаніцыну, Хэмінгуэю, Кэнзабуру Оэ. Але ж з іншага боку, даволі «мутнымі», на мой погляд, лаўрэатамі былі Пастарнак, Шолахаў, Шоінка, Памук, Елінек, Фо і многія іншыя.

Незаслужана абдзеленымі былі Леў Талстой, Юкіа Місіма, Эзра Паўнд, Скот Фіцджэральд, Луі Селін і г.д. Спіс даўгі.

Апошнім часам прэміі становяцца ўсё больш запалітызаванымі, часта прысуджаюцца па прынцыпах моды, геаграфіі, сацыяльнай паліткарэктнасці.

**— Што вымагае літаратараў высвятляць адносіны (звязаныя ў тым ліку і з літаратурнымі прэміямі) ў інтэрнэт-прасторы, пры ўсіх, а не асабіста, сам насам з апанентам?**

— Асабіста — гэта як? Дарэчы, было б цікава. Падобнае здаралася. У Іспаніі (ішла вайна) пад час застолля Хэмінгуэй запусціў піўной бутэлькай у галаву Іллі Эрэнбургу, пасля чаго канфлікт завяршыўся пад сталом. Ну а Сеціва — гэта ўвогуле нешта інфернальнае. Калі б, напрыклад, Кафка пабачыў такое, што б ён сказаў? Ён жа нават друкарскую машынку лічыў містычнай рэччу. Я, дарэчы, не здзіўлюся, калі высветліцца, што мы жывем у субматэрыі і самі — яе прадукт.

А ў Сеціве я адносіны прынцыпова ніколі не высвятляю і нават асабістага блога не вяду. Жыццё кароткае. Не пераводзіць жа яго на дурноту і сабачы перабрэх.

*Марыя ДУБРОЎСКАЯ*

■

## ПІСЬМЕННІЦА, ЖУРНАЛІСТ МАРЫЙКА МАРТЫСЕВІЧ

На мой погляд, адсутнасць глыбокага аналізу — трывалая традыцыя беларускай літаратуры апошніх гадоў васьмідзесяці. Традыцыю гэтую, я думаю, варта парушыць. Адсутнасьць аналізу, падмена яго кампліментарнай або выкрывальніцка-павучальнай эрзац-крытыкай вядзе да таго, што літаратурная іерархія сучаснай літаратуры Беларусі выбудоўваецца не паводле мастацкай вартасці твораў, а паводле іншых крытэраў. У выпадку са Станкевічам такі крытэр — ідэйныя перакананьні аўтара.

Маўчаць, не выказвацца супраць таго, з чым нязгодны, — гэта яшчэ адна мудрая і ўзважаная, правераная стагоддзямі традыцыя беларускай інтэлігенцыі, якую, на маю думку, варта парушыць. Тое, што піша ў сваёй прозе Станкевіч, я лічу сацыяльна небяспечным і пачуваюся абавязанай выказацца супраць прапаганды гвалту, абразы людзей паводле расавай прыналежнасці або сэксуальнай арыентацыі, прысутнай у творах Станкевіча. Раблю гэта звычайным для мяне спосабам — высьмейваю яе.

Да таго факту, што Юры Станкевіч можа зьвярнуцца ў суд, я стаўлюся станоўча па дзьвюх прычынах. Папершае, беларускае грамадства мае нізкую прававую культуру і не прызвычаілася бараніць свае правы, гонар і годнасьць публічна: у прэсе або ў судзе. Таму любы факт судовага разьбіральніцтва не праз грошы, а праз прынцыпы, па маім перакананьні, будзе сьведчыць пра прагрэс ў гэтым накірунку. Па-другое, калі Юрыю Станкевічу давядзецца даказваць у залі суда, што ён ня Брэйвік, — значыць, мае выказваньні дасягнулі мэты.

■

## ПІСЬМЕННІК, ДРАМАТУРГ, ЛІТАРАТУРАЗНАЎЦА ПЯТРО ВАСЮЧЭНКА

Я не знаходжу ў творах Ю. Станкевіча пацвярджэння гэтым папрокам (наяўнасці ў тэкстах прыкмет расізму, нацыяналізму, гомафобіі). Мушу заўважыць, пісьменнік — адмысловы майстар. Яго творы напісаныя ў жорсткім рэалізме і могуць пакідаць асадак. Тэксты Ю. Станкевіча створаныя ў жанры антыўтопіі з нядобрым фіналам, яны досыць змрочныя і песімістычныя. Але падстаў для такіх сур'ёзных абвінавачванняў вы не знойдзеце.

# (tabula rasa)

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ЧАКАЕ

Існуючае становішча рэчаў выявілася раніцай. У гэтым няма нічога дзіўнага, нават наадварот. Я памятаю не вельмі выразна. Цёплы малочны прыцемак стаяў над горадам. Навакольная прырода была попельна-шэрай і ледзь заўважнай воку. Стваралася ўражанне, што бляклыя крыніцы святла знаходзіліся на вялізнай адлегласці ад зямлі ў кожнай кропцы нябеснай сферы.

Верагодна, пераход да змяркання адбываўся паступова. У апошні звычайны дзень я вярнуўся дадому, падняўся ў кватэру, адчыніў вокны, закрыў жалюзі, паставіў музыку, наліў каньяк. Мне хацелася сцерці пераход паміж рэальным і ўяўным. У мяне зноў узнікла жаданне папрацаваць над рукапісам, знішчыць рэшткі ежы, запасы алкаголю, не выспацца як-небудзь.

Быў запушчаны сацыяльны штамп, які мае на ўвазе празмернае ўжыванне спіртнога, адсутнасць пастаяннага занятку і сутачнага раскладу. Усё гэта, відаць, была спроба растварыцца, стаць часткаю грамадскай думкі ці часткаю літаратурнага героя, што, аднак, у маім выпадку адно і тое ж.

Мне абавязкова хацелася сцерці ўсе пераходныя станы, але раніцай у нядзелю мне стала зразумела — нешта

здарылася. Вакол не было аніводнага гуку — поўная цішыня, поўны спакой. Хаця не, цішыня — так, спакой — яшчэ пытанне. Спакой можна лёгка пераблытаць з напружанасцю, як быццам перад выбухам, перад штормам.

* * *

Усё навокал было як быццам знаёмым. І паркі, і вуліцы, і дамы, і нават абсталяванне ў кватэры, але ў той жа час усё стала пустым, пазбаўленым каштоўнасці, бескарысным, старым. Стваралася адчуванне, быццам я знаходжуся ў кардонных дэкарацыях. Гэта адчуванне ўключала ў сябе і некаторае раздражненне на сябе самога — я ніяк не мог зразумець, што адбываецца навокал.




Я блукаў па пустынных вуліцах, сумных парках, закінутых і напаўразбураных дамах. Я быў адзін ва ўсім свеце. Пасля года блуканняў па вёсках і гарадах углыбіні мацерыка, дзе было дастаткова прадуктаў і рэчаў, я вырашыў трымацца акіяна. Ужо намнога пазней пасля таго, як я выйшаў да берага і трымаўся прыбярэжных тэрыторый, нязначна адхіляючыся ўглыбіню, мне стала не хапаць людзей. Мне хацелася пагаварыць, я паступова пачаў здагадвацца, што адбылося і, самае галоўнае, што адбываецца цяпер. Толькі доўгі час нікога не было.

Я выйшаў да акіяна восем месяцаў таму. Значыць, людзей я не бачыў два гады. Гэта многа, так дзіўна, раней я стараўся іх пазбягаць.

Я ўзышоў на пагорак. Паўночней, па левую руку, знаходзілася тэлевізійная вышка. Крыху далей на паўночны ўсход ішла берагавая лінія. Мне захацелася ўскараскацца на вышку і агледзець наваколле. Я апусціў погляд на падмурак вышкі. Пастаяўшы крыху, я лёг на зямлю і затым ціха спусціўся з пагорка. Там, каля падмурка вышкі, нехта быў! Нейкі чалавек. Я схаваўся за дрэвамі і сеў на зямлю. Ісці да яго ці абысці бокам? Мне хацелася бегчы туды, але я не мог падняцца на ногі. Магчыма, гэта ўсяго толькі галюцынацыі. Адкуль ён мог з'явіцца?

Я паглыбіўся ў лес, каб выйсці да таго месца па беразе. Лес аказаўся невялікім і хутка закончыўся. За лесам было чыгуначнае палатно. Я пайшоў уздоўж яго і праз нейкі час, як і чакаў, выйшаў да травяністага берага. Я не быў тут раней, і карціна, якая паўстала перада мной, уразіла мяне. Нават закружылася галава, немагчыма было ўявіць такое наяве.

Іржавыя рэйкі на старых драўляных шпалах, парослы травой насып чыгункі. Усё гэта павольна, нібы выгінаючыся ў пеністых хвалях, знікала пад вадой. Рэйкі, аднойчы сустрэўшы на сваім шляху перашкоду, чужую сваёй сутнасці, не пасаромеліся і ўвайшлі ў яе. Вельмі дзіўная карціна.

Я спыніўся. Сеў на траву каля самай вады. Чыгунка, якая сыходзіць у мора. Раўнамерны шум прыбою, такі рамантычны і разам з тым жорсткі і вечны, у гэтым месцы быў падзелены ржавымі жалязякамі і гнілымі шпаламі, якія дадавалі ў перыядычнае змяінае шыпенне пяску і вады свае ноты кропель і хлюпання.

Чыгунка, якая сыходзіць у мора, мяне ўражвала. Я забыўся на тое, куды ішоў і чаму апынуўся тут. Дзень заканчваўся, цяпер я быў упэўнены, што нікога не бачыў, бо я — апошні чалавек.

Раней існаваў мультыплікацыйны фільм. У асенні парк прыходзіў стары і гуляў сам насам у шахматы. Адзін ігрок, той, які гуляў белымі (ён прыносіў у парк шахматы), быў неўрастэнікам і ціхонем, другі, той, што гуляў чорнымі, — агрэсіўным і злосным. Мне падабаўся гэты фільм. Ён быў зроблены вельмі няблага — глядач заўсёды бачыў толькі аднаго старога, бо сапраўды быў толькі адзін стары, але чорны ігрок вельмі адрозніваўся ад белага іграка. Гэта было бачна з першых кадраў, а затым адрозненне паміж імі праяўлялася ўсё больш і больш. Чорны ігрок задаволена паціраў рукі і хіхікаў ад задавальнення, забіраючы фігуры, а белы ўсё больш сціскаў плечы і канфузіўся ад сваіх бязглуздых хадоў. Іронія рэжысёра мультфільма заключалася ў тым, што стары выйграў партыю ў шахматы. Стары, які гуляў белымі.

Я не магу дазволіць сабе раскошы, якая ёсць у мульцяшнага старога — гуляць сам-насам у шахматы. Гэтая раскоша дасяжная, калі чалавек знаходзіцца ў грамадстве, няхай нават і на паважнай адлегласці ад яго, — у вар'яцкім доме, у асобнай неправетрываемай кватэры, на лаўцы ў асеннім парку ці люднай вуліцы.




Я прачнуўся. Ён уважліва глядзеў на мяне.

— Не бойся, я не зраблю табе благога, — сказаў барадач замест прывітання.

— Добры дзень, я не баюся. Даўно ты тут?

— Толькі што прыйшоў. Ты глядзіш на мяне, быццам я прывід.

Сапраўды, падумаў я.

— Я раней нідзе цябе не сустракаў? — твар барадача здаўся мне вельмі знаёмым. Сустрэўшы яго ў натоўпе, я абавязкова б павітаўся з ім.

— Наўрад ці.

— Ты мне вельмі моцна кагосьці нагадваеш.

— Можа, ты проста даўно не бачыў людзей?

— Ты маеш рацыю.

— Такое, напэўна, здараецца. Калі доўга не бачыш людзей, усе сустрэчныя здаюцца знаёмымі, — вельмі спакойна сказаў барадач.

— І я здаюся табе знаёмым?

— Не, я не бачыў цябе раней.

— Тады ты жывеш не адзін, — здагадаўся я.

— Чаму ты так вырашыў? — насцярожыўся ён.

— Я не здаюся табе знаёмым, і, значыць, ты часта бачыш людзей.

— Лагічна, але гэта зусім не азначае, што людзі, якіх я часта бачу, жывуць разам са мной, — сказаў барадач.

— Так, а ўсё ж такі?

— Навошта гэтыя пытанні? Мы ж проста гутарым, — адказаў ён, прыжмурыўшы вочы.

— І маглі б праверыць тваю тэорыю.

— Я жыву адзін.

— Ладна. Я хацеў учора залезці на вышку, яна дзесьці недалёка. Ты не супраць?

Ён крыху памаўчаў, абдумваючы нешта.

— Калі ласка, — адвярнуўся ён, — Хадзем, праведу цябе.

Барадач спыніўся каля старой лодкі, а я накіраваўся да тэлевізійнай вышкі. Я адчуваў на сабе яго пільны погляд. Каля лодкі барадача, на пяску і траве, было раскідана многа разнастайных інструментаў. Крыху далей я заўважыў невялікую добра вытаптаную сцяжынку, якая ідзе ў лес.

З агляднай пляцоўкі вышкі адкрывалася мяркуемая карціна. З поўначы не было бачна берага, з паўднёвага ўсходу не было бачна вады.

— Што ты хацеў там убачыць? — зацікаўлена запытаўся ён, калі я спусціўся.

— Тое, што ўбачыў, — адказаў я.

— Геніяльны адказ.



— Дзякуй. Я люблю цікавыя гутаркі. Далей на поўнач не бачна берага, а ў супрацьлеглым баку не бачна вады, зрэшты, я адтуль прыйшоў. Ты бачыў рэйкі, якія сыходзяць у мора?

— Я цябе там і знайшоў.

— Памятаю, — адказаў я, — яны ўражваюць, праўда?

— Я прывык.

— Прывык? Да гэтага цяжка прывыкнуць! Гэта мяняе ўяўленне, гэта незвычайна і парадаксальна.

— Ты настолькі ўражаны?

— Я бачу адказ на сваё пытанне ў тым пейзажы, рэйках, якія сыходзяць у пеністае мора, — сказаў я і дастаў губны гармонік. Я паспрабаваў выканаць на ёй некалькі гудкоў цягніка, а затым працяглы гук парахода, але, мне здаецца, барадач не зразумеў мяне. Ён спрыяльна глянуў у мой бок, у яго руках з'явілася люлька. Барадач набіў люльку табакай, закурыў. Я пачуў прыемны і мяккі пах табакі.

— Сяброўка твая? — запытаўся ён, калі я схаваў гармонік і закурыў папіросу.

— Не, не зусім. Іграць я не ўмею, толькі спяваць, — проста так сказаў я. — Ты хочаш навучыцца вудзіць рыбу? Прылады ў цябе ёсць?

— Ты думаеш, гэтая лодка калі-небудзь зможа стаць на ваду? — спытаў барадач.

— Не ведаю, я нічога не разумею ў лодках, але, калі ты гэтага вельмі захочаш, мяркую, што так. У кожным выпадку, нішто не перашкаджае табе паспрабаваць — яна ці патоне, ці стане тваім крэйсерам.

— Мне засталося залатаць некалькі дзірак ды прыладзіць парус.

— Вось скажы, барадач. Табе хацелася даведацца, якім будзе жыццё чалавека ў будучым, пасля якой-небудзь глабальнай катастрофы? Ці не хацеў і ты хоць адным вокам убачыць такі свет?

— Свет пасля глабальнай катастрофы? А што такое катастрофа?

— Глабальная катастрофа, — удакладніў я... — гэта тое, што цяпер, напрыклад.

— Добры прыклад... гэта катастрофа? Ніколі так не лічыў.

— А што ж гэта, па-твойму? Людзей няма, клімат дзіўны, тэхналогій не засталося, гарады ў руінах...

— Усё правільна, але, калі ты гаворыш і думаеш пра планету Зямля ці нават пра Сусвет, ты павінен разумець, што гэта бясконцая адзінота, якая існуе незалежна ад таго, як

чалавек да яе ставіцца і ці існуе чалавек у прынцыпе? І калі свет пачынае гінуць, чалавек не будзе імкнуцца ратаваць яго з той прычыны, што яму проста не прыйдзе гэтае ў галаву. Ён схаваецца ў свой унутраны свет, спадзяючыся там знайсці апраўданне сваёй заўчаснай смерці, па збегу абставін, агульнай з мноствам іншых людзей, і маючы на ўвазе, што ва ўнутраным свеце, у гармоніі ўнутранага свету, і ёсць сэнс існавання. Чалавек хаваецца ва ўнутраны свет, да сваіх блізкіх і любімых, ці ў свае ўспаміны. Такімі паводзінамі ён прызнае, што не існуе агульнай мэты перад тварам пагібелі, што не існуе агульнай пагібелі, агульнай для ўсіх людзей, агульнай для ўсёй цывілізацыі.



— Гэта цікава, але гэта няпраўда. Ты перакульваеш паняцці. Блытаеш тэрміны, звязаныя з экалогіяй, геаграфіяй і сафістыкай, разбаўляючы іх філасофіяй і сентыменталізмамі. А я толькі кажу пра пагібель жыцця на Зямлі.

— Я жывы? Хутчэй за ўсё, так, бо я думаю, — адказаў барадач, — ты існуеш і я таксама, гэта дакладна, значыць, пра якую пагібель жыцця можна казаць? Філасофія надзвычай важная, ты гэта ведаеш, і не горш за мяне, — працягваў ён, — я не блытаю паняцці, я іх пераасэнсоўваю.

— Што тады катастрофа?

— Усё вельмі проста, калі можна гаварыць пра гэта проста... Катастрофа — гэта адыход каханага чалавека ці яго смерць. Гэта разбурэнне твайго жыцця. Смерць, ад якой ты не проста плачаш, а рвеш на сабе валасы, галосіш і робішся неадэкватным, пустэльнікам, выгнаннікам.

— Рэвалюцыі, войны, канфлікты дзяржаў і іншая сусветная мітусня катастрофамі не з’яўляюцца, — удакладніў я...

— Так, таму што свет рухаецца і жыве разам з імі, але, калі памірае дарагі і любімы чалавек, свет, просты свет, спыняе сваё існаванне. Спыняе сваё існаванне для цябе. Ты гаворыш, гэты свет ніколі не будзе ранейшым, але ён заўсёды быў ранейшым... заўсёды аднолькавым, жорсткім і добрым, падступным і адкрытым, населеным людзьмі і бязлюддзем.

— Калі твой свет спыняе сваё існаванне, табе няма куды ісці. Ты можаш толькі ратаваць цывілізацыю.

— Ну што ж, — рассмяяўся барадач, — ідзі, ратуй. Мне здаецца, ты цяпер якраз у такім настроі.

— Так. Дзякуй.

— Вось яшчэ што. Я ведаў дурняў, якія хацелі паглядзець на пагібель сучаснай цывілізацыі, як і ты, але ў сваіх фантазіях яны не заўважалі, што пагібель свету адбываецца кожнае імгненне і кожны дзень.

— О, я не хацеў гэта бачыць на свае вочы. Я быў пісьменнікам. Мне людзі былі патрэбныя, хоць я іх пазбягаў. А ты чым раней займаўся?

— Лекар, — абыякава адказаў ён.

— Лекар? Цудоўная прафесія. Я ў дзяцінстве хацеў стаць лекарам. Рады, што сустрэў цябе. Мне пачынала здавацца, што больш нікога няма. Не хочацца, каб гэта было так.

— Гэта не так.

— Праўда?

— Ну, вядома. Я і ты — гэта ўжо два чалавекі.

— Ну, добра. Я вось ведаеш, што падумаў?

— Не.

— Зразумела, не, — барадач прымусіў мяне ўсміхнуцца, — я падумаў, што я пісьменнік, які пасапраўднаму трапіў у літаратуру, разумееш?

— Не, — сказаў ён.

— Паглядзі, што б я ні напісаў, я заўсёды ствараў нешта. Фантастычнае апавяданне ці аповесць былі як бы штучнай рэальнасцю, а цяпер я сам у фантастычным апавяданні...

— Разумею.

— Я пісьменнік, а цяпер я ў рэальнасці і ўжо не пісьменнік, а літаратурны герой. Як і ты.

— Не, я не.

— Як хочаш. Я не наўмысна патрапіў у літаратуру.

— Я зразумеў, — усміхнуўся ён.

— Што скажаш?

— Табе, відаць, адзінока.

— Не. Мне было камфортна, пакуль я не сустрэў цябе.

— Прабач, — сур’ёзна сказаў барадач, — ты хочаш пайсці?

— Так. Толькі скажы мне, ты праўда жывеш адзін? — зноў запытаўся я.

— Адзін.

— А куды вядзе сцяжынка?

— У лес, — неахвотна адказаў ён. — Табе не варта туды хадзіць.

— Чаму?

Барадач рассмяяўся.

— Ты не чакаў сустрэць мяне, так жа?

— Так, я быў вельмі здзіўлены, калі прачнуўся ад твайго пільнага погляду, і нават не спужаўся.

— Усё правільна. А зараз ты чакаеш, што вельмі хутка сустрэнеш

некага яшчэ. Тваё чаканне вельмі цябе натхняе і цешыць. Ты проста спадзяешся... але там, у лесе, ты знойдзеш маю хаціну і няхітры скарб. Табе не спадабаецца, што там нікога няма, таму ідзі далей. Ты абавязкова кагосьці сустрэнеш.

— Зразумела. Тады мы проста не будзем развітвацца. Я перанaчую каля чыгункі, а раніцай пайду.

Ён паглядзеў на мяне.

— Будзь асцярожны.

Я сядзеў вельмі доўга і глядзеў на ваду, чакаў. Менавіта ў чаканні чалавек знаходзіцца ў падвіслым стане, і ён рэдка бывае радасным, калі толькі чалавек, які чакае, не збіраецца адправіцца ў падарожжа.

Марскі прыбой абмываў пясок і камяні, біўся аб метал чыгункі. Чалавек, які ідзе, чалавек, які чакае, рана ці позна ўпрэцца ў такую перашкоду. Далейшы шлях магчымы, ён з'яўляецца наступным этапам, і, каб здзейсніць яго, патрабуецца новы сродак перамяшчэння, іншы падыход.

Я зразумеў, што рабіць далей. Перада мной адкрываўся новы гарызонт, нязведаная вобласць адкрыццяў, не вывучаная мною вобласць чакання. Чакання новага, вобласць здабыцця сэнсу майго існавання тут, у адзінокім свеце, у свеце, які, верагодна, гіне. Рэйкі — гэта метафара прадвырашанасці, бо ўсё жыццё ідзе па рэйках, але тут, у гэтым месцы, дзе рэйкі, павольна выгінаючыся, паглынаюцца вадой, я зразумеў, што менавіта гэта і толькі гэта — новая перспектыва, працяг блуканняў і пошукаў, новае чаканне. Гэта шанец працягнуць свет апошняга чалавека.

Падняўшыся, я яшчэ раз паглядзеў на ваду і далягляд, развярнуўся і накіраваўся прэч ад вады, пешшу ўздоўж чыгункі.

Праз два тыдні я апынуўся на супрацьлеглым беразе, дзе рэйкі выходзілі з вады. Гэтая акалічнасць азначала прамежкавы фініш маіх блуканняў, кропку, у якой мае жаданыя асцярогі цалкам сцвердзіліся.

Я знаходзіўся на выспе, і гэта не стала для мяне нечаканасцю. Клімат змяніўся даволі даўно, і ў паветры пастаянна адчуваўся пах солі і водарасцяў, пах акіяна. Вада хутка паглынала калісьці вялікі мацярык, змятаючы на сваім шляху ўсялякія ілюзіі пра вяртанне да ранейшага парадку рэчаў.

Я не засмучаўся, бо цяпер не заставалася месца бадзянням. Мне была патрэбная выразная карцінка са строгай атрыбутыкай. Лакаматыў, рабочае чыгуначнае палатно да самага берага, і самае галоўнае — судна. Вялікае, прыгожае, рабочае.

Знайсці стары рачны порт не склала вялікай працы. Пляцоўка, на якой я апынуўся, была асфальтаванай, вакол размяшчаліся краны судаверфаў.

Усе прыгатаванні скончаны, судна гатовае да транспарціроўкі. Засталося толькі разабрацца з кіраваннем лакаматыва, а затым перачапіць састаў, каб платформа з караблём апынулася спераду.

Я замацаваў судна на платформе і залез у кабіну машыніста. Лакаматыў зрушыўся з месца.

Каму я расказваю? Навошта ўспамінаю? Такое адчуванне, што рукапіс завіс у паветры, на паўшляху ад напісаных літар да вачэй, якія чытаюць. Літары і словы танчаць, гэта танец сэнсу і бессэнсоўнасці менавіта перад вачыма, як толькі я адарву погляд ад рукапісу і пагляджу за вакно.

Барадач мае рацыю. Адзінота — гэта не абавязкова катастрофа, у якой загінулі ўсе людзі, акрамя мяне. Пры страце кахання, а маецца на ўвазе страта, як страчаная ў глыбіні ракі манета, страта, якая прыходзіць нечакана і раз і назаўсёды, прыходзіць абсалютная адзінота, якая, я спадзяюся, не можа доўжыцца вечна.

Напружанасць такой адзіноты, чаканне сэнсу і смерці ў такой адзіноце, у рэшце рэшт, замкнёнасць адзінокага аб'екта прывядзе да таго, што аб'екта не стане. Застанецца толькі адзінота, у якой раствораны, нават знішчаны, чалавек, які верыць вечнаму каханню і аднаму варыянту наканавання. Абсалютную адзіноту немагчыма ўявіць. Такая адзінота ў прынцыпе невядомая. Пра яе нельга расказаць, не парушыўшы яе. Яе нельга апісаць з-за яе самой, яе можна толькі перарваць. Перарваць абсалютную адзіноту.

Я спыніў свой маленькі састаў каля самай вады і вызваліў прымацаванне лодкі да платформы. Зняўшы чаравікі і штаны, я ўстаў на рэйкі і павольна пачаў заходзіць у халодную ваду, захоўваючы раўнавагу на слізкіх, пакрытых дробнымі водарасцямі шпалах. Зусім недалёка ад берага глыбіня рэзка павялічылася, я зрабіў крок і з галавой схаваўся пад ваду.

Тут дастаткова глыбока. Я выйшаў з вады і залез у лакаматыў. Адагнаўшы яго назад, я націснуў на тормаз.

Праз паўгадзіны катар стаяў на вадзе, а я глядзеў, як мой маленькі састаў, платформа і лакаматыў апускаліся на дно. За некалькі хвілінаў ад іх засталіся толькі масляныя плямы на вадзе. Я ўсміхнуўся і задаволена пацёр рукі. Мяне апанавала хваляванне і радасная ўзрушанасць. Я скакаў і смяяўся, смяяўся, як дзіця, нарабіўшы шкоды, за якую яго не пахваляць. Я быў задаволены.

Крыху далей стаяла невялікая лодка, але барадача побач не было. Я знайшоў яго сцяжынку і паглыбіўся ў лес. На наступны дзень я знайшоў яго.

Барадач сядзеў каля вогнішча і паліў. Прыемны і мяккі пах табакі змешваўся з пахам вогнішча. Ён чуў крокі і здагадваўся, хто ідзе да іх. Побач з ім стаяла маладая жанчына. Бледная, з акуратна сабранымі ў хвосцік светла-каштанавымі валасамі, у простай доўгай сукенцы. Барадач глядзеў на яе, яна пазірала на агонь.

— Паслухай, я раней нідзе цябе не сустракаў? — спытаў я замест прывітання.

Ледзь заўважная ўсмешка прамільгнула на іх тварах. Мы, хутчэй за ўсё, бачыліся не другі раз.

— Было, — сказаў ён, — толькі выглядаў ты лепш. Прызнаюся, я быў упэўнены, што ты не проста так побач праходзіў.

— І ўсё ж ты жывеш не адзін.

— Ты маеш рацыю. Не адзін.

Дзяўчына паглядзела на мяне і павіталася. Яна была прыгожая.

— Адкуль ідзеш, куды накіроўваешся? — запытаўся барадач.

Якое глупства, падумаў я.

— Цікавае пытанне, табе не здаецца?

— Вядома, інакш навошта мне пытацца? — сур'ёзна сказаў ён.

— Сапраўды.

Барадач рассмяяўся.

— Я чакаю адказу, — рэзка і ўладна сказаў ён, — чакаю яго ад цябе.

— Барадач, ты даўно адыходзіў ад свайго жытла?

— Не.

— Далёка адыходзіў? — спытаў я, — зрэшты, наўрад ці. Таму што, калі б ты вывучыў ваколіцы, кіламетраў за сорак адсюль, ты б зразумеў, што пытацца, адкуль я прыйшоў, неразумна. Вельмі неразумна.

— Што гэта значыць?

— Гэта значыць, што мы з усіх бакоў абкружаны вадой. І я, і ты, і яна — знаходзімся на выспе, і яна, барадач, яна, якая калісьці была мацерыком, з кожным днём робіцца ўсё меншай і меншай.

Ён маўчаў.

— І тваё дзіравае карыта, лодка, якую ты спрабаваў зрабіць, цябе не выратуе ад стыхіі, якая набліжаецца.

— Я ведаю, — стомлена адказаў ён, — як цябе завуць?

Я сеў на траву каля вогнішча і прыкурыў цыгарэту ад вогнішча.

— Мяне завуць Раман, — сказаў я.

— Раман, ты думаеш, больш няма выспаў?

— Павінны быць, — адказаў я, — ты ведаеш пра рачны порт?

— Так, — здзівіўся ён, — але ён далёка.

— Ты маеш рацыю, барадач. Ён далёка, але нам туды не трэба. Я ўжо прывёз судна. Выбіраў найбольш функцыянальнае. З вялікім трумам, прыгожым капітанскім мосцікам і парусам. Праўда, з парусам ёсць цяжкасці — я не зусім упэўнены, што ведаю, як хадзіць пад ім. Ты калі-небудзь хадзіў пад парусам?

Барадач доўга маўчаў.

— Ты хадзіў пад парусам, барадач?

— Не, — сказаў ён, — колькі ў нас часу?

— У нас яго няма, але нам і не патрэбны час.

— Навошта табе транспарціраваць судна па сушы да гэтага берага?

— Не зразумеў?

— Бо яго можна было паставіць на ваду і там, у порце.

— Мне хацелася пабыць трошкі машыністам. Гэта была апошняя магчымасць.

— Хлусіш, — сарваўся ён, — ты ж мог спакойна дачакацца прыліву і там.

— Усё маё жыццё, барадач, — суцэльнае чаканне. Раней я толькі і рабіў, што чакаў. Чакаў, але не ведаў, чаго.

Ён так жа рэзка супакоіўся і падкінуў дроў у агонь.

— Я табе растлумачу, — сказаў я, — мне даўно хацелася пра гэта з кімсьці пагутарыць.

— У нас ёсць на гэта час?

— Так, вядома. Чаканне, ці то проста адрэзак часу перад спатканнем, ці то дзень перад ад'ездам, скоўвае маю сутнасць і душыць волю — я проста чакаю, адкладваю ўсе важныя і, здавалася б, неадкладныя справы. Маё чаканне — гэта назіранне за

ходам часу, але стрэлка гадзінніка з кожным імгненнем чакання ўсё павольней і павольней адлічвае адрэзкі да прызначанай падзеі. А затым і зусім спыняецца — і тады я апускаюся ў поўнае чаканне, у часовую пустэчу, нічым не запоўненую: ні падрыхтоўкай, ні думкамі, ні дзеяннямі. Нічым. Скажу табе, гэта жудасна вымотвае, і я стараюся наблізіць прызначаны час, скараціць чаканне. Я перастаўляю рэчы перад выхадам з дому, здзяйсняю шпацыр ў чаканні сустрэчы, ужываю алкаголь увечары, марнуючы час да наступнага дня.

У гэтым бессэнсоўным дзеянні час крыху паскараецца, дакладней, зноў пачынае свой бег, але вельмі марудна, быццам кпіць з мяне. Час дэманструе мне сваю непастаянную сутнасць. Непастаянная сутнасць часу. Які цудоўны жарт.

— Мы пастараемся хутка да цябе прыйсці, — перапыніў барадач.

— О, гэта не важна. Я не магу выносіць нават самага простага і кароткага чакання: напрыклад, пачакаць аўтобусны маршрут, сустрэцца са знаёмымі, прыступіць да працы. Мая асаблівасць заключаецца ў дачасным надыходзе падзеі, я ўваходжу ў стан узбуджэння ці творчай актыўнасці адначасна — адразу пасля таго, як нейкая ідэя прыйшла мне да галавы. Я не ўлічваю час. Час мне перашкаджае, як быццам я матылёк, які жыве толькі адну ноч. Час адцягвае маю ўвагу. Маё чаканне абсалютна пустое, верагодна, у гэтым хаваецца разгадка пакутаў.

Я пусты чалавек, і запоўніць чалавечае жыццё, жыццё чакання не магу. Я пастаянна губляю сэнс жыцця, сэнс усялякага дзеяння, якое распушанае ў часе. Сутнасць усіх маіх дзеянняў падзяляецца на час, а час — ён бясконцы, і вынік, атрыманы ад такой простай матэматычнай аперацыі, аперацыі дзялення сутнасці на час, імкнецца да нуля.

— О, матэматыка, выдатна! — усклікнуў ён.

— Менавіта! Матэматыка. Для мяне чаканне — прастора на чыстым аркушы паперы. Я малюю кола, стаўлю на ім подпіс — чалавечае жыццё. Затым я праводжу яшчэ адно кола, крыху большае за кола чалавечага жыцця, і малюю яго так, каб першае кола трапляла ў кола другое. Кола другое я называю чаканнем. Усё маё жыццё — чаканне, вось што значыць гэты малюнак. Чаканне шчасця, чаканне творчасці, чаканне кахання, чаканне смерці. Хаця не... я не чакаю смерці, гэта надзвычай банальна, нават смешна — чакаць смерць. Усе мае памкненні, кожныя мае памкненні не выходзяць за межы ўсяго толькі адной маленькай кропкі, кропкі перспектывы. Усе дзеянні, усе намеры, усе сэнсы чалавечай дзейнасці — у кропцы перспектывы. Я ствараю ідэю і чакаю яе рэалізацыі. Але далей...

— Тады навошта ты прыйшоў за намі? Што ты хочаш атрымаць?

— Узамен?

— Узамен? — перапытаў барадач. — Не, што ты хочаш атрымаць, чаму ты ўсё ж чакаеш нас?

— У цябе маладая жанчына, — сказаў я.

Ён сядзеў спакойна.

— Ты не ведаў пра яе, калі ішоў сюды.

— Ты маеш рацыю.

— Дык у чым справа?

— Я заўсёды нечага чакаю. Падабаецца мне гэта ці не. Бо я, здаецца, растлумачыў. Можа быць, я чакаю нечага ад цябе.

— Зразумела.

— Дзякуй.

— Ты разумееш, што я не магу табе давяраць?

— Так. У цябе знойдзецца месца, дзе можна замкнуць мяне да раніцы? — спытаў я. — Зачыні мяне, а раніцай я адпраўлюся на бераг. Я буду чакаць вас тыдзень.

— А потым што?

— А потым я не буду вас чакаць.

— А ты зможаш?

— Паглядзім. У цябе ёсць спіртное?

— Навошта яно табе?

— Ну, мабыць, — рассмяяўся я, — алкаголь — з'ява сацыяльная. Ва ўсякім разе, прычыны не ў асобе, а ў спосабе ўзаемадзеяння з рэчаіснасцю, у якой існуюць людзі.

— Я прынясу, — сказала дзяўчына.

— Як цябе завуць?

— Лора.

Ён замкнуў мяне ў маленькім хляву, які размяшчаўся крыху ў баку ад яго жылля. Лора прынесла мне бутыль нейкай настойкі, паставіла яе і пайшла.

Раніцай яна прынесла мне крыху ежы. У яе былі прыгожыя светлыя валасы і ружавінкі на шчоках, ад учарашняй бледнасці не засталося следу. Я выйшаў з хлева. Барадача нідзе не было, я не стаў яго чакаць.

Цёплы малочны прыцемак стаяў над морам. Я сядзеў на беразе і

кідаў каменьчыкі ў ваду. Павольны занятак, сядзець на траве і кідаць каменьчыкі. Вецер прыемна абвівае твар і развявае валасы. Мне не падабалася, што тэлевізійная вышка стаяла на самым беразе. Яна парушала далягляд.

Я чуў крокі, яны набліжаліся. Я здагадваўся пра тое, хто ідзе да мяне.

— Вы спазніліся, — сказаў я, не паварочваючыся.

— Табе здаецца, — сказаў барадач.

— У нас мала часу.

— Што трэба рабіць?

— Нічога.

— І ўсё ж дзіўна.

— Што менавіта? — спытаў я.

— Не так усё павінна было здарыцца, ненатуральна гэта. Нармальны клімат. Толькі акіян, і няма людзей. Не магу зразумець, — сказаў барадач, гледзячы на ваду.

— Пакінь. Табе ж было нецікава.

— Я падмануў, мне цікава.

— Я не ведаю адказу, — прызнаўся я. — Мяне прыцягваюць гэтыя рэйкі. Ты слухаў мяне? Паглядзі і запомні гэта ў сваёй карцінцы пра наш свет.

— Навошта?

— Вось усё ў цябе навошта. Незвычайнае месца, і глыбокае вельмі, я тут ледзь не патануў, хаця менавіта яно наштурхнула мяне на думку пра далейшыя дзеянні.

Сядай вось тут, на рэйкі, будзем удваіх каля мора сядзець — прыгожы фотаздымак атрымаўся б. Ты такі барадаты, моцны, проста сапраўдны Адам, зараз яшчэ люльку закурыш. У цябе няма фотаапарата?

— Не.

У мяне таксама няма. Шкада. Вось з той кропкі каля лесу можна было б зрабіць здымак — сілуэты, мора, рэйкі. Будзем як на чыгуначнай станцыі — шмат паліць і цягнік чакаць.

Лора зняла сукенку, агаліўшы сваё цела, і ўвайшла ў ваду.

— Хоча выкупацца. Думае, што хутка вада будзе паўсюль.

— Прыгожая дзяўчына. Яе твар здаецца мне знаёмым.

— Табе і я здаюся знаёмым — усміхнуўся барадач.

— Так, але ў яе адносінах я амаль упэўнены.

Барадач паспрабаваў адшукаць люльку.

— Здаецца, я пакінуў яе. Трэба і закурыць на дарожку.

— Каля дома?

— Не, каля лодкі, — адказаў барадач, падымаючыся.

— Пачакай, я схаджу.



Незнаёмец, барадач, малады чалавек, лішні чалавек. Проста мужчына, іншаземец, дзяўчына, жанчына, маё каханне. Надзвычай расплывістыя характарыстыкі, няясныя прыкметы. Усе гэтыя персоны хаваюць у сабе загадку. Трэба быць вельмі асцярожным з падобнымі катэгорыямі, яны могуць нечакана раскрыцца і стаць канкрэтнымі, адназначнымі. Незнаёмец стане лішнім чалавекам, проста мужчына — прахадзімцам, барадач паголіць бараду, а малады чалавек пастарэе, іншаземец вернецца на радзіму, дзяўчына стане жанчынай.

Я ішоў уздоўж берагавой лініі і глядзеў на тэлефонную вышку. Прайшло зусім няшмат часу, а бераг ужо падабраўся да яе. На перакуленай лодцы ляжала металічная, злёгку пакрытая іржой, скрынка.

Я ўзяў скрынку і паглядзеў на мора. На спакойнай, цёмна-сіняй роўнядзі, упэўнена рассякаў люстра вады цёмны катар з сабранымі парусамі. Ледзь адрозны скрозь туман, барадач стаяў на капітанскім мосціку.

Я сеў на лодку і адчыніў металічную скрыначку. Забіўшы люльку табакай, я раскурыў яе, і да мора дадаўся прыемны, духмяны пах, калі вецер схаваўся ў тумане.

Калі ў яго скончыцца паліва, ён падыме парус. Я глядзеў на травяны дыван пляжа, і мне вельмі хацелася, каб гэта быў дробны пляжны пясок. І дзяўчына на пляжы. У блакітным купальніку са светла-русымі, яшчэ мокрымі пасля купання, доўгімі валасамі.

Але замест пяску была жорсткая трава, і шум прыбою гучаў інакш. Зараз ён быў пагрозай, замахам на маю ціхамірнасць, наступленнем на травяны пляж.

Я перакуліў старую лодку, якая служыла калісьці рыбакам, і агледзеў яе. На дне я заўважыў некалькі зламаных дошак, якія цалкам можна было адрамантаваць. Я пачаў рамантаваць лодку. Лора не спяшаючыся ішла па беразе, на хаду выціраючы валасы.

Кола замкнулася. Стары вярнуўся ў парк і зноў расстаўляе шахматныя фігуры ў другім і сёмым радзе. У чаканні спачатку чорныя, потым белыя, я ўпэўнены, нічога не пераблытаў.

* * *

Я падняўся рана, яшчэ да ўзыходу сонца. Мне трэба адшукаць некалькі

добрых дошак і смалу, каб адрамантаваць лодку. Я адправіўся на пошукі. Недалёка ад таго месца, дзе рэйкі ўваходзілі ў ваду (дзіўная карціна!), на траве, на ўскрайку леса, ляжаў чалавек. Ён спаў. Я падышоў да яго. Ён прачнуўся.

— Не бойся, я не зраблю табе благога, — сказаў я замест прывітання.

— Добры дзень, я не баюся. Даўно ты тут? — адказаў незнаёмец.

Усялякі чалавек, якога мы, сустрэўшы на вуліцы, хочам ахарактарызаваць ці хаця б апісаць яго знешнасць, з'яўляецца для нас незнаёмцам. Чалавек у акулярах, які крочыць насустрач — незнаёмец, невысокі важны бландзін у гарнітуры — незнаёмец, мужчына з густой шавялюрай і барадой — незнаёмец. Незнаёмец, хаця і барадач.

— Толькі што прыйшоў. Ты глядзіш на мяне, быццам я прывід.

*Красавік 2005 —*
*верасень 2012 г.*

■

**Аляксей ХАРУЖКА** нарадзіўся ў 1982 годзе ў Мінску. У 2004 скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, у тым жа годзе паступіў у Беларускі Калегіюм на аддзяленне «Філасофія / літаратура». Праз год, у 2005, паступіў на беларускае завочнае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ, якое скончыў у 2011 годзе. Піша з 2004 г. Першае апавяданне «Адзінота» надрукавана ў часопісе «Паміж» №4. Займаецца выдавецкай і кансалтынгавай дзейнасцю, альпінізмам.



Кацярына ШЧАСНАЯ

## ВЕРШЫ

* * *

Ты ідзеш па вагоне
Дзяўчына без рукі
І не хапаеш турнікет,
Бо моцная.
А яму пераступіць лесвіцу —
подзвіг балючы.
Але наперадзе — уступны экзамен,
Бо мара.
На тваім твары вогенны апёк:
Аплявуха дзяцінства.
А ты купіў ружу,
Бо рыцар.
А я лячуся ад вечнага юнацтва,
Перхаці ў вачах
і боязі заўтра
Кажуць: ёсць надзея.

* * *

Калі зацвітуць каштаны,
Мы пойдзем запальваць іх свечкі,
Убачым — імёнаў насечкі
Ужо зажылі. І раны.

* * *

Ты будзеш казаць, што няма фей
Ды і сам, аднак, не чарадзей,
І Дзед Мароз ляжыць ў куце
З бутэлькай і пылам у барадзе.
А як толькі дакажаш гэта,
У думках замовіш карэту,
Плюс усё, што пасля танцаў,
І ціха шчоўкнеш пальцамі.

* * *

У кутках вачэй тваіх
Павуцінкі,
Узоры цацачнай скрынкі,
Дзе леў і лісіца
Надумалі біцца
У карты.
Каханне на кану —
Не жарты.



* * *

Разбудзі мяне восенню,
Калі падлічаны подзвігі,
Раскладзены па зборніках
Летнія фоткі.

Палічым хрумсткія яблыкі,
Рады агуркоў марынаваных,
Вартасць працэнта прыбытку
І што мы праспалі.

Пралесак шчочкі тонкія,
Вечар белы, ваду ў іскрах...
Восенню ранак такі доўгі...
А зіма? Ці будзе?

**Кацярына ШЧАСНАЯ**, нарадзілася ў 1984 г. у г. Баранавічы. У 2007 г. скончыла БДПУ імя Максіма Танка, факультэт беларускай філалогіі і культуры. Паспела паспрабаваць сябе ў якасці журналіста і педагога. Зараз працуе ў Нацыянальнай акадэміі навук, займаецца даследаваннем сучаснай беларускай мовы. Літаратурныя творы друкавала ў часопісах «Бярозка», «Маладосць».

# ВЕРШЫ

* * *

У маіх марах
Так мала з майго жыцця,
У іх няма на падлозе смецця.
Не палохайся,
Чуеш, як б'ецца сэрца?
Гэта значыць,
Я сёння яшчэ твая.

Як вада,
Скрозь далоні ўсе пачуцці...
Гэтак трэба.
Нягледзячы на кінастужкі,
Непазбежна па восені знікнуць птушкі.
У хуткім часе
Мне будзе трэба сысці.

*Жнівень 2010*

## ХАЛОДНА

Табе халодна?—
Мне таксама.
Але верагодна
Я палюблю гэту восень.

І не за тое,
Самотнае,
Што колькі год
Не мінае.

Але

Зноў спрадвечнае
Жаданне большага
І непахіснае
Уздзеянне прознага.

І толькі
Можа быць
І, ці магчыма?

Я не шукаю мар —
Іх не пражыць.

*Лістапад 2009*

* * *

Давай, як раней,
Уголас
Аб дробязях
Пра пустое,
Пра дрэнны настрой,
Надвор’е,
Пра мары пабачыць мора,
Пра тое,
Як толькі учора
Нам часу было зашмат...

Давай прыгадаем момант
Амаль незнаёмых, нас,
Адзін да аднаго падобных,
Як кроплі віна.
Жывых.

Давай, як раней,
Хоць што-небудзь
Удваіх.

*Снежань 2012*

■

**Алена ЛЕРНОВА** (сапраўднае імя Ірына Пушкіна) нарадзілася ў 1990г. у г. Мінску. Навучаецца у БНТУ па спецыяльнасці «Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва». Друкуецца ўпершыню.



# (бела-рушчына)

■

Георгій БАРТАШ

# ДЭМАГАГІЧНЫЯ ПРЫЁМЫ Ў АРТЫКУЛЕ М. ЮЖЫКА «ТЭХНАЛОГІЯ ПАЭТЫЧНАГА ВЫЧУВАННЯ»[1]

## 1. ПРЫНЦЭСЫ НЕ КАКАЮЦЬ, А ДЖЭНТЛЬМЕНЫ НЕ ПЛЯТКАРАЦЬ

Наконт прынцэс не ўпэўнены (не бачыў, не пытаў, не абмяркоўваў), а вось наконт джэнтльменаў упэўнены на сто адсоткаў.

Сп. Южык пачынае свой крытычны агляд кнігі Марыйкі Мартысевіч «Амбасада» з дзяжурнага камплімента, за якім ідзе шматзначны пасаж: *«доўгае сяброўства з паэтам Андрэем Хадановічам, а таксама ўласныя эпатажныя паводзіны даюць падставу многім у беларускай літаратурнай прасторы ўспрымаць яе не вельмі сур'ёзна».*

Паколькі сп. Южыку здаецца, што ён яшчэ не ўсё сказаў, то далей ён вінаваціць Марыйку ў тым, што яна ўмацоўвае несур'ёзны імідж і распыляецца «па прычыне лішку маладых сілаў на справы, якія толькі адбіраюць у яе энергію, а не мацуюць імідж паэткі і творцы».

Мае пытанні могуць здацца наіўнымі, але тым не менш:

1) З якога часу сяброўства з А. Хадановічам дае падставы ўспрымаць чалавека несур'ёзна?

2) З якога часу добрым тонам лічыцца пачынаць аналіз літаратурных твораў з аналізу паводзін аўтара ў невядомых сітуацыях адносна неназваных персанажаў, з манерных бабскіх намёкаў на «паводзіны» і «справы»?

3) Што такога ведае Южык з біяграфіі Мартысевіч, чаго не ведаем мы ўсе? На што ён так цьмяна, шматзначна і настойліва намякае? Магчыма, на тое, што за апошнія пяць гадоў Марыйка выдала дзве ўласныя паэтычныя кнігі, адрэдагавала шэсць кніг іншых аўтараў, пераклала тры раманы і некалькі дзясяткаў вершаў; неаднаразова прадстаўляла беларускую паэзію на міжнародных фэстах, сама ўдзельнічала ў арганізацыі 3 фэстаў маладых літаратараў і г. д. і да т. п.?

Калі ж сп. Южык мае на ўвазе якія-небудзь акалічнасці прыватнага жыцця М. Мартысевіч, дык якое гэта мае дачыненне да «прафесійнага, аналітычнага артыкула», які ён сам нам абяцае напачатку сваёй выдатнай працы?

Для тых, хто не ведае: у дадзеным выпадку сп. Южык выкарыстоўвае дэмагагічны прыём «абвінавачванне ў неэтычнасці», з дапамогай якога ён спрабуе дыскрэдытаваць М. Мартысевіч яшчэ да таго, як пяройдзе ўласна да яе вершаў.

З прычыны браку больш сур'ёзных довадаў, сп. Южык закідае аўтарцы тое, што яна заве сябе «Марыйкай». Крытык не заўважыў, што кніга «Амбсада» падпісана імем «Марыя Мартысевіч»? Ці ён мяркуе, што задача літаратуразнаўца ў тым, каб раіць аўтарам, якім імем карыстацца ў цесных колах?

І, дарэчы, што думае сп. Южык пра такія спецыфічныя літаратурныя псеўданімы, як «Цётка» і «Максім Танк»?

## 2. КЛОН ЦІ НЕ КЛОН?

Мастацкая і чалавечая блізкасць Андрэя Хадановіча і Марыі Мартысевіч уяўляе для крытыка Южыка нейкую асабістую праблему — мяркуючы па тым, што ў тэксце з шасці абзацаў ён згадвае гэта тройчы.

Спачатку крытык паведамляе зацікаўленаму чытачу пра тое,

[1] Ад рэд.: У «Тэкстах» (№ 2) быў змешчаны артыкул Міхася Южыка «Тэхналогія паэтычнага вычування», дзе аўтар разглядаў паэтычныя кнігі беларускіх паэтаў, у тым ліку і кнігу Марыі Мартысевіч «Амбасада» (Мінск: Кнігазбор, 2011). Вынікам публікацыі сталася вострая палеміка, ў якую ўвязаўся і Георгій Барташ.

што ў яго *«міжволі круціцца на языку вызначэнне «чарговы клон Хадановіча»»*. Далей ён сам сябе аспрэчвае: *«І хоць гэта не так»*. Затым ідзе трагічнае *«але»* і кода: *«асоба яе сябра і паплечніка па літаратурных выступах і дзеях не магла не паўплываць на спн. Мартысевіч»*.

Праз некаторы час, не маючы сіл адмовіцца ад ўлюбёнай тэзы, сп. Южык паўтарае, што *«сапраўднае адштурхоўвае (Марыйку) ў хадановічаўскі сцёб і ў гульню сэнсамі»*.

Як вы думаеце, калі пра кагосьці паслядоўна сказаць:

а) некаторыя сцвярджаюць, што Іваноў злодзей;

б) я, вядома ж, з гэтым не згодзен;

у) хоць імя Іванова ўвесь час згадваецца ў сувязі з карупцыйнымі скандаламі; дык што ў выніку чытач падумае пра Іванова? Зразумела што! Вось менавіта гэты прыём ускоснага абвінавачвання і выкарыстоўвае сп. Южык. У прастамоўі гэты прыём называецца «наводить тень на плетень».

Можа, сп. Южык спаймаў Марыйку Мартысевіч на прамым запазычванні ў свайго настаўніка сюжэтаў, выяў, вершаваных тропаў?

Прачытаў, супаставіў, падлічыў, забяспечыў цытатамі, можа даказаць? Не, вядома. Замест гэтага цьмяныя намёкі на «ўплыў асобы», які ён, мяркуючы па ўсім, так моцна адчувае нутром, што няма патрэбы аргументаваць.

## 3. ПРА БЕДНЫ БЕЛАРУСКІ ПОСТМАДЭРНІЗМ ЗАКІНЬЦЕ СЛОЎКА

Адносіны сп. Южыка з постмадэрнізмам Мартысевіч нагадваюць мне цяжкасці рабочага-пяцідзясятніка з прыгажуняй — дачкой кулака, якая ўпарціцца і не жадае ісці ў калгас. Але Южык не губляе надзеі на тое, што Марыйка раздумаецца, пасталее і зліецца з лініяй партыі.

Хацелася б ведаць, з якога часу (ці з чыёй лёгкай рукі і цяжкага розуму) постмадэрнізм стаў лаянкавым словам і ганебным кірункам? Куды сп. Южык і яго меркаваныя паплечнікі засунуць гісторыю сусветнай літаратуры другой паловы XX — пачатку XXI ст.? Куды яны падзенуць Рабле, Свіфта, Дуніна-Марцінкевіча, Гогаля, Салтыкова-Шчадрына, якія заклалі традыцыю парадыравання, высмейвання, «гульні з сэнсамі»? Або, можа, «Шляхціч Завальня» — гэта аўтэнтычнае ўзнаўленне фальклору, а не яго іранічнае асэнсаванне? Ці, можа, «Чорнызамак Альшанскі» — гэта не іранічная алюзія на гатычны раман і крымінальныя апавяды Конан Дойла?

Тым больш, што тэрмін «постмадэрнізм» досыць умоўны, — ніводная з фармальных прыкмет постмадэрнізму не была яго ўласным «ноў-хаў». Хутчэй, ён служыць для пазначэння адсутнасці стылістычнага адзінства ў літаратуры, якая сталася відавочнай пасля Другой сусветнай вайны.

Добра, пагодзімся, што «постмадэрнізм» існуе як такі, што ён прадстаўлены ў беларускай літаратуры. Але я ні разу не чуў, каб Андрэй Хадановіч, Віталь Рыжкоў ці Марыйка Мартысевіч абвяшчалі: «Я — постмадэрніст, дайце мне святыні, я іх таптаць буду!»

Ці можа хто-небудзь прывесці прыклад постмадэрнісцкага тэксту (пажадана менавіта гэтых аўтараў) і даказаць, што гэта кепска з эстэтычнага пункту гледжання і небяспечна з пункту гледжання маральнага?

Чым абгрунтаваны журботны пафас сп. Южыка адносна згаданых у артыкуле Хадановіча, Рыжкова, Мартысевіч? Зрэшты, адказ відавочны — нічым не абгрунтаваны! Вы ж ведаеце, што пафас не патрабуе абгрунтаванняў. Пафас самадастатковы. Досыць з агнём у вачах і з металам у голасе абвясціць, што пры мыцці ў лазні поры адкрываюцца для «чорнай сьмерці» — і вось ужо ўся Еўропа не мыецца па паўгода!

## 4. ТОНКАЕ МАСТАЦТВА РАБІЦЬ КАМПЛІМЕНТЫ

У сваім артыкуле сп. Южык нічога не аналізуе, нічога не даказвае, а толькі шчодра чапляе цэтлікі (што само па сабе з'яўляецца найболей распаўсюджаным дэмагагічным прыёмам у дыскусіі). Іх пералік даставіць мне адмысловае задавальненне, таму што я даўно не бачыў такога канцэнтраванага і хамскага «саўка», ды яшчэ і на добрай беларускай мове.

Такім чынам, спадарыня Мартысевіч:

- *«з'яўляецца творцам ТАК ЗВАНАГА «новагатыпу», што АБРЫНАЮЦЬ (ці намагаюцца абрынаць) ранейшыя класічныя формы і сэнсы ў бездань, а пры магчымасці — і ТОПЧУЦЦА ПА ІХ НАГАМІ»;*

• *«ГОЙСАЕ па свеце і літаратурнай прасторы з рознымі ЭПАТАЖНЫМІ ІДЭЙКАМІ, абы прыцягнуць увагу»;*

• *«сапраўднае, прачулае змагаецца ў душы маладой паэткі з надуманым і ВЫСМАКТАНЫМ З ПАЛЬЦА. Таму і творчасць яе досыць БЯЗЛАДНАЯ, частая супярэчлівая, нейкая НАЙГРАНАЯ, хоць за такімі маскамі часта праглядаюцца непадробныя перажыванні і боль»;*

• *«навошта ж Марыйка ПІША КЕПСКІЯ ВЕРШЫ?»* (дэмагагічны прыём: рытарычнае пытанне, завуаляванае сцвярджэнне);

• *«Такое ўражанне, што Марыя Мартысевіч мітусіцца і сама НЕ МОЖА АБРАЦЬ НАКІРУНАК. Сэрца хіліць яе ды сапраўднага, але сапраўднае асацыюецца ў яе свядомасці з банальным, заезджаным, класічным, куды першапраходцам (да якіх яна сябе прылучае) шляхі-дарогі зачынены»;*

• *«Марыйка (спадарыня Мартысевіч) КІНЬ(ЦЕ) ВЫДУРВАЦЦА і ніколі не сядай(це) за напісанне вершаў з ХАЛОДНЫМ СЭРЦАМ І ДУШЭЎНАЙ ПУСТЭЧАЮ».*

І, вядома ж, дзеля аб'ектыўнасці: *«Спн. Мартысевіч уяўляецца мне таленавітым творцам, паэткаю, журналісткаю, публіцысткаю ды інш. За што яна ні бярэцца — амаль усё выходзіць з-пад яе пяра досыць арыгінальна, жвава і прыцягальна...», «яе пераклады вершаў замежных паэтаў вартыя ўвагі, і некаторыя (НЕШМАТЛІКІЯ) яе вершы — вартыя таго самага».*

У сувязі з гэтым узнікае маса пытанняў:

• Ці даўно сп. Южык пасяліўся ў галаве (душы, сэрцы) Марыйкі Мартысевіч?

• Адкуль сп. Южык ведае, што сп. Мартысевіч выказвае «эпатажныя ідэйкі» выключна дзеля прыцягнення ўвагі, а не шчыра верыць у тое, што прамаўляе?

• Якія менавіта «эпатажныя ідэйкі» маюцца на ўвазе?

• У якіх менавіта творах, апублікаваных у кнізе «Амбасада», сп. Мартысевіч тапталася нагамі па «ранейшых класічных формах і сэнсах»?

• Чаму менавіта «тапталася нагамі», а не «мясіла рукамі», «білася галавой»?

• У якіх менавіта творах, апублікаваных у кнізе «Амбасада», сп. Мартысевіч абрынала (ці намагалася абрынаць) ранейшыя класічныя формы і сэнсы ў бездань?

• Дзе гэта бездань знаходзіцца і ці ёсць шанец выняць з яе і рэанімаваць абрынутыя Мартысевіч класічныя формы і сэнсы?

• З дапамогай якога прыбора сп. Южык вызначае, якія творы пісаліся спадарыняй Мартысевіч з халодным сэрцам, а якія — з гарачым? (Зрэшты, калі сп. Южык жыве ў галаве (целе) М. Мартысевіч, то пытанне здымаецца).

Калі на ўсе пытанні будзе адказ «Я так бачу, я так адчуваю», то хацелася б нагадаць сп. Южыку пра тое, што

• некаторыя людзі рэгулярна бачаць чарцей ва ўсіх кутах;

• з некаторымі кожную ноч размаўляе Багародзіца;

• БТ і іншыя афіцыйныя СМІ валодаюць унікальнай магчымасцю бачыць не толькі шчаслівую будучыню, але нават шчаслівую сучаснасць.

Аднак жа мы ім усім не верым!

Дык чаму мы павінны сур'ёзна ўспрымаць нічым не матываванае бачанне і пачуванне сп. Южыка?

## 5. СМЕРЦЬ У ВЕНЕ

Верш «Смерць у Вене» сп. Южык злёту характарызуе як:

• *«верш і бязглузды (жыць пенсіянеркай і пры гэтым усё жыццё выкладаць),*

• *і надуманы,*

• *і эпатажны,*

• *і малаэнергетычны».*

Можна выказаць здагадку, што пасля гэтага крытык абгрунтуе кожны з пунктаў (пажадана з амперметрам і вальтметрам у руцэ). Калісьці ў Лаліты Міляўскай было ток-шоу на ОРТ, падчас якога слова «энергетыка» не сыходзіла з яе вуснаў, прычым зусім не ў значэнні «галіна народнай гаспадаркі». Рух «энергетыкаў» дасягнуў і беларускіх берагоў. Вось ён — цывілізацыйны струмень!

Раю М. Мартысевіч пазнаёміцца з Антонам Францішкам Брылём, у якога сп. Южык выявіў — відавочна, з дапамогай ужо згаданых ці пакуль невядомых нам прыбораў — *«досыць моцную паэтычную энергетыку»*. Гэтак жа варта паназіраць за Ярылам Пшанічным з яго *«разняволенай энергетыкай»*. Па-добраму можа яна пазайздросціць Зміцеру Вішневу: *«Энергетыка, што ідзе ад (яго) вершаў, далёка не самая слабая сярод беларускіх паэтаў».*

Карацей, шмат у беларускай літаратуры энергетык добрых і

розных, восьтолькі Марыйка недацягвае!

Адсутнасць аргументаў «суровы крытык» прыкрывае рытарычнымі пытаннямі:

- *«як можа нармальны крытык ахарактарызаваць такі верш»* (прыём: «апеляцыя да відавочнасці, фальшывая аўтарытэтнасць»)
- *«А можа, яна не паэт па сваёй прыродзе?»*(прыём: сцвярджэнне ў форме пытання)
- і паглыбляецца ў развагі пра тое, ці «дурніца» Марыйка, ці «мудрая не па гадах». Зашто яму асобная падзяка: сам факт публічных разважанняў пра тое, дурніца паэтка ці не, магчыма, адкрые новы генеральны напрамак у беларускім літаратуразнаўстве.

Вынаходзячы доказы, сп. Южык ажыццяўляе невялікую падмену («*жыць пенсіянеркай і пры гэтым усё жыццё выкладаць»*), якая дазваляе яму зрабіць вялікія высновы. У арыгінале гаворыцца пра тое, што лірычная гераіня жадае пенсіянеркай БЫЦЬ, пры гэтым ЖЫЦЬ у Вене, і жыць не ў бяздзейнасці, а ўсё жыццё выкладаючы там Буало і Малерба. Прычым, я думаю, што і ў Аўстрыі, і ў Беларусі сыход на пенсію не выключае працягу працы па спецыяльнасці.

Южык сцвярджае, што «Смерць у Вене» — *«не верш, бо не мае вобразнасці, якая замяняецца ў ім голаю прозай...»*

Калі пад вобразнасцю Южык разумее пунсовую ружу, апырсканую расой, якая павінна сімвалізаваць юнацкасць і шчырасць кахання — то відавочна, што падобнага кшталту вобразнасці ён у гэтым вершы не знойдзе, бо яе туды «не паклалі».

Сп. Южык увесь час кажа пра вобразнасць, заклікае да вобразнасці, ганіць *«адсутнасць цікавай і насычанай вобразнасці»*. Тым часам у распараджэнні крытыка было больш тузіна паэтычных кніг, але ён ні разу не падаў прыклад «правільнай», «складанай» метафары, «віхуры пачуццяў, увасобленых ў эпітэтах».

Ці «вобраз», «вобразнасць» — гэта ўсяго толькі зручнае клішэ, пазбаўленае рэальнага напаўнення? Тая самая сапёрная лапатка, з дапамогай якой зручна дзяўбаць ці пагладжваць ашаломленых аўтараў?

Што да «голай прозы», дык што мае на ўвазе крытык? Напаўаголеных (дый тое, калі лета) будаўнікоў-сербаў? Ці выкарыстанне дольніка? У любым выпадку, мне здаецца абсалютна бессэнсоўным апраўдваць і права бабулі любавацца маладымі будаўнікамі, і права дольніка на існаванне.

Хоць у пэўным сляпым нюху сп. Южыку не адмовіш. Гэты верш сапраўды мае праблемы, але зусім не там, дзе шукае аўтар крытычнага опуса.

Праблемы ў тым, што, свядома ці не, М. Мартысевіч адважылася на вельмі рызыкоўны эксперымент. Яна злучыла пяцістопны дольнік з анжамбеманам (які сп. Южык з уласцівымі яму палемічным бляскам і тэрміналагічнай карэктнасцю абазначае *«так званы разбіты, разнесены па радках сказ»*).

Анжамбеман арганічны для 2—3-стопных памераў. Але ў спалучэнні з пяцістопным дольнікам страфа зрабілася занадта цяжкой, грувасткай. Для Марыйкі (вой, прабачце!, для Марыі) Мартысевіч наогул характэрна складаная рытміка. І не таму, што яна не ўмее пісаць «прама» і «роўна», а таму што складанае інтанаванне ўзмацняе эмацыйны эфект.

Чаму аўтар забівае сваю гераіню ў канцы верша? Таму што ведае: мала выклікаць сімпатыю да героя. Гэта дасягаецца вельмі проста: досыць надзяліць яго бясспрэчнымі вартасцямі, ці прыдумаць яму незвычайны лёс, ці проста любіць яго і любавацца ім. Але калі ты жадаеш, каб чытач востра спачуваў твайму герою, яго трэба прымусіць перажыць невыносныя выпрабаванні, а яшчэ лепш — забіць. Гераіня верша невыпадкова памірае ў оперным тэатры. «Парцыфаль» і «Штатсоп» узгадваюцца тут не дзеля таго, каб пахваліцца турыстычнымі ўражаннямі. Аўтар «уключае» архітэктурны антураж і музычнае суправаджэнне для ўзмацнення эфекту. Той жа мэце служыць і анжамбеман. Магчыма, служыць не вельмі ўдала.

Але сп. Южык не апускаецца да тэхнічных тонкасцяў, ён судзіць гэты верш з маральнага пункта гледжання.

Чаму сп. Южык вырашыў, што *«ў гэтым вершы, (...) адчувальна праглядаецца бессэнсоўнасць жыцця, калі ў ім няма нечага трывалага і духоўнага: сапраўднай веры, шчырай любові, адданага кахання»* — аднаму богу вядома. Прычым гэта нейкі адмысловы бог. Магчыма, Бог Энергетыкі?

Я бачу ў гэтым вершы спалучэнне некалькіх кантэкстаў.

У першую чаргу, праект таго, як павінна жыць сярэднееўрапейская жанчына пажылога ўзросту, якая паважае сябе. У самай ідэі закладзены камічны эффект: заўсёды пацешна назіраць за тым, як маладая жанчына разважае, якой яна будзе бабулькай.

| | |
|---|---|
| Такім чынам:<br>● жыць трэба ў багатай, дагледжанай, добрапрыстойнай краіне (тыпу Аўстрыі) | **Я хачу быць пенсіянеркай і жыць у Вене,** |
| ● мець інтэлігентную прафесію | **ўсё жыццё выкладаючы там Буало і Малерба,** |
| ● мець досыць вольнага часу, каб атрымліваць эстэтычнае задавальненне ад чаго толькі можна | **каб Дунай кожны Божы дзень ля мяне струменіў,** |
| ● ставіць «на зважай» будаўнікоў-сербаў | **і каб кахлю ў ваннай мне клалі дужыя сербы.** |
| ● шпацыраваць з сяброўкамі (такімі ж дагледжанымі бабулькамі) па Грацы /<br>● даглядаць мужа (муж распешчаны, але не капрызны)<br>● не парыцца ўсходнееўрапейскімі комплексамі | **Мець сяброўак у Грацы; ліць мужу ў каву каньяк ці арманьяк; не раздумваючы, Еўропа ці не Еўропа, —** |
| ● і як апафеоз гэтай казачнай гісторыі: памерці падчас опернага спектакля. | **жыць у Вене шчасліва і доўга й памерці на трэцім акце «Парцыфаля» на левым ці правым балконе Штатсопа.** |



Смерць пад оперную музыку сапраўды і літаратурная, і кінематаграфічная — дастаткова ўспомніць «Смерць у Венецыі» і «Хросны бацька—3». Але ў гэтага казачнага малюначка ёсць і зваротны бок. З дзявочага праекта верш імгненна ператвараецца ў сацыяльную сатыру, як толькі мы ўспамінаем, як жывуць нашы беларускія старыя. Калі падобныя гульні з сэнсамі з'яўляюцца заганай, то якая літаратура вам патрэбна?

Вядома, мы ўсе выдатна разумеем, што шкоды ад артыкула сп. Южыка ніякай. Што ўсё гэта частка вялікай гульні: пісьменнікі пішуць, крытыкі крытыкуюць, чытачы чытаюць. І першыя, і другія, і трэція існуюць у сваіх уласных рэальнасцях. І калі іх рэальнасці перасякаюцца — ужо поспех. Але мяне дзівіць тое, што дылетантызм і непрыхаваная небесстароннасць перасталі быць табу на беларускім літаратурным полі. А можа, я проста чагосьці не ведаю? Можа, яны і не былі ніколі табу?

Сп. Южык не першы і не апошні, хто выкарыстоўвае класічныя дэмагагічныя прыёмы (і гэта няпоўны спіс!):

● навязванне негатыўнага стаўлення да аўтара з дапамогай настойліва паўтараных «адмоўна» афарбаваных, зневажальных эпітэтаў;

● падмена матываў;

● падмена доказаў нічым не абгрунтаванымі сцвярджэннямі і дапушчэннямі;

● прыкрыццё абразлівасцю;

● зварот да ананімных аўтарытэтаў;

● выкарыстанне зацяганых, пазбаўленых сапраўднага напаўнення тэрмінаў: у палітыкаў гэта «сацыяльная справядлівасць», «сумленнасць», «барацьба з карупцыяй», а ў Міхася Южыка — «вобразнасць», «майстэрства», «энергетыка» і інш.

У мяне, вядома ж, ёсць свае меркаванні адносна прычыны таго, што магло прымусіць М. Южыка гэтак бесцырымонна скарыстацца цнотай паперы і даверам чытача да друкаванага слова. Але дзяліцца імі я не стану. Таму што мае здагадкі не маюць адносін ні да літаратуразнаўства, ні да літаратурнай крытыкі, адрознасць якіх сп. Южык так шматслоўна абгрунтоўвае ў іншым сваім опусе (гл. «Тэксты», №12 за 2009 г.).

Калі М. Южык зразумее, што і яго здагадкі да літаратурнай крытыкі адносін не маюць — магчыма, штосьці зменіцца ў яго бурных стасунках з чужымі літаратурнымі творамі. А калі ўсе беларускія літаратуразнаўцы і крытыкі паспрабуюць (замест таго, каб дзяліцца лішкам яду ці адрыжкай дрэннага стрававання) падмацоўваць свае сцвярджэнні доказамі — як тады цудоўна будзе!

«Жаль только — жить в эту пору прекрасную...»

■

**Георгій БАРТАШ.** Нарадзіўся, вучыўся, скончыў, піша, друкуецца, думае. (Ад рэд.: Быць прадстаўленым менавіта такім чынам захацеў сам аўтар. Цікаўным раім зазірнуць у «Тэксты» (№2), дзе друкавалася падрабязная біяграфія Г. Барташа).

# ПРА БЕЛАЕ, ПУШЫСТАЕ, ТРАНСЦЭНДЭНТНАЕ...

Яшчэ адзін рэкорд у неалімпійскіх відах спорту паставілі беларускія грамадзяне ў 2010 годзе, якія атрымалі 428 000 шэнгенскіх візаў тыпу С, абышоўшы па гэтым паказальніку астатнія дзяржавы свету. Але ніхто не будзе правяраць на допінг новаяўленых чэмпіёнаў. Відавочна, што шэнгенская віза непатрэбная тым, хто і так знаходзіцца ў Шэнгенскай зоне, альбо тым, хто не патрабуе ехаць хрэн ведае куды, каб атрымаць адрабіну шчасця. Тэарэтычна і гэта магчыма. Уявіце сабе афрыканскага папуаса, які сядзіць пад пальмай, і какосы-бананасы самі падаюць яму ў пашчу, а голыя негрыцянкі (уявіце што яшчэ і СНІД недзе там далёка...), ну і г. д. Але такіх райскіх куткоў на свеце ўжо няма. Сусвет падзяліўся на глабальную вёску і глабальны горад, у які трапіць цяжка, але магчыма. Эканамічныя законы дыктуюць патрэбу міграцыі як на высокім узроўні — напрыклад, мэнеджарам транснацыянальных карпарацыяў часта даводзіцца мяняць месца працы, амаль як савецкім вайскоўцам, і прыстасоўвацца да пераменаў клімату і культуры (якая таксама церпіць на перамены ў тым самым глабальным уніфікацыйным накірунку) — і на ўзроўні гастарбайтараў, якія вандруюць, як пералётныя птушкі, з месцаў з нізкім эканамічным патэнцыялам туды, дзе плацяць якую капейку. Так, прынамсі, мяркуе французскі эканаміст і палітычны дзеяч Жак Аталі.

Ці пра гэта марылі беларусы ў далёкія 1990-я гады? Вядома, усе хацелі стаць мільянерамі, і трэба сказаць, што мара здзейснілася амаль цалкам, калі не зважаць на інфляцыю. Здзейсніліся і амаль усе пажаданні, пералічаныя ў 1990-м годзе ў эсэ Уладзімера Арлова «Незалежнасць — гэта...», што сведчыць пра значнае памяншэнне поля забароненага, ну, калі таксама не зважаць на інфляцыю і іншыя дробязі.

*«Незалежнасьць — гэта калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выходныя ў Вену, і ты з чыстым сумленьнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'еце кавы насупраць палацу Шонбрун, і ведаеш, што перад вашай вандроўкаю ніхто не будзе высьвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве жыдом, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык зь якой мэтаю».*

Усе хацелі стаць мільянерамі і турыстамі. «А паеду я ў Амерыку! Яны — п...расты, я — турыст!» — пісаў Ягор Радаў у апавяданні «Не вынимая изо рта» (КонтрКультУра, 1990). У 2012 годзе фатаздымкі суворага беларуса, які любіць падарожнічаць і здымацца «з рукі» на камеру мабільніка з нязменным цэглавым выразам твару, пабілі рэкорды папулярнасці ў твітэры. Хто ў Беларусі жыў, той у Еўрацырку не смяецца...

Творы Марыі Мартысевіч на першы погляд нясуць адбітак нашай гатычнай суворасці і непазбыўнага фаталізму, агучанага ў першых лямантах нованароджанай беларускай паэзіі Мацеем Бурачком: «Кепска будзе». Кепска ёсць.

У XXI стагоддзі беларусцы хочацца жыць у сталіцы Аўстрыі:

### СМЕРЦЬ У ВЕНЕ...

Я хачу быць пенсіянеркай і жыць
у Вене,
ўсё жыццё выкладаючы там Буалё
й Малерба,
каб Дунай кожны Божы дзень ля
мяне струменіў,
і каб кахлю ў ваннай мне клалі дужыя

сербы.
Мець сяброўвак у Грацы; ліць мужу ў каву каньяк ці арманьяк; не раздумваючы, Еўропа ці не Еўропа, — жыць у Вене шчасліва й доўга й памерці на трэцім акце «Парсіфаля» на левым ці правым балконе Штатсопа.

Гэты несумнеўна цікавы твор — пярэварацень, які можна паставіць у адным шэрагу з вядомым вершам Андрэя Хадановіча «Падшпарак-Пачварак» («Я завуся Падшпарак-Пачварак, бо паводжу сябе вельмі дрэнна...запішэце мяне ў буржуінства») з тым, што Марыя Мартысевіч пайшла на крок далей у канкрэтызацыі беларускага ліха. «Падшпарак» — элемент дэманічны, міфалагізаваны антыгерой—здраднік з неіснуючага перакладу на беларускую мову казкі Гайдара, які здрадзіў радзіме за харчы. У пераацэначнай інтэрпрэтацыі Хадановіча гэты элемент ператвараецца ў чарговую сімвалічную персаналізацыю дэкларацыі незалежнасці прыватнага чалавека, які не едзе ў Вену, каб выпіць кубачак буржуінскай кавы, але робіць усё, каб ягоныя любімыя дэсерты прынеслі сюды і цяпер. «Венская пенсіянерка» Мартысевіч мае пазнавальныя рысы еўрапейскага аднамернага чалавечка: яе атачаюць муж, сяброўкі, сербы, Дунай і каньяк, але ўзнікае пытанне, чаму, напрыклад, нельга тое самае на берагах Свіслачы ці Дняпра? Зразумела, у Аўстрыі пенсіі вышэйшыя... але тут, як падаецца, выбар не на карысць буржуінскай бочкі варэння: «Смерць у Вене» — гэта роздум пра немагчымасць свабоды ўвогуле ў гэтым свеце. Альбо, як кажуць, «змена антуражу не прыносіць шчасця». Усяго ў некалькіх радках бачны ўнутраны канфлікт, які не заліць ніякім каньякам і арманьякам: выкладаючы Малерба і Буало, бабулька памірае ў экстазе на трэцім акце Персіфаля. Чаму не падчас выканання хору пілігрымаў у «Тангейзерах» альбо пад гукі ўверцюры «Рыенцы», будуць высвятляць наступныя пакаленні літаратурнага ... кантэнта, але толькі клінічныя прафаны не ўбачаць кантрасту паміж суворай дадзенай рэчаіснасцю і светам падсвядомых жаданняў. Буало і Малерб — нудныя французы эпохі класіцызму, за якіх венская эксплуататарка сербскіх гастарбайтараў паміраць не жадае, а вось на любімай оперы перадапошняга дыктатара Еўропы (ад Штатсопа і да Браўнаў-ам-Інн недалёка) — калі ласка. Смерць пад сімфанічную музыку лічыцца шляхетнай, недзе нават спрабавалі кароваў забіваць пад фугі Баха, каб ялавічына была мякчэйшая і не гарчыла.

Музыка Вівальдзі, дарэчы, пры даследванні таксама дае станоўчыя вынікі. Ніхто тут зрэшты не збіраецца ўсур'ёз параўноўваць плён ад працы паэта з малаком і бычынымі хвастамі. Пародыя — адзін з элементаў як і верша «Смерць у Вене», так і збольшага творчасці Марыі. Як знакамітая «Арафатка-пярэварацень» (відэа гэтага верша можна знайсці на ютубе), можна пэўную частку творчага даробку Мартысевіч разглядаць, як пародыю і самапародыю. «Смерць у Вене» — таксама верш-пярэварацень, бо, апавядаючы пра «жаданне быць пенсіянеркай», як бы падвешвае правамоцнасць састарэлай дыскусіі «Еўропа ці не Еўропа». Гэта адказ на памкненні размаітых еўратурыстаў. Навошта жадаць візу тыпу С, каб пасядзець у кавярні з кубачкам кавы за пяць еўра і з суворым тварам комівояжара цэглавага завода падлічваць, колькі на радзіме за гэтыя грошы можна было б выпіць гарэлкі?

А «Я хачу быць пенсіянеркай і жыць у Вене...» Адным з лозунгаў парыжскай вясны 1968 году было «будзьце рэалістамі, патрабуйце немагчымага». Патрабуйце — і ўсё ў вас будзе!

*Амфортас, Гурнеманц укленчыўшы славяць Парсіфаля, які благаслаўляе Граалем усё рыцарства, ахопленае пабожным замілаваннем.*

Заслона.

■

**Der SKEPTIKER** (Зміцер Серабракоў) — філосаф. Выпускнік факультэта філасофіі Люблінскага Каталіцкага ўніверсітэта. У мінулым аглядальнік газетаў «Згода», і «Навінкі». Жыве і працуе ў Бабруйску.

# НЕАБХОДНАЕ ЎДАКЛАДНЕННЕ

У «Тэкстах», 2008, № 6 мною быў апублікаваны артыкул «Працуе няспынна лабараторыя...», дзе, сярод іншага, распавядалася пра трагічны лёс Віктара Казлоўскага — паэта, які, сутыкнуўшыся з жорсткасцю сталінскага рэжыму, зрабіўся вязнем псіхіятрычных клінік, пасля чаго ўжо так і не змог вярнуцца да паўнавартаснага жыцця.

Натуральна, што хацелася прадставіць на старонках альманаха і творчасць гэтага паэта — пагатоў, мне тады стала вядома пра невядомыя раней рукапісы В. Казлоўскага, што захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). І дырэктарка архіва-музея Ганна Запартыка ўзялася дапамагчы мне: я атрымаў ксеракопіі вершаў. Так і з'явілася публікацыя падборкі з 8 вершаў пад загалоўкам: «Віктар Казлоўскі. З кнігі "Аржаныя пажары"».

Аднак... перабблытанасць і неўпарадкаванасць архіва крытыка Алеся Кучара адыграла ў гэтай справе злы жарт: выявілася, што большасць узятых з яго для публікацыі вершаў, якія ляжалі пад вокладкай «Аржаных пажараў», насамрэч належаць не В. Казлоўскаму, а іншаму паэту — Сяргею Дарожнаму.

Стаўшы вядучым навуковым супрацоўнікам архіва-музея, я меў магчымасць больш дэталёва азнаёміцца з рукапісамі з фонду А. Кучара і выявіць гэтую недарэчнасць. Былі змешчаны артыкулы-абвяржэнні ў часопісе «Роднае слова», дзе таксама ў свой час прайшла падобная памылка (гл.: Запартыка Г. «Песняю пасею словаў шчырых жменю...»: Да 100-годдзя з дня нараджэння Віктара Казлоўскага // Роднае слова. 2005. № 9; Жыбуль В. Хто сеяў словаў шчырых жменю?: «Вернутыя» вершы Сяргея Дарожнага; Запартыка Г. Попел «Аржаных пажараў»: Гісторыя зборніка Віктара Казлоўскага // Роднае слова. 2011. № 2), крышку закрануў я гэтую тэму і ў передачы «Пяцікніжжа Свабоды»: http://www.svaboda.org/content/transcript/24792969.html. Натуральна, што і ў «Тэкстах» неабходна змясціць хоць бы маленькае ўдакладненне, што мы цяпер і робім. Такім чынам, калі маеце ў хатняй бібліятэцы 6-ы нумар, можаце спакойна закрэсліць на с. 172 «Віктар Казлоўскі» і напісаць «Сяргей Дарожны», а замест «З кнігі "Аржаныя пажары"» — адпаведна, «З кнігі "Васільковы россып"».

*Віктар ЖЫБУЛЬ*

■

Рэдакцыя можа не падзяляць погляды аўтараў
і не нясе адказнасці за выкладзеныя ў тэкстах факты.

Літаратурна-мастацкае выданне

ТЭКСТЫ

Альманах

Заснаваны ў 2004 г.

Нумар чатыры

Мастацкі рэдактар *Сяргей Кандраценка*
Карэктар *Марыя Паўлоўская*
Вёрстка *Сяргей Кандраценка*

Падпісана да друку 18.03.2012. Фармат 60x84/16. Папера афсетная.
Гарнітура TextBook. Друк афсетны. Ум. друк. арк 19,41.
Ул.-выд. арк 13,34. Наклад 400. Замова .

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Галіяфы».
ЛИ №02330/0150300 ад 08.04.2008.
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru

Друк ТДО «НоваПрынт».
ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.

ISSN 2306-6396